Частка I

БУДСЛАЎСКІ,
ВІЛЕЙСКІ
І МІНСКІ ДЭКАНАТЫ

# КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫНІ

## МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЯ АРХІДЫЯЦЭЗІЯ





МІНСК
Выдавецтва «Про Хрысто»
2003

УДК 726.5:282 (476)
ББК 85.113 (4 Беи)
К 29

Тэкст і фота Аляксея ЯРОМЕНКІ

Над выданнем працавалі:
Бела ЛАНІ *SVD* і кандыдат архітэктуры Уладзімір ТРАЦЭЎСКІ

Уводзіны Уладзіміра ТРАЦЭЎСКАГА

Рэцэнзенты:
доктар мастацтвазнаўства Тамара Габрусь,
кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Ярашэвіч

На першай старонцы вокладкі —
архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.
Фота А. Глекава і М. Новікава

На франтыспісе —
цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай, Апякункі Беларусі

На чацвёртай старонцы вокладкі —
акварэль Юзафа Пешкі

У выданні выкарыстаны фотаздымкі:
*А. Клешчука, Г. Ліхтаровіча, М. Мельнікава, М. Новікава, Ул. Суцягіна, Ул. Трацэўскага.*

Выкарыстаны матэрыялы з архіваў:
*С. Адамовіч, Т. Габрусь, Ул. Дзянісава, А. Кулагіна,
Ул. Трацэўскага, А. Ярашэвіча, А. Яроменкі.*

ISBN 985-6628-37-7 (ч. 1)
ISBN 985-6628-38-5

## Уводзіны

Культавая архітэктура – адна з найбольш цікавых і важных з'яваў у гісторыі мастацтва Беларусі. На ранніх этапах у ёй адлюстраваліся архітэктурна-будаўнічыя дасягненні і сувязі з іншымі краінамі і народамі. Цесныя эканамічныя і культурныя стасункі з Заходняй Еўропай не маглі не паўплываць на станаўленне мясцовых архітэктурных школ, фармаванне архітэктурна-будаўнічых прыёмаў.

Першыя касцёлы на тэрыторыі Беларусі, як, напрыклад, касцёл у Полацку, заснаваныя ў XIIIст. нямецкімі купцамі, а таксама місіянерамі дамініканскага і францішканскага ордэнаў, запрошанымі ў ВКЛ вялікім князем Гедымінам. Мяркуецца, што гэта былі аднаслуповыя пабудовы, добра вядомыя ў Паўночнай і Цэнтральнай Еўропе, у Скандынавіі. Развіццё культавага дойлідства XIIIст. было абумоўлена ростам эканамічнай магутнасці гарадоў, ростам рамёстваў, гандлёвымі сувязямі з краінамі Заходняй Еўропы, дзе манументальнае дойлідства вызначалася высокім узроўнем. Сувязі Вялікага Княства Літоўскага з заходнімі краінамі паскорылі стылістычную пераарыентацыю мясцовай архітэктуры 2-й паловы XIIIст.: крыжовыя скляпенні, брусочная цэгла, вендская (балтыйская) тэхніка цаглянай кладкі, вапнава-пясчаны раствор, формы і канструкцыі.

Новы этап у развіцці касцёльнага дойлідства на абшарах ВКЛ пачаўся з Крэўскай уніі (1385г.). Сваёй фундацыяй 1387г. кароль Уладзіслаў Ягайла заснаваў Віленскае біскупства і 7 касцёлаў (тры з іх – на тэрыторыі сучаснай Беларусі: у Гайне, Крэве і Абольцах. Наступнымі фундацыямі Ягайла і вялікі князь Вітаўт таксама заснавалі касцёлы ў Быстрыцы (1390г.), Ашмянах (1391г.), Наваградку (1393г.), Ваўкавыску (1430г.). У тыя ж гады заснаваныя і першыя каталіцкія кляштары: францішканцаў у Пінску (1396г., фундацыя Жыгімонта Кейстутавіча, князя пінскага і тураўскага) і Лідзе (1397г., фундацыя Вітаўта і Ягайлы). З пачатку XV ст. па прыкладу караля і вялікіх князёў новыя парафіі пачалі засноўваць магнатэрыя, шляхта і духавенства, будуючы касцёлы як у буйных культурных і эканамічных цэнтрах, так і ў невялікіх прыватных маёнтках. У гэты перыяд заснаваны касцёлы ў Браславе (1423г.), Гродне (1430г.), Віцебску (прыкладна 1450г.), Ішкалдзі (1449г.), Уселюбе (1471г.), Воўпе (1478г.), Полацку (1498г.) і г.д. Напрыканцы XVст. налічвалася больш за 50 касцёлаў.

Большасць з гэтых святыняў будавалася з дрэва і не захавалася да нашага часу. Нямногія з ацалелых каменных святыняў за сваю доўгую гісторыю шмат разоў перабудоўваліся пры рэканструкцыі, пасля разбурэнняў ад войнаў і пажараў: фарны касцёл у Наваградку, касцёл св.Пятра і Паўла ў Іўі, касцёл св.Казіміра ва Уселюбе. Яны страцілі свой першапачатковы выгляд, але па захаваных фрагментах можна сцвярджаць, што гэта былі адносна невялікія па памерах будынкі ў гатычным стылі. Лепш за іншых, з нязначнымі зменамі, захаваўся касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Ішкалдзі.

Інтэграцыя беларускіх земляў у склад Рэчы Паспалітай пасля уніі 1596г. яшчэ больш паспрыяла распаўсюджанню Касцёла на тэрыторыі Беларусі. Культавае дойлідства XVIст. мела самабытныя рысы і знаходзілася на высокім архітэктурна-мастацкім узроўні. Менавіта ў гэты перыяд завяршыўся працэс станаўлення беларускага дойлідства ў цэлым. Найбольшае распаўсюджанне атрымалі аднанававыя касцёлы, пануючым архітэктурным стылем таго часу стаў рэнесанс.

Канец XVIст., у першую чаргу, узвядзенне касцёлаў у Нясвіжы, знаменаваў распаўсюджанне архітэктуры стылю барока ў культавым дойлідстве Беларусі ў прыватнасці і Рэчы Паспалітай у цэлым. Масавым робіцца заснаванне і ўзвядзенне кляштараў. Наступныя стагоддзі, новыя стылістычныя кірункі ў архітэктуры святыняў узбагацілі беларускую архітэктуру выдатнымі творамі дойлідаў у стылях барока, ракако, класіцызму, ампіру. Пры гэтым варта адзначыць рэлігійную талерантнасць беларускага насельніцтва і яго гатоўнасць успрымаць новыя прагрэсіўныя кірункі ў мастацтве.

Натуральны працэс развіцця каталіцкага дойлідства прыпыніўся пасля 1832 і 1864 гг. Былі скасаваныя практычна ўсе кляштары, забаронена будаўніцтва новых касцёлаў, а ўжо пабудаваныя зачыняліся і перабудоўваліся пад праваслаўныя цэрквы, што значна змяняла іх архітэктурны выгляд.

Сітуацыя змянілася толькі ў 1905г., пасля маніфеста Мікалая II аб свабодзе сумлення. Да першай сусветнай вайны на Беларусі разгарнулася масавае будаўніцтва новых касцёлаў, у пераважнай большасці ў стылях неаготыкі і неараманікі, адраджаліся і засноўваліся новыя парафіі. Аднак у перыяд савецкай улады Усходняя Беларусь, а пасля 1944г. і Заходняя, пазбавіліся магчымасці будаваць касцёлы. Пры гэтым з ужо існуючых пераважная большасць была зачыненая і знішчаная. Толькі ў 1990-я гг., пасля перабудовы, пачалося адраджэнне Касцёла на тэрыторыі Беларусі. У 1991г. заснаваны Гродзенская дыяцэзія ў межах аднайменнай вобласці, Мінска-Магілёўская архідыяцэзія (Мінская і Магілёўская вобласці), Віцебская дыяцэзія (Віцебская вобласць) і Пінская дыяцэзія ў межах Брэсцкай і Гомельскай абласцей.

Гэтае выданне распачынае серыю кніг пра каталіцкія святыні Беларусі. Рост цікавасці да культурнай і гістарычнай спадчыны Касцёла, зацікаўленасці сучасным жыццём нашых парафіяў заахвоціў аўтараў да гэтай працы, якая працягвалася больш за пяць гадоў. Унікальныя матэрыялы, выяўленыя ў дзяржаўных архівах, краязнаўчых музеях, асабістых і парафіяльных архівах, а таксама натурныя даследаванні святыняў дазволілі не толькі па-новаму зірнуць на ўжо вядомыя святыні, выправіць шэраг недакладнасцяў, дапушчаных у папярэдніх публікацыях па дадзенай тэме, але і выявіць значную колькасць раней недаследаваных помнікаў каталіцкай архітэктуры. На жаль, большасць з іх знаходзіцца ў руінах альбо выкарыстоўваецца не па прызначэнні, шэраг святыняў увогуле знішчаны. Але значная колькасць вернута вернікам, рэстаўравана і зноў адчынена для набажэнстваў. Пабудаваны таксама і шэраг цалкам новых святыняў.

Сабраная ў гэтым выданні інфармацыя разлічана на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Касцёла на Беларусі і хацеў бы даведацца пра сучасны стан святыняў, пра сённяшняе парафіяльнае жыццё. Выданне азнаёміць чытача з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі структурамі каталіцкай канфесіі на Беларусі і іх зменамі ў розныя гістарычныя эпохі. Матэрыял разлічаны як на шырокага чытача, так і на спецыялістаў у галіне архітэктуры, гісторыі, мастацтвазнаўства.

У аснову выдання пакладзены тэрытарыяльна-геаграфічны прынцып. Пачынае серыю Мінская вобласць Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Матэрыял падзелены па дэканатах у алфавітным парадку. У сваю чаргу раёны дэканатаў і населеныя пункты, дзе ёсць святыні, таксама пададзены ў алфавітным парадку. Кожны раздзел суправаджае схема размяшчэння аб'ектаў на тэрыторыі. Спіс крыніцаў інфармацыі прыведзены ў канцы.

*Уладзімір Трацэўскі,*
*кандыдат архітэктуры,*
*прафесар кафедры «Тэорыя*
*і гісторыя архітэктуры»*
*Беларускага нацыянальнага*
*тэхнічнага універсітэта.*

JOANNES PAULUS EPISCOPUS SERVUS SERVORUM DEI

Dilecto Filio Casimiro Swiątch e clero dioecesis Pinskensis atque eiusdem dioecesis Vicario Generali, Archiepiscopo Metropolitano Minscensis-Mohiloviensis Latinorum Ecclesiae electo, salutem et Apostolicam Benedictionem. Peculiari quidem affecti gaudio communitates nonnullas fidelium conspicimus feliciter renovari et futuro de tempore bonam concipere et exploratam spem. Nos autem omnia comparare innitimur ut cursus hic secundus nihil patiatur detrimenti, quin omnimodis iuvetur. Nec immorandum igitur ultra censuimus quin destinaremus praeclarae illi Sedi Minscensi-Mohiloviensi proprium Pastorem, qui res catholicas componeret et fideles ad novum fervorem concitaret. De te autem, dilecte Fili, cogitavimus, qui visus es prorsus par ad illud munus sustinendum. Probe enim novimus virtutes tuas et quae pro Dei Ecclesia antehac patrasti. Nostra ergo uti Apostolica auctoritate te digimus et destinamus Archiepiscopum Metropolitam Minscensem-Mohiloviensem Latinorum, cunctis pariter additis iuribus et officiis quae cum munere hoc et dignitate iunguntur, ad sacrorum canonum praescripta. A quovis autem catholico Praesule episcopalem consecrationem recipere poteris; at antea tibi fidei professio est facienda et fidelitatis erga Nos et Nostros Successores ius iurandum nuncupandum, secundum statas formulas quas rite subsignatas et sigillo munitas ad Pontificiam Commissionem pro Russia perferendas curabis. Clerus exinde et populus fidelis de tua electione certiores fiant, quos iam nunc cunctos ad studiosum fervorem cohortamur, unde communitas ista dilecta prosperitatem experiatur et florem. Ceterum haud sumus nescii, dilecte Fili, te eximia fidei dedisse documenta claraque reddidisse testimonia. His ergo roboratus rebus, caelestibus simul saeptus munimentis hanc valebis sustentare communitatem eidemque multa commoda afferre. Datum Romae, apud S. Petrum, die tertio decimo mensis Aprilis, anno Domini millesimo nongentesimo nonagesimo primo, Pontificatus Nostri tertio decimo.

Joannes Paulus PP. II

Marcellus Rossetti, protonot. apost.



*Була Папы Яна Паўла II – аб стварэнні Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і намінацыі арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім кс. Казіміра Свёнтка.*

*13 красавіка 1991 г.*

## Мінска-Магілёўская архідыяцэзія (Мінская вобласць)

Летапісны Менск вядомы з 1067г. са старонак «Аповесцi мінулых гадоў» як горад магутнага тады Полацкага княства. У канцы XIст. ён быў цэнтрам Мінскага княства, якое ў пачатку XIVст. увайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. У 1418г. Мінск стаў вялікакняскім уладаннем самога Вітаўта Вялікага.

Крэўская унія 1385г., якая ўзвяла на польскі каралеўскі трон Уладзіслава Ягайлу, робіцца кропкай адліку распаўсюджання хрысціянскай веры заходняга абраду на Міншчыне. З першых сямі рыма-каталіцкіх касцёлаў, заснаваных Ягайлам па фундацыі 1387г., у межы вобласці трапляе толькі адзін – касцёл у в.Гайна (Лагойскі р-н). Існуе паданне аб заснаванні ўжо ў 1390г. касцёла ў Мінску – яго быццам бы пабудавалі таксама па фундацыі Ягайлы і асвяцілі пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы. Месцам яго пабудовы называецца Троіцкая гара. Але нават калі гэта не толькі легенда, першы мінскі касцёл згарэў разам з горадам у 1506г., калі татарскае нашэсце выпаліла Мінск дашчэнту.

Архіўныя матэрыялы пацвярджаюць існаванне касцёла ў Мінску з 1508г., калі на левым беразе Свіслачы быў пабудаваны драўляны фарны касцёл Найсвяцейшай Тройцы, які ад наймення святыні атрымаў назву Троіцкая гара, а пасля – Троіцкае прадмесце.

З пачатку XVст. у працэс заснавання новых парафіяў актыўна ўключаюцца вялікакняскія сем'і, магнатэрыя, шляхта і духавенства, якія будуюць касцёлы ў буйных гарадах і ў невялікіх прыватных маёнтках. Князь Міхал, сын Жыгімонта, заснаваў касцёлы ў Клецку (1437г.) і Слуцку (1439г.), магнаты Гедыголдавічы – у Вішневе (1424г.) і Радашковічах (1447г.), Неміровічы – у Нясвіжы (1471г.), Судзімонтавічы – у Астрашыцах і Хожаве (1489г.) і г.д. У сярэдзіне XVIст. на Міншчыне ўжо дзейнічала 38 рыма-каталіцкіх парафій і рэзідэнцыя закону бернардынцаў у Будславе, заснаваная ў 1504г. Паводле адміністрацыйнага падзелу большасць з іх уваходзіла ў склад Віленскай архідыяцэзіі, а парафіі паўднёва-ўсходніх тэрыторый – у склад Луцкай дыяцэзіі.

Не змянілася такое падпарадкаванне і пасля Люблінскай уніі 1569г., якая аб'яднала ВКЛ і Польскае каралеўства ў адну дзяржаву – Рэч Паспалітую Двух Народаў, але саміх касцёлаў стала нашмат больш. Трыдэнцкі Сабор (1545-63гг.) і контррэфармацыя выклікалі з'яўленне першых каталіцкіх кляштараў на Міншчыне.

Першы рыма-каталіцкі кляштар у названых межах – асяродак ордэну езуітаў – заснаваны ў Нясвіжы па фундацыі 1584г. князя М.-К.Радзівіла Сіроткі (бернардынская рэзідэнцыя ў Будславе атрымала статус кляштара толькі ў 1661г.). Першым жаночым кляштарам (дарэчы, першым ва ўсім ВКЛ) стаў у 1590г. асяродак бенедыктынак таксама ў радзівілаўскім Нясвіжы.

На пачатку наступнага стагоддзя першыя каталіцкія законнікі з'явіліся ў Мінску. Гэта былі дамініканцы, запрошаныя адпаведна з фундушам 1605г., падпісаным Сафіяй Слушкай. Пасля ў горадзе былі заснаваныя наступныя кляштары:

1624г. – бернардынцаў,

1633г. – бенедыктынак,
1633г. – бернардынак,
1680г. – францішканцаў,
1686г. – езуітаў,
1700г. – кармелітаў,
1700г. – бенедыктынцаў,
1703г. – баніфратаў,
1752г. – рахітаў,
1771г. – марыявітак.

Усяго ж пад канец XVIIIст. было заснавана 5 жаночых кляштараў (тры ў Мінску, марыявітак у Слуцку (1816г.) і бенедыктынак у Нясвіжы) і 32 мужчынскіх, акрамя названых васьмі ў Мінску:

бенедыктынцаў – у Нясвіжы;
бернардынцаў – у Беніцы, Будславе, Валожыне, Нясвіжы, Слуцку;
дамініканцаў – у Нясвіжы і Халопенічах – Літоўскай правінцыі ордэна; у Заслаўі, Зембіне, Клецку, Ракаве, Стоўбцах, Хатаевічах (цяпер в.Акцябр) – Рускай правінцыі;
езуітаў – 2 у Нясвіжы і 1 у Слуцку;
кармелітаў – старога статуту ў Засвіры і кармелітаў босых у Мядзелі;
місіянераў – у Смілавічах;
трынітарыяў – у Крывічах і Маладзечне;
францішканцаў – у Івянцы і Серафіне.

Колькасць парафіяў на тэрыторыі сучаснай Мінскай вобласці напрыканцы XVIIIст. дасягнула 66. Парафіі аб'ядноўваліся ў дэканаты. На Міншчыне знаходзіліся парафіі наступных дэканатаў: Мінскага, Ашмянскага (заходняя частка), Навагрудскага (паўночная частка), Полацкага (уваходзілі толькі дзве парафіі – Сэрвеч і Даўгінава), Радашковіцкага і Свірскага (паўднёва-ўсходняя частка). Мінскі дэканат на той час складаўся з 16 парафіяў у вёсках: Вішнева, Забрэззе, Івянец, Камень, Пяршаі, Ракаў (цяпер у Валожынскім р-не); Волма і Койданава (Дзяржынскі р-н); Блонь і Серафін (Пухавіцкі р-н); Дзераўная, Налібакі і Стоўбцы (Стаўбцоўскі р-н), а таксама Мінск, Узда і Хоўхлава (Маладзечанскі р-н).

Першы падзел Рэчы Паспалітай (1772г.) не закрануў гэтай тэрыторыі. Да Расійскай імперыі тады адышлі толькі Віцебскае, Мсціслаўскае і Полацкае ваяводствы і т.зв. Інфлянты Польскія. Указам ад 22.11.1773г. імператрыца Кацярына II на іх тэрыторыі заснавала (без благаслаўлення Рыма) Беларускае біскупства. У 1783г. біскупства было ператворана ў Магілёўскую архідыяцэзію. Першым арцыбіскупам стаў Станіслаў Богуш Сестранцэвіч. У 1773г. у Еўропе і, адпаведна, на разглядаемай тэрыторыі, быў скасаваны ордэн езуітаў, многія з іх перасяліліся на нованабытыя Расіяй землі, дзе Таварыства Езуса дзейнічала да 1820г.

Касцёлы і кляштары Міншчыны, якая стала тэрыторыяй Расіі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793г.), увайшлі ў склад Магілёўскай архідыяцэзіі. 28 красавіка 1798г. указам імператара Паўла I у межах Мінскай губерні, якая складалася з 13 паветаў, засноўваецца самастойная Мінская дыяцэзія. Пра яе заснаванне сведчыць була Папы Пія VI ад 15 лістапада 1798г. На той момант на тэрыторыі Мінскай дыяцэзіі знаходзіліся 23 парафіі, у якіх дзейнічала 48 касцёлаў і 174 капліцы, а таксама 50 каталіцкіх кляштараў. Усе яны размяркоўваліся па 13 дэканатах: Мінскі ў горадзе і Мінскі за горадам, Барысаўскі, Бабруйскі, Вілейскі і Надвілейскі (у Вілейскім павеце), Дзісненскі, Ігуменскі, Мазырскі, Наднёманскі, Пінскі, Рэчыцкі і Слуцкі (з 1842 г.

**1568 г.**
**Вялікае Княства Літоўскае.**

*Амаль за два стагоддзі з дня заснавання першага касцёла ў Гайне (1387 г.) на разглядаемай тэрыторыі было заснавана 38 парафіяў.*




Межы ваяводстваў

Межы паветаў XVIIIст.

Межы Мінскай вобласці

Сучасныя межы дэканатаў

**Менск** Цэнтр ваяводства і павета

Цэнтр парафіі

Кляштар бернардынцаў у Будславе

Гайна – першы заснаваны касцёл

Іншыя населеныя пункты

Заўвагі:

Гавезна* Парафія згадваецца толькі ў 1592г.

Нясвіж* Парафія не існавала ў 1555-81гг.

Сівіца* Парафія згадваецца толькі ў сярэдзіне XVIст.

Лічбамі пазначаны парафіі:
1. Гарадзілава, 2. Аборак-Груздава, 3. Ласокіна.

да Віленскай губерні адышлі Вілейскі і Дзісненскі паветы, а да Мінскай дадаўся Наваградскі павет). Катэдральным касцёлам стаў па-езуіцкі касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны, першым біскупам – кс.Якуб Ігнацы Дадэрка. Рэзідэнцыяй біскупа стала частка карпусоў мінскага дамініканскага кляштара. У Мінску была заснаваная каталіцкая семінарыя, размешчаная ў будынках былога францішканскага кляштара. Каталіцкая Духоўная Кансісторыя размясцілася над крылом па-езуіцкага калегіума па вул.Койданаўскай: для гэтага былі надбудаваныя два паверхі. У 1811г. біскуп Дадэрка заснаваў першае ў горадзе «Таварыства Дабрачыннасці».

У такім выглядзе новаўтвораная дыяцэзія адносна добра (калі не лічыць забароны з 1807г. уніятам наведваць рыма-каталіцкія касцёлы, высылкі за межы Расійскай імперыі езуітаў – з 1814г. ордэн аднаўлены ў Заходняй Еўропе, – і таго факту, што за гэты перыяд не было заснавана ніводнага новага каталіцкага кляштара) існавала да 30-х гг. XIXст. Тым не менш колькасць парафій на разглядаемай тэрыторыі ўзрасла да 78.

Пасля падаўлення паўстання 1831г. сітуацыя рэзка змянілася. Перш за ўсё гэта

**1792 г.**
**Рэч Паспалітая.**

*Яшчэ два стагоддзі праходзяць у рамках адзінай дзяржавы з Польскай Каронай. Колькасць парафіяў узрасла да 66. Заснаваныя 37 кляштараў, у тым ліку 33 мужчынскіх і 5 жаночых.*

Межы ваяводстваў
Межы дэканатаў XVIIIст.
Межы Мінскай вобласці
Сучасныя межы дэканатаў

**Радашковічы** Цэнтры дэканатаў XVIIIст.

Халопенічы Цэнтр часткі Аршанскага павета, якая засталася ў Рэчы Паспалітай пасля 1-га падзелу

Цэнтр парафіі

Кляштар

Іншыя населеныя пункты

Лічбай 1 пазначана парафія ў Гарадзілаве

Багушэвічы* Парафія згадваецца з сярэдзіны XVIIст.

Крупкі, Ніўкі*, Рабунь* Парафіі згадваюцца толькі ў 2-й палове XVIIст.

закранула кляштары: ужо з 1832г. пачалося іх масавае закрыццё. У Мінску з 11 кляштараў засталіся дзейнічаць толькі супольнасці бенедыктынак, бернардынак (да 1853г.), бернардынцаў і марыявітак (да 1850г.). У 1842г. усе касцельныя ўладанні перайшлі ў казну. З 1852г. былі дазволеныя толькі тыя казанні, якія прайшлі папярэднюю цэнзуру.

На хвалі рэпрэсіяў пасля паўстання 1863-64гг. на разглядаемай тэрыторыі не засталося ніводнага дзейнага каталіцкага кляштара. Не засталося іх і на тэрыторыі ўсёй тагачаснай Мінскай губерні (апошні жаночы цыстэрцыянскі прытулак у кімбараўскай Даліне Анёлаў пад Мазыром быў зачынены ў 1883г.). Частку з іх перадалі праваслаўным, частку – ваеннаму ведамству. Каталіцкую семінарыю ў Мінску зачынілі. У 1865г. забаранілі ставіць каталіцкія крыжы ў грамадскіх месцах, праводзіць працэсіі вакол касцёлаў, спяваць на пахаваннях па-польску. Нарэшце 15 ліпеня 1869г. мінскі біскуп Адам Вайткевіч атрымаў дакумент аб скасаванні Мінскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі. Ацалелыя ў гэтых рэпрэсіях касцёлы перайшлі пад юрысдыкцыю Віленскага біскупства. Тэ-

**1831 г.**
**Расійская імперыя.**

*З моманту заснавання Мінскай дыяцэзіі ў 1798 г. колькасць парафіяў павялічылася да 78.*

Межы губерняў
Межы паветаў XIXст.
Межы дэканатаў XIXст.
Межы Мінскай вобласці
Сучасныя межы дэканатаў
Мінск — Цэнтр дыяцэзіі
Койданава — Цэнтры дэканатаў XIXст.
Слуцк — Цэнтры паветаў і адпаведных дэканатаў XIXст.
Цэнтр парафіі
Кляштар
Іншыя населеныя пункты

Заўвагі:
Дукора* — Самастойнай парафія стала ў 1850г.

Лічбамі пазначаны парафіі:
1. Гарадзілава, 2. Багданава,
3. Канстанцінава, 4. Альковічы, 5. Дубрава.

рыторыю скасаванай дыяцэзіі падзялілі на 2 візітатарствы ў межах Мінскай губерні : Мінскае і Слуцкае. Скарацілася колькасць парафіяў: засталіся дзейнічаць толькі 44 парафіяльныя касцёлы. Больш за тое, да канца XIXст. не толькі не было заснавана ніводнай новай парафіі, але і не пабудавана ніводнага новага касцёла ў ацалелых. Рамонт старых святыняў таксама часта спалучаўся з непераадольнымі цяжкасцямі.

З 2-й паловы XIXст. і да рэвалюцыі 1917г. адміністрацыйна-касцельная сістэма на разглядаемай тэрыторыі ўяўляла сабой наступнае: тэрыторыя Мінскай дыяцэзіі ў межах Магілёўскай архідыяцэзіі цалкам супадала з межамі Мінскай губерні. Мінская губернія таго часу была большая за тэрыторыю цяперашняй Мінскай вобласці, у яе межы ўваходзілі таксама Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Пінскі і Наваградскі паветы. Аднак цяперашнія межы Мінскай вобласці ахопліваюць і частку тэрыторый тагачаснага Ашмянскага, Свянцянскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні, а таксама ўсходнюю частку Сенненскага павета Магілёўскай губерні. Такім чынам сюды ўваходзілі таксама парафіі ўсходніх частак Вішнеўскага дэканата Ашмянска-




**1870 г.**
**Расійская імперыя.**

*Пасля рэпрэсіўных мераў, звязаных з падаўленнем паўстанняў 1831 і 1863 гг., была зліквідаваная амаль палова парафіяў, засталіся дзейнічаць толькі 44. Усе кляштары былі зачыненыя.*

Межы губерняў
Межы паветаў XIXст.
Межы дэканатаў XIXст.
Межы Мінскай вобласці
Сучасныя межы дэканатаў
**Койданава** Цэнтры дэканатаў XIXст.
**Мінск** Цэнтры паветаў і адпаведных дэканатаў XIXст.
Кляштар
Арошні кляштар у Нясвіжы дзейнічаў да 1876г.
Іншыя населеныя пункты

га павета і Свірскага дэканата Свянцянскага павета, цалкам Вілейскі дэканат і Мядзельская парафія Надвілейскага дэканата Вілейскага павета, а таксама парафія Бобр Сенненскага дэканата.

Пры гэтым Мінскі дэканат у горадзе складаўся толькі з дзвюх парафіяў – Марыінскай пры былым катэдральным касцёле і Найсвяцейшай Тройцы пры касцёле на Залатой Горцы. Мінскі дэканат за горадам меў тры парафіі: Камень, Ракаў і Пяршаі.

Сітуацыя змянілася пасля маніфеста ад 30 (17) красавіка 1905г. аб свабодзе сумлення, які зняў частку абмежаванняў з каталіцкай канфесіі на тэрыторыі Расійскай імперыі. Праўда, аднавіць Мінскую дыяцэзію альбо дзейнасць ордэнаў не ўдалося, але дазвол будаваць новыя касцёлы выклікаў літаральна бум будаўніцтва. За дзесяцігоддзе на разглядаемай тэрыторыі з'яўляюцца 14 новых рыма-каталіцкіх парафіяльных святыняў. Акрамя гэтага, у шэрагу святыняў былі праведзены сур'ёзныя рэканструкцыі, якія значна змянілі іх знешні выгляд.

**1913 г.**
**Расійская імперыя.**

*За 8 гадоў з дня прыняцця закона аб свабодзе сумлення колькасць парафіяў на разглядаемай тэрыторыі павялічылася да 52.*




Межы губерняў
Межы паветаў пачатку ХХст.
Межы дэканатаў пачатку ХХст.
Межы Мінскай вобласці
Сучасныя межы дэканатаў
**Койданава** Цэнтры дэканатаў пачатку ХХст.
**Мінск** Цэнтры паветаў і адпаведных дэканатаў пачатку ХХст.
Цэнтр парафіі
Адноўленая ці новаўтвораная парафія
Новазбудаваны ці рэканструяваны касцёл
Іншыя населеныя пункты

Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў 1917г. Мінская дыяцэзія нарэшце адрадзілася. Яе ўзначаліў біскуп Зыгмунт Лазінскі. Аднак дзейнічала дыяцэзія вельмі нядоўга. Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна, адыход Мінска да савецкай тэрыторыі і, нарэшце, арышт і высылка біскупа Лазінскага ў 1920г., прывялі да фактычнай ліквідацыі Мінскай дыяцэзіі (аднак афіцыйнага дакумента аб скасаванні не было). Біскуп Лазінскі меў тытул мінскага біскупа да 1925г. і працягваў кіраваць той часткай былой Мінскай губерні – Піншчынай, – якая засталася на тэрыторыі Польшчы (у межы цяперашняй Мінскай вобласці трапіла толькі парафія Пузічы Салігорскага р-на). Тады ж да Польшчы адышлі тэрыторыі цяперашніх Валожынскага, Вілейскага, Клецкага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Нясвіжскага і Стаўбцоўскага раёнаў, а таксама паўднёвая частка Салігорскага раёна цяперашняй Мінскай вобласці. У той час, калі на савецкай тэрыторыі касцёлы зачынялі, святароў расстрэльвалі і рэпрэсавалі, а вернікаў праследвалі, на польскіх землях адабраныя царскімі ўладамі святыні вярталіся католікам, будаваліся новыя касцёлы. За міжваеннае двац-




## 1939 г.
## Рэч Паспалітая / БССР.

*Непасрэдна перад аб'яднаннем на польскай тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічалі 52 парафіі. На савецкай Усходняй Беларусі – 6 парафіяў.*

Межы дзяржаў
Межы дыяцэзіяў у Заходняй Беларусі
Межы дэканатаў у Заходняй Беларусі
Межы Мінскай вобласці
Сучасныя межы дэканатаў
Мінск — Сталіца БССР
Нясвіж — Цэнтры дэканатаў у Заходняй Беларусі
Цэнтр парафіі
Кляштар
Іншыя населеныя пункты
Віленская архідыяцэзія
Пінская дыяцэзія

Заўвагі:
Замосце* Парафія дзейнічала ў 1917-1934гг.
Плашава* Парафія дзейнічала ў 1922-1932гг.
Смалявічы* Парафія дзейнічала ў 1917-1934гг.

Лічбамі пазначаны парафіі:
1. Гарадзілава, 2. Гарадок, 3. Плябань, 4. Дубрава, 5. Канстанцінава, 6. Стары Мядзел.

цацігоддзе (1919-1939) гг. на савецкай частцы разглядаемай тэрыторыі засталіся дзейнічаць толькі 6 касцёлаў (яшчэ тры парафіі былі заснаваныя адразу пасля рэвалюцыі, але іх скасавалі ў 1930-я гг.), на тэрыторыі ж Польшчы захаваліся ўсе дзейныя святыні, аднавілі сваю дзейнасць 17 і былі заснаваныя 10 новых парафіяў – усяго 59. Акрамя гэтага, зноў адчыняюцца кляштар бенедыктынак у Нясвіжы і францішканцаў у Івянцы. У Мінску ў гэты час з 4 касцёлаў і 2 капліцаў у вернікаў застаўся толькі Кальварыйскі касцёл.

Такое становішча мяняецца «на савецкую карысць» адразу пасля далучэння да БССР тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939г. Шэраг касцёлаў тут зачынілі яшчэ да пачатку другой сусветнай вайны. За чатыры ваенныя гады многія парафіі аднавілі сваю дзейнасць. Так у Мінску ненадоўга адчыніліся і катэдральны касцёл, і Найсвяцейшай Тройцы, і Чырвоны. Але адразу пасля вызвалення Беларусі ў 1944г. хваля рэпрэсій у адносінах да духавенства зноў ахапіла край. Больш за тое, у сталіцы не засталося ніводнага дзейнага касцёла. Па ўсёй Мінскай вобласці паводле звестак на

1970г. набажэнствы праходзілі толькі ў 11 касцёлах. Варта адзначыць, што ўсе яны знаходзіліся на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі.

Цікавы факт адкрыцця ў 1981г. касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Мінску. Гэты адзінкавы выпадак быў на самай справе больш чым непераканальным жаданнем даказаць сусветнай грамадскасці, што савецкая сістэма талерантна ставіцца да праблемаў вернікаў. Сапраўдныя змены сталі магчымымі толькі пасля падзення сістэмы. У 1991г. была заснавана Мінска-Магілёўская архідыяцэзія, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Казімір Свёнтэк. У 1994г. у Мінску ствараецца нунцыятура Апостальскай Сталіцы.

Тэрыторыя архідыяцэзіі сёння ахоплівае Мінскую і Магілёўскую вобласці Рэспублікі Беларусь. У сваю чаргу, Мінская вобласць складаецца з пяці дэканатаў, у якія ўваходзяць наступныя раёны:

Будслаўскі дэканат – Мядзельскі раён;

Вілейскі дэканат – Вілейскі і Маладзечанскі раёны;

Мінскі дэканат – Мінск і Мінскі раён, Барысаўскі, Бярэзінскі, Крупскі, Лагойскі, Смалявіцкі і Чэрвеньскі раёны;

Нясвіжскі дэканат – Нясвіжскі, Клецкі, Капыльскі, Слуцкі, Старадарожскі, Любаньскі і Салігорскі раёны;

Рубяжэвіцкі дэканат – Валожынскі, Дзяржынскі, Стаўбцоўскі, Уздзенскі і Пухавіцкі раёны.

# Будслаўскі дэканат

## Мядзельскі раён







 Касцёл

 Філіяльны касцёл

 Капліца

 Малая архітэктурная форма

Мядзел цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася



## Будслаў

Напачатку паселішча называлася проста Будай. Першы раз пра яго згадваецца ў 1504г., калі вялікі князь літоўскі і польскі кароль Аляксандр сваім прывілеем падараваў гэтую мясціну – 600 моргаў лесу над ракой Сэрвеч у яе прытоках Зуйкі і Турака – віленскаму кляштару бернардынцаў. Адсюль манахі маглі сплаўляць лес у Вільню на патрэбы кляштара. Для нагляду за сплавам тут, спачатку ў летні час, жыў толькі адзін манах, якому ў лясной пушчы пабудавалі маленькую драўляную хацінку – яна і называлася «будай».



*Ксёндз Элеўтэр Зеляевіч з'яўляецца аўтарам вядомай кнігі 1650г. «Задыяк на зямлі», дзе падаецца гравюра з выявай будслаўскай рэзідэнцыі. Хоць малюнак і недасканалы, ён дае ўяўленне пра тое, як выглядала рэзідэнцыя ў сярэдзіне XVIIст. Касцёл у стылі позняга рэнесансу прамавугольны ў плане, з гранёнай апсідай, накрыты дахоўкай, завершаны вытанчанай сігнатуркай. Галоўны фасад святыні фланкаваны дзвюма 8-граннымі вежамі пад востраканцовымі, амаль гатычнымі спічакамі. Бакавы фасад прарэзаны трыма аркавымі вокнамі. Злева ад касцёла – 2-павярховыя пабудовы рэзідэнцыі, хутчэй за ўсё, драўляныя.*

У хуткім часе колькасць братоў, прысланых сюды з віленскага кляштара, павялічылася да 4-х, і яны пабудавалі тут да 1530г. невялікую драўляную капліцу, а ў 1591г. пад тытулам Наведвання Найсвяцейшай Марыі Панны быў асвечаны ўжо драўляны касцёл. У той час прадстаўніцтва бернардынцаў тут было яшчэ нешматлікім і таму мела статус толькі рэзідэнцыі. Але менавіта ў гэты час – у 1613 г. – тут з'яўляецца цудоўны абраз Маці Бо-



Выгляд будслаўскай базылікі з паўночнага фасада.

жай, які стаў сёння адной з асноўных каталіцкіх святыняў Беларусі, і Буда становіцца Будславам.

Дзякуючы ахвяраванням а.Фларыяна Калецкага, гвардыяна віленскага кляштара бернардынцаў, а таксама сродкам польнага гетмана літоўскага Яна Кішкі, сям'і Далмат-Ісакоўскіх, 28 жніўня 1633г. у будслаўскай рэзідэнцыі быў закладзены краевугольны камень першага каменнага касцёла. Будаўніцтва скончылася ў 1643г., і 9 ліпеня новую святыню асвяцілі. Знакаміты алтар у яе апсідзе быў устаноўлены ў 1649г. руплівасцю а.Элеўтэра Зеляевіча, тагачаснага старэйшага манаха кляштара. Будаўніком першага каменнага касцёла стаў Андрэй Кромер. Ён надоўга затрымаўся ў Будзе, пабудаваў тут сабе дом і, магчыма, менавіта ён стаў і аўтарам праектаў новых кляштарных будынкаў. І хаця рэзідэнцыя па сутнасці ўжо даўно была кляштарам, гэты статус прадстаўніцтва бернардынцаў у Будславе атрымала толькі ў 1661г.

## Будслаўскі дэканат

*З 1787г. – самастойная парафія Вілейскага дэканата Віленскай архідыяцэзіі. Да канца XIX ст. Будслаў уваходзіў у параф'янаўскую парафію (цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) Полацкага дэканата. У 1991г., з адраджэннем Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Будслаў атрымаў статус цэнтра аднайменнага дэканата ў межах Мядзельскага раёна.*





Партал касцёла XVII ст. і партал базылікі XVIII ст.

*Алтар Наведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны 1649г. – адзін з найцікавейшых помнікаў ранняга барока на Беларусі, хоць ягоныя архітэктурныя канструкцыі выкананыя яшчэ ў традыцыях рэнесансу. Выдатная ідэя перспектыўнага скарачэння алтара, ажыццёўленая практычна ў плоскасці: за кошт паступовага памяншэння да цэнтра памераў ягоных элементаў, нахілу накіроўваючых гарызантальных дзяленняў ствараецца поўная ілюзія яго перспектыўнага ўспрымання ў прасторы. Алтар пафарбаваны пад эбенавае дрэва і багата дэкараваны пазалочанай разьбой, карынфскімі калонамі з канелюрамі, шматпрофільнымі гзымсамі. Неад'емную ягоную частку складаюць 20 пазалочаных фігураў у нішах паміж калонамі. У левым крыле, ад краю да цэнтра, стаяць фігуры Давіда, св. Юзафа, св. Захары, св. Якіма; у правым – фігуры Аарона, св. Яна Хрысціцеля, св. Альжбеты, св. Ганны. На карнізах крылаў алтара ўстаноўленыя: злева – выявы св. Станіслава, біскупа, і св. Францішка, справа – св. Казіміра і св. Антонія, у цэнтры – фігуры 6 анёлаў. Завяршаюць кампазіцыю фігуры св. апосталаў Пятра і Паўла, над якімі ў 1928г. была дададзеная прамяністая гостыя з палаючым Сэрцам Езуса ў цярновым вянцы. У галоўным полі змешчаны цудадзейны абраз Укрыжавання, перададзены ў касцёл з маёнтка Ілава ў 1773г. У верхнім ярусе размешчаны барочны абраз Маці Божай Балеснай.*

Алтар Наведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны, 1649г.



Прытулак па-ранейшаму сцяной абкружалі лясы, тры ракі адсякалі яго ад свету, робячы кляштар цяжкадасягальным. Тым не менш колькасць пілігрымаў да цудадзейнага абраза павялічвалася. Кляштар рос, разрасталася і паселішча вакол яго, і ў 1732г. прывілеем караля Аўгуста III Будслаў аб'яўляецца мястэчкам Ашмянскага павета Віленскага ваяводства ВКЛ. З гэтага моманту пачынаецца «залаты век» кляштара.

У 1750г. узводзіцца новы жылы корпус для кляштарнай браціі, з'яўляюцца і іншыя будынкі. Хутчэй за ўсё, да гэтага





Выявы св.Яна Хрысціцеля і св.Ганны.



*На цудатворным абразе Найсвяцейшай Панны Марыі адлюстраваная Маці Божая, якая левай рукой прытрымлівае Дзіцятка Езуса і паказвае на Яго правай далонню. Езус у левай руцэ трымае плод граната, паднятай правай рукой благаслаўляе. Абраз напісаны алеем на палатне памерам 72х65 см. Палатно нацягнута на раму, на адваротным баку якой захаваўся надпіс 1649г., зроблены пры будаўніцтве першага каменнага касцёла, у алтары якога і заняў галоўнае месца цудатворны абраз. Надпіс паведамляе, што абраз у 1598г. прывёз з Рыма мінскі ваявода Ян Пац як асабісты дарунак Папы Клімента VIII і змясціў абраз у капліцу свайго віленскага палаца. Капелан капліцы, кс. Ісаак Салакай, пасля смерці Паца ў 1610г. перавёз абраз у Даўгінава. У Вялікую пятніцу 1613г. на набажэнстве ў будслаўскім касцёле кс. Ісаак ахвяраваў абраз бернардынцам. Срэбную пазалочаную шату на абразе – дарунак гвардыяна віленскага кляштара а.Фларыяна Калецкага, якую выканалі бернардынцы-злотнікі Геранім Плонскі і Бенедыкт Росман. У арнамент рамы шатаў устаўленыя рэльефныя фігуркі св.Алены і св.Казіміра. І Марыя, і Езус увянчаныя срэбнымі пазалочанымі каронамі, упрыгожанымі каштоўнымі камянямі. Яго Эмінэнцыя Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк 2 ліпеня 1998г. здзейсніў урачыстую каранацыю цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай.*

Галоўны алтар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны у будслаўскай базыліцы створаны ў 1784–1790-я гг. у стылі класіцызму – 4 белыя калоны з пазалочанымі карынфскімі капітэлямі нясуць багата аздоблены ляпнінай фрыз, на якім месціцца картуш з малюнкам лодкі св.Пятра ў атачэнні пуццяў. Пад картушам надпіс: «Тваёй абароне аддаемся, Святая Маці Божая».



**Алтары будслаўскай базылікі:**

1. Галоўны алтар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны з цудатворным абразом Маці Божай.
2. Св.Антонія.
3. Св.Юзафа з Дзіцяткам Езусам.
4. Збаўцы Укрыжаванага.
5. Св.Юды Тадэвуша.
6. Св.Ганны з абразом Святой Сям'і.
7. Св.Казіміра.
8. Св.Францішка.
9. Св.Барбары.
10. Алтар Наведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны ў старым касцёле.




часу адбылася і рэканструкцыя касцёла – цяпер святыня ўяўляла сабой аднавежавы храм. З 1731г. пры кляштары пачынае дзейнічаць духоўная школа, дзе да 10 слухачоў вывучалі маральную тэалогію і рыторыку. У 1756г. адчыняецца музычная школа на 25 вучняў. Колькасць манахаў дасягае 17 чалавек. Будслаў становіцца сапраўдным цэнтрам хрысціянскага жыцця краю.

І нарэшце 29 ліпеня 1767г. быў закладзены краевугольны камень пад велічную базыліку, якая стала адным з самых грандыёзных і прыгожых касцёлаў не толькі нашай Радзімы, але і ўсёй тагачаснай Рэчы Паспалітай. Урачыстае асвячэнне базылікі ў імя Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны адбылося 7 верасня 1783г. Над Слаўнай Будай узвысілася 2-вежавая трохнававая святыня ў стылі позняга барока. Даўжыня толькі галоўнага фасада дасягае амаль 50 м. Старажытныя званы XVIIст. былі ўзнятыя на высокія 4-ярусныя вежы. Аб'ёмная структура касцёла крыжова-купальная, але купал тут «сляпы», г.зн. не выходзіць з інтэр'ера ў экстэр'ер святыні. Цяпер будынак набыў іншую арыентацыю: базыліка развярнулася алтаром на захад (першы каменны касцёл быў арыентаваны алтаром на ўсход). Гэта было прадыктавана тэрыторыяй, свабоднай ад кляштарнай забудовы. Стары касцёл увайшоў у аб'ём новага як капліца св.Барбары, алтар у ім застаўся ранейшым, каля яго пазалочаных фігураў святых можна памаліцца і сёння. Цудадзейны абраз

Маці Божай заняў пачэснае месца ў галоўным алтары базылікі. Па баках ад галоўнага алтара – двое аркавых дзвярэй, якія вядуць у падоўжаны прэзбітэрый, – там знаходзіцца памяшканне манаскага хору, адкуль можна трапіць у закрыстыю і капліцу св.Барбары – старажытны рэнесансны касцёл, над аб'ёмам якога 2-м паверхам было зроблена памяшканне архіва і багатай кляштарнай бібліятэкі.

Да нашых дзён на сценах касцёла добра захаваліся познебарокавыя роспісы, якія належаць пэндзлю Казіміра Анташэўскага (ён жа аўтар роспісаў і ў мінскай катэдры). Асаблівай увагі заслугоўваюць ілюзорныя алтары з калонамі ў капліцах бакавых наваў, крылах трансепта і на алтарнай сцяне прэзбітэрыя. Цікавасць таксама ўяўляюць 6 канфесіяналаў у стылі ракако, амбона ў стылі класіцызму.

Стварэнне гэтага архітэктурнага шэдэўра стала магчымым дзякуючы шматлікім фундацыям: казначэя полацкага Юзафа Крахоўскага, мінскага рэгента Ераніма Сарокі, Альжбеты Пултаровіч, ваяводы Агінскага, Барбары Каменскай, Яна Ходзькі і многіх іншых. Аўтарам праекта, магчыма, быў тагачасны гвардыян кляштара а.Канстанцін Пенс, сын вядомага віленскага архітэктара Яна Пенса, які і сам меў архітэктурную адукацыю. Магчымым з'яўляецца і ўдзел знакамітага варшаўскага дойліда Юзафа Фантаны, бо будслаўская святы-



*На знакамітай карце гравёра Г.Ляйбовіча 2-й пал. XVIII ст, дзе адлюстраваныя бернардынскія кляштары Літоўскай правінцыі ордэна, будслаўская базыліка ўвенчаная над сяродкрыжжам велічным круглым барабанам пад паўсферычным купалам з вытанчаным барочным ліхтаром. Магчыма, майстра адлюстраваў толькі запланаваную канструкцыю, бо ён ствараў сваю карту менавіта ў той час, калі касцёл толькі будаваўся, і не выключана, што гэта выява так і не рэалізаванага праекта.*

Бочны алтар Збаўцы ўкрыжаванага.

Канфесіянал у стылі ракако, канец XVIIIст.



ня мае архітэктурныя асаблівасці, характэрныя для ягонай творчасці. А можа, гэта быў тандэм дзвюх творчых асобаў, бо Фантана ажаніўся з сястрой а.Канстанціна.

У 2-й пал. XVIIIст. завяршылася фармаванне і брацкага корпуса кляштара. Каменны, 2-павярховы, пакрыты гонтаю, ён «у тры лініі» ўтвараў унутраны двор – клауструм – пры паўночным фасадзе касцёла. Уваход у корпус з боку плошчы быў выдзелены рызалітам з франтонам, над якім узвышалася гранёная вежа. У 1790г. на сродкі кляштара быў пабудаваны цагляны шпіталь для бедных, у 1793г. пры кляштары адчынілася 2-класная пачатковая школа на 40 вучняў. 9 снежня 1787г. Будслаў становіцца самастойнай парафіяй. Акрамя касцёла, у парафіі былі яшчэ 2 філіяльныя касцёлы – у Бярозаўцы (Докшыцкі р-н) і ў в.Матыкі, а таксама капліца ў Старой Жосне і на могілках у самім Будславе. Колькасць вернікаў будслаўскай парафіі перавышала ў сярэдзіне XIXст. 3500 чалавек. Сам жа кляштар да 1758г. уваходзіў у склад Малапольскай, а затым Літоўскай правінцыі ордэна бернардынцаў. Пры ім засноўваюцца розныя брацтвы – яшчэ з сярэдзіны XVIIст. вя-







*У закрыстыі на сценах захаваліся пагрудныя партрэты рымскіх папаў – Сыкста IV, Сыкста V, Мікалая IV, Аляксандра V, напісаныя прыблізна ў XVIIIст.*

Злева: бочны алтар св.Юзафа.
Унізе: фрагмент роспісу калоны галоўнай навы.



домыя брацтвы св.Ганны і тэрцыярыяў, у 1745г. а.Станіслаў, кармеліт босы з кляштара ў Глыбокім, заснаваў тут брацтва Маці Божай Шкаплернай. Былі таксама заснаваныя свецкія брацтвы св.Францішка, св.Антонія, Сэрца Езуса, св. Барбары.

У 1793г. адбываецца 2-гі падзел Рэчы Паспалітай. Будслаў становіцца мястэчкам Віленскай губерні Расійскай імперыі. Да 1851г. манахам загадваюць вызваліць ад захаванняў касцёльныя сутарэнні, а ў 1858г. зачыняецца ўвесь кляштар. Застаўся дзейнічаць адно сам прыгажун-касцёл, цяпер ужо толькі як парафіяльны. Кляштарныя карпусы пасля падаўлення паўстання 1863г. перадаюцца царскім войскам, а ў канцы XIXст. цалкам разбіраюцца.

У міжваеннае дваццацігоддзе, у 1919–1939 гг., будынак касцёла, ягонае ўбранне рэстаўруюцца і абнаўляюцца. У в.Грыбкі будуецца яшчэ адна капліца ад будслаўскай пара-



*Велічныя познебарокавыя арганы на хорах устаноўленыя па фундацыі Барбары Скарульскай у канцы XVIIIст., яна ж, яшчэ ў 1756г., заснавала пры будслаўскім кляштары музычную школу.*



фіі, колькасць вернікаў якой павялічваецца да 7000 чалавек. Аднак у пасляваенны час будслаўская святыня практычна не мела пастаяннага ксяндза. З 1990-х гг. пачалося адраджэнне будслаўскіх святыняў. Першая пілігрымка адбылася 2 ліпеня 1992г. і стала зноў штогадовай традыцыяй. У 1996г. у Будслаў вярнуліся бернардынцы.




*У 1993г. булаю Папы Яна Паўла II касцёл у Будславе быў узведзены ў ранг малой базылікі. Гэта адлюстравана сёння над барочным уваходным парталам у святыню.*

Сёння будслаўскі касцёл мае статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння. Пабудаваная побач з ім у XIXст. плябанія таксама прызнаная помнікам грамадзянскага дойлідства з рысамі эклектыкі.

Захавалася капліца на старажытных парафіяльных могілках – гэта невялікая прамавугольная ў плане пабудова з буту пад 2-схільным дахам, узведзеная пад уплывам класіцызму.






А драўляны касцёл у Матыках не захаваўся. Пабудаваў святыню на пачатку XIXст. пан Слізень, генерал польскіх войскаў, якому належаў маёнтак. Дзейнічаў касцёл як будслаўская філія да 2-й сусветнай вайны, калі быў зачынены, а потым і разабраны. Сёння на месцы, дзе ён стаяў, на мясцовых могілках, устаноўлены высокі металёвы крыж.

Затое захавалася і дзейнічае капліца ў Грыбках. Людзі аселі тут, сярод балотаў, мабыць, толькі падчас будаўніцтва будслаўскай базылікі. Тады, у 2-й палове XVIII ст., за грэбляй, на захад ад вёскі, былі зробленыя тры печы для вырабу цэглы. З цягам часу з асобных хутароў вырасла вёска Грыбкі. Сям'я мясцовых жыхароў Апанасевічаў і пабудавала тут у 1938 г. невялікую каплічку. 15 мая яна была асвечаная ў гонар Найсвяцейшай Марыі Панны, што пазначана на сцяне справа ад увахода.






Капліца – цаглянае, атынкаванае збудаванне пад 4-схільным гонтавым дахам, на заходнім ускрайку вёскі.

## Весялуха (не існуе)

*У 1930-я гг. касцёл св.Юрыя ўяўляў сабой адназалавую безапсідную святыню пад 2-схільным гонтавым дахам з вальмай над алтарнай часткай. Уваходная частка пазначалася прасторным бабінцам з 2-яруснай вежай-званіцай над ім. Аб'ём з брусу стаяў на бутавым падмурку.*

Капліца пад тытулам св.Юрыя ў в. Весялуха была ўзведзеная ў 1815г. па фундацыі памешчыка Гутаровіча на высокім пагорку на паўночным баку дарогі Мядзел-Ваўкалата. У 1837г. капліцу зачынілі і перарабілі пад праваслаўную царкву, але ў 1914 г. вярнулі католікам. У 1920-я гг. тут была заснаваная самастойная парафія Надвілейскага дэканата, колькасць вернікаў якой на пачатак 2-й сусветнай вайны складала каля 2500 чалавек.

У 1949 г. касцёл быў зачынены, а гадоў праз восем разабраны на клуб у суседняй в.Слабодка. 29 ліпеня 1999г. на пагорку, дзе яшчэ захаваліся рэшткі падмуркаў святыні і некалькі шляхецкіх надгробкаў, быў асвечаны вялізны драўляны крыж у памяць 50-годдзя знішчэння касцёла.

Фігура Езуза з касцёла ў в.Весялуха сёння захоўваецца ў мядзельскам касцёле.
Выгляд касцёла ў в.Весялуха. Фота 1930-х гг.





Не захавалася і капліца ў маёнтку Цераздвор, што знаходзіўся за восем кіламетраў ад Весялухі.

Тут, у маёнтку паноў Аскеркаў, з 2-й пал. XIXст. згадвалася драўляная капліца ад ваўкалацкай парафіі (цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.). У 1932г. святыня была перавезеная да мядзельскай Кальварыі, дзе стала першай капліцай Крыжовага Шляху і была асвечаная пад тытулам Апошняй Вячэры Панскай.

Агульны выгляд могілак і ўкрыжаванне ў каплічцы.






Затое да сённяшняга часу захаваўся на мясцовых могілках комплекс з некалькіх надмагільных каплічак. Цэнтральнае месца ў комплексе займае каплічка над магіламі Малевічаў з разьбяным драўляным Укрыжаваннем, пастаўленая ў 1880-я гг. Сёння перад каплічкай праводзяцца набажэнствы.

## Засвір

Комплекс кляштара кармелітаў «старой рэгулы» на беразе возера Свір быў узведзены па фундушы ад 19 ліпеня 1697г. за подпісам Крыштафа Зяновіча, маршалка ашмянскага, вялікага пісара літоўскага, і ягонай жонкі Ядвігі з роду Швыкоўскіх.

Спачатку комплекс кляштара быў драўляны, а ў 1713–1714 гг. над вадзяным люстрам возера ўзвысіўся каменны 2-вежавы касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы. Інтэр'ер святыні ў XVIIIст. упрыгожвалі 5 алтароў. Крыху пазней з левага боку касцёла была скончаная прыбудоўка аднапавярховага, П-падобнага ў плане, кляштарнага корпуса, які ствараў замкнуты ўнутраны двор – клаўструм. Справа ад увахода ў касцёл стаіць каменная кляштарная брама, а побач з ёю – невялічкая капліца-званіца: квадратны ў плане будынак на бутавым цокалі пад 4-схільным гонтавым

Сучасны выгляд і план кляштарнага комплексу ў Засвіры.



Інтэр'ер касцёла.

дахам; у бутавым падмурку – глыбокая ніша-касцяніца. Падобную капліцу пабудавалі і на парафіяльных могілках. У 1766г. комплекс быў кансэкраваны. У свой час ён лічыўся самым буйным кляштарам кармелітаў старой абсервацыі на тэрыторыі Беларусі (у ім служылі 20 братоў), ды і ва ўсім ВКЛ

*Троіцкі касцёл уяўляе сабой аднанававы раннебарокавы храм з паўкруглай апсідай. Галоўны фасад фланкаваны двух'яруснымі вежамі пад фігурнымі барокавымі капуламі. Асаблівую цікавасць у архітэктуры касцёла ўяўляе паўкруглая крухта, прыбудаваная да галоўнага ўвахода ў выглядзе барбакана. Пад храмам – склепы. Перакрыццё над прэзбітэрыем скляпеністае, з цэглы, а над залавай часткай – драўлянае, каробчатае.*



Агульны выгляд комплексу ў Засвіры. Фота пач. XX ст.

Галоўны алтар Троіцкага касцёла і каплічка–касцяніца кляштарнага комплексу.



большая колькасць законнікаў была толькі у Вільні – 25 братоў. З пачатку XVIIIст. засвірскія кармеліты абслугоўвалі і філіяльны касцёл у Шэметаве, у канцы таго ж стагоддзя пабудавалі капліцу ў в.Памошша.

У 1832г. кляштар зачынілі, Троіцкі касцёл перавялі ў ранг філіяльнага пры свірскай парафіі. Пасля задушэння паўстання 1863г. быў зачынены і касцёл. Святыню перарабілі пад праваслаўную царкву, але касцёльны выгляд будынка захаваўся. У якасці царквы святыня дзейнічала да 1919г., а пасля, як і многія іншыя каталіцкія святыні, пры-





Выгляд касцёла да рэстаўрацыі.
Руіны кляштарнага корпуса.

стасаваныя ў часы Расійскай імперыі пад цэрквы, яе вярнулі католікам.

Пасля другой сусветнай вайны кляштарны корпус прыстасавалі пад школу і жытло для бяздомных, касцёл быў зачынены яшчэ ў 1946г. і доўгі час пуставаў. З цягам часу комплекс ператварыўся ў руіны і ў такім выглядзе атрымаў статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння. Але яшчэ ў 1985г. была адноўленая каплічка на могілках. А ў 1990г. пачалося адраджэнне і Троіцкага касцёла. У інтэр'еры святыні сёння 3 алтары: галоўны – з абразом Найсвяцейшай Тройцы, левы – з абразом св.Язафата і правы – Найсвяцейшай Марыі Панны.

## Канстанцінава

Да 2-й пал. XVIIIст. гэтае паселішча называлася Слабодка. Перайменаванае яно было пры ўладальніку гэтых мясцінаў палкоўніку Канстанціне Хамінскім. Яшчэ ў 1769 г. пан Хамінскі пабудаваў тут капліцу, якая ў 1782 г. атрымала статус філіяльнага касцёла пры свірскай парафіі. Парафіяльны касцёл пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны быў узведзены ў Канстанцінаве па фундушы Канстанціна Хамінскага і ягонай жонкі Ганны з роду Моглаў ад 2 студзеня 1793 г. Інтэр'ер драўлянай святыні ўпрыгожвалі 3 алтары.

У 1812 г. «пры наездзе французаў касцёл і вёска згарэлі». Набажэнствы часова перанеслі ў капліцу на мясцовых могілках. Пабудаваная яшчэ ў канцы XVIIIст., драўляная, пакрытая саломай, яна была пашыраная ў 1810 г. У 1826г. пан Францішак Пашкевіч заклаў падмуркі пад новы каменны касцёл у цэнтры паселішча. Аднак смерць фундатара перапыніла будоўлю: паспелі скончыць толькі прэзбітэрый, які і стаў новым касцёлам. Капліца на могілках была разабраная ў 2-й пал. XIX ст.

Сучасны выгляд касцёльнага комплексу ў Канстанцінаве.
Фота пачатку XX ст.



*Касцёл, пабудаваны ў 1896г., уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём з бутавай кладкі, галоўны фасад якога, а таксама вуглавыя руставаныя пілястры, абрамоўкі аконных праёмаў зробленыя з цэглы і атынкаваныя. Уваходны франтон завершаны невялічкай 8-граннай вежай-званіцай, алтарная частка – сігнатуркай. Унутраная прастора касцёла падзеленая аркадамі на тры навы. Цэнтральная нава ўзвышаецца над бакавымі, над уваходам на дзвюх калонах у ёй знаходзіцца галерэя хораў з арганамі, прэзбітэрый раскрываецца шырокім аркавым парталам з дзвюма калонамі. Сёння інтэр'ер касцёла ўпрыгожваюць 3 алтары: галоўны з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны, левы бакавы з абразом св. Юрыя і правы з абразом Маці Божай Вастрабрамскай.*












Вітраж у касцёле.

*На старажытных парафіяльных могілках захавалася капліча-касцяніца, пабудаваная тут у сярэдзіне XIXст. Падобныя помнікі малых формаў архітэктуры і сёння стаяць на многіх могілках Мядзельшчыны – у Засвіры, Свіры. Усе яны ўяўляюць сабой кубічны, з вялікай нішай для труны, цокаль з бутавага каменя, на якім узвышаецца цагляны атынкаваны аб'ём пад 4-схільным дахам. Могілкі абнесеныя бутавай агароджай з дзвюма цаглянымі і атынкаванымі брамамі ў стылі неаготыкі. У цэнтры могілак за асобнай бутавай агароджай пахаваныя фундатары і пробашчы касцёла, а таксама мясцовая шляхта.*

У 1896г. граф Віктар Старжынскі з жонкай Марыяй з роду Беніслаўскіх і пан Аляксандр Хамінскі з жонкай Эвелінай далі сродкі на заканчэнне будоўлі касцёла на падмурках 1826 г. Касцёльны ўчастак быў абнесены бутавай агароджай з цаглянай і атынкаванай брамаю ў выглядзе двух руставаных слупоў. У паўночна-заходнім куце касцельнай агароджы пабудаваны, таксама з буту, будынак пахавальні (цяпер склад). Архітэктурна-планіровачнае рашэнне ўсяго касцельнага комплексу атрымала рысы класіцызму.

Колькасць вернікаў канстанцінаўскай парафіі на канец XIXст. складала амаль 2700 чалавек, на пачатак другой сусветнай вайны – больш за 3500. У міжваеннае дваццацігоддзе ў парафіі працавалі сёстры місіянеркі Святой Сям'і.

Касцёл Унебаўзяцця ў Канстанцінаве – адна з нешматлікіх каталіцкіх святыняў, якая дзейнічала пры савецкай уладзе на гэтай тэрыторыі. Комплекс касцёла аб'яўлены помнікам архітэктуры. Сёння тут размяшчаецца місія ордэна кармелітаў босых. У 1995-1997 гг. тут узведзены новы парафіяльны цэнтр і рэкалекцыйны дом, аднак злева ад яго захаваўся і драўляны будынак старой плябаніі.

Брама і капліча-касцяніца на парафіяльных могілках.





## Крывічы



Выгляд кляштарнага комплексу ў Крывічах напрыканцы XIX ст.

Манахі-трынітарыі прыбылі ў Крывічы з Галіцыі, дзе іх кляштары былі зачыненыя аўстра-венгерскімі ўладамі. Тут іх прытулак, разлічаны на 6 манахаў, спачатку драўляны, быў узведзены па фундацыі 1770г. Андрэя Уладзіслава Укольскага, падкаморыя трокскага, і ягонай жонкі Тэрэсы з роду Войнаў у 1776-1777гг. У 1796г. была завершаная будоўля ўжо каменнага касцёла, і ў гэтым жа годзе яго кансэкравалі. Да сённяшніх дзён комплекс у стылі барока амаль не змяніўся. У яго

Сучасны выгляд інтэр'ера.

Цудатворная фігура Збаўцы прывезеная ў Крывічы з трынітарскага кляштара ў Антокалі – прадмесця Вільні, таму часам згадваецца ў архіўных дакументах як «фігура Езуса Антокальскага».



Галоўны алтар касцёла, упрыгожаны фігурамі св.Пятра і Маці Божай (злева ад цэнтра) і св.Паўла і Яна Евангеліста (справа). У цэнтральнай нішы – фігура Збаўцы. Увенчвае кампазіцыю алтара герб закону Найсвяцейшай Тройцы – Анёл у трынітарскім шкаплеры вызваляе двух хрысціянаў, выкупленых з палону маўраў.

ўваходзяць касцёл пад тытулам св.Андрэя – аднанававая святыня з квадратнай апсідай і з высокай 3-яруснай вежай-званіцай на галоўным фасадзе (трэці ярус так і не быў завершаны), і невялікі 2-павярховы кляштарны корпус, які прымыкае да паўднёва-ўсходняй сцяны касцёльнай апсіды. Дамінантай інтэр'ера касцёла, перакрытага цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем на падпружных арках, з'яўляецца алтар, багата ўпрыгожаны пазалочанай лепкай, фігуркамі пуцціяў і статуямі святых. У высокіх аркавых нішах – па тры з кожнага боку інтэр'ера – некалі знаходзіліся яшчэ 6 алтароў, але сёння запоўненыя толькі 4. Агароджа высокіх хораў з





Каваныя манаграмы Езуса І Марыі на кратах касцёльнай брамы.



плаўным заломам у цэнтральнай частцы абапіраецца на дзве калоны.

З 1796г. пры Андрэеўскім касцёле была заснаваная і крывіцкая парафія. Да сярэдзіны XIXст. яна абслугоўвалася таксама і 6 капліцамі – у Карчаватцы (цяпер Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.), Клесіне (Вілейскі р-н), Княгініне і ў саміх Крывічах – на могілках і ў панскім двары. Пры кляштары дзейнічаў драўляны шпіталь. Колькасць вернікаў у крывіцкай парафіі да пачатку другой сусветнай вайны павялічылася да 4100 чалавек.

Прытулак манахаў трынітарыяў быў зачынены ў 1832 г., і з таго часу касцёл св.Андрэя стаў парафіяльным, а кляштарны корпус – плябаніяй. Дзесьці ў 2-й пал. XIXст. комплекс быў абнесены бутавай агароджай з 3-аркавай брамай з чырвонай цэглы і ў такім выглядзе ўжо ў наш час аб'яўлены помнікам архітэктуры. У такім стане комплекс дзейнічае і сёння.

Капліца ў Княгініне не захавалася. Яна была пабудавана з дрэва ў 1803г. на панскім двары. Гэта была характэрная для пачатку XIXст. святыня «з вугламі ў кола пабудаваная» – г. зн. у плане ўяўляла сабою выцягнуты па прадольнай восі 8-кутнік. Капліца дзейнічала да 1940-х гг., пасля была зачынена і знішчана.

На паўднёвы захад ад Княгініна ёсць вёска Ніўкі, вядомая з канца XVIст. як шляхецкая маёмасць у Ашмянскім павеце ВКЛ. І толькі аднойчы, у дакументах Віленскага Сіноду 1669г., тут узгадваецца касцёл Свірскага дэканата.




1. Галоўны алтар з фігурай Езуса Назарэтаніна.
2. Алтар Маці Божай.
3. Алтар св. Алойзы.
4. Алтар Найсв.Тройцы
5. Алтар св. Андрэя.

## Мядзел





Сучасны выгляд пакармеліцкага касцёла Маці Божай Шкаплернай і абраз Маці Божай Шкаплернай.

Унізе: архіўнае фота касцёла св.Станіслава пачатку XXст.

Да пачатку XXст. горад, які ў гістарычных дакументах згадваецца таксама як Мядзела, Мядзнол, Мядзюль, падзяляўся на дзве часткі – Стары Мядзел і Новы, альбо Каронны, Мядзел. Асобныя парафіі – у кожнай з частак – існавалі да другой сусветнай вайны.

Парафіяльны касцёл у Мядзелі быў заснаваны ў 1454г. пад тытулам св.Станіслава Біскупа па фундацыі Анджэя Саковіча, старосты мядзельскага. Дакумент аб фундушы і лічыцца першай згадкай пра горад. Пасля касцёл св.Станіслава становіцца цэнтрам парафіі Новы Мядзел. У 1-й пал. XIXст. будынак святыні на цэнтральнай плошчы горада ўяўляў сабой драўляны



*У 1852г., пасля пажару, касцёл св. Станіслава рэканструявалі на сродкі парафіянаў. Галоўны фасад святыні практычна не змяніўся, але санктуарый цяпер стаў прамавугольным у плане. Святыня была вертыкальна ашаляваная і пакрытая гонтавым дахам. Такім чынам у архітэктуры касцёла спалучаліся элементы стыляў барока і класіцызму. Касцёльны ўчастак быў абнесены ў XIXст. бутавай агароджай, накрытай гонтаю.*



Галоўны алтар касцёла Маці Божай Шкаплернай да і пасля рэстаўрацыі.

Правы бочны алтар св.Юзафа.





Каваны фрагмент балкона над уваходам. Фота 1980–х гг.

храм крыжовай кампазіцыі з купалам у цэнтры і дзвюма закрыстыямі пры прэзбітэрыі. Галоўны фасад фланкавалі дзве чацверыковыя 2-ярусныя вежы пад барочнымі фігурнымі купаламі. Уваходны праём знаходзіўся ў атачэнні падвоеных высокіх круглых калонаў, якія неслі франтон з паўцыркульным вакном. Інтэр'ер драўлянага касцёла ўпрыгожвалі 6 алтароў «старасвецкай разьбы».

У Старым Мядзелі каталіцкая парафія вядомая з 1738г., магчыма, на яе аснове і быў закладзены тут кляштар кармелітаў босых. Выдатная ратонда ў стылі позняга барока – касцёл пад тытулам Маці Божай Шкаплернай і кляштар кар-

*Кубічны аб'ём касцёла Маці Божай Шкаплернай, усе фасады якога ідэнтычныя, нясе масіўны 8-гранны барабан, які завяршаецца паўсферычным купалам з вытанчанай вежай-ліхтаром. У інтэр'еры на невялікія хоры вядзе лесвіца ў сцяне. Пад купалам праходзіць абходная галерэя – яна выходзіць на галоўны фасад невялікім балкончыкам з чыгуннай агароджай у выглядзе пераплеценых галінак і кветак.*





Уверсе: выгляд касцёла Маці Божай Шкаплернай да рэстаўрацыі і план касцёла. Унізе: сучасны выгляд будынка брацкага корпуса кармеліцкага кляштара (цяпер плябаніі).



мелітаў босых пры ім узнёсся над сілуэтам Мядзеля па фундацыі тагачаснага ўладальніка мястэчка Антонія Кошыца. Законнікі прывезлі з Рыма рэліквіі св.Юстына, і 15 жніўня 1754г. святыню кансэкравалі. Справа ад увахода ў касцёл быў пабудаваны каменны 2-павярховы будынак кляштарнага корпуса. Злева ад уваходу стаяла 2-ярусная драўляная званіца.

На парафіяльных мядзельскіх могілках не пазней за пачатак XIXст. была ўзведзеная драўляная капліца з пахавальняй Козелаў-Паклеўскіх, асвечаная пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа. Шырокай вядомасцю карысталася мядзельская Кальварыя, заснаваная 17 красавіка 1765г., – комплекс з 21 каплічкі і 8 брамаў на высокіх пагорках у паўночнай частцы Старога Мядзеля, пры выездзе на Паставы. Абслугоўвалі мядзельскую парафію Свірскага дэканата і капліцы ў в.Пераградзь і в.Ляхавічы. Дзейнічалі ў Мядзелі шпіталь і 4 брацтвы – св.Ганны пры парафіі св.Станіслава і брацтвы Маці Божай Шкаплернай, Беззаганага Пачацця Панны Марыі і брацтва шчаслівай смерці пры кармеліцкім кляштары.

У сувязі з новым адміністрацыйным падзелам губерняў ужо Расійскай імперыі абедзве мядзельскія парафіі ўвайшлі ў склад Надвілейскага дэканата. Як і амаль усе каталіцкія кляштары на тэрыторыі заходніх губерняў Расійскай імперыі, мядзельскі кармеліцкі кляштар быў зачынены пасля падаўлення паўстання 1831г. Рэліквіі св.Юстына былі перададзены ў мосарскую парафію (Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.). Комплекс быў перададзены базыльянам, а з 1839г. дзейнічаў як праваслаўны. Пераробкі пад праваслаўную царкву не вельмі змянілі знешні выгляд святыні, а вось інтэр'ер змяніўся грунтоўна, насценныя роспісы былі забеленыя.

У 1920г., калі Мядзел адышоў да Польшчы, касцёл Маці Божай Шкаплернай быў вернуты католікам, аднак кароткага міжваеннага часу не хапіла, каб цалкам аднавіць святыню ў першапачатковай прыгажосці. Струхлелую драўляную званіцу замяніла каменная. Затое ў свой былы прытулак вярнуліся кармеліты босыя (у той час тут было 4 законнікі). Зноўку ў Мядзелі дзейнічалі 2 парафіі (агульная колькасць вернікаў складала каля 4500 чалавек). Да парафіі далучыўся яшчэ філіяльны касцёл у в.Юшкавічы.











Пагорак Кальварыі з рэшткамі адной з каплічак і трыма крыжамі.

Каменнае надмагілле Марціна, Агаты і Ганны Быхаўцаў, якое захавалася на каталіцкіх могілках у Новым Мядзелі. Яно пастаўленае ў 1820 г. у выглядзе маленькай каплічкі, у нішы якой некалі знаходзілася фігурка Маці Божай.

Укрыжаванне з алтара кальварыйскай санктуарнай капліцы, сёння ўсталяванае ў крыпце касцёла Маці Божай Шкаплернай.

Мядзельскія каталіцкія святыні дзейнічалі да другой сусветнай вайны. У той час згарэў драўляны парафіяльны касцёл (сёння на гэтым месцы знаходзіцца рэстаран). Перастала існаваць і капліца на могілках у Старым Мядзелі. Карміліцкі касцёл быў зачынены ў хуткім часе пасля вайны. Кляштарны комплекс быў аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння.

У 1989г. будынак касцёла Маці Божай Шкаплернай быў вернуты каталіцкай супольнасці і адразу ж пачаліся рэстаўрацыйныя работы. Сёння ў святыні 3 алтары – галоўны са скульптурным Укрыжаваннем, левы з абразом Маці Божай Кармельскай і правы з абразом св.Юзафа.

На Кальварыйскім пагорку мінская парафія св.Сымона і Алены ўстанавіла тры памятныя крыжы. Тут яшчэ захаваліся руіны невялікай капліцы. На пагорку праз дарогу ацалеў бетонны падмурак санктуарнай капліцы. Узведзеная ў 1930-я гг., яна уяўляла сабой драўляны, квадратны (каля 8 х 8 м) у плане аб'ём з 3-граннай апсідай.

На самай мяжы раёна, на паўночны ўсход ад Мядзеля, ёсць в.Краснянy. Тут у пачатку XIXст. на могілках у маёнтку Янішэўскіх была пабудавана капліца ад дунілавіцкай парафіі (цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.). Драўляная, над каменнай крыптай, з маленькай вежай над уваходам, капліца дзейнічала да 2-й сусветнай вайны. Знішчана пры распрацоўцы пясчанага кар'еру.

Капліца ў Краснянах. Фота 1960-х гг.



## Нарач




У XVст. гэтае паселішча, «што ляжыць за 3 вярсты ад возера Нарач», насіла назву Medal Minor, ці Medal Mniejszy, Miadzioł Mały. Менавіта гэтак – Мядзел Малы – згадваецца месца, дзе ў 1434г. князі Свірскія заснавалі касцёл пад тытулам св.Андрэя Апостала. У тым жа годзе іх фундуш на касцёл у Малым Мядзелі пацвердзіў і вялікі князь літоўскі Сігізмунд і нават выдзеліў спецыяльны фундуш на галоўны алтар святыні, хоць сапраўднасць гэтых першапачатковых дакументаў часам выклікае сумненні ў гісторыкаў. У 1463г. гэтая першая драўляная святыня была кансэкраваная.

З 1520-х гг. паселішча згадваецца пад назвай Кабыльнік. У 1651г. Свірскія ўзводзяць новы будынак касцёла св.Андрэя, аднак яго знішчылі падчас «нашэсця Масквы» ў вайну 1654–1667 гг. Адноўленая пасля вайны святыня была кансэкраваная ізноў 14 кастрычніка 1678г. У 1736г. касцёл св.Андрэя рэканструяваны на сродкі тагачаснага дзедзіча Кабыльніка Марціна Аскеркі, кашталяна навагрудскага. У гэтыя часы касцёл апісваюць як святыню «немалых памераў», інтэр'ер якой упрыгожвалі 6 алтароў. Пасля пажару 1862г. касцёл ізноў аднаўляецца «коштам плябана Людвіга Мініцкага і Тытуса Свентаржэцкага». Цяпер у святыні былі 3 алтары, у галоўным з якіх

знаходзіўся абраз Маці Божай з Дзіцяткам Езусам у срэбнай, з пазалочанымі элементамі, шаце. І Маці Божая, і Езус увянчаныя пазалочанымі каронамі, вакол – 12 срэбных зорак. Апісанне гэтага абраза сустракаецца ў касцельных дакументах яшчэ ў 1654г.



«Стары касцёл у Кабыльніку Свянцянскага павета», гравюра А.Ромера, 1880г.

І нарэшце, «побач са старым касцёлам, бліжэй да мястэчка», 2 верасня 1897г. закладваюцца падмуркі новай каменнай святыні. 9 верасня 1901г. велічная базыліка была асвечаная, а 25 ліпеня 1904г. кансэкраваная. Над мястэчкам узвысіліся неагатычныя пінаклі новага касцёла св.Андрэя, узведзенага на сродкі парафіянаў з чырвонай цэглы, на падмурку з гранітных блокаў. У галоўным алтары па-ранейшаму захоўваецца велічны старажытны абраз Маці Божай з Дзіцяткам Езусам у левай руцэ і скіпетрам у правай. Абразы ў бакавых алтарах напісаныя Браніславам Камінскім: злева – абраз патрона касцёла св.Андрэя (1903г.), справа – св.Роха (1907г.). Каля сцяны левай навы, акрамя гэтага, устаноўлены алтар св.Антонія, таксама выкананы ў неагатычным стылі з дубу ў пач. XXст.

Пэўным сведчаннем пра архітэктуру папярэдняга драўлянага касцёла ў стылі барока з'яўляецца драўляная званіца, адрэстаўраваная ў 1925 і 1995гг. Гэта квадратнае ў плане 3-ярускае каркасна-зрубавае збудаванне пад шатровым дахам.

Пры касцёле св.Андрэя дзейнічалі школа, шпіталь. У парафіі мястэчка Кабыльнік на пач. XXст. налічвалася каля 4500 вернікаў, на пачатак другой сусветнай вайны – больш за 5500. Абслугоўвалі парафію таксама капліцы ў паселішчах Памошша і Шышкі, капліца на парафіяльных могілках у самім мястэчку. Апошняя была пабудаваная з дрэва на бутавым (каля 4 х 5 м) падмурку ў 1836г. «над магіламі Шышкаў». У 1930-я гг. да вышэйпералічаных дадалася капліца ў в.Чучаліцы. Праз дарогу ад касцёла св.Андрэя ў 1903г. быў пабудаваны новы аднапавярховы будынак плябаніі з чырвонай цэглы на бутавым падмурку. Комплекс абнесены бутавай агароджай з неагатычнымі брамкамі з чырвонай цэглы.

Патранальны алтар св. Андрэя знаходзіцца ў левай наве касцёла, побач – прысценны алтар св. Антонія.





Агульны выгляд інтэр'ера і комплекс касцёла св. Андрэя. На правай староны: галоўны алтар касцёла.

*Касцёл св.Андрэя – гэта прамавугольная ў плане, бязвежавая трохнававая «несапраўдная» базыліка з 3-граннай апсідай. Галоўны фасад падзелены чатырма контрфорсамі, якія завяршаюцца востраканцовымі пінаклямі. Над апсідай устаноўленая вытанчаная сігнатурка. Цікавы прыём завяршэння алтарнага фасада – тут адчуваецца ўжо ўплыў мадэрну, які хутка ўвайшоў у моду. Інтэр'ер падзяляецца на навы пяццю парамі груваcтkіх круглых калонаў, якія нясуць стральчатыя аркі крыжовых скляпенняў. Хоры размешчаныя над вузкім нартэксам, дзе знаходзяцца арганы 1902 года на 16 рэгістраў, якія, як і алтары з амбонаю, выкананыя ў Вільні ў стылі неаготыкі, упрыгожаныя разьбой і скульптурай.*

Да нашага часу ні адна з парафіяльных капліцаў не захавалася, толькі на мясцовых могілках яшчэ можна знайсці зарослыя падмуркі капліцы Шышкаў. Не захавалася і гістарычная назва мястэчка – з 1964г. яно называецца Нарач. Але касцёл св.Андрэя бесперапынна дзейнічае, увесь ягоны комплекс аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння. Нядаўна, у 1995г., над плябаніяй узведзены другі паверх, будынак атынкаваны і пабелены. Сёння пры касцёле ў в.Нарач дзейнічае місія кармелітаў босых.

Парафіяльныя капліцы ў Чучаліцах і Шышках не захаваліся.

Вёска Чучаліцы ўжо ў 1549г. згадваецца як маёмасць мядзельскага касцёла, але толькі ў канцы 1930-х гг. на мясцовых могілках была пабудаваная капліца, прыпісаная да кабыльніцкай парафіі. Драўляная, на бетонным фундаменце, арыентаваная алтаром на захад. Закрыстыя размяшчалася ў гранёнай частцы апсіды і аддзялялася ад алтара перагародкай. Пасля вайны капліцу разабралі, але фундаменты яшчэ добра захаваліся і дазваляюць зрабіць рэканструкцыю плана святыні.

Рэканструкцыя плана капліцы ў Чучаліцах.



**Свір**

У гістарычных дакументах сустракаюцца згадкі пра тое, што яшчэ ў1413г. князь Пётр Свірскі фундаваў для мясцовага касцёла алтар св.Мікалая, але прынята лічыць, што першы драўляны касцёл у Свіры ўзвёў у 1452г. князь Ян Свірскі.




У 1598г. сюды прыбыў пробашчам канонік віленскі, езуіт Мікалай Карызна і заснаваў пры касцёле св.Мікалая місію Таварыства Езуса. У 1649г. князь Фелікс Свірскі прыбудаваў да драўлянага касцёла каменную капліцу Рамановічаў-Свірскіх. А ў 1653г. на месцы старажытнай драўлянай святыні руплівасцю «каноніка віленскага, плябана і дэкана свірскага» кс.Каспара Ясінскага, «пры дапамозе сродкаў Фабіяна Козел-Паклеўскага, харунжага ашмянскага» быў пабудаваны ў стылі ранняга барока ўжо каменны касцёл пад тытулам св.Мікалая Біскупа.

У XIXст. у Свірскай парафіі налічвалася амаль 11000 чалавек. Гэтую адну з найбуйнейшых парафіяў абслугоўвалі, акрамя касцёла, 3 капліцы – у Дабраўлянах і Страчы (цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.), у в.Шэметава, а таксама філія ў Засвіры.

Барочны касцёл сярэдзіны XVIIст. з невялікімі зменамі прастаяў роўна 250 гадоў, але на пачатку XXст. ужо не мог змясціць усіх сваіх парафіянаў. У 1903г. на сродкі парафіянаў і Сігізмунда Хамінскага, дзедзіча Дабраўлянаў, пачынаецца расшырэнне святыні, якое скончылася ў 1909г. поўнай яе перабудовай. Паўднёвы бакавы фасад быў разабраны і да гэтага месца прыбудаваны велічны базылікальны аб'ём. І хоць па стылі атрымалася эклектыка з элементаў розных стыляў, ва ўнутраным і знешнім дэкоры касцёла дастаткова гарманічна спалучаюцца і стылізаваныя элементы барока (валюты, аблямоўкі вокнаў), і пінаклі ў стылі рэнесансу, і ордэрныя формы класіцызму (пілястры, калоны, кесоны). Пасля рэканструкцыі капліца Рамановічаў стала прэзбітэрыем новага касцёла, а старую паўцыркульную апсіду ператварылі ў капліцу пад паўсферычным купа-

*Касцёл 1653 года ўяўляў сабой крыжападобны ў плане, пакрыты гонтаю аб'ём з паўкруглай апсідай, якую фланкавалі 2 закрыстыі, вырашаныя як самастойныя высокія аб'ёмы. Капліца Рамановічаў знаходзілася ў паўночным крыле трансепта. Дамінантай пабудовы з'яўлялася масіўная 3-ярусная вежа-званіца, пакрытая 4-схільным гонтавым дахам, увенчаным высокім фігурным 8-гранным купалам. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 4 разьбяныя драўляныя алтары ў стылі рэнесансу. Касцёльны комплекс быў абнесены ў XIXст. бутавай агароджай з цаглянымі атынкаванымі брамамі ў стылі класіцызму.*



Фота Мікалаеўскага касцёла канца XIX ст.



Інтэр'ер касцёла (сучасны выгляд) і бочныя алтары (не захаваліся, фота 1930-х гг.), злева направа: галоўны алтар старога касцёла з абразом Езуса Валадара, у 2-м ярусе – абраз Найсвяцейшай Тройцы. Алтар св.Юзафа, у нішы другога яруса – фігура св.Францішка. Левы алтар з абразом Маці Божай і Анёла Ахоўніка. Правы алтар Маці Божай Ружанцовай.

лам з карункавай галоўкай. Апсіда, пакрытая зоркавым скляпеннем, адкрываецца ў інтэр'ер шырокай аркай з імпостам, упрыгожаным барэльефам з фігуркаў пуццяў, якія нясуць плашчаніцу з выявай Збаўцы. Над сяродкрыжжам – «сляпы» купал. Інтэр'ер касцёла падзелены на тры навы шасцю апорамі, якія нясуць крыжовыя скляпенні, дэкараваныя лепкаю ў стылі класіцызму. Башня-званіца з 4 званамі засталася на ранейшым месцы, але над ёю быў надбудаваны 4-ы ўзровень пад трох'ярусным фігурным купалам. Яе выгляд настолькі адметны, што робіць панараму Свіры індывідуальнай і запамінальнай.

У інтэр'еры новазбудаванага касцёла змясцілі амбону і ўсе алтары з старой святыні. Галоўны алтар старога касцёла застаўся на сваім месцы – у старой апсідзе, што цяпер стала капліцай. З алтароў капліцы Рамановічаў зрабілі двух'ярусную













Касцёльная вежа-званіца і бочная капліца, якая была раней апсідай касцёла 1653 года.

кампазіцыю алтара св.Юзафа ў левым крыле трансепта, але галоўны алтар цалкам зрабілі новы. Такім чынам цяпер у касцёле было 5 алтароў.

Урачыстая кансэкрацыя новага касцёла адбылася 18 чэрвеня 1928г. На пачатку ХХст. за касцёлам узвялі новы будынак плябаніі з чырвонай цэглы (цяпер жылы дом). Справа ад увахода ў новую святыню, у куце касцёльнай агароджы, яшчэ ў XIXст. была ўзведзена з бутавага каменя усыпальня (цяпер гараж). У вулічнай капліцы (насупраць увахода ў касцёл) у агароджы стаяла фігура Езуса з крыжам (сёння тут стаіць фігура Маці Божай). У другой вулічнай капліцы, у паўночна-ўсходняй сцяне агароджы, была змешчана фігура Пана Езуса ў цяр-

## Свірскі дэканат

*З канца XVIст. да канца XVIIIст. Свірскі дэканат займаў тэрыторыю паўночна-ўсходняй часткі цяперашняга Астравецкага р-на (парафіі Быстрыца, Міхалішкі, Свіранкі), паўночнай часткі Вілейскага р-на (парафіі Касцяневічы, Куранец, Рабунь, Сэрвеч), заходняй часткі Мядзельскага р-на (парафіі Кабыльнік, Мядзел, Стары Мядзел, Свір), заходняй часткі Пастаўскага р-на (парафіі Задзева, Лынтупы, Камаі, Паставы) і паўночнай часткі Смаргонскага р-на (парафіі Войстам, Данюшава, Жодзішкі, Нястанішкі).*
*З далучэннем да Расійскай імперыі межы Свірскага дэканата змяніліся: ён займаў паўднёвую частку Свянцянскага павета Віленскай губерні. Да паўночнай часткі адышлі пастаўскія парафіі, выбылі Мядзел і парафіі новаўтворанага Вілейскага дэканата, але далучыліся новыя – Жэляддзе і Клюшчаны (Астравецкі р-н), Засвір, Канстанцінава і Шэметава (Мядзельскі р-н), Вішнева (Смаргонскі р-н). У такім выглядзе Свірскі дэканат існаваў (калі не ўлічваць часовага закрыцця шэрагу парафіяў у 1863–1919 гг.) да другой сусветнай вайны.*



Арган на 16 рэгістраў у Мікалаеўскам касцёле (не захаваўся), устаноўлены ў 1931г. Фота 1930–х гг.



У касцёле ў 1928г. быў устаноўлены новы галоўны 3-ярусны алтар у стылі неабарока. У ніжнім ягоным ярусе размяшчаліся 2–е дзвярэй, што вялі ў алтарную частку прэзбітэрыя, быццам у манаскі хор. У 2-м ярусе, падзеленым на тры часткі чатырма карынфскімі калонамі, у цэнтральнай нішы знаходзілася фігура Езуса, у 3-м ярусе, асаджаным стылізаванымі валютамі, – абраз св.Мікалая. Фота 1930-х гг.

новым вянку (сёння тут фігура св.Францішка – адзінае, што ацалела ад старога інтэр'ера касцёла). Пры касцёле св.Мікалая дзейнічала катэхетычная школа. Парафію па-ранейшаму абслугоўвала і капліца ў Дабраўлянах. Працавалі ў гэты час у Свіры і сёстры місіянеркі Святой Сям'і.

Пасля другой сусветнай вайны касцёл св.Мікалая быў зачынены і перабудаваны ў заводскае прадпрыемства. Тым не менш у такім выглядзе святыню залічылі ў шэраг помнікаў архітэктуры.

У чэрвені 1990г. касцёл св.Мікалая аддалі вернікам. Пачалася карпатлівая рэстаўрацыя апаганенай святыні. У вокнах з'явіліся вітражы, у старым прэзбітэрыі – капліца Божай Міласэрнасці, у левым крыле трансепта – алтар св.Мікалая з фігурай св.Антонія. Плябанія і катэхетычныя класы размешчаныя ў прыбудоўках, якія засталіся ад завода. Адрадзіліся капліцы ў Страчы і Дабраўлянах. На свірскіх парафіяльных могілках захавалася каплічка-касцяніца XIXст. – цагляны атынкаваны аб'ём пад 4-схільным дахам на бутавым кубічным цокалі, у якім ёсць ніша для труны. Падобныя каплічкі і дагэтуль стаяць на некаторых могілках былога Свірскага дэканата.



Фігура св.Францішка ў вулічнай капліцы.



З алтарнага боку касцёла добра бачны аб'ём старой святыні, збудаванай яшчэ ў 1653г.

Каплічка-касцяніца на парафіяльных могілках.



## Шэметава

У 1697г. мінскі ваявода і ашмянскі староста Крыштаф Зяновіч і ягоная жонка Ядвіга фундавалі кляштар кармелітаў старога статуту ў Засвіры і абавязалі манахаў абслугоўваць філіяльны касцёл у Шэметаве. З таго часу пры касцёле ў Шэметаве дзейнічала місія кармелітаў. Драўляны касцёл Зя-





Агульны выгляд галоўнага алтара і амбоны касцёла.





Вітражы касцёла ў Шэметаве.



Выгляд касцёльнага комплексу ў Шэметаве. Фота 1987г.

На правай старонцы: галоўны алтар касцёла.

новічы пабудавалі «на рагу квадратнага пляца, каля дарогі на Кабыльнік, пры самім павароце». На ягоным месцы ў 1810г. на сродкі тагачаснага дзедзіча Шэметава мінскага губернатара Казіміра Сулістроўскага быў узведзены новы касцёл, таксама драўляны, але значна большых памераў, з трыма алтарамі. Яго асвяцілі пад тытулам Унебаўшэсця Пана, і ў 1813г. касцёл атрымаў статус парафіяльнага. А ў 1816г. губернатар Сулістроўскі ўзвёў на пагорку пры сядзібе, над «магіламі сваёй сям'і», каменную капліцу. 11 мая 1828г. яе асвяцілі пад тытулам св.Казіміра. Гэта быў прамавугольны ў плане аб'ём, пад якім знаходзіўся фамільны склеп Сулістроўскіх, перакрыты цыліндрычным скляпеннем. У гэты час у Шэметаўскай парафіі дзейнічала і капліца ў Чурлёнах (цяпер частка в.Лыцавічы Вілейскага р-на).

У 1832г. разам са скасаваннем засвірскага кляштара была зачыненая і шэметаўская рэзідэнцыя, будынак касцёла праз некалькі гадоў разабралі.

Да XXст. Шэметава становіцца маёмасцю Скірмунтаў, і ў 1902г. новы дзедзіч маёнтка Баляслаў Скірмунт цалкам перабудоўвае капліцу Сулістроўскіх. Былі прыбудаваныя трансепт, прамавугольныя апсіда і закрыстыя за ёю, пасля чаго святыня стала ўяўляць сабой крыжападобны ў плане, бязвежавы касцёл у стылі класіцызму. Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе 4-калоннага порціка. Апсіда падзяляецца папярэчнай сценкай на алтарную частку і закрыстыю за ёю, выдзеленую ў асобны аб'ём зніжаным аднасхільным дахам. У інтэр'еры сцены раскрапаваныя пілястрамі з пазалочанымі карынфскімі капітэлямі. Усю сцяну за алтаром займае роспіс на сюжэт Укаранавання Марыі Панны. Алтар дэкараваны пазалочанай драўлянай разьбой, у ім змешчаны абраз Маці Божай Вастрабрамскай, над ім – абраз Маці Божай Нястом-






Выгляд званіцы шэметаўскага касцёла ў 1987г.

най Дапамогі (ён з'яўляецца дакладнай копіяй цудатворнага абраза з касцёла св.Альфонса ў Рыме). Амбона ў выглядзе келіха, які падтрымлівае голуб, выкананая з дрэва ў стылі ранняга барока (копія амбоны езуіта Скаргі ў капліцы св.Казіміра ў віленскай катэдры). Высокія хоры з арганам на 9 галасоў абапіраюцца на дзве гранёныя драўляныя калоны. Дзённае святло трапляе ў касцёл праз каляровыя вітражы ў аркавых вокнах. На вітражах – выявы св.Казіміра, св.Станіслава, св.Саламеі і інш. Крыпта служыла магільным склепам таксама і для роду Сулістроўскіх. Тытул св.Казіміра перайшоў да пабудаванай тут капліцы, а касцёл быў кансэкраваны 30 ліпеня 1904г. пад тытулам Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

Побач з касцёлам узведзеная 2-ярусная, квадратная ў плане, накрытая шатровым дахам званіца. Ніжні яе ярус вертыкальна абшыты дошкамі з нашчыльнікамі, верхні адкрыты – тут размешчаны агромністых памераў звон. Сцены званіцы пірамідальна нахіленыя, што выдзяляе яе з шэрагу шматлікіх падобных пабудоваў пры нашых касцёлах. На жаль, не так даўно ніжні ярус абкружыла прыбудова, што парушыла зграбнасць прапорцыяў званіцы. У 1904г. справа ад касцёльнага пагорка была ўзведзеная плябанія з чырвонай вонкавай цэглы. З адкрыццём парафіі да Шэметава была прыпісаная капліца ў Памошшы. Перад другой сусветнай вайной колькасць вернікаў у парафіі дасягала 3600 чалавек.

Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Шэметаве бесперапынна дзейнічае і па сённяшні дзень і ўваходзіць у лік помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння. Варта асабліва адзначыць удалае размяшчэнне касцёльнага комплексу ў навакольным ландшафце.

Капліца ў в.Памошша не захавалася. У 1703г. па фундушы Крыштафа Зяновіча, маршалка ашмянскага, фальварак Памошша перайшоў у маёмасць кляштара кармелітаў у Засвіры. У 1787г. на мясцовых могілках манахі пабудавалі невялікую драўляную капліцу. Пасля закрыцця клаштара ў 1832г. яна была прыпісаная да кабыльніцкай парафіі, а з 1904г. – да шэметаўскай. У 1910г. капліцу разабралі як струхлелую, але рэшткі падмуркаў яшчэ можна знайсці ў цэнтры могілак.





Капліца ў радавым маёнтку Снарскіх – Старой Жосне – з'явілася, магчыма, у 2-й палове XVIIст. Абслугоўвалі яе бернардынцы з кляштара ў Будславе. Капліца пабудаваная на высокім пагорку каля паўночнага боку дарогі Мядзел – Ваўкалата. У XIXст. капліца была адпісаная да парафіі ў Ваўкалаце (цяпер у Докшыцкім р-не Віцебскай вобл.) і паспяхова дзейнічала да другой сусветнай вайны. Цэнтрычная капліца была ўзведзеная з цэглы, атынкаваная, перакрытая крыжовым скляпеннем. І характэрны дэкор франтона, і ўваходны партал, і круглыя аконныя праёмы, і муроўка сценаў (чаргаваныя радкі тычкоў і лажкоў) – усё гаворыць пра тое, што капліца была пабудаваная ў стылі рэнесансу. У пасляваенны час сядзібу разбурылі (захаваліся руіны гаспадарчай пабудовы з бутавага каменя), а ў 1950-я гг. была ўзарваная і капліца. Ад прыгожай святыні часткова захавалася толькі сцяна галоўнага фасада.

## Старая Жосна (не існуе)

Уваходны партал і рэканструкцыя галоўнага фасада капліцы ў Старай Жосне.



## Юшкавічы






Агульны выгляд і план касцёла.

Філіяльны касцёл з бетонных блокаў быў пабудаваны ў канцы 1930-х гг. на бутавым падмурку ва ўсходнім канцы вёскі. Сюды прыязджаў ксёндз з Мядзеля, да парафіі якога яна была прыпісаная.

Касцёл уяўляў сабой 3-частквавы ў плане аб'ём – прамавугольны санктуарый з квадратнай апсідай і бабінцам, над якім узведзеная вежа-званіца. Закрыстыя размяшчалася ў апсідзе, аддзеленая перагародкай ад галоўнага алтара.

Святыню зачынілі адразу пасля вайны і зрабілі ў ёй школу. Калі згніў дах, будынак быў кінуты ў руінах.

# Вілейскі дэканат

## Вілейскі раён




Шэметава
Лыцавічы (Чурлёны)
Зянонава
Старадубава
Іжа
Войстам
Кульбачына
Куранец
Родзевічы
Груздзеніца
Рускае Сяло
Ярмолічы
Вілейка
Ручыца
Крывічы
Вардомічы
Клесіна
Жары
Даўгінава
Каралін
Кавенева
Сэрвеч
Касцяневіцы
Сцешыцы
Спас
Юнцавічы
Старынкі
Асінцы
Рабунь
Мацькаўцы
Альковічы
Абадоўцы
Вязынь
Ілля
Асцюковічы
Лукавец
Батурына
Крамянец
Карповічы
Раёўка
Будзькі

Касцёл

Філіяльны касцёл

Капліца

Малая архітэктурная форма

Вілейка цэнтр раёна

Святыня дзейнічае

Дзейнічае як праваслаўная

Святыня ў зруйнаваным стане

Святыня не захавалася





## Абадоўцы




Уверсе: агульны выгляд, алтар і план капліцы XIX ст.
Унізе: агульны выгляд новазбудаванай прыдарожнай каплічкі з фігуркай Маці Божай.

*Капліца XIX ст. – гэта цэнтрычны, квадратны ў плане, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з шырокімі распалубкамі над вокнамі і завершаны чатырма каменнымі пінаклямі па вуглах і драўлянай неагатычнай вежай у цэнтры (не захавалася) будынак. Пад капліцай зробленыя склепы для пахавання ўладальнікаў маёнтка.*

Цагляная, атынкаваная звонку і ўнутры неагатычная капліца ў Абадоўцах  ўзведзеная на пагорку каля ўезду ў сядзібу, хутчэй за ўсё, у пачатку 2-й палове XIX ст. і прыпісаная да парафіі св.Міхала ў Іллі. Пасля падаўлення паўстання 1863г. іллянская парафія была скасаваная і да самага яе аднаўлення ў 1905г. абадоўская капліца прыпісвалася да касцёла ў в.Альковічы.

Пасля другой сусветнай вайны капліца была зачыненая. На пачатку 1990-х гг. вернікі дамагліся вяртання ім паўразбуранага будынка святыні. У 1994г. скончылася яе рэстаўрацыя. Астанкі са склепаў былі перазахаваныя справа ад капліцы. Сёння святыня ў Абадоўцах асвечаная пад тытулам Маці Божай Маёвай, абраз якой упрыгожвае яе алтар. Капліца па-ранейшаму прыпісаная да іллянскай парафіі.

У 1990-я гг. у Абадоўцах узведзена невялікая цагляная каплічка з пастаўленым побач крыжам, абнесеная драўлянай агароджай. Унутры каплічкі ўстаноўлена фігура Маці Божай. Можна меркаваць, што статуя выканана яшчэ ў XIX ст. і мае пэўную гісторыка-культурную каштоўнасць.



## Альковічы

Першая рыма-каталіцкая святыня ў Альковічах – невялічкая драўляная капліца з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны – была пастаўленая ў 1699г. Пазней, у 1722г., біскуп Аляксандр Гараін, уладальнік Альковічаў, пабудаваў на свае сродкі драўляны касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Магчыма, касцёл атрымаў статус філіі, бо і праз 30 гадоў, калі будынак струхлеў, ксёндз Ігнацы Алекся-




Альковіцкі касцёл пасля рэстаўрацыі. План касцёла.





На фотаздымку канца XIX ст. яны яшчэ побач – стары маленькі драўляны касцёльчык альковіцкай парафіі і нябачны за будаўнічымі рыштаваннямі, бо яго толькі пачалі ўзводзіць, новы каменны прыгажун-касцёл. У такім выглядзе, як сведчыць фота 1930-х гг., комплекс існаваў да другой сусветнай вайны.



Альковіцкі касцёл да рэстаўрацыі. Фота з архіва выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», 1970–я гг.

рун, плябан Кораньскі, у 1754г. перабудаваў яго як філіяльную святыню сваёй парафіі.

У 2-й палове XVIII ст. Альковічы атрымалі статус самастойнай парафіі. У гэты час святыня уяўляла сабой драўляны касцёл «36 аршынаў у даўжыню і 15 у шырыню»(каля 26х11м). Кампазіцыю храма завяршалі «капула пасярэдзіне, дзве вежы пры фасадзе і малая над прэзбітэрыем», пры якім былі дзве закрыстыі. Уваходны партал стваралі дзве «акруглыя драўляныя калоны», у «хоравым вакне над дзвярмі ў касцёл» знаходзілася разьбянае «вялікае Укрыжаванне». Інтэр'ер упрыгожвалі тры 2-ярусныя разьбяныя алтары – галоўны з цудатворным абразом Найсвяцейшай Марыі Панны і бакавыя – Укрыжаванне і Міхала Арханёла. Драўляная 2-ярусная званіца стаяла асобна. Пры касцёле дзейнічалі шпіталь і брацтва Маці Божай Шкаплернай, заснаванае тут у 1761г. кармелітамі босымі. Парафію абслугоўвалі таксама і дзве капліцы – у Асінцах (цяпер Лагойскі р-н) і Юнцавічах.

Але гэты комплекс не захаваўся. На фотаздымках XIX–XX стст. зафіксаваная невялікіх памераў драўляная святыня, пабудаваная пад відавочным уплывам класіцызму. Адназалавы, крыты гонтай касцёл, галоўны фасад якога – 6-калонны порцік – быў увенчаны 2-яруснай вежачкай, а алтарная частка – маленькай сігнатуркай. Цяпер касцёл быў асвечаны пад тытулам Наведзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны. Злева ад храма, у куце касцёльнай тэрыторыі, стаяла 3-ярусная драўляная званіца. Бутавай агароджай з цаглянымі брамамі касцёльная тэрыторыя была абнесена ў 1878г. на сродкі парафіянаў і тагачаснага пробашча кс. Канстанта Кошца. Уваходная брама была вырашана ў выглядзе чатырох масіўных цагляных і атынкаваных слупоў.

У XIX ст., як і сёння, альковіцкая парафія, у якой налічвался больш за 4500 чалавек, уваходзіла ў склад Вілейскага дэканата. Акрамя парафіяльнага касцёла яе абслугоўвалі, (пасля закрыцця іллянскай парафіі) філіяльны касцёл у в.Вязынь і капліцы ў в.Старынкі і в.Абадоўцы.

*Пра зараджэнне альковіцкай парафіі мясцовае паданне расказвае, што калі тут яшчэ не жылі людзі, а шапацеў лістотай альховы гай, на адным з дрэваў быў заўважаны абраз Панны Марыі. Вернікі з навакольных вёсак палічылі гэтае месца святым, а абраз цудатворным. Пабудавалі ў альхоўніку маленькую драўляную каплічку, змясціўшы абраз у яе алтары. Хутка вакол святыні з'явіліся першыя дамы. Так у альхоўніку і ўзнікла пасяленне, якое атрымала назву Альховічы. Тое, што гэта не толькі легенда, пацвярджаюць і радыяльная планіроўка самой вёскі, у цэнтры якой стаіць касцёл, і архіўныя матэрыялы.*



Будаўніцтва новага касцёла з чырвонай цэглы ў неагатычным стылі пачалося ў 1897г., і ў 1905г. святыня была асвечаная. Касцёл уяўляе сабой прасторную базыліку з высокай вежай-званіцай на галоўным фасадзе і 5-граннай апсідай, акружанай па перыметры, як і ўся святыня, трохступенчатымі контрфорсамі. Цікавыя 5-гранныя закрыстыі, што фланкуюць прэзбітэрый. Інтэр'ер падзелены на тры навы шматслойнымі калонамі і пілястрамі, якія нясуць стральчатыя аркі крыжовых скляпенняў. На хорах над уваходам знаходзіцца арган, упрыгожаны неагатычнаю разьбою. Цікава і тое, што





Бакавыя алтары касцёла. Злева – алтар «Пан Езус Укрыжаваны», справа – «св.Арханёл Міхал».

праект, па якім будавалі касцёл у Альковічах, быў яшчэ раз рэалізаваны ў 1908г. у в.Каменка (Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл.).

У 1950-я гг. касцёл у Альковічах быў зачынены і прыстасаваны пад зернясховішча. У 1989г., залічаны да гэтага часу ў ранг помнікаў архітэктуры, касцёл вярнулі вернікам, і адразу ж пачалася рэстаўрацыя святыні. Былі адноўленыя, хоць і значна пашкоджаныя, але дзівосным чынам ацалелыя алтары. У галоўны алтар вярнуліся ўсе статуі і абразы. Падчас набажэнства абраз Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі апускаецца і адкрывае абраз Маці Божай Будслаўскай. Левы бакавы алтар ізноў аздоблены старым Укрыжаваннем, у правым знаходзіцца старажытны жывапісны абраз Міхала Арханёла. Цяпер ён абноўлены, але, на жаль, не вельмі ўдала – старажытная выява проста перапісаная паверх нанава. Рэкансэкрацыя святыні пад гістарычным тытулам адбылася 16 жніўня 1992г.

У 1998г. адрадзілася капліца альковіцкай парафіі ў в.Мацькаўцы. Яна была пабудаваная ў 1920-я гг. з дрэва як прыдарожная, пры выездзе з вёскі на Вілейку. Пасля вайны святыня была знішчана. Сёння капліца, ужо каменная, стаіць на гістарычным месцы, унутры змешчана фігура Найсвяцейшай Панны Марыі.

Прыдарожная капліца ў в.Мацькаўцы.



**Вілейка**

Да сярэдзіны XIX ст. патрэбы мясцовых каталікоў задавальняла невялікая драўляная капліца ад куранецкай парафіі. Яна знаходзілася «ў палацы старасцянскім» – з XVI ст. Вілейка была цэнтрам староства Ашмянскага павета Віленскага ваяводства ВКЛ. Святыня згарэла ў пажары 1810г.



Першы касцёл у Вілейцы быў заснаваны ў 1862г. кс. Севярынам Мікутовічам, калі Вілейка ўжо мела статус горада і цэнтра павета Віленскай губерні. І адразу ж пачалося будаўніцтва каменнага храма, што значна вылучала яго на фоне драўлянай забудовы горада. Будынак адабралі ў каталіцкай супольнасці падчас рэпрэсій пасля падаўлення паўстання 1863г., калі будаўнічыя работы яшчэ не скончыліся. Святыня была перададзеная



Выгляд касцёла 1913г. з боку апсіды. Унізе: касцёл 1862г., фота пачатку ХХст.

*У 1862г. касцёл у Вілейцы быў задуманы як адназалавы, з 5-граннай апсідай і дзвюма закрыстыямі. Яго галоўны фасад фланкавалі дзве 2-ярусныя чацверыковыя вежы. За архітэктурны стыль пабудовы быў прыняты класіцызм. Пры пераробцы ў царкву былі зменены аконныя праёмы, дэкор сценаў, форма франтона, вежы завяршаліся шатровым дахам з цыбулепадобнымі макаўкамі, над цэнтрам святыні з'явіўся 8-гранны барабан на чацверыковай аснове пад такім самым шатром з галоўкай.*



праваслаўнаму духавенству, а ў 1874г. перабудаваная ў рэтраспектыўна-рускім стылі і асвечаная як Георгіеўская царква.

Каталікі горада доўгі час мясціліся ў невялікай капліцы, але і пры такіх умовах Вілейка заставалася цэнтрам дэканата. І толькі ў 1906г., пасля царскага маніфесту аб свабодзе сумлення, пачалося ўзвядзенне велічнага касцёла ў гонар Узвышэння Святога Крыжа. Згодна з праектам інжынера Аўгуста Клейна (ён жа аўтар праекта касцёла ў Іллі) архітэктура святыні нясе ў сабе рысы неараманскага стылю і неаготыкі. Касцёл з жоўтай цэглы на падмурку з каменных блокаў уяўляе сабой 3-нававы аб'ём з 5-граннай апсідай, які перасякаецца трансептам. Дамінанта ўсёй кампазіцыі – высокая вежа. У

інтэр'еры завяршэнні сценаў, аркі, крыжовыя скляпенні распісаныя пад мазаічныя арабескі. Будаўніцтва святыні скончылася ў 1913г.

У 1922-1928 гг. касцёл Узвышэння Святога Крыжа, які пацярпеў ад артабстрэлаў першай сусветнай вайны, быў адрэстаўраваны. У гэты час да вілейскай парафіі прыпісваўся філіяльны касцёл ў в.Гарадзішча.



**Вілейскі дэканат**

*З 1795г. Вілейка стала цэнтрам павета і адначасова цэнтрам аднайменнага дэканата, у склад якога ў XIXст. уваходзілі парафіі Будслаў і Крывічы (цяпер Мядзельскі р-н), Альковічы, Даўгінава, Касцяневічы (Вілейскі р-н), а таксама Лебедзева і Радашковічы (Маладзечанскі р-н). Пасля падаўлення паўстання 1863г. 7 касцёлаў дэканата былі скасаваныя: у Іллі, Красным Сяле, Куранцы, Маладзечне, Спасе, Хожаве, Холхлаве. У 1920-1930-я гг. Вілейка – цэнтр павета Віленскага ваяводства II Рэчы Паспалітай і цэнтр дэканата Віленскай архідыяцэзіі. Межы Вілейскага дэканата практычна цалкам супадаюць з цяперашнімі межамі Вілейскага раёна, толькі на поўначы ён яшчэ ахопліваў Будслаў і Крывічы. Дэканат складаўся з парафіяў Вілейка, Альковічы, Даўгінава, Ілля, Касцяневічы, Куранец, Сэрвеч і Спас. У 1930-я гг. парафіі Маладзечна, Батурына, Дубрава, Краснае, Лебедзева, Плябань, Радашковічы, а таксама Ракаў, якія дагэтуль уваходзілі ў Вілейскі дэканат, былі выдзеленыя ў асобны Маладзечанскі дэканат. Тады ж у Вілейцы знаходзіўся і цэнтр вайсковай парафіі пад тытулам св. Андрэя Баболі. Парафія абслугоўвала гарнізоны ў акругах Вілейкі, Маладзечна, Дзісны, Паставаў. Вілейка сёння па-ранейшаму мае статус цэнтра дэканата, які цяпер ахоплівае межы двух раёнаў Мінскай вобласці – Вілейскага і Маладзечанскага.*



Праект новага касцёла і фота старой капліцы ў Вілейцы на паштоўцы пач. XX ст.

Пасля другой сусветнай вайны касцёл быў зачынены і ператвораны ў склад. Пазней святыню аб'явілі помнікам архітэктуры, адрэстаўравалі і размясцілі тут Дом мастацтваў. Пераробкі амаль не змянілі пачатковы выгляд касцёла, калі не лічыць аддзяленне сцяной ад асноўнага аб'ёма капліцы Маці Божай справа ад апсіды (сёння тут другая закрыстыя). У гэтыя ж гады перастаў існаваць і будынак старога касцёла ў Вілейцы. Святыня значна пацярпела падчас вайны, і руіны былі разабраныя. Сёння на гэтым месцы знаходзіцца прыбудова да універмага (цяпер у ёй – «Беларусбанк»).

У 1990г. касцёл Узвышэння Святога Крыжа быў вернуты рыма-каталіцкай супольнасці горада. Пасля рэстаўрацыі святыні яе прэзбітэрый аздобіў прыгожы алтар у стылі неаготыкі, у левым крыле трансепта ўстаноўлены новы бакавы алтар Маці Божай.

На ўсход ад Вілейкі ёсць в.Рабунь, калісьці, у XVII–XVIII стст., маёнтак віленскага кляштара бернардынак. У 1669г. тут згадваецца ўжо дзейны парафіяльны касцёл Свірскага дэканата.

Бакавы алтар Маці Божай у левай наве вілейскага касцёла.

**Вязынь**

У 1543г. уладальнік Вязыні, віцебскі ваявода Юры Насілоўскі, заснаваў тут касцёл пад тытулам св.Ганны. З 2-й паловы XVII ст. касцёл згадваецца ў рангу філіі пры іллянскай парафіі. Святыня стаяла пры ўездзе ў вёску з боку Іллі, справа на ўзвышэнні. У 2-й палове XVIII ст. пасля рэстаўрацыі на сродкі віленскіх бенедыктынак, якім з XVII ст. належала мястэчка, касцёл уяўляў сабой драўляную 2-вежавую святыню з адной закрыстыяй. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары: галоўны з абразом св.Ганны і бакавыя – Панны Марыі і св.Бенедыкта.

Роўна праз два стагоддзі, у 1830 г., новы будынак філіі св.Ганны змяняе старую святыню. Але ў 1864г. іллянская парафія была зліквідавана, разам з ёю зачынілі і вязыньскі касцёл, а будынак перадалі праваслаўным. Царква, пазней пабудаваная на гэтым месцы, дзейнічае і сёння. Насупраць, на другім баку шашы, захаваліся старыя каталіцкія могілкі. Сярод іх вылучаюцца надмагіллі Бельскіх, Гяцэвічаў, Янкоўскіх. Аднак архіўныя дакументы таго часу працягваюць згадваць у Вязыні філіяльны касцёл альковіцкай парафіі.




У 1908г. (дата пазначана на фундаменце святыні) у вязыньскай сядзібе Гяцэвічаў была збудавана капліца з гранітных блокаў у неагатычным стылі з элементамі мадэр-





Агульны выгляд і інтэр'ер касцёла ў Вязыні.

ну. Залавая прастора з 5-граннай апсідай перакрыта зорчатымі скляпеннямі. У 1912г. святыня была асвечаная пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і прыпісана да аднsocilенай іллянскай парафіі.

Пасля другой сусветнай вайны філію ў Вязыні зачынілі і зрабілі там клуб, потым склад (быў нават музей), але капліцу аб'явілі помнікам архітэктуры. У 1993г. святыня, вернутая каталікам, была адрэстаўраваная і ў Вязыні зноў зарэгістраваная, цяпер ужо самастойная, парафія Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны.

## Гарадзішча



Філіяльны касцёл на могілках у фальварку Гарадзішча куранецкай парафіі вядомы з 1683г. У XVIII ст. гэта была святыня, узведзеная з брусу, на бутавым падмурку, з прыбудаваным бабінцам, якая завяршалася вежай са звонам – сігнатуркай.

Калі меркаваць па фотаздымку канца XIX – пачатку XX ст., касцёл быў перабудаваны ў 1-й пал. XIX ст. пад уплывам класіцызму, пра што выразна сведчыць уваходны фасад святыні, вырашаны ў выглядзе 4-калоннага порціка з вальмам, характэрным для барочнай архітэктуры. У гэты час гарадзішчанская філія – адназалавая святыня з 5-граннай апсідай і закрыстыяй злева мела гонтавы дах з чацверыковай вежай над уваходным фасадам, у верхняй частцы якога быў праём для звана. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 3 алтары: галоўны, 2-ярусны і разьбяны, які змяшчаў абраз Маці Божай з Дзіцем і абраз св. Юрыя зверху, а таксама бакавыя алтары – св. Міколы і Найсвяцейшай Тройцы.

У 2-й палове XIX ст, калі Куранец не меў парафіяльнага касцёла, гарадзішчанская святыня належала парафіі ў Касцяневічах. З пачатку XX ст. – у вілейскай парафіі. Сёння Гарадзішча ўжо ўвайшло ў гарадскую мяжу Вілейкі, а могілкі знаходзяцца на паўночным выездзе з горада. Але ад касцёла захаваліся толькі рэшткі падмуркаў.



## Даўгінава




1. Галоўны алтар Унебаўшэсце Пана Езуса.
2. Алтар у капліцы Маці Божай Нястомнай Дапамогі.
3. Алтар св. Станіслава Біскупа.
4. Алтар св. Ізыдора.
5. Алтар у капліцы св. Антонія Падуанскага.

Гісторыя мясцовай каталіцкай парафіі пачынаецца ў 1553г., калі ў мястэчку ўзводзіцца драўляны парафіяльны касцёл, які быў знішчаны праз стагоддзе падчас вайны з Масковіяй у 1650-я гг. У 1660-я гг. быў адбудаваны новы касцёл, таксама драўляны, на сродкі князя Друцкага-Сакалінскага. Наступны, таксама драўляны, будынак касцёла быў узведзены на гэтым месцы ў 1704г. па фундацыі Караля і Евы Друцкіх-Сакалінскіх і асвечаны пад тытулам св.Станіслава Біскупа. Адначасова на іх жа сродкі была ўзведзеная і драўляная капліца на мясцовых могілках. У пачатку XIX ст. касцёл згарэў падчас пажару, і некаторы час функцыю парафіяльнай святыні выконвала пабудаваная ў 1818 г. «шопа з дошак».



Так выглядаў касцёл у Даўгінаве на пачатку XX ст.





Злева – бакавы алтар св.Станіслава.
Справа – галоўны алтар «Унебаўшэсце Пана Езуса».

Дзейны і сёння «каменны касцёл св.Станіслава быў пабудаваны ў 1853 г. на сродкі парафіянаў і стараннем кс. Юзафа Львовіча». Бязвежавая базыліка ў стылі класіцызму мае на галоўным фасадзе 4-калонны порцік. Інтэр'ер, падзелены 4 апорамі на тры навы, упрыгожваюць 5 алтароў. Галоўны алтар, які мае прасторавую кампазіцыю ў стылі класіцызму, агінаецца паўкруглай апсідай такім чынам, што паміж імі застаецца праход. Над нартэксам размешчаныя хоры з арганам. На хоры вядзе лесвіца ў тоўшчы сцяны.

Справа ад касцёла асобна стаіць драўляная 2-ярусная званіца. Касцёльная тэрыторыя абнесена агароджай з «дзікага каменя», цэнтральны ўваход пазначаны 3-аркавай брамай, цаглянай і атынкаванай. І без таго шматлікая ў XIX ст. даўгінаўская парафія – амаль 5000 чалавек – да пачатку другой сусветнай вайны павялічылася да 7200 чалавек. Яе абслугоўвалі філіяльны касцёл у в.Жары, а таксама капліцы ў в.Вардомічы і на мясцовых могілках (не захаваліся). Касцёл св.Станіслава, залічаны ў шэраг помнікаў архітэктуры, адна з нешматлікіх святыняў краіны, якія дзейнічалі бесперапынна.

Вёска Вардомічы да 1832г. была ўласнасцю ордэна дамініканаў, магчыма, кляштара ў Хатаевічах (в.Акцябр Лагойскага р-на). У 1830г. тут узгадваецца «у стане руіны» драўляная капліца ад даўгінаўскай парафіі.



## Ілля

Сучасны мураваны касцёл Сэрца Езуса.
Унізе: былы драўляны касцёл св.Міхала. Фота пачатку XX ст.

Каталіцкая парафія ў Іллі згадваецца з 1669г. Касцёл першапачаткова стаяў не ў самой вёсцы, а на тэрыторыі панскага маёнтка. Толькі ў 1726г. Міхал Савіцкі, лоўчы ВКЛ і ўладальнік мястэчка, «перанёс касцёл з-пад двара да места». Новую святыню «пад тытулам св.Міхала Арханёла ў 1772г. паставіла Брыгіта Салагуб, народжаная Радзівіл», новая ўладальніца маёнтка. У XVIII ст. пры касцёле св.Міхала Арханёла дзейнічалі шпіталь, фундаваны ў 1726г., і брацтва Езуса і св.Ружанца, заснаванае ў 1772 г. Іллянскую парафію дапамагаў абслугоўваць філіяльны касцёл у Вязыні і з 1765г. – капліца ў іллянскім маёнтку Салагубаў.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. парафія ў Іллі была ліквідаваная, касцёл у 1866г. перароблены ў праваслаўную царкву. Аднак прыстасаванне касцёла пад царкву практычна не змяніла яго знешні выгляд.



*Касцёл св.Міхала ўяўляў сабою драўляны, храм з высокай 3-яруснай вежай-званіцай, завершанай вытанчанай познебарочнай галоўкай з карункавым крыжам. Над нартэксам знаходзіліся хоры з «арганамі на 8 галасоў». Прэзбітэрый фланкаваўся 2 закрыстыямі і завяршаўся сігнатуркай. Галоўны алтар з абразом св. Міхала быў упрыгожаны пазалотаю і пасярэбранымі дэталямі, у 2-м яго ярусе знаходзіўся абраз Беззаганнага Пачацця Панны Марыі, завяршаўся алтар фігурным Укрыжаваннем. «На скрыдлах» былі ўстаноўлены выявы св. Юзафа з Дзіцяткам Езусам і св. Яўхіма з Багародзіцаю. Бакавыя алтары таксама былі 2-ярусныя і падобныя адзін да аднаго. Адзін – Найсвяцейшай Марыі Панны, з абразом Панны Марыі Ружанцовай зверху, другі – св. Антонія, з абразом св. Яна Непамука ўверсе.*

Праект рэстаўрацыі касцёла 1986г.








Дзе пасля закрыцця касцёла маліліся мясцовыя католікі, цяжка сказаць –архіўныя матэрыялы не паведамляюць нават пра наяўнасць капліцы ў Іллі ў гэты час. Але з упэўненасцю можна сказаць, што хрысціянскае жыццё паводле заходняга абраду тут не перапынілася, бо як толькі выйшаў імператарскі маніфест аб свабодзе сумлення (1905г.), дык адразу ж грамадзянскі інжынер з Вільні А.А.Клейн (ён жа аўтар касцёла ў Вілейцы) прыступіў да распрацоўкі новага каменнага касцёла для Іллі пад тытулам Найсвяцейшага Сэрца Езуса. 16.01.1907г. праект быў гатовы і будаўніцтва, цалкам забяспечанае сродкамі парафіянаў, пачалося. 3 кастрычніка 1909г. спецыяльная камісія Будаўнічага ўпраўлення Віленскага губернскага праўлення прыйшла да высновы, што касцёл можа быць адчынены для набажэнстваў.

Касцёл узведзены з цэглы і абліцаваны гранітнымі блокамі. З чырвонай цэглы выкананы карнізы і абрамленні аконных і дзвярных праёмаў. Гэта адназалавая, адносна невялікіх памераў святыня з паўкруглай апсідай. Яна была пакрытая







Укрыжаванне ў нартэксе касцёла. 1990-я гг.

гонтаю, завершаная на галоўным фасадзе высокаю драўлянаю 3-ярруснаю башняю-званіцаю пад востраканцовым спічаком у стылі мадэрн. Такая ж была і сігнатурка над алтарнаю часткаю. У інтэр'еры найбольш цікавай дэталлю была драўляная столь у неагатычным стылі – складаная трохчасткавая канструкцыя з нясучых балак, якія абапіраліся на кранштэйны. Стыль касцёла можна класіфікаваць як эклектыку неараманскага стылю, неаготыкі і мадэрну.

У міжваеннае дваццацігоддзе іллянскую парафію абслугоўвалі 5 капліцаў: у Абадоўцах, Асцюковічах, Вязыні, Старынках і Раёўцы (апошняя – сёння ў Маладзечанскім р-не). Перад пачаткам другой сусветнай вайны ў парафіі налічвалася каля 1700 парафіянаў. Дапамагалі святарам у іх працы сёстры непакалянкі, якія з'явіліся ў Іллі ў 1920-я гг.

У 1920-я гг. быў вернуты католікам і старажытны будынак касцёла св.Міхала Арханёла. Пасля рэстаўрацыі яго рэкансэкравалі пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай. Тады ж у Іллі з'явілася яшчэ адна каталіцкая святыня – у цэнтральным скверы была ўзведзеная каменная капліца "за палеглых".

Другая сусветная вайна нанесла іллянскай парафіі непапраўныя страты. Старажытны касцёл XVIII ст. згарэў (сёння на гэтым месцы будынак клуба). Пашкоджаны будынак паркавай капліцы разабралі ў 1950-я гг. Значна пацярпеў і новы касцёл. У пасляваенны час будынак прыстасавалі пад малочны цэх. У такім выглядзе касцёл быў прызнаны помнікам архітэктуры.

У пачатку 1990-х гг. будынак касцёла быў вернуты католікам і пачалася рэстаўрацыя святыні. Але яшчэ ў 1986г. творчы калектыў "Белрэстаўрацыі" пад кіраўніцтвам Жаровінай Г.П. распрацаваў праект рэканструкцыі касцёла. На жаль, калі пачалася рэстаўрацыя, на гэтую работу не было звернута належнай увагі і першапачатковай прыгажосці ва ўжо адрэстаўраваным касцёле дасягнуць не ўдалося. Адноўлены касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў асвечаны ў 1993г. Сёння яго інтэр'ер упрыгожваюць 4 алтары: галоўны – Сэрца Езуса, левы бакавы – Панны Марыі з абразом св.Юзафа з Немаўляткам у 2-м ярусе, правы – Пана Езуса з абразом Маці Божай Вастрабрамскай над ім, і прысценны алтар Маці Божай Чанстахоўскай.

Капліца ў мястэчку Старынкі, вядомая з канца XVIст., не захавалася. Яшчэ ў 1639г. капліца была асвечаная пад тытулам св. Яна. Святыня прыпісвалася да іллянскай парафіі (у 1864-1905гг. – да альковіцкай)

## Касцяневічы

Каталіцкае жыццё прыйшло сюды ў 1652г., калі Павел Ляскоўскі, уладальнік гэтых мясцінаў, запісаў Касцяневічы віленскаму калегіуму езуітаў і тут была заснаваная місія ордэна. Першы парафіяльны касцёл, збудаваны ў 1662г., быў драўляны і асвечаны пад тытулам св. Ігнацыя Лаёлы. А ў 1763г. на яго месцы тагачасны пробашч, езуіт а.Феліцыян Суліструоўскі, узвёў «пры дапамозе парафіянаў і падчашага Міхала Відмонта»



Агульны выгляд касцёла.
Фота касцёла канца XIX ст.
Франтон закрыстыі.



каменны касцёл у гонар Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны, дзейны і сёння.

Прызнаная помнікам архітэктуры ў стылі позняга барока, адносна невялікая па памерах, прамавугольная ў плане, з адной закрыстыяй, святыня ўяўляе сабой тып адназалавага бязвежавага і безапсіднага касцёла. Галоўны фасад завершаны франтонам барочнага абрысу з валютамі. У інтэр'еры пад дашчанай каробчатай столлю падлога выкладзена каляровай мазаікай. Крыпта са склепамі займае палову даўжыні касцёла ад алтара. На драўляныя хоры на 2 каменных апорах вядзе лесвіца ў тоўшчы сцяны. У барочным алтары, у атачэнні 6 стройных калонаў іянічнага ордэра, што падтрымліваюць шматслойны карніз, у XVIII ст. быў змешчаны цудоўны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны, вакол якой у аблоках луналі 6 анёлаў (адзін з іх трымаў у руках срэбную лілею). Кампазіцыю вянчала выява Св.Духа. Абраз быў заключаны ў срэбную шату, карону Багародзіцы ўпрыгожвалі каштоўныя камяні. Прастору вакол абраза запаўнялі срэбныя медальёны ахвяраванняў. Галоўны алтар фланкавалі два бочныя 2-ярусныя алтары. На жаль, арыгінальнае ўбранне алтара не захавалася.

Пасля 1773г., калі ордэн езуітаў перапыніў існаванне, валоданне Касцяневічамі перайшло да жмудскага біскупа Аляксандра Гараіна, а касцёл перадалі беламу духавенству. Да канца XIX ст. у парафіі з цэнтрам у Касцяневічах налічвалася амаль 5000 чалавек, перад другой сусветнай вайной гэтая лічба павялічылася да 6000. Да касцёла ў розныя часы прыпісваліся 4 капліцы ў паселішчах Гарадзішча, Кавенева, Кульбачына і Сэрвеч.

Касцёльная брама, план касцёла і выгляд інтэр'ера касцёла ў 1930-я гг.

На правай старонцы: сучасны выгляд інтэр'ера.








## Клесіна






План і сучасны выгляд капліцы.

У сярэдзіне XIX ст. на паўднёвай ускраіне вёскі, пры дарозе, была ўзведзеная каталіцкая капліца, прыпісаная да касцёла ў Крывічах. Невялікі, у стылі постласіцызму, будынак з бутавага каменя мае прамавугольны аб'ём з 3-граннай алтарнай часткай. Накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над алтаром. Над уваходам, магчыма, капліца завяршалася вежачкай.

Пасля задушэння паўстання 1863г. капліца была зачынена і ў 1869г. перароблена ў праваслаўную. Потым яе вярнулі католікам. Пры савецкай уладзе святыня ператварылася ў руіну. Сёння дзейнічае як праваслаўная капліца.

## Куранец



Пасля рэстаўрацыі ў 1856г. куранецкі касцёл уяўляў сабой невялікі драўляны будынак з адметным уплывам класіцызму, пад 2-схільным гонтавым дахам, з 5-граннай апсідай. Галоўны фасад – 6-калонны порцік – завяршаўся сціплай 2-яруснай галоўкай пад барочным шлемікам з карункавым крыжам.



У Куранцы захаваўся мемарыял 18 паўстанцам 1863г., якi ў 1923 г. быў устаноўлены за апсідай касцёла і ў наш час абвешчаны помнікам гісторыі.

1 чэрвеня 1539г., «Ян Івачны Міхайлавіч, дзедзіч Куранца, заснаваў касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны». У 1652г. была пабудаваная новая, драўляная, 2-вежавая святыня. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 3 алтары: галоўны – з фігурай Марыі Панны Ларэтанскай, бакавыя – з абразом Укрыжавання і «падвоены алтар» св.Антонія і св.Ганны. У 1809 г. пажар знішчыў старажытны касцёл і ў наступным, 1810г., на сродкі Казіміра Сулістроўскага была адбудаваная новая святыня.

З канца XVIII ст. куранецкую парафію, акрамя касцёла, абслугоўвалі філія ў Гарадзішчы і капліцы ў Старадубаве і Кульбачыне. З 1796г. была вядомая як ужо даўно дзейная ў Куранцы і капліца на парафіяльных могілках – драўляная, з адной вежачкай. Алтар капліцы ўпрыгожвало вялікае Укрыжаванне. Побач стаяла 3-ярусная званіца.

Паўстанне 1863г. у гэтых мясцінах было асабліва моцным. Адразу пасля яго куранецкі касцёл зачынілі і ў 1866г. перабудавалі ў праваслаўную царкву. Да 1872г. парафія яшчэ намінальна існавала пры капліцы на могілках, але ў пазнейшых архіўных дакументах не ўзгадваецца і яна.

У 1920-я гг. куранецкая парафія адраджаецца спачатку як філія вілейскага касцёла, а пасля як самастойная пад тытулам Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны. У 1928г. вернуты каталікам будынак старога касцёла цалкам перабудавалі.

У пасляваенны час касцёл у Куранцы быў разабраны. На яго месцы пабудавалі калгасную кантору. Парафія, якая мела больш чым чатырохвяковую гісторыю, перастала існаваць.

## Лукавец








Сёння ад сядзібнага комплексу ў Лукаўцы засталіся толькі руіны. Але захавалася невялічкая вежападобная каплічка ў куце сядзібнай агароджы. У нішы каплічкі знаходзіцца фігурка Маці Божай Маёвай.

Капліца ў маёнтку Шумскіх стаяла не ў самім Лукаўцы, а ў суседняй в.Батурына, якая ўваходзіла ў маёнтак. Да канца XVIII ст. святыня належала уніятам. Але ў 1796г. храм быў «асвечаны абрадам рымскім пад тытулам св.Міколы» і стаў філіяльным касцёлам пры парафіі ў Гайне (Лагойскі р-н), потым пры парафіі ў Радашковічах. Мікалаеўскі касцёл быў драўляны, на каменным падмурку, інтэр'ер упрыгожвалі 3 «на оптыку маляваныя» алтары. Да філіі ў Батурыне прыпісвалася капліца ў Карповічах (скасавана ў 1870г.).

У 1864г. касцёл зачынілі і перадалі праваслаўным. У 1920г. святыня была зноў асвечаная як касцёл, але цяпер ужо пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны і як філія іллянскай парафіі. У гэты час з'яўляецца каталіцкая святыня і ў Лукаўцы. Гэта была часовая капліца для прыслугі маёнтка, зробленая ў адным з гаспадарчых будынкаў сядзібнага комплексу. Касцёл у Батурыне дзейнічаў да 2-й сусветнай вайны, падчас якой быў спалены разам з вёскай.

У наш час мясцовыя каталікі дабіліся перадачы ім пад касцёл будынка былога дзіцячага садка, пабудаванага ў 1950-я гг. на тэрыторыі колішняй сядзібы. У 1999г. у Лукаўцы зарэгістраваная парафія пад тытулам святых апосталаў Пятра і Паўла.

На поўдзень ад Лукаўца ёсць вёска Будзькі, калісьці таксама радашковіцкай парафіі.

У 1840г. згадваецца каталіцкі філіяльны касцёл св.Міхала, які дзейнічаў на мясцовых могілках. Святыня дзейнічала да 1946г., а потым была зачынена разам з парафіяльным касцёлам. Будынак стаяў да 1980-х гг., а пасля быў разабраны.

## Ручыца

Тут, на зліцці рэк Гануткі і Нарачы, у 2-й пал. XVIII ст. сфармавалася сядзіба Ганута трокскага ваяводы Тадэвуша Агінскага. У сядзібным доме, на 2 паверсе, пры антрэсолі для музыкаў у бальнай зале, знаходзілася капліца.

У 1763г. Т.Агінскі ўзвёў на тэрыторыі сядзібы драўляны касцёл пад тытулам Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны і св.Ганны, які атрымаў статус філіі ад войстамскай парафіі (Смаргонскі р-н).

На мясцовых могілках у 1809г. кс.Грынеўскі пабудаваў драўляную капліцу. Пасля рэканструкцыі ў 1890г. яна ўяўляла сабой трохзрубавае збудаванне – бабінец, апсіда і цэнтральны аб'ём.

Ганцкая сядзіба не захавалася. Не захаваўся і філіяльны касцёл, ён быў знішчаны яшчэ ў 1834г. У 2-й палове XIX ст. на гэтым месцы пабудавалі праваслаўную царкву. Не захаваўся і сам тапонім Ганута. Сёння паселішча называецца Ручыца, па назве некалі суседняй вёскі. Даўжэй за ўсіх пратрымалася капліца на могілках, зачыненая пасля вайны. У 1970-я гг. пусты будынак аб'явілі помнікам архітэктуры, але гэта не захавала яго ад пажару.








У Ручыцы ацалелі дзве невялікія, амаль аднолькавыя каплічкі, якія некалі гарманічна ўваходзілі ў сядзібны комплекс Ганугы. Каплічкі аб'яўленыя помнікамі архітэктуры, адна з іх стаіць амаль насупраць царквы, праз дарогу, бліжэй да ракі, другая – перад могілкамі.
Кожная з каплічак – гэта круглая ў сячэнні, цагляная і тынкаваная вежа ў стылі ракако. Вытанчаны фігурны шлёмік узвышаецца над цокалем на 4 вуглавых пілонах. Ва ўтворанай такім чынам прасторы знаходзіліся скульптурныя выявы святых. Фігура Багародзіцы, якая стаяла ў адной з капліц, сёння выстаўленая ў экспазіцыі музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай Акадэміі навук.

На поўнач ад Ручыцы калісьці існавалі яшчэ некалькі святыняў войстамскай парафіі. У 2-й палове XIXст. у панскім маёнтку Груздзеніца ўжо дзейнічала драўляная капліца. Знікла разам з маёнткам у пасляваенны час. Сёння няма ужо нават і тапоніма Груздзеніца.

«У 1789г. у двары Рускае Сяло пан Хамінскі, стольнік ашмянскі, пабудаваў драўляную капліцу» пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі. Святыня таксама дзейнічала да 2-й сусветнай вайны і знішчана разам з сядзібай. Каля шашы, на захад ад вёскі, захавалася і адрэстаўравана прыдарожная каплічка з бутавага каменя, узведзеная на мяжы XIX-XX стст. Падобныя да яе прыдарожныя каплічкі ўпрыгожваюць вёску Ярмолічы і хутар Родзевічы.

## Старадубава




У канцы XVIII ст. тут, ва ўладанні паноў Абрамовічоў, ужо была «пабудаваная асобна ад дома» капліца, прыпісаная да куранецкай парафіі. Але ўзвялі яе яшчэ раней, таму што архіўныя дакументы таго часу сцвярджаюць, што «ў капліцу даязджаў плябан з Варнянаў» (цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобласці).

У 1932г. на ўзгорку за сядзібным домам паноў Загорскіх была пабудавана новая драўляная капліца пад двайным тытулам – Маці Божай Суцяшальніцы і св.Андрэя Баболі. Дату пабудовы святыні выбілі на адным з камянёў падмурку. Прыязджаў сюды ксёндз з Вішнева (цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.). У пасляваенны час капліцу зачынілі і пасля разабралі. Захаваўся толькі падмурак, на аснове якога зроблена рэканструкцыя плана.

Толькі падмуркі, зарослыя травой, непадалёк каталіцкіх могілкаў – гэта ўсё, што захавалася ад касцёла ў суседняй в.Зянонава.

## Сцешыцы




Сёння касцёл уяўляе сабой аднназалавы, прамавугольны ў плане, з адной закрыстыяй і прамавугольнай апсідай аб'ём з ліцавой цэглы, пад двухсхільным дахам з ацынкаваных лістоў. Над галоўным фасадам узвышаецца 3-ярусная вежа-званіца, якая завяршаецца высокім шатром з крыжам. Тэрыторыя касцёла абнесеная жалезнай агароджай на цагляных слупках. Уваход пазначаны 3-аркавай брамай.

Каталіцкія могілкі пры выездзе на Даўгінава са Сцешыцаў ды адна хата – гэта ўсё, што захавался ад вёскі Спас. А менавіта тут яшчэ ў 1786г. па фундацыі Людвіка і Ізабэлы Хамінскіх быў пабудаваны касцёл пад тытулам Перамянення Пана, які атрымаў статус філіі пры даўгінаўскай парафіі. Драўляны, на бутавым падмурку, касцёл меў «30 аршынаў у даўжыню і 13,5 у шырыню» (каля 21х10м), вежу-званіцу над уваходным фасадам, сігнатурку над прэзбітэрыем. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 3 алтары.

Касцёл дзейнічаў да 1866г., пасля быў перабудаваны ў праваслаўную царкву. У 1919г. будынак вярнулі каталіцкай



Інтэр'ер і выгляд з боку апсіды касцёла ў Сцешыцах.

супольнасці. З гэтага моманту тут заснавалася самастойная парафія, у якой перад 2-й сусветнай вайной налічвалася да 2500 парафіянаў. Да спаскай парафіі ад даўгінаўскай адышоў філіяльны касцёл у Караліне. З 1840г. гэтая святыня згадваецца ўжо як дзейны «касцёл з арганам», драўляны, на бутавым падмурку, пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі.

Вайна амаль цалкам знішчыла вёску Спас. У 1957г. быў разбураны і касцёл. Разам з сядзібай Каралін знік і філіяльны касцёл. Але ў 1990-я гг. парафія аднавілася ў суседніх Сцешыцах, і сёння цэнтр вёскі ўпрыгожвае невялікі касцёл, пабудаваны ў 1993-96 гг. Касцёл па-ранейшаму мае тытул Перамянення Пана.



## Сэрвеч

Касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны ў маёнтку Сэрвеч быў заснаваны 7 верасня 1617г. па фундацыі Яна Бжастоўскага і Рафала Сулістроўскага як філія касцёла Беззаганнага Пачацця Панны Марыі ў в.Касцяневічы.

У 1852г. новы будынак касцёла ў Сэрвечы быў узведзены на сродкі Яна Напалеона Козел-Паклеўскага. Драўляны храм уяўляў сабой 3-зрубавы аб'ём з закрыстыяй справа ад 5-граннай апсіды. Цікава, што кожнае рабро алтарнай часткі пазначалася круглай напаўкалонай. Над бабінцам узвышалася чацверыковая, пад 4-схільным дахам, вежа-званіца. Касцёл быў накрыты 2-схільным гонтавым дахам з вальмамі над прэзбітэрыем.

На мясцовых могілках дзесьці ў сярэдзіне XIX ст. таксама пабудавалі капліцу-склеп Козелаў-Паклеўскіх. Цаглянае, атынкаванае, квадратнае ў плане збудаванне ў стылі класіцызму накрытае 2-схільным дахам. Пад капліцай былі зробленыя склепы.

Пасля другой сусветнай вайны касцёл у Сэрвечы зачынілі. У 1950-я гг. будынак святыні разабралі і перавезлі на клуб у в.Давыдкі. На новым месцы зруб сабралі такім самым, якім ён быў і ў Сэрвечы, але ў двухпавярховым, атынкаваным звонку і ўнутры, пад агульным двухсхільным дахам будынка клуба

Касцёл у Сэрвечы, фота канца XIX ст.

Рэканструкцыя плана касцёла.








План і агульны выгляд капліцы-пахавальні Козелаў–Паклеўскіх.

святыню цяжка было пазнаць. Сёння зруйнаваны і гэты будынак. Перад ім, на скрыжаванні, у 1990-я гг. пастаўлены высокі металічны крыж. Устаноўлены крыж і на ўзгорку ў Сэрвечы, там, дзе калісьці ўзвышаўся касцёл.

Але капліца на сэрвечскіх могілках, якая таксама яшчэ не так даўно стаяла ў занядбанні, сёння адноўленая. У яе алтары змешчаны абраз «Бічаванне Езуса». Як і стагоддзі таму, капліца ў Сэрвечы належыць да касцяневіцкай парафіі.

Каля комплексу сядзібы Козелаў-Паклеўскіх, ад якога захаваліся толькі руіны і некалькі гаспадарчых пабудоваў, у 2-й палове 1990-х гг. пастаўлена маленькая цагляная прыдарожная каплічка, падобная да той, што стаіць у Мацькоўцах, альковіцкай парафіі .

# Вілейскі дэканат

## Маладзечанскі раён







Касцёл

Філіяльны касцёл

Капліца

**Маладзечна** цэнтр раёна

Святыня дзейнічае

Святыня будуецца

Дзейнічае як праваслаўная

Святыня не дзейнічае

Святыня ў зруйнаваным стане

Святыня не захавалася

## Аборак

У 1443г. уладальнік маёнтка, намеснік полацкі, Анджэй Саковіч пабудаваў касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы ў Аборку (па назве маёнтка) – на самай справе, у размешчаным за 1,5 вярсты ад сядзібы Груздове, пры дарозе праз паселішча. Такім чынам ужо тады ўзнікла падвоеная назва парафіі – Груздава-Аборак. У 1475г. сын фундатара, Багдан, значна павялічыў фундуш касцёла.

На гэтым жа месцы ў Груздове ў 1720г. была ўзведзена новая драўляная святыня. А ў Аборку, у цэнтральнай частцы маёнтка, на скрыжаванні галоўных вуліц пабудавалі драўляную капліцу з цудадзейным абразам св.Роха, які лічыўся апекуном маёнтка.

Рэканструкцыя плана касцёла на канец XVIII ст.

Выгляд касцёльнага комплексу ў Аборку на пачатку XX ст.






1) Галоўны алтар Найсвяцейшай Тройцы
2) Алтар Звеставання Марыі Панне
3) Алтар Святой Сям'і

***Капліца св.Роха:***

4) Алтар св. Роха з алтарыкамі св.Антонія і Найсвяцейшай Марыі Панны

***Капліца св.Тадэвуша:***

5) Алтар св.Тадэвуша з абразом Маці Божай уверсе

У 2-й палове XVIII ст. на гэтыя мясціны абрушылася пошасць, якая рэзка павялічыла колькасць пахаванняў каля касцёла ў Груздове. Мабыць, з жаданнем пасунуць святыню з «халерных могілак» і звязаны яе перанос у 1773г. у Аборак, на месца капліцы. Ажыццявіў гэта князь Францішак Ксаверы Агінскі, кухмістр літоўскі. Цудадзейны абраз св.Роха, які выратаваў тутэйшае насельніцтва ад халеры, заняў месца ў новым касцёле. Ды і сама святыня атрымала яшчэ адзін тытул – святога Роха. Поўная тагачасная назва касцёла ў той час была такая: касцёл Найсвяцейшай Тройцы, Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і святога Роха.

Новаўзведзеная ў стылі барока драўляная святыня ўяўляла сабой залавы аб'ём з 5-граннай апсідай, пры якой былі 2 закрыстыі. Нартэкс, над якім размяшчаліся хоры, фланкавалі 2 капліцы, увянчаныя «круглымі вялікімі капуламі», што надавала касцёлу выгляд 2-вежавага. Касцёл меў высокі 2-схільны гонтавы дах. Пакрыцце было плоскім, бэлечным, з падшыўной столлю. Інтэр'ер дастаткова сціплай па габарытах святыні ўпрыгожвалі 7 алтароў.



Сучасны выгляд комплексу.

Асобна ад святыні, злева, у куце касцельнай тэрыторыі, стаяла драўляная званіца. У XVIII ст. пры аборкаўскім касцёле дзейнічала філія ў суседніх Палачанах. У склад парафіі Груздова-Аборак Радашковіцкага дэканату ўваходзілі маёнткі Палачаны і Блудаў, вёскі Сечкі, Капачы, Аборак, Балава, Станькава, Кабылкі, Лапінцы, а таксама засценкі Чарапы і Слабодка. І хоць паселішчаў пералічана быццам бы нямала, тэрыторыя парафіі была невялікая – усяго 1 міля ўздоўж і 1 міля ўпоперак. Невялікая па колькасці была і сама парафія – каля 300 парафіянаў.

*«Касцёлік невялічкі, але светлы, унутры размаляваны алейнымі фарбамі, робіць мілае ўражанне».*

Але, калі пасля паўстання 1863г. былі зачынены касцёлы ў Гарадзілаве, Валожыне, Маладзечне, Маркаве, Хожаве, Хоўхлаве, дзейным застаўся толькі касцёл у Аборку. У той час

Выява касцёльнага комплексу ў Аборку на гравюры 2–й паловы XIX ст.





Герб роду Дадэркаў на аборкаўскай капліцы–пахавальні.

*Радавая пахавальня Дадэркаў уяўляла сабой падземны склеп, асветлены 2 вокнамі і разлічаны на 10 пахаванняў. Узгорак з камянёў над склепамі завяршала гранітная круглая калона з крыжам, родавым гербам і імёнамі пахаваных на кубападобнай аснове. Дадэркі сталі ўладальнікамі Аборка ў 1794г., з гэтага ж роду паходзіў і першы біскуп Мінскай дыяцэзіі Якуб Дадэрка.*

аборкаўская парафія ўваходзіла ў Вішнеўскі дэканат Ашмянскага павета. Колькасць яе парафіянаў з-за закрыцця суседніх парафіяў рэзка ўзрасла і на канец XIX ст. дасягнула 3500 чалавек. Дзейнічалі і прыпісаныя да парафіі капліцы ў Хоўхлаве, Чарнёве і на мясцовых аборкаўскіх могілках.

Да гэтага часу «вялікія круглыя капулы» над капліцамі былі замененыя на 3-ярусныя, амаль дэкаратыўныя, нават без аконных праёмаў чацверыковыя вежы. Званіца стала 2-яруснай, складзенай з брусу, але стаяла на ранейшым месцы. Тады ж, у XIX ст., тэрыторыю касцёла абнеслі бутавай агароджай з 3-пралётнай уваходнай брамай у стылі класіцызму (з чырвонай цэглы і бутавым аздабленнем). За апсідай касцёла над склепамі роду Дадэркаў у 1880-я гг. быў узведзены каменны «грабовец».

На пачатку XX ст. касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і св.Роха (тытул Найсвяцейшай Тройцы з XIX ст. не ўжываўся), а дакладней, завяршэнні ягоных капліцаў ізноў перабудоўваюцца. Замест груваcткіх вежаў, якія не падымаліся вышэй за канёк даху, высока над святыняй узнеслі крыжы востраканцовыя спічакі з люкарнамі на кожным з 4-х кантаў. Ды і самі вежы, хоць і сталі 2-яруснымі, тым не менш набылі стромкія велічныя прапорцыі. Ніжні іх ярус быў аддадзены пад званіцу, але пад вежамі па-ранейшаму знаходзіліся капліцы св.Роха і св.Тадэвуша. Над старой званіцай верхні ярус разабралі, а астатні аб'ём прыстасавалі пад склад.

У 1919-1939 гг. навакольныя парафіі – Маладзечна, Хожава, Хоўхлава – былі адноўленыя, нават з'явіліся новыя (Гарадок), і колькасць груздова-аборкаўскіх парафіянаў, цяпер у Маладзечанскім дэканаце Вілейскага павета, знізілася да 900 чалавек. Капліцы былі адпісаныя да іх гістарычных парафіяў.

Пасля вайны касцёл у Аборку быў прыстасаваны пад склад. Аб'яўлены помнікам архітэктуры, ён тым не менш ператварыўся ў руіны. Сёння ад касцёла яшчэ захоўваюцца сцены капліцы св.Роха, руіны магільнага склепу Дадэркаў. Захаваліся фрагменты бутавай агароджы, паўразбураная брама і падобная да яе брама на старых могілках, дзе яшчэ ёсць некалькі цікавых шляхецкіх надмагілляў XIX ст.



## Беніца

Рыма-каталіцкая парафія ў Беніцы згадваецца ужо ў 1669г. На яе аснове ў 1701г. быў сфармаваны велічны комплекс кляштара бернардынцаў, які фундаваў кашталян трокскі, падскарбі ВКЛ Міхал Казімір Коцел, род якога валодаў Беніцай з 1634г. У 1704г. будаўніцтва касцёла пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы завяршылася, і ён быў перададзены ордэну бернардынцаў, якія па фундацыі таго ж Коцела ўзвялі побач з касцёлам 2-павярховы кляштарны корпус. Комплекс кляштара, пабудаваны ў стылі ранняга барока, быў абнесены каменнай агароджай з вытанчанай 3-аркавай брамай.



*Пераробкі святыні пад царкву, а потым ізноў пад касцёл крыху змянілі яе першапачатковы выгляд. Былі перабудаваныя вежы – 3-ярусныя пад барочнымі купаламі з галоўкамі ў XVIII ст., 2-ярусныя пад пакатымі 4-схільнымі дахамі ў канцы XIX ст. У пачатку XX ст. яны зноў сталі 3-яруснымі, але іх першапачатковы дэкор не быў адноўлены. Змяніўся і дэкор франтона на галоўным фасадзе, як і касцёла ў цэлым.*

Фота канца XIX ст.




Троіцкі касцёл уяўляе сабой аднанававую крыжова-купальную пабудову з 2-вежавым фасадам і падоўжаным прэзбітэрыем з 5-граннай апсідай. Аб'ём перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над сяродкрыжжам – дамінанта комплексу – 8-гранны барабан пад паўсферычным купалам, завершаны невялікім гранёным ліхтаром. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі алтары ў стылі ракако, пры галоўным алтары вісеў партрэт фундатара святыні. Тут жа знаходзіліся 3 надмагіллі роду Коцелаў, сямейныя склепы, а таксама пахаванні апошніх уладальнікаў Беніцы – Швыкоўскіх. Брацкі корпус кляштара размяшчаўся налева ад касцёла, утвараючы ўнутраны дворык. Корпус быў таксама цагляным і атынкаваным, меў прамавугольны перыметр з выступаючымі ў бок ад касцёла рызалітамі. На працягу XVIII – пачатку XIXст. пры кляштары дзейнічала школа. Распараджэннем ад 8 снежня 1799г. пры Троіцкім касцёле была заснаваная і самастойная парафія.

Беніцкі кляштар бернардынцаў – адзін з нямногіх асяродкаў ордэна ў краі, які не зачынілі адразу пасля задушэння паўстання 1831г. Кляштар ліквідавалі толькі ў 1851г., а касцёл дзейнічаў як парафіяльны да 1864г. Пасля паўстання К.Каліноўскага быў зачынены і ён. У 1866г. святыню перарабілі ў праваслаўную царкву, а праз 20 гадоў пачалі разбіраць будынак былога кляштарнага корпуса.

У міжваеннае дваццацігоддзе Беніца становіцца цэнтрам гміны Маладзечанскага павета Віленскага ваяводства Польш-

Інтэр'ер Троіцкага касцёла ў 1930-х гг.
Выгляд комплексу ў Беніцы на гравюры 2-й паловы XIX ст.








чы. Троіцкі касцёл з 1919г. зноў адчыняе дзверы мясцовым католікам. Парафія ў Беніцы Маладзечанскага дэканата была адносна невялікая: перад другой сусветнай вайной колькасць яе парафіянаў не перавышала 600 чалавек.

Пасля вайны святыню зачынілі і прыстасавалі пад склад, што хутка ператварыла яе ў руіны. Сёння касцёл Найсвяцейшай Тройцы аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння, і з 1988г. тут вядуцца рэстаўрацыйныя работы.



Згодна з выявай беніцкага кляштара на карце «Бернардынскія кляштары Літоўскай правінцыі» 1750 г., кляштарны корпус прымыкаў да касцёла літарай П, утвараючы ўнутраны дворык-клаўструм. Але, хутчэй за ўсё, стаяў асобна, злучаны з касцёлам галерэямі.

## Гарадзілава

*Усяго ў Гарадзілаўскім касцёле ў XVIII ст. было 4 алтары, разьбяныя, з пазалочанымі і пасярэбранымі дэталямі, у стылі ракако. У першым ярусе галоўнага алтара знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Марыі Панны ў атачэнні фігураў апосталаў Пятра і Паўла, у другім – манстранцыя ў аблоках, промнях, сярод якіх былі тры фігуркі анёлаў. У левым бакавым алтары над абразом Маці Божай Будслаўскай размяшчаўся абраз Збаўцы. У правым – над абразом св. Антонія з Дзіцяткам Езусам – абраз Панны Марыі Беззаганнага Пачацця. І яшчэ адзін алтар існаваў у прыбудаванай капліцы – стукавы, таксама 2-ярусны. У ім над абразом Найсвяцейшай Тройцы знаходзілася выява Провіду Панскага.*

2 лютага 1443г. тут, у сваім маёнтку, маршалак надворны Якуб Раловіч падпісаў фундуш парафіяльнага касцёла.

Вайна з Масковіяй (1654-67 гг.) знішчыла старажытны касцёл, але хутка ён адрадзіўся ў выглядзе невялічкай святыні. А ў 1752г. «руплівасцю і коштам кс.Яна Корзуна, плябана Гарадзілаўскага, пад тытулам Божага Цела, Панны Марыі і ўсіх Святых» быў узведзены з дрэва велічны 2-вежавы касцёл. Вежа-сігнатурка вянчала гонтавы дах над прэзбітэрыем, які фланкавалі 2 закрыстыі. Невялікая галоўка завяршала і «бабінец з крухтай». Да бакавога фасада касцёла прыбудавалі каменную, таксама пакрытую гонтай, капліцу са склепамі пад ёй. Асобна ад святыні стаяла 2-ярусная званіца, складзеная з брусу, накрытая гонтавым дахам «з капулкаю». Пры касцёле дзейнічалі парафіяльная школа, шпіталь, фундаваны яшчэ ў 1622г. Аляксандрам Корвінам, вілейскім старостам, а таксама брацтва Провіду Панскага, заснаванае ў 1756г. У гарадзілаўскай парафіі Радашковіцкага дэканата на канец XVIII ст. налічвалася да 700 чалавек.

Касцёл быў зачынены 12 чэрвеня 1866г. падчас рэпрэсіяў пасля задушэння паўстання 1863г. Праз два дзесяцігоддзі на гэтым месцы засталіся толькі руіны каменнай капліцы, але пазней парафія адрадзілася. У 1923г. на сродкі парафіянаў і польскіх вайскоўцаў быў узведзены невялікі касцёл, асвечаны пад тытулам св.Ганны.

У 1950-я гг. пастановаю калгасных уладаў касцёл зачынілі і разабралі.

## Гарадок





Агульны выгляд і галоўны алтар касцёла. Фота 1930-х гг. Рэканструкцыя плана святыні.




Гісторыя гэтай парафіі непрацяглая. У 1930г. тут, у мястэчку Гарадок, быў упершыню ўзведзены касцёл пад тытулам св.Яна Хрысціцеля. Драўляная святыня ўяўляла сабой выцягнуты прамавугольны аб'ём з 5-граннай апсідай, пры якой былі 2 закрыстыі, і грувасткай 3-яруснай вежай-званіцай над уваходам у святыню. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожваў 3-частквы алтар у стылі неабарока, цэнтральную нішу якога займала фігура Пана Езуса, левую – св.Францішка пад манаграмай Марыі Панны, а правую – св.Антонія з Дзіцяткам пад манаграмай Езуса. Цэнтр алтарнай кампазіцыі завяршала разьбярная выява Гостыі ў промнях.

У першыя гады існавання гарадоцкай парафіі яе абслугоўвалі пробашчы касцёла ў Хоўхлаве. Сюды ж ад Хоўхлава была адпісаная капліца ў Чарнёве. Перад другой сусветнай вайной у парафіі касцёла св.Яна Хрысціцеля налічвалася больш за 1200 вернікаў.

Падчас вайны святыня была знішчаная. Сёння на гэтым месцы яшчэ можна адшукаць падмуркі касцёла, па якіх і выконвалася рэканструкцыя плана. Захавалася і некалькі надмагільных помнікаў шляхты і ксяндзоў. Нядаўна тут устанавілі высокі драўляны крыж.

## Дубрава



*Касцёл Унебаўзяцця быў «каменны, пабелены звонку і ўнутры, са шчытом на пярэднім фасадзе, пакрыты гонтаю, даўжынёю сцэнаў 48,5 аршынаў, шырынёю 33,5, вышынёю 22 аршыны (каля 34,5×24×15,5 м). У касцёле – тры алтары. Галоўны алтар каменны, пабелены, з 4 слупамі, уверсе пад столлю – фігура Збаўцы на Крыжы, адзін абраз – Найсвяцейшай Маці Божай Шкаплернай, другі – Чанстахоўскай (у пасрэбранай раме). З правага боку – алтар Найсвяцейшай Маці Божай Ружанцовай у пазалочанай раме з вызалачанай каронай, з дзвюма ступенямі. З левага боку – алтар св. Станіслава, біскупа і мучаніка, абраз яго ў драўлянай пазалочанай раме, з дзвюма ступенямі. Тут таксама і абразы св. Антонія Падуанскага і Міхала Арханёла. Амбона драўляная». Над нартэксам на хорах быў устаноўлены арган «з 9 галасамі з бубнам і зоркай». Касцёл быў пакрыты дахоўкай.*

Сучасны стан касцёла.

Абмерны план дубраўскага касцёла 1867 года.

Паводле падання, касцёл у Дубраве быў фундаваны Глябовічамі ў 1453г. Па гістарычных звестках касцёл заснаваны ў пач. XVI ст. па фундацыі Яна Радзівіла (+1522г.), кашталяна трокскага, маршалка літоўскага. Па іншых крыніцах – у 1553г.

Новы касцёл на гэтым месцы ўзвёў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, які ў 1576г. надзяліў святыню і новым фундушам. У 1670г. сур'ёзна пашкоджаны ў часе вайны 1654-1667гг. касцёл на свае сродкі адрэстаўравала Марцыбяліна Глябовіч, але разбураная вайной парафія не магла існаваць самастойна, і касцёл перайшоў у ранг філіяльных пры краснасельскай парафіі.

У сярэдзіне XVIII ст. касцёл на свае сродкі аднавіў Матэвуш Марцінкевіч, і 27 мая 1770г. святыня была асвечаная пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і святых апекуноў Мацвея Апостала і Станіслава Біскупа. «Драўляны, у выглядзе крыжа пабудаваны», касцёл завяршаўся купалам па цэнтры і «4 вежамі – адной маленькай над вялікім алтаром і трыма над бабінцам меншымі». Інтэр'ер святыні ўпрыгожвалі 7 алтароў. Пры





касцёле была адчынена школа для шляхты і мяшчанаў.

У 1787г. касцёл, які заставаўся ў статусе філіі пры краснянскай парафіі, згарэў. З таго часу ролю святыні ў мястэчку выконвала «шопа з брусу, з крыжамі над крухтай і прэзбітэрыем», з закрыстыяй. У алтары часовага касцёла быў змешчаны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны з Дзіцяткам на руках.

З 1791г. у мястэчка Дубрава з'явіўся новы ўладальнік – Адам Хмара, «тайны саветнік і ваявода мінскі, розных польскіх і расійскіх ардэноў кавалер». Ён і заснаваў 4 студзеня 1796г. новы касцёл, цяпер ужо каменны, пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Так на пагорку, што дамінуе над мястэчкам, узвысіўся касцёл у стылі класіцызму. Адначасова вярнуўся і статус самастойнай парафіі. 3 чэрвеня 1805г. касцёл быў асвечаны. У тым жа 1805г. пан Адам памёр і быў пахаваны як фундатар ў сутарэннях касцёла. Склепы святыні сталі радавой пахавальняй і для трох пакаленняў ягоных нашчадкаў.

Праз вуліцу перад касцёлам, побач з плябаніяй, пабудавалі шпіталь. Пры касцёле было заснавана брацтва св.Ружанца. У суседніх Навасёлках з'явілася філія, прыпісаная да дубровенскай парафіі.

Пасля падаўлення паўстання 1863г. касцёл у Дубраве зачынілі і ў 1868г. перабудавалі ў праваслаўную царкву. Мясцовыя католікі былі адпісаныя да ракаўскай парафіі.

Як толькі быў падпісаны імператарскі маніфест 1905г. аб свабодзе сумлення, у Дубраве пачалі ўзводзіць драўляную капліцу. За аснову ўзялі будынак, што стаяў за 20 сажняў ад панскага дома Льва Львовіча Ваньковіча. Пасля рэканструкцыі ў ім зрабілі алтар, а над уваходам ўзвялі невялікую вежу са звонам. У такім выглядзе 28 снежня 1906г. капліца ад ракаўскай парафіі была асвечаная.

Але цалкам парафія адрадзілася толькі ў 1919г., калі будынак святыні ў Дубраве вярнулі католікам. У 1926-1929 гг. ён быў рэстаўраваны і зноў набыў выгляд касцёла. Колькасць парафіянаў перад пачаткам 2-й сусветнай вайны перавышала 2000 чалавек. Па-ранейшаму дзейнічала і філія ў Навасёлках.

Пасля вайны касцёл зачынілі, і з часам ён ператварыўся ў руіну.

Не захаваўся і касцёл у в.Навасёлкі, які быў пабудаваны на мясцовых могілках «з дрэва брусаванага, на каменным падмурку», завершаны па цэнтры даха вежай-сігнатуркай. Ён быў асвечаны 8 кастрычніка 1804г. пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. У яго алтары быў змешчаны абраз маці Божай Чанстахоўскай.

Струхлелы касцёльчык разабралі ў 1939г., але новы так і не пабудавалі.



Пры пераробцы пад царкву быў зменены дэкор фасадаў, аконныя праёмы, вежа-званіца завяршылася гранёным шатром з цыбулепадобнай галоўкай, над цэнтрам даху з'явіўся светлавы барабан.

*Прамавугольны ў плане аб'ём касцёла 1805г. быў падзелены 4 парамі калонаў дарычнага ордэру на 3 навы роўнай вышыні пад пляскатай падшыўной атынкаванай столлю. Але над прэзбітэрыем, бакавыя сцены якога мелі скругленую канфігурацыю, перакрыццё было цагляным, крыжовым. За прэзбітэрыем, які фланкавалі 2 закрыстыі, знаходзілася памяшканне з лесвіцай у крыпту, што была зроблена толькі пад алтарнай часткай касцёла. Святыня стаяла фронтам на поўдзень, над фронтам касцёла ўзвышалася аднаярусная вежа-званіца.*



Праект капліцы ў Дубраве. 1906г.

## Краснае






У 1500г., 1 жніўня, у Красным Сяле – мястэчку, цэнтры староства – кароль Аляксандр Ягелон «учыніў пачаткові заклад касцёла». Падчас вайны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай (1654-1667 гг.) гэтая першая драўляная святыня была знішчаная.

У 1695г. на старым месцы пробашч святыні, «плябан красносельскі» Марцін Юшкевіч узвёў новы парафіяльны касцёл пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Драўляны, крыты гонтаю, з 2 закрыстыямі пры прэзбітэрыі, аб'ём касцёла завяршаўся «3 вежачкамі – над прэзбітэрыем і крухтай маленькімі, а пасярэдзіне большай». Усе вежачкі ўвенчвалі «крыжы з промнямі». Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі пяць двух'ярусных, разьбяных з пасрэбранымі і пазало-



*Інтэр'ер касцёла, падзелены 4 калонамі, якія нясуць аркі крыжовых скляпенняў, на тры навы, упрыгожваюць 3 алтары ў неагатычным стылі; галоўны – пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, левы – св. Антонія і правы – св. Казіміра.*

чанымі дэталямі, алтароў. Набажэнствы праходзілі пад гукі аргана на 10 галасоў.

Месца, дзе стаяў касцёл, знаходзілася за тры вярсты ад мястэчка, што пасля і дало яму назву Плябань. Акрамя жылога дома для святароў, пры якім была зробленая капліца з устаноўленай у яе алтары фігурай Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, у касцельны комплекс уваходзілі пабудаваная асобна драўляная званіца «з купалком» і шэраг гаспадарчых пабудоваў. Пры касцёле дзейнічалі шпіталь і брацтва Божага Цела, заснаванае яшчэ ў 1693г. На «парафіяльных могілках за паўвярсты ад плябаніі, на высокім пагорку» стаяў «касцёльчык». Пабудаваны не пазней за 2-ю палову XVIII ст., ён уяўляў сабой невялікі драўляны аб'ём «з бабінцам і званіцай над ім тыпу вежы». Тут жа, на могілках, была і капліца-касцяніца, «каменная, гонтаю крытая». Паўднёвую частку парафіі, у якой на канец XVIII ст. налічвалася да 2000 чалавек, абслугоўваў філіяльны касцёл у Дубраве.

У 1800г. на месцы старой драўлянай святыні, якая на гэты час перастала ўжо існаваць, пад кіраўніцтвам тагачаснага пробашча Казіміра Харэвіча пачынаецца будаўніцтва нова-

Бакавы алтар св. Казіміра.
На правай стар.:
галоўны алтар Унебаўзяцця
Найсвяцейшай Марыі Панны.





*Касцёл пабудаваны з жоўтай цэглы – гэта 3-нававы неагатычны храм з трохграннай апсідай. У цэнтры галоўнага фасада высокая 3-ярусная вежа-званіца, завершаная пінаклямі і востраканцовым спічаком. Над алтарнай часткай – невялікая сігнатурка.*

га каменнага касцёла (гл. в.Плябань). Алтары, амбона, арганы і начынне са старога касцёла пераносяцца ў храм на парафіяльных могілках. Гэтая невялікая святыня і абслугоўвала парафію ажно да сярэдзіны XIX ст., пакуль узводзіўся новы касцёл.

Новы каменны касцёл быў асвечаны толькі ў 1858г. – так доўга працягвалася яго будаўніцтва. Але дзейнічаў храм усяго некалькі гадоў. Пасля падаўлення паўстання 1863г. святыню зачынілі і перабудавалі ў праваслаўную царкву. Перастаў існаваць і «касцёльчык» на могілках.

Каталікі Краснага засталіся без святыні. Яны доўга чакалі свайго часу і адразу ж пасля з'яўлення ў 1905г. маніфеста Мікалая II аб свабодзе сумлення пачалі збіраць сродкі на будаўніцтва новага касцёла пад гістарычным тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. 15 красавіка 1908 г. была асвечаная часовая драўляная капліца, а праз 4 месяцы – 15 жніўня – закладзены каменны касцёл, які ў 1912г. узвысіўся на пагорку ў цэнтры мястэчка. Дата ўзвядзення касцёла ўвекавечаная на трохкутным франтончыку на вежы.

У хуткім часе да каталіцкай супольнасці Краснага вяртаецца касцёл у Плябані, у гэты час ён дзейнічае як філія пры касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. У красносельскай парафіі ў 1939г. налічвалася амаль 2500 парафіянаў.

Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны ў цэнтры Краснага, які дзейнічаў бесперапынна і ў савецкія часы, быў залічаны да помнікаў архітэктуры. Стары ж касцёл у Плябані падзяліў лёс большасці нашых святыняў – быў ператвораны ў руіны. У 1990-я гг. яго ізноў перадалі праваслаўнай супольнасці. На старых каталіцкіх могілках захаваўся паўразбураны фамільны склеп роду Тышынскіх. Пабудаваны ён быў з бетону ў стылі неакласіцызму на пачатку XX ст.

Капліца-пахавальня роду Тышынскіх на старых каталіцкіх могілках у Красным.



## Лебедзева

Першы драўляны касцёл у Лебедзеве – мястэчку Ашмянскага павета ВКЛ – «паставіў 19 ліпеня 1476г. князь Аляксандр Сымонавіч Гальшанскі», тагачасны ўладальнік маёнтка. Барочны касцёл пад трайным тытулам – Найсвяцейшай Тройцы, Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і святых Мікалая, Аляксея і Сафіі – быў узведзены на гэтым жа месцы «пры дапамозе дабрадзеяў кс.Міхалам Капакоўскім, дэканам Ашмянскім, плябанам Лебедзеўскім», у 1740г. «Драўляную, вялікую, крыжападобную, на каменным падмурку, пакрытую гонтаю», з 2 закрыстыямі пры прэзбітэрыі святыню ўвенчвала 5 купалаў з крыжамі на вежах – два на бакавых капліцах, два пры фасадзе і пяты пасярэдзіне. Інтэр'ер велічнага касцёла ўпрыгожвалі пяць 2-ярусных алтароў. Побач з касцёлам стаяла 2-ярусная драўляная, пакрытая гонтаю званіца з 3 званамі. Пры Троіцкай святыні дзейнічалі шпіталь і альтарыя, фундаваная яшчэ 20 красавіка 1681г. Адносна нешматлікую парафію – на канец XVIII ст. каля 600 чалавек – абслугоўвалі таксама капліцы ў маёнтках Лешна і Вярхоўка (палацавая).

Прыгожая святыня згарэла ў 1809г. Адноўленая да сярэдзіны XIX ст., яна была асвечаная пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Напрыканцы XIXст. касцёл займаў край вялікай рынкавай плошчы мястэчка. Гэта была драўляная адназалавая (каля 18х11,4 м) бязвежавая святыня, пабудаваная ў стылізаваных формах неаготыкі. Будынак быў

Выгляд касцёла ў Лебедзеве на пачатку XX ст.







Капліца на парафіяльных могілках у Лебедзеве была пабудаваная ў пачатку XX ст. у неагатычным стылі з жоўтай цэглы. Цікава, што расшытыя швы вонкавай кладкі маюць ружова-малінавы колер, і гэта колер не фарбаў, а раствору.




накрыты гонтавым дахам, над алтарнай часткай – невялікая сігнатурка. Перад касцёлам – высокая 3-ярусная драўляная званіца пад гонтавым 4-схільным шатром. У выніку рэканструкцыі 1898г. над касцёлам з'явіліся дзве 3-ярусныя вежы са званіцай у правай.

На пачатак XX ст. у лебедзеўскай парафіі налічвалася больш за 1700 парафіянаў. Да парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны ў гэты час прыпісваліся капліцы ў Маліноўшчыне, Лешні і на мясцовых парафіяльных могілках на заходняй ускраіне мястэчка.

У 1938г. касцёл у Лебедзеве згарэў, аднавіць яго так і не паспелі – пачалася вайна. Капліца на могілках яшчэ некаторы час дзейнічала, але потым зачынілі і яе, праўда, пры гэтым яна была аб'яўленая помнікам архітэктуры. У 1990г. гэтую невялікую, але вельмі прыгожую святыню вярнулі каталіцкай супольнасці Лебедзева, і пасля рэстаўрацыі яна зноў адчыніла свае дзверы вернікам.

Сёння на плошчы Лебедзева, побач з месцам, дзе калісьці стаяў касцёл, будуецца новая святыня паводле тыпавога праекта «Рэнавабіс» (гл.Крупкі, Узда). Само ж месца, дзе быў касцёл, засталося пустым (гэта побач з будынкам шпіталя). Тут захаваліся надмагільныя помнікі на магілах Цыпрыяна Цывінскага (+1886), уладальніка лебедзеўскага маёнтка, і



Прамавугольная ў плане, з 3-граннай апсідай, завершаная трыма вежамі над уваходным фасадам, капліца на могілках вылучаецца з шэрагу шматлікіх аналагаў вытанчанасцю прапорцыяў і багаццем дэкору. Інтэр'ер (фота 1999г.) перакрыты скляпеннем з плафонам у цэнтры.

кс. Ц.Сянкевіча (+1891), манаха-трынітарыя, былога пробашча касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны ў 1861-1891 гг.

Капліца ў маёнтку Саковічаў Лешна вядомая з 2-й паловы XVIII ст. Драўляны, пакрыты гонтаю «касцёльчык» быў пабудаваны ў заходняй частцы вёскі пры выездзе на Лебедзева. Капліца прываблівала шматлікіх пілігрымаў з-за цудоўнай крыніцы, якая знаходзіцца на поўдзень ад святыні, каля ракі. На дне крыніцы былі бачныя аблічы Пана Езуса і Маці Божай.

Да пагорка, дзе калісьці стаяла капліца, сёння вядзе алея старых дрэваў. Сярод зараснікаў яшчэ можна адшукаць рэшткі падмурку святыні. Затое крыніца ўсё яшчэ б'е з-пад зямлі. Святое месца зноў дагледжанае, у 1990-я гг. тут пастаўлены крыж і навес для правядзення набажэнстваў.



Нядаўна з чырвонай цэглы была пабудаваная цікавая прыдарожная каплічка пры шашы Лебедзева-Маладзечна каля в.Дамашы. Гэта своеасаблівы сімвал экуменізму – у нішах яе граняў устаноўлены і праваслаўныя, і каталіцкія абразы, а ўвенчвае 2-ярусную пабудову грэка-каталіцкі крыж.

Вёска Маліноўшчына перш за ўсё вядомая дзякуючы сваёй цікавай капліцы-пахавальні ў выглядзе піраміды. Яна пабудавана ў 1898г. як фамільны склеп Свентаржэцкіх, якія мелі тут маёнтак з 1827г.

Капліца была ўзведзеная ў паўднёва-заходняй частцы парка. Гэтая цагляная пабудова ўяўляе сабой 4-гранную піраміду. У падземным узроўні размешчаны нішы-пахавальні. Інтэр'ер капліцы – гэта маленькая жалобная зала са стральчатымі праёмамі ўваходу і вокнаў.

У 1980-я гг. капліца была аб'яўленая помнікам архітэктуры. Сёння яна адрэстаўраваная, хоць і не выкарыстоўваецца, бо знаходзіцца на тэрыторыі завода «Крышталь».






Сучасны выгляд і план капліцы ў Маліноўшчыне.



## Маладзечна

На фота – новазбудаваны касцёл св. Юзафа.

*Інтэр'ер касцёла трынітарыяў Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны ў XVIII ст. упрыгожвалі 7 алтароў: 1) у галоўным знаходзілася фігура Езуса Назарэтаніна, прывезеная з Рыма; 2) св. Каэтана; 3) св. Тадэвуша; 4) св. Яна з Маты – заснавальніка ордэна трынітарыяў; 5) Панны Марыі Ларэтанскай; 6) Укрыжаванага Збаўцы; 7) св. Фелікса.*

Каталіцкая парафія ў Маладзечне – адна з найстарэйшых у гэтых мясцінах. Яна згадвалася ў дакументах яшчэ ў 1499г. У той час Маладзечна было адным з 20 найбуйнейшых гарадоў Беларусі, прыватнаўласніцкім маёнткам у Вілейскім ваяводстве з насельніцтвам каля 3000 чалавек.

У 1758г. (па іншых крыніцах у 1738г.) кашталян трокскі Тадэвуш Агінскі і яго жонка Ганна (народжаная Радзівіл), уладальнікі Маладзечна, заснавалі тут парафіяльны касцёл, які 9 верасня таго ж году быў кансэкраваны пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. У 1762г., фундушам ад 13 красавіка, святыня была перададзеная ордэну Найсвяцейшай Тройцы – трынітарыям. Да канца XVIII ст. комплекс кляштара, абнесены каменнай агароджай з брамамі, уключаў: драўляны касцёл, 2-павярховы мураваны кляштарны корпус, 2-ярусную драўляную званіцу, 2 драўляныя флігелі, шпіталь і шэраг гаспадарчых пабудоваў. З 1811г. пры кляштары дзейнічала 5-класная школа пад куратарствам Віленскага універсітэта. Тут выкладалі прафесары з Варшавы і Пецярбургу, сярод выпускнікоў школы быў Тамаш Зан.

«Прыгожай архітэктуры» касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны быў пабудаваны на каменным падмурку, пакрыты гонтай. Уваходны фасад пазначаўся дзвюма вежамі, «капула пасярэдзіне» завяршала крыжова-купальную кампазіцыю святыні, увянчаную «вялікімі залачонымі крыжамі». Будынак кляштара прымыкаў да касцёла так, што закрыстыя і «хор законны» над ёю (2-м узроўнем) знаходзіліся ўжо ў корпусе. Паралельна вул.Замкавай (цяпер вул. Горкага) размяшчалася брацкая частка корпуса з двума рызалітамі. Замыкала кляштарны клаўструм «лінія», у якой над рэфектарам знаходзілася «зала для забаў законнікаў». Корпус ацяпляўся 7 камінамі і быў накрыты гонтаю. На першым паверсе размяшчаліся 5 келляў, на другім – 8 келляў, багатая бібліятэка (994 тамы), гардэроб.

У тагачасным Маладзечне была вядомая яшчэ адна каталіцкая святыня – капліца ў рэзідэнцыі Агінскіх, уладкаванай з XVII ст. у старажытным замку на правым беразе Ушы. Збудаваная з цэглы капліца (каля 11х24 м) была распісаная фрэскамі. Абслугоўвалі капліцы манахі-трынітарыі. Комплекс рэзідэнцыі на замчышчы быў знішчаны ў канцы XVIII ст.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, з 1793г., Маладзечна ўвайшло ў склад Расійскай імперыі. Яно страціла статус горада, стала мястэчкам, цэнтрам воласці Вілейскага павета, да 1840г. Мінскай, а пасля – Віленскай губерні.

У 1823г. касцёл згарэў, аднавіць яго так і не ўдалося. Спачатку часовая святыня дзейнічала ў памяшканні закрыстыі. Пасля перакрыцці паміж закрыстыяй і «хорам законным» разабралі і такім чынам атрымалі аб'ём (каля 14,5 х 7,5 м), асветлены 8 высокімі арачнымі вокнамі, які стаў санктуарыем новага касцёла. З заходняга тарца зрабілі ўваход, пазначаны 3-яруснай чацверыковай вежай-званіцай, завершанай 4 пінаклямі і шатром пад маленькай галоўкай з крыжам. Работы выконваліся пад уплывам класіцызму.

У 1832г. кляштар зачынілі і яго корпус ужо быў цалкам (за выключэннем трох пакояў на 1-м паверсе, аддадзеных пад плябанію касцёла, пераведзенага ў ранг парафіяльных)





Касцёл св. Казіміра.
Фота 1930–х гг. і сучасны выгляд брацкага корпуса былога кляштара трынітарыяў.







перададзены павятоваму дваранскаму вучылішчу. Пасля задушэння паўстання 1863-1864 гг. на базе вучылішча была ўтворана праваслаўная настаўніцкая семінарыя, будынак касцёла перабудавалі ў царкву ў рэтраспектыўна-рускім стылі.

У міжваеннае дваццацігоддзе Маладзечна зноў становіцца горадам і як цэнтр павета Віленскага ваяводства ўваходзіць у склад Польшчы. Адразу ж, у 1919г., там была адноўлена мясцовая рыма-каталіцкая парафія. Будынак касцёла пры былым трынітарскім кляштары вярнулі католікам. Пасля рэстаўрацыі касцёл асвяцілі пад тытулам св.Казіміра. У былым кляштарным корпусе размясцілася гімназія. У маладзечанскай парафіі ў гэты час налічвалася каля

План, прэзбітэрый і капліца Маці Божай Вастрабрамскай новазбудаванага касцёла св. Юзафа.





2000 вернікаў. Побач з касцёлам св.Казіміра з'явілася прыдарожная цагляная каплічка, узведзеная пасярод бульвара на скрыжаванні былых вуліц Замкавай і Афіцэрскай. У тыя ж гады была пабудавана і брама-капліца св.Францішка.

У 20-я гады мінулага стагоддзя ў Маладзечне ўзнікла польская вайсковая парафія св.Францішка Асізскага, якая абслугоўвала, акрамя маладзечанскай, таксама акругі Ашмянаў і Валожына. На тэрыторыі гарнізона пачалося ўзвядзенне касцёла пад тытулам св.Юзафа. Каля 1936 г. былі пастаўленыя бетонныя калоны, выведзеная цагляная паўцыркульная апсіда. Некаторыя канструкцыі часова выканалі з дрэва.

Пасля другой сусветнай вайны, у 1944-60 гг., Маладзечна – цэнтр аднайменнай вобласці. З 1960г. – цэнтр раёна Мінскай вобласці БССР. У 1956г. быў зачынены, а пасля і знішчаны будынак касцёла св.Юзафа (сёння на гэтым месцы знаходзіцца будынак Нарсуда). Знішчылі і касцёл св.Казіміра: будынак, які моцна пацярпеў падчас вайны, разабралі і на яго месцы пабудавалі ліцейны цэх станкабудаўнічага завода (ад святыні часткова захаваліся толькі сцены бакавых фасадаў). Былі знішчаныя і абедзве капліцы. Ад старажытных каталіцкіх святыняў горада застаўся толькі будынак былога кляштара

Агульны выгляд інтэр'ера і капліца Маці Божай. Фігура Езуса выканана мастаком Я.Кадушкевічам.

**Маладзечанскі дэканат**

*Да сярэдзіны 1930-х гг. усе парафіі маладзечанскай акругі ўваходзілі ў склад спачатку Радашковіцкага, а потым Вілейскага дэканата Віленскай архідыяцэзіі. Пазней Маладзечна стала цэнтрам аднайменнага дэканата, які тэрытарыяльна амаль цалкам супадаў з межамі цяперашняга Маладзечанскага р-на, толькі з поўдня ён ахопліваў парафіі Кіявец, Ракаў, Яршэвічы (цяпер у Валожынскі р-не) і на паўночным усходзе Батурына (Вілейскі р-н). Акрамя гэтага, сюды ўваходзілі парафіі Беніца, Гарадзілава, Гарадок, Груздова-Аборак, Дуброва, Краснае, Лебедзева, Плябань, Радашковічы, Хожава і Хоўхлава.*



Брама-капліца св.Францішка, цагляная і атынкаваная, была ўзведзеная над вуліцай (месца, дзе яна стаяла – гэта частка цяперашняй вул.Машэрава перад гарадскім стадыёнам). Яна мела 3-пралётную кампазіцыю. Цэнтральны пралёт брамы перакрываў праезджую частку, бакавыя пралёты – тратуары. Другім узроўнем над брамай размяшчалася капліца св.Францішка, куды вяла лесвіца ў апоры паміж цэнтральным і бакавым пралётамі. Трохчасткавую кампазіцыю брамы фланкавалі каланады са здвоеных калонаў іянічнага ордэра. Дэкор брамы з пілястраў іянічнага ордэра дапаўнялі скульптуры ільвоў і рыцараў з алебардамі. У нядзелі і святочныя дні на плошчы перад капліцай праводзілася Св.Імша. Фотаздымак 1940-х гг.

трынітарыяў (цяпер тут размяшчаюцца завадскія склады). Яго корпус пабудаваны з цэглы, атынкаваны, прамавугольны ў плане, з бакавымі рызалітамі, анфіладнай планіроўкі. Першы паверх перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, перакрыцці другога паверха плоскія, бэлечныя. У такім выглядзе будынак быў аб'яўлены помнікам архітэктуры позняга барока.

У 1990г. маладзечанскія католікі зноў зарэгістравалі сваю парафію і адразу ж пачалі будаўніцтва новай святыні. Месца пад касцёл было абрана не выпадкова – гэта сквер на месцы могілак, якія існавалі пры вайсковым касцёле св.Юзафа. Тут захаваўся нават драўляны будынак былой плябаніі (злева ад уваходу ў новапабудаваную святыню, тут размяшчаюцца майстэрні прамкамбіната). 17 мая 1997г. узведзены па праекце польскага архітэктара Лешака Качара новы 2-вежавы, трохнававы, з прамавугольнай апсідай касцёл пад тытулам св.Юзафа быў урачыста кансэкраваны. Справа ад прэзбітэрыя па фундацыі Галіны Мюлер-Балiньскай, ураджэнкі Маладзечна, якая цяпер жыве ў г.Афенбаху (ФРГ), зроблена капліца Маці Божай.

У 2001г. у Маладзечне пры выездзе на Мінск узведзена 2-ярусная, з чырвонай цэглы прыдарожная капліца.

Вясною 2003г. адрадзілася і парафія св.Казіміра, якою апякуюцца айцы-капуцыны. У гэтым жа годзе, у скверы на перасячэнні праспекта Вялікі Гасцінец і вул.Міра быў асвечаны крыж і пастаўлена часовая палатка на тым месцы, дзе з часам з'явіцца новая каталіцкая святыня. Пакуль жа будуецца капліца па праекце архітэктара А.Яроменкі.

Праект часовай капліцы св.Піо.



## Маркава

Першы парафіяльны касцёл у «крулеўшчызне» (каралеўскай уласнасці) Маркава быў узведзены ў 1638г. па фундацыі караля Рэчы Паспалітай Уладыслава IV. У 1740г. на ягоным месцы на сродкі Яна Хамінскага, кашталяна інфлянцкага, старосты маркаўскага, і ягонай жонкі Барбары быў пабудаваны новы касцёл пад тытулам Міхала Арханёла. Драўляную, пакрытую гонтай, з адной закрыстыяй святыню ўвенчвалі «3 вежы – дзве па баках фасада і трэцяя пасярэдзіне, над прэзбітэрыем – крыжык». Уваход у касцёл, памеры якога складалі 20 аршынаў у даўжыню і 10 аршынаў ушырыню (каля 14 х 7 м), быў пазначаны тамбурам – «крухтай». Інтэр'ер святыні ўпрыгожвалі 3 алтары. У «вялікім алтары, на тры градусы паднятым», змяшчаўся абраз Перамянення Пана. У адным з бакавых 2-ярусных алтароў над абразом Маці Божай Чанстахоўскай знаходзіўся абраз Бога Айца, у другім, над абразом Міхала Арханёла – абраз Пана Езуса.

Побач з касцёлам Міхала Арханёла стаяла 2-ярусная, «з дрэва брусаванага», званіца з 2 званамі, пакрытая гонтаю. Пры касцёле дзейнічаў шпіталь. У маркаўскай парафіі напрыканцы XVIII ст. налічвалася больш за 600 чалавек.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. касцёл св.Міхала Арханёла ў Маркаве зачынілі і парафія больш не адрадзілася.

Не так даўно ў цэнтры Маркава была пастаўленая невялікая драўляная каплічка з датай першых звестак пра мястэчка – 1416 г.



## Палачаны

У гістарычных дакументах самастойная рыма-каталіцкая парафія згадваецца толькі раз – у 1669г. Яе абслугоўвалі, магчыма, як рэзідэнцыю, айцы-дамініканцы. У 1-й палове XVIII ст. касцёл пераходзіць у ранг філіяльных пры парафіі Груздова-Аборак. А ў 1738г. Антоні Сулістроўскі, маршалак Ашмянскага павета, дзедзіч Палачанаў, і ягоная жонка Тэрэза з роду Юдзіцкіх на свае сродкі адрэстаўравалі касцёл і адрадзілі парафію. Але ў 1765г. парафія стала грэка-каталіцкай. Тым не менш у рыма-каталіцкай структуры святыня засталася ў рангу філіяльнай.




У 2-й палове XVIII ст. касцёл у Палачанах уяўляў сабой драўлянае, пакрытае гонтаю збудаванне, якое завяршалася «2 вежачкамі з абодвух бакоў фасада з капуламі і трэцяю капулаю над прэзбітэрыем ды крыжам над фасадам». Уваход у касцёл пазначаўся «ганкам з балясінамі», прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. Інтэр'ер святыні ўпрыгожвалі тры алтары – вялікі алтар з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны з Дзіцяткам на руках і яшчэ «2 бакавыя алтарыкі пры ім».

Да 2-й паловы XIX ст. драўляная святыня ў Палачанах перастала існаваць, на яе месцы была ўзведзена каменная праваслаўная царква. Мясцовыя каталікі з таго часу наведвалі касцёл у суседнім Аборку. Калі ж пры савецкай уладзе быў знішчаны і аборкаўскі касцёл, а царква ў Палачанах ператварылася ў руіны, у вернікаў засталася толькі адна, але таму яшчэ больш дарагая святыня – крыж з ружовага валуна за вёскай, аб'яўлены ў гэты час помнікам гісторыі і культуры.

За 1,5 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі на Лебедзева, знаходзіцца каменны крыж. Сюды яго перанеслі ў 1870-я гг. з урочышча Калінаў Роў, дзе ён стаяў у атачэнні двух дубоў. Вышыня крыжа, высечанага з валуна ружовага колеру, каля 1,2 м. На фасаднай плоскасці ўверсе значацца літары «P» і «S», на папярочнай перакладзіне, і ніжэй – надпіс, які цяжка разабраць. Крыж лічыцца цудадзейным. На свята св.Пятра сюды ішлі пілігрымкі.





Сёння, калі аднавіць касцёл у Аборку ўжо немагчыма, парафія адрадзілася ў саміх Палачанах – супольнасць была зарэгістраваная 25.03.1996г. Вернікам перадалі драўляны будынак у цэнтры вёскі і цяпер ён ужо рэканструяваны і прыстасаваны пад касцёл, асвечаны пад тытулам святога Роха.



## Плябань








Руіны касцёла ў Плябані.
Фота 1980-х гг.
План касцёльнага комплексу.

*Касцёл уяўляў сабою прамавугольны ў плане, бязвежавы, безапсідны будынак пад высокім 2-схільным гонтавым дахам. Па франтоне галоўнага фасада з правага боку да касцёла прыбудаванае аднапавярховае крыло закрыстыі. Архітэктурны стыль пабудовы можна вызначыць як эклектычны сінтэз стылізаваных формаў барока і неаготыкі – цікавыя ў гэтым плане трохкутныя завяршэнні аконных праёмаў. Справа ад касцёла стаяла асобна пабудаваная 2-ярусная званіца.*

Рыма-каталіцкі парафіяльны касцёл на гэтым месцы – за тры вярсты ад мястэчка Краснае Сяло – быў заснаваны яшчэ ў 1500г. (гл. Краснае). Драўляныя святыні змянялі адна адну на працягу стагоддзяў, аднак касцёл і плябанія пры ім так і заставаліся на аддаленні ад паселішча, імем якога называлася парафія. Гэта і прадвызначыла тапонім самога касцёльнага комплексу, а пасля і размешчаных побач жылых дамоў – Плябань.

На гэтым жа месцы ў 1800г. «плябан Краснасельскі канонік Казімір Харэвіч касцёл мураваны заснаваў з закрыстыяй з правага боку». Інтэр'ер святыні ўпрыгожыў алтар з «фігурай Пана Езуса Укрыжаванага». Аднак пабудова каменнага касцёла расцягнулася ажно да 1858г.

Пасля падаўлення паўстання К.Каліноўскага касцёл быў зачынены і перабудаваны ў 1872г. пад праваслаўную царкву. Касцёльны выгляд будынка гэта амаль не змяніла, калі не лічыць невялічкую цыбулепадобную галоўку з праваслаўным крыжам па цэнтры над каньком даху. У 1921-1939гг. святыня ў Плябані вярнулася да каталіцкай супольнасці ў рангу філіі краснасельскай парафіі.

У савецкія часы касцёл у Плябані падзяліў лёс большасці нашых святыняў – быў ператвораны ў руіны, аднак пры гэтым атрымаў статус помніка архітэктуры. У 1996г. будынак перадалі праваслаўным і цяпер ідзе яго рэканструкцыя пад праваслаўную царкву.

## Радашковічы



*У 1569 г. Радашковічы атрымалі статус горада з магдэбургскім правам у Мінскім ваяводстве ВКЛ і да канца XVIII ст. былі цэнтрам дэканата, які ахопліваў тэрыторыю цяперашніх Вілейскага (без паўднёвай часткі), Барысаўскага, Лагойскага, Маладзечанскага раёнаў (за выключэннем парафіі Хоўхлава) і нават парафію Заслаўе Мінскага р-на. Пасля далучэння да Расійскай імперыі Радашковічы страцілі статус цэнтра і з таго часу ўваходзяць у склад Вілейскага дэканата.*

Упершыню Радашковічы згадваюцца ў гістарычных дакументах у 1447г., калі намеснік смаленскі і кашталян віленскі Пётр Сенка Гедыголдавіч (+1451) і ягоная жонка Багуміла фундавалі тут першы драўляны касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы.

У 1734-36 гг. у Радашковічах быў узведзены «руплівасцю





*Касцёл 1860г. уяўляе сабой трохнававую 2-вежавую базыліку з паўцыркульнай апсідай і дзвюма закрыстыямі па яе баках. Дзве 4-ярусныя вежы касцёла і сёння з'яўляюцца галоўнымі дамінантамі пасёлка. Над франтонам, які аддзяляе дах прэзбітэрыя ад 2-схільнага даха асноўнага аб'ёму, узвышаецца невялічкая сігнатурка. Масіўная 3-аркавая брама перад касцёлам з'явілася ў канцы XIX ст.*




Сучасны агульны выгляд і план касцёла ў Радашковічах.

кс.Сымона Мхоўскага, пісара Апостальскага, плябана Радашковіцкага пры дапамозе розных дабрадзеяў» новы касцёл, які ў 1740г. кансэкравалі пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы і Стэфана мучаніка. Гэта была драўляная, крыжова-купальная, пакрытая гонтаю і ашалёваная святыня, над якой узносіліся аж 6 вежаў – купал над сяродкрыжжам, 2 вялікія пры ўваходным фасадзе, 2 меншыя каля купала (магчыма, над крыламі трансепта) і яшчэ адна маленькая (сігнатурка) над прэзбітэрыем. Святыня мела 42 сажані ў даўжыню і 15 у шырыню (каля 80х32 м). Уваход у касцёл быў пазначаны гранёным тамбурам-барбаканам – «крухтай акруглай». Прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. Усяго ў касцёле налічвалася 7 алтароў. Пяць з іх, 2-ярусных і разьбяных, упрыгожвалі аб'ём санктуарыя. Галоўны алтар – Найсвяцейшай Тройцы – уяўляў сабой 6-ка-



Галоўны алтар і інтэр'ер касцёла.



лонную барокавую кампазіцыю з фігурамі апосталаў Пятра і Паўла, Яна і Тадэвуша. Бочныя алтары – Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны і св.Ганны. Асабліва прыгожымі лічыліся алтары ў капліцах (у крылах трансепта паміж вокнамі), упрыгожаныя залатымі і срэбнымі дэталямі – св.Тадэвуша і св.Антонія. Яшчэ 2 алтары знаходзіліся ў капліцах, зробленых «пры дзвярах бабінца» (магчыма, у першым ярусе вежаў пры галоўным фасадзе) – Езуса Назарэтаніна і св.Яна Непамука. Партрэты фундатараў – Пятра і Багумілы Гедыголдавічаў – былі вывешаныя ў прэзбітэрыі каля дзвярэй у закрыстыю. На хорах мясціліся арганы на 10 галасоў. Пад касцёлам былі зробленыя 2 мураваныя склепы. Купал і сцены касцёла былі распісаныя на біблейскія сюжэты.

Побач з касцёлам стаяла драўляная званіца. Пры касцёле Найсвяцейшай Тройцы дзейнічалі школа і шпіталь, былі за-

снаваныя тры брацтвы – св.Ганны з 1703г., Найсвяцейшай Тройцы з 1738г. і Імя Найсвяцейшай Марыі Панны з 1750г. Радашковіцкую парафію, у якой на канец XVIII ст. налічвалася больш за 2300 чалавек, абслугоўвалі таксама дзве капліцы – у Новым Двары (сёння Рагоўскі с/с Мінскага р-на) і ў Сычавічах, якая была пабудаваная ў апошнія 15 гадоў XVIIIст. «асобна ад панскага дома, пры гасцінцы, па тыпу касцёла». Драўляная святыня з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны ў алтары дзейнічала да сярэдзіны XIXст.

Велічны барочны касцёл згарэў у пажары, і ў 1855г. «на сродкі парафіянаў, ахвяраванні памешчыкаў Валадковічаў і руплівасцю пробашча і дэкана кс.Пятра Жылінскага» ў Радашковічах быў закладзены каменны касцёл у стылі позняга класіцызму. У 1859г. будаўніцтва завяршылася, і 3 верасня 1860г. касцёл кансэкравалі пад гістарычным тытулам Найсвяцейшай Тройцы. Менавіта ў гэтым касцёле быў ахрышчаны Янка Купала.

У сярэдзіне XIX ст. на старажытных радашковіцкіх могілках, на месцы драўлянай, была ўзведзеная каменная капліца пад тытулам св. Яна Непамука. Акрамя яе, у канцы XIX ст. парафію касцёла Найсвяцейшай Тройцы абслугоўвалі філія ў в.Будзькі (цяпер Вілейскі р-н), а таксама капліца ў в.Крамянец (цяпер Лагойскі р-н). Да 1864г. да радашковіцкай парафіі прыпісваўся таксама філіяльны касцёл у в.Батурына (цяпер Вілейскі р-н) з капліцамі ў Лукаўцы і Карповічах. Колькасць парафіянаў перавышала 2600 чалавек.

Пасля другой сусветнай вайны Радашковічы былі пераведзены ў статус пасёлка. Касцёл, зачынены ў 1946г., прыстасавалі пад цэх завода «Беларуская кераміка». З цягам часу будынак дайшоў да аварыйнага стану, аднак пры гэтым быў аб'яўлены помнікам архітэктуры. Капліца ж і ўвогуле ператварылася ў руіны.

У 1990 г. будынак касцёла вярнулі каталікам. Святыня была адрэстаўраваная, у галоўным алтары зноў быў змешчаны абраз Найсвяцейшай Тройцы, левы бочны алтар асвечаны ў гонар Маці Божай Чанстахоўскай, правы – у гонар Божай Міласэрнасці.

*Капліца-пахавальня пад тытулам св. Яна на радашковіцкіх могілках пабудавана з бутавага каменя і ўяўляе сабой квадратны у плане аб'ём без вокан. У 1920-я гг. да няго быў прыбудаваны з цэглы і атынкаваны тамбур у стылі мадэрн. Вакол капліцы і сёння можна бачыць прыгожыя старажытныя надмагіллі Будрэвічаў, Ванькавічаў, Валадковічаў.*





## Раёўка




У 1935г. на мясцовых каталіцкіх могілках была ўзведзеная драўляная капліца ў стылі эклектыкі таго часу, выдатных прапорцый. Дата пабудовы выбіта на фундаменце, справа ад увахода. Капліца была асвечана пад тытулам Беззаганнага Пачацця і прыпісана да парафіі з цэнтрам у мястэчку Ілля (цяпер Вілейскі р-н).



Пры савецкай уладзе капліца была абʻяўлена помнікам архітэктуры як узор народнага драўлянага дойлідства, але пры гэтым зачыненая для вернікаў і пакінутая разбурацца. Некалькі гадоў таму святыня, а дакладней, тое, што ад яе яшчэ захоўвалася, згарэла. Па ацалелым бетонным фундаменце сёння магчыма зрабіць рэканструкцыю плана капліцы.

У 2001г. капліца адноўлена на старым фундаменце (праект рэстаўрацыі архітэктара А.Яроменкі).



План капліцы.

Фота капліцы 1970-х гг.

Сучасны выгляд святыні.

*Капліца ўяўляе сабой прамавугольны ў плане абʻём з 5-граннай апсідай, пад 2-скатным дахам, над якім узвышаецца 3-ярусная вежа-званіца, пакрытая 4-скатным высокім шатром. Раней інтэрʻер быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем.*



## Хоўхлава

Парафіяльны касцёл пад тытулам Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Хоўхлаве фундаваны князем літоўскім Міхалам, сынам Жыгімонта Кейстутавіча, пляменнікам Вітаўта ў 1437г. У 1630г. фундуш пацвердзіў кароль Жыгімонт III. Будынак касцёла, які захаваўся да нашых дзён, драўляны, у стылі барока, быў узведзены ў 1738г. у заходняй частцы мястэчка на ўзвышшы.

Драўляная 2-ярусная званіца стаяла асобна ад святыні. Пры касцёле дзейнічалі шпіталь, брацтва Імя Марыі, заснаванае ў 1749г., і брацтва Найсвяцейшай Тройцы. Да хоўхлаўскай парафіі, якая ўваходзіла ў склад Мінскага дэканата, прыпісваліся капліцы ў Вяларучы (Валожынскі р-н) і Чарнёве. Колькасць парафіянаў напрыканцы XVIII ст. перавышала 1000 чалавек.

У 1846-47 гг. мясцовы пан Вікенці Язвінскі збудаваў за касцёлам каменную капліцу. Хутчэй за усё, у той жа час, у сярэдзіне XIX ст., пасля рэканструкцыі набыў рысы класіцызму і будынак касцёла.

Пасля падаўлення паўстання К.Каліноўскага, у 1866г., касцёл зачынілі і перарабілі пад праваслаўную царкву. Некаторыя рэчы з




*Прамавугольны ў плане аб'ём касцёла з падоўжаным прэзбітэрыем пастаўлены на бутавы падмурак, пакрыты 2-схільным гонтавым дахам з вальмамі над 5-граннай апсідай. Франтон з заломамі на галоўным фасадзе фланкаваны 2 вежамі. Закрыстыя прыбудаваная да левага боку прэзбітэрыя. Зальны інтэр'ер касцёла перакрыты каробчатым скляпеннем. Лесвіца з левай вежы пры нартэксе вядзе на хоры, сярэдняя частка агароджы якіх крывалінейна выдаецца ў інтэр'ер. У свой час на хорах былі ўстаноўленыя арганы на 10 галасоў. Пад касцёлам меліся «2 склепы – адзін калятарскі, другі парафіяльны». 4-калонны порцік у стылі «народнага класіцызму» на галоўным фасадзе быў прыбудаваны пазней, у XIX ст.*

*Інтэр'ер святыні ў XVIII ст. упрыгожвалі 3 алтары. У 1-м ярусе галоўнага алтара вялікі абраз Найсвяцейшай Тройцы і цудадзейны абраз Маці Божай з Дзіцяткам атачалі 6 калонаў, паміж якіх стаялі фігуры 4-х евангелістаў. На 2-м узроўні «пры дзвюх калонах» была ўстаноўленая манаграма Імя Марыі на фоне круглага акна. Справа ад галоўнага знаходзіўся бочны алтар, у якім абраз Пана Езуса ў атачэнні 4 калонаў увенчвала «выява св. Тадэвуша ў промнях». У левым бочным алтары, ідэнтычным праваму, над абразом св. Антонія знаходзіўся абраз св. Ганны.*



убрання і касцёльны архіў перадалі ў аборкаўскую парафію. Засталася дзейнічаць толькі капліца.

У 1919г. будынак касцёла быў вернуты католікам і пасля рэстаўрацыі асвечаны пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Акрамя капліцы ў Чарнёве, да хоўхлаўскай парафіі прыпісваўся ў гэты час і філіяльны касцёл у Яршэвічах (цяпер Валожынскі р-н). Колькасць парафіянаў перад другой сусветнай вайной дасягала 2300 чалавек.

Пасля вайны касцёл быў зноў зачынены, на гэты раз ён

Касцёл у Хоўхлаве да і пасля рэстаўрацыі.





стаў калгасным складам. Тым не менш разбураны касцёльны комплекс у в.Холхлава быў аб'яўлены помнікам архітэктуры. Цудадзейны абраз Маці Божай з Дзіцяткам з 1963г. знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі.

У 1990-я гг. паўразбураны комплекс касцёла Імя Найсвяцейшай Марыі Панны быў вернуты каталіцкай супольнасці Хоўхлава і сёння, адрэстаўраваны, адчыніў дзверы для штодзённых набажэнстваў. У галоўным алтары ўстаноўленая копія цудоўнага абраза Маці Божай з Дзіцем.

Галоўны алтар касцёла з копіяй цудадзейнага абраза Маці Божай.



Адрэстаўраваны арыгінал абраза Маці Божай з хоўхлаўскага касцёла знаходзіцца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.
Некалі ён быў упрыгожаны срэбнай ды пазалочанай шатай і каронамі з «шляхетнымі каменямі».



Капліца Язвінскіх

*Цаглянае, атынкаванае, квадратнае ў плане, перакрытае цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі над вокнамі, збудаванне капліцы дастаткова строга вытрымана ў стылі позняга класіцызму. Пад капліцай заходзіцца склеп-пахавальня.*



## Хажова

Рэканструкцыя плана касцёла на XVIIIст.




*Інтэр'ер касцёла св.Антонія меў «20 аршынаў у даўжыню і 12 у шырыню» (прыкладна 14×8,5 м). У XVIII ст. святыню ўпрыгожвалі чатыры 2-ярусныя алтары: «Вялікі алтар, на оптыцы маляваны» з абразом Маці Божай Чанстахоўскай і алтары св.Антонія Падуанскага, св.Ізыдора і св.Тадэвуша.*

У 1489г. Алёхна Судзімонтавіч, канцлер літоўскі і ўладальнік Хажова, заснаваў тут парафіяльны касцёл пад тытулам св.Антонія Падуанскага. У 1543г. (па іншых крыніцах у 1550г.) па фундушы князя Стэфана Збараўскага на гэтым месцы быў пабудаваны новы храм. Яго змяніў будынак, які ўзвёў у 1622 г. кс.Валенты Завадскі, «плябан Лебедзеўскі». У 1710г. святыня зноў была знішчаная, і толькі ў 1733г. кс.Стэфан Вайноўскі, «дэкан Радашковіцкі, плябан Красносельскі і Хажоўскі, адбудаваў новы касцёл».

У 1746г. касцёл св.Антонія быў значна рэканструяваны і павялічаны ў памерах. Ён уяўляў сабой драўлянае, на каменным падмурку, з 3-граннай апсідай збудаванне, завершанае «пасярэдзіне капулай большай, а па канцах дзвюма капулкамі маленькімі». Закрыстыя была зроблена за галоўным алтаром. Асобна стаяла драўляная, пакрытая гонтаю, званіца, узведзеная «на сродкі Тадэвуша Агінскага, ваяводы Тронскага, пры дапамозе людской, на тры ярусы з купалком наверсе». Пры касцёле дзейнічалі альтарыя, брацтва св.Ізыдора, заснаванае ў 1763г., шпіталь і школа пад апекаю манахаў-трынітарыяў з Маладзечна. У XVIII ст. хажоўская парафія была самай шматлікай у Радашковіцкім дэканаце – амаль 5000 чалавек. Да яе прыпісваліся 2 капліцы – палацавая ў Маладзечне і ў Забеліне.

Пасля падаўлення паўстання 1863г. касцёл зачынілі, частку ўбрання і архіў перавезлі ў аборкаўскую парафію. У 1869г. будынак касцёла перабудавалі ў праваслаўную царкву. Толькі пасля маніфеста 1905г. памешчыкам Чалхоўскім, уладальнікам Хажова, было дазволена зрабіць тут капліцу. Яе асвяцілі пад гістарычным тытулам – у гонар св.Антонія.

У 1918г. будынак святыні быў вернуты католікам і дзейнічаў як касцёл да другой сусветнай вайны. Пасля вайны тут зрабілі склад, а ў 1956г. будынак увогуле разабралі. Захаваліся падмуркі касцёла (па якіх зроблена рэканструкцыя плана), сёння на гэтым месцы ўстаноўлены і асвечаны высокі драўляны крыж.

Не захавалася і капліца ў в.Забелін, былым маёнтку магнатаў Тышкевічаў. Яшчэ ў XIXст. яна згадваецца, аднак пасля часовай ліквідацыі хажоўскай парафіі ў 1863г. у архіўных дакументах больш не ўспамінаецца.

# Мінскі дэканат

## Барысаўскі раён




Сялец

Дзядзілавічы

Мсціж

Халопенічы

Зембін

Кішчына Слабада

Крычына

Любатоўшчына

Ратуцічы

Баяры

Барысаў

Забашэвічы

Святое

Навішчына

 Касцёл

 Філіяльны касцёл

 Капліца

Барысаў цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня не дзейнічае

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася

## Барысаў

Першы каталіцкі касцёл у Барысаве быў узведзены па фундушы Адама Казаноўскага, старосты барысаўскага, ад 13 верасня 1642г., у цэнтры горада, і асвечаны пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Гэта была драўляная, бязвежавая святыня крыжовай кампазіцыі з купалам у цэнтры, галоўны фасад якой, пазначаны 2-калонным парталам, увенчвала карункавая сігнатурка. У касцёле меліся 3 алтары. Прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. Набажэнствы праходзілі пад гукі арганаў на 8 галасоў.

Драўляны касцёл у Барысаве згарэў пры пажары 1806г., пасля чаго і было вырашана пабудаваць каменную святыню. Урачыстая закладка краевугольнага каменя адбылася 15 жніўня 1806г. Будаўніцтва завяршылася ў 1823г., і святыня была кансэкраваная. Спачатку галоўны фасад будынка ўяўляў сабой франтон з каланадай, але ў 1830г. яго замяніла 4-ярусная вежаваніца. Усе астатняе не змянілася: засталася 3-нававая базыліка ў стылі позняга класіцызму з хорамі над уваходам і магільным склепам пад асноўным аб'ёмам. Месца галоўнага алтара займаў «вялікі алтар у стылі, падобным да ракако», з старога касцёла, цудам ацалелы ў пажары 1806г. У алтары захоўваўся старажытны абраз Маці Божай з Езусам, які благаслаўляе свет. Абраз быў напісаны на дрэве і ўпрыгожаны срэбнай шатай з каронамі.




План касцёла
Унебаўзяцця Найсвяцейшай
Марыі Панны





## Барысаўскі дэканат

*Да канца XVIIIст. барысаўская парафія ўваходзіла ў Віцебскі дэканат Віленскай дыяцэзіі. З 1798 г., з дня ўтварэння Мінскай дыяцэзіі, да 1918 г. Барысаў меў статус цэнтра дэканата. Ягоная тэрыторыя нашмат перавышала сённяшнія межы Барысаўскага раёна – сюды ўваходзілі ўвесь цяперашні Лагойскі р-н з парафіямі ў Гайне, Корані, Аколаве, Амнішаве, Хатаевічах (цяпер в. Акцябр), а таксама ў самім Лагойску; паўднёвая частка Докшыцкага р-на Віцебскай вобласці з парафіямі ў Камяшэўцах, Нябышыне і ў саміх Докшыцах; заходняя частка Крупскага раёна з парафіяй у Халопенічах і, безумоўна, парафіі ў Дзядзілавічах, Зембіне і самім Барысаве.*

Барысаўскі касцёл. Фота пачатку ХХ ст.

Выгляд інтэр'ера барысаўскага касцёла. Фота 1999 г.

Цудатворная фігура Пана Езуса.



У 1900г. драўляны Барысаў зноў амаль цалкам згарэў у пажары. Полымя не пашкадавала і касцёл з ягонымі пабудовамі. Хаця, у параўнанні з навакольным папялішчам, «святыня дзівосным чынам ацалела». Захаваліся ўсе 4 драўляныя алтары: «галоўны – Маці Божай, бакавыя – св.Антонія Падуанскага, св.Казіміра і Езуса Хрыста». Але ўсё ж такі многае давялося аднаўляць, і ў хуткім часе галоўны алтар, які падтрымлівалі 4 калоны, «быў нанова пазалочаны, прыўзняты і ўпрыгожаны разнастайнаю разьбою». На сценах касцёла з'явіліся прыгожыя тэракотавыя стацыі Дарогі Крыжовай. Столь распісалі «сімвалічнымі выявамі Веры, Надзеі, Любові, Крыжа, Ягняці, сонца, зорак, промняў, мітры – рознакаляровымі клеявымі фарбамі вытанчанай работы», нават усе 8 калонаў у касцёле





Выгляд барысаўскага касцёла да рэстаўрацыі (фота 1970–х гг.).



былі распісаныя ілюзорнымі канелюрамі. На хорах устанавілі «новыя, на 11 рэгістраў, арганы». Касцёл быў пакрыты «чарапіцаю чырвонага колеру, атынкаваны і пабелены». З'явілася новая «агароджа, ніжняя частка якой каменная, а верхняя драўляная пры цагляных, атынкаваных і пабеленых слупах». Цалкам адбудавалі плябанію і абодва флігелі.

Вялікую барысаўскую парафію абслугоўвалі некалькі капліцаў. Перш за ўсё – «Кальварыя» – капліца на могілках «за горадам за 4 вярсты», а таксама яшчэ 7 капліцаў у паселішчах: Баяры, Забашэвічы, Кішчына Слабада, Лозіна (цяпер в.Навішчына), Любатоўшчына, Ратуцічы і Святое. Пробашчы касцёла апекавалі дзве школы, парафіяльную і павятовую на 80 вучняў, і шпіталь на 27 ложкаў. На канец XIXст. у барысаўскай парафіі налічвалася больш за 4000 вернікаў.

У 1936 г. касцёл у Барысаве, як і многія святыні краю, зачынілі і прыстасавалі пад склад, а пасля вайны яго перабудавалі пад кінатэатр. Былі знішчаныя ўсе, за выключэннем Навішчыны, парафіяльныя капліцы. У 1988 г. будынак касцё-





Інтэр'ер кальварыйскай капліцы, фота 1950–х гг.

Знешні выгляд капліцы, фота 1950–х гг.

Каменная каплічка XIX ст., якая захавалася на могілках.

ла, на гэты час аб'ўлены помнікам архітэктуры, перадалі вернікам. Адразу ж пачалася ягоная рэстаўрацыя, і ўжо праз год над касцёлам зноў узвысілася вежа, якая стала цяпер 5-ярусная. 14 ліпеня 1990г. аднаўленая святыня была ўрачыста асвечаная пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Да барысаўскай парафіі прыпісаныя таксама капліцы ў Навішчыне і Сівіцы.

З 1990г. у Барысаве дзейнічаюць сёстры эўхарысткі. Абасналіся яны пакуль што ў звычайным доме, але ўсё тут як у сапраўдным кляштары – клаўзура, рэфектар, капліца. Дарэчы, супольнасць эўхарыстак «уласна беларуская», яна была заснавана ў г.Друя (Віцебская вобл.) у 1920-я гг. У Барысаве цяпер знаходзяцца 4 сястры. Таксама ў Барысаве дзейнічае місія ордэну марыянаў.

Аднаўленая сёння і Кальварыя – капліца на каталіцкіх могілках за горадам, за некалькі кіламетраў па шашы на Маскву. Яна была ўзведзеная з дрэва яшчэ ў XVIIIст. у стылі барока. Прастакутная ў плане, з 3-граннай апсідай, святыня мела гонтавы дах і ўвенчвалася вежай з барочным купалкам над уваходам і невялікай сігнатуркай над алтаром. Капліцу з бакоў атачалі 4 каплічкі, у якіх былі фігуры евангелістаў. Акрамя гэтага, на Кальварыі стаялі яшчэ 12 каменных капліцаў са стацыямі Крыжовага Шляху. У алтары самой капліцы была змешчана цудатворная фігура Пана Езуса – драўляная статуя XIXст.

Менавіта тут, у кальварыйскай капліцы, знаходзіўся пасля закрыцця гарадскога касцёла цэнтр барысаўскай парафіі. У 1950-я гг. была знішчаная і капліца, але фігуру Езуса вернікі выратавалі і захавалі. Калі ў 1989г. пачалося аднаўленне барысаўскага касцёла, фігура Пана Езуса была вернутая. Цяпер яна стаіць у паўночнай наве касцёла. А ў хуткім часе пачалося адраджэнне і самой капліцы. Сёння яна цагляная, атынкаваная, але захавала агульныя прапорцыі сваёй драўлянай папярэдніцы. Асвечаная 25 чэрвеня 1995г.

Сучасны выгляд і план капліцы.




## Дзядзілавічы

Гісторыя парафіі ў Дзядзілавічах пачынаецца ў XVIII ст., калі маёнтак перайшоў да заможнага шляхецкага роду Сліжняў і Рафал Сліжань, інстыгатар ВКЛ, у 1798г. узвёў сваім коштам драўляны касцёл, асвечаны ў тым жа годзе пад тытулам Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Святыня ў стылі класіцызму была пабудаваная «ў квадраце з 4 малымі на кутах вежамі, з 8-граннай капулай па цэнтры, пакрыта гонтаю, даўжынёю і шырынёю па 25,5 аршынаў (каля 18x18 м). Уваход у выглядзе ганку на двух каменных слупах». Касцёл выдатна ўпісаўся ў навакольны ландшафт. Ужо за некалькі кіламетраў да ўезду ў вёску над ёю і навакольным лесам велічна ўзвышаўся купал касцёла, замыкаючы шлях да вёскі. Гэтым і было выклікана рашэнне ўзвесці святыню ў выглядзе цэнтрычнай ратонды, бо галоўная дарога ў Дзядзілавічы праходзіла з усходу, а стваральнікі касцёла вырашылі не адхіляцца ад кананічнай арыентацыі алтара на ўсход. Касцёльную тэрыторыю абнеслі бутавай агароджай з брамкай і званіцай, у ніжнім ярусе якой зрабілі каплічку.



*У галоўным алтары касцёла быў абраз Укрыжавання, па баках ад алтара стаялі фігуры свЯна Канта і свАлойзы Ганзагі. У левым алтары абраз Маці Божай Ружанцовай увенчваўся абразом св. Тэклі. У правым алтары над абразом св. Пятра быў абраз св. Рафала Арханёла.*

Інтэр'ер святыні ўпрыгожвалі тры ясеневыя 2-ярусныя алтары. У прэзбітэрыі віселі партрэты фундатараў роду Сліжняў, чатыры пакаленні якіх былі пахаваныя ў крыпце касцёла. На высокіх хорах стаялі арганы на 9 галасоў. Столь у храме была распісаная «al fresco, але без тых кідкіх колераў, якія нярэдка сустрэнеш. Нішто не рэжа вока, усё велічна, з падтрыманнем стылю. Агульны настрой мае характар капуцынскіх святыняў».

Да мясцовай парафіі, дзе ў канцы XIX ст. налічвалася больш за 1200 вернікаў, прыпісвалася філія ў Мсціжы і капліца ў саміх Дзядзілавічах, заснаваная ў 1780г. у панскім двары.

Касцёл быў знішчаны падчас другой сусветнай вайны, пасля раскідалі агароджу і браму. Крыпта касцёла яшчэ ўзвышаецца пляскатым пагоркам на былой касцёльнай тэрыторыі. Пра тое, што тут стаяла святыня, нагадвае толькі высокі бетонны крыж над магілай (магчыма, кагосьці з пробашчаў касцёла) і мармуровае надмагілле Альфрэда Сліжня. На занядбаных каталіцкіх могілках захаваліся падмуркі дзвюх капліцаў-пахавальняў, па якіх можна меркаваць, што гэта былі прамавугольныя ў плане, цагляныя збудаванні XIX ст.



Інтэр'ер і экстэр'ер касцёла. Фота пачатку XXст.

## Зембін



Агульны выгляд і галоўны алтар касцёла ў Зембіне. Фота пачатку ХХст.



*«Костелъ каменный … фронтомъ стоит къ улице. Длиною 52 и шириною 24 аршина. Построенъ в романском стиле, безъ башни, съ изящно отделаннымъ фронтономъ, въ нише … находится фигура Пресвятой Девы Маріи, над нишей выпуклый монограмъ Девы Маріи...».*

*(З інвентара касцёла 1907г.)*

Фундуш на мясцовы касцёл і кляштар дамініканцаў, на той момант рускай правінцыі ордэна, падпісаны 6 студзеня 1640г. Адамам Мацеем Саковічам, падкаморыем ашмянскім і ўладальнікам Зембіна, і ягонай жонкай Марыянай з роду Тышкевічаў. Гэты год лічыцца і датай заснавання зембінскай парафіі, бо касцёл быў і ордэнскім, і парафіяльным.

У XVII-XVIII стст. увесь комплекс кляштара быў драўляным. Касцёл, асвечаны пад трайным тытулам – Спаслання Духа Святога, Найсвяцейшай Марыі Панны і свДамініка – быў невялікі па памерах, над ганкам (крухтай) узвышалася званіца, прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі, дах увенчваўся «круглай вежачкай пасярэдзіне». На хорах знаходзіліся «арганы на 8 галасоў». Нягледзячы на сціплыя габарыты, інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 7 алтароў. Кляштарны корпус быў пабудаваны 1-павярховым, крыжападобным у плане, «у выглядзе палацыка, на адлегласці 24 крокаў ад касцёла», пакрыты гонтавым дахам «влоскай» (г.зн. італьянскай) формы. Брацкіх келляў было 5 і, акрамя рэфектара, тут размяшчаліся дапаможныя памяшканні. У кляштарны комплекс уваходзілі гаспадарчыя пабудовы – свіран, лядоўня, кухня, стайня, адрыны. Пры кляштары дзейнічалі шпіталь, Ружанцовае брацтва, парафіяльная школа, дзе дзеці «навучаліся чытаць, пісаць, лічыць і маральным навукам».

У XVIII ст. Зембін становіцца ўласнасцю Храптовічаў. Новыя ўладальнікі аб'яўляюць паселішча мястэчкам, што ў немалой ступені садзейнічае яго росквіту. А ў 1766г. Літавор Храптовіч падпісвае фундуш на ўзвядзенне каменнага касцёла для кляштара дамініканцаў, аднак фундуш меў сілу толькі разам з тастамэнтам, г.зн. пасля смерці фундатара. Будаўніцтва пачалося ў 1798г. і праз дзесяць гадоў «руплівасцю




Сучасны стан касцёла ў Зембіне.







законнікаў, асабліва а.Вінцэнта Хілінскага», было скончанае. 15 жніўня 1809г. новую святыню кансэкравалі пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Гэта была бязвежавая, 3-нававая, пакрытая гонтаю базыліка з высокім фігурным франтонам над галоўным фасадам. Франтон, завершаны карункавым крыжам, фланкавалі 2 каменныя вазоны. На хоры над нартэксам вяла вузкая лесвіца ў тоўшчы сцяны галоўнага фасада. Прэзбітэрый заканчваўся паўцыркульнай апсідай і быў падзелены каменным алтаром на алтарную частку і хор законны. Драўляная амбона была перанесеная са старога касцёла і заняла месца на левай апоры пры прэзбітэрыі. Дах над алтаром завяршаўся 2-яруснай сігнатуркай. Архітэктурны стыль пабудовы – т.зв. «станіслававаўскі класіцызм» – модны стыль (барока з рысамі класіцызму) у гады праўлення апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

У 1832г. дамініканскі кляштар у Зембіне зачынілі. Касцёл стаў парафіяльным, а манахі-дамініканцы дажывалі тут, дапамагаючы пробашчу ў душпастырскай працы. Плябанію зрабілі ў былым брацкім корпусе. Некаторы час, з 1850г. да 1860-х гг. да зембінскай парафіі (у ёй налічвалася больш за 1500 вернікаў), прыпісвалася драўляная капліца ў Крычыне, якую пазней разабралі.

У 1903г. у будынку касцёла быў праведзены капітальны рамонт. Інтэр'ер распісаў мастак Вебер, вучань знакамітага Выспянскага. Па творах Выспянскага і ягоных вучняў (касцёл францішканцаў у Кракаве, касцёл у Цімкавічах на Капыльшчыне, Чырвоны касцёл у Мінску), можна меркаваць, што і роспіс на сценах зембінскага касцёла быў таксама ўзорам жывапісу стылю мадэрн. Падлогу вымасцілі чорнай і шэрай пліткай у шахматным парадку. Цэнтральнае месца ў галоўным, «у выглядзе ларэта», алтары займаў абраз Хрыста, які нясе крыж, аўтарства Яна Дамеля. Увенчвала алтар фігура Маці Божай у атачэнні двух анёлаў і фігураў святых. З правага боку ад галоўнага алтара былі зробленыя новыя бакавыя драўляныя алтары: Маці Божай Шкаплернай і св. Юзафа, з левага – Укрыжавання Збаўцы і св.Антонія. Касцёльны комплекс разам з парафіяльнымі могілкамі быў абнесены бутавай агароджай.

Касцёл дзейнічаў да 1930-х гг., пасля быў зачынены і з цягам часу ператварыўся ў руіны. У нашыя часы касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння. Але аднавіць былую веліч святыні мясцовай парафіі пакуль што не па сілах.

## Кішчына Слабада







Рэканструкцыя капліцы на пачатку ХХст.

Сучасны выгляд будынка.

«За 15 вёрстаў ад парафіяльнага барысаўскага касцёла на могілках у маёнтку пана Віктара Цюндзевіча, на яго ж сродкі, зноў адчынена капліца пад тытулам св.Ганны. Драўляная, ашаляваная звонку і ў сярэдзіне (...) Алтар з абразом св.Ганны з чатырма калонамі пабелены і пазалочаны па карнізах і па словах «Święty Boże, Święty mocny» і г.д. Капліца пакрытая гонтай, мае два паўкруглых вакны з розна каляровым шклом, у закрыстыі вакно з металічнымі кратамі, ганак з 4-ма прыступкамі, наверсе металічны крыж з разнастайнаю разьбою (...) На драўляных хорах фісгармонія (...) Капліца і могілкі абнесены драўлянаю сасноваю агароджаю. Багаслужэнні ў гэтай капліцы адбываюцца ў дзень св.Ганны 26 ліпеня, у другі або трэці дзень Пасхі, Св.Духа і Божага Нараджэння, а таксама пры пахаванні памерлых і ў іншых выпадках». Гэтак апісана капліца ў 1907г. у «Інвентарным вопісе барысаўскага касцёла». Пабудавана святыня была ў 1811г. і ўяўляла сабой 8-гранны, выцягнуты па падоўжанай восі аб'ём, шатровы дах якога увенчвала невялікая вежачка.

Але ў 1930-я гг. капліцу зачынілі і прыстасавалі пад сховішча гародніны. У 1952г. з будынка знялі вежачку, а ў 1982г. святыню цалкам перабудавалі (у ёй зрабілі ветэрынарную аптэку). Стары дах быў зняты і зменены на 2-скатны, разабрана верхняя частка зруба, прарублены новыя прастакутныя вокны. Інтэр'ер падзелены перагародкамі, хоры разабраныя. Побач з капліцай захаваліся некалькі гранітных надмагілляў роду Цюндзевічаў – Мельхіёра і Камілы, Эміля, Зофіі...

## Навішчына






План, знешні выгляд і інтэр'ер капліцы ў Навішчыне.

Невялікая капліца пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа ў Навішчыне – адзіная святыня на тэрыторыі ўсяго Мінскага дэканата ў ягоных цяперашніх межах, якая дзейнічала бесперапынна ад яе ўзвядзення ў XIX ст.

Капліца была пабудаваная ў засценку Лозіна (старая назва заходняй часткі Навішчыны) на мясцовых могілках у 1814г. і належала барысаўскай парафіі. Святыня ўяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём з 3-граннай апсідай, над уваходам – хоры на двух слупах. Галоўны фасад – 4-калонны порцік – завершаны невялікай вежай-званіцай. Закрыстыя ўтвораная падзелам апсіды папярочнай сценкай. Святыня з'яўляецца характэрным творам народнага драўлянага дойлідства з уплывам класіцызму.



# Мінскі дэканат

## Бярэзінскі раён




Раванічы

Неганічы

Беразіно

Мяжонка

Багушэвічы

Брадзец

Перавоз

Малінаўка

Гежгайлава

Асмалоўка

Барсучына

 Касцёл

 Капліца

Беразіно цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася

## Багушэвічы

*Цэнтрычная кампазіцыя касцёла абапіраецца на масіўныя контрфорсы і завяршаецца 6-граннай вежай пад высокім спічаком. Кампактная ўнутраная прастора перакрытая зорчатым скляпеннем. На хоры з карункавай чыгуннай агароджай вяла вузкая лесвіца. Асабліва прыгожыя былі ўваходныя дзверы ў святыню – стральчаты абрыс, філёнгі, упрыгожаныя складана сплеценымі вензелямі, віньеткамі, разеткамі, галінкамі з лісточкамі. Падлога была выкладзеная паркетам з малюнкам. Пад касцёлам зроблена вялікая крыпта з нішамі для пахаванняў.*





Галоўны фасад касцёла ў Багушэвічах у 1970–я гг.

План касцёла.

Вакно крыпты.




У 1643г. князь Грыгорый Друцкі-Горскі, староста аршанскі, сваім фундушам заснаваў тут касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы. Першая святыня была драўлянай, у яе алтары мясціўся абраз Найсвяцейшай Тройцы. У сярэдзіне XVIIIст. Багушэвічы страцілі статус самастойнай парафіі і касцёл быў прыпісаны да бярэзінскай парафіі ў якасці філіі.

У сярэдзіне XIX ст. уладальнікі маёнтка Свентаржэцкія пабудавалі на старажытным гарадзішчы новы каменны касцёл – 6-гранная ратонда ў неагатычным стылі ўзнесла белыя сцены са стральчатымі праёмамі над маляўнічым пейзажам на беразе Усы.

«За ўдзел Б.Свентаржэцкага ў паўстанні 1863г.» ягоны маёнтак быў канфіскаваны. 5 чэрвеня 1864г. Троіцкі касцёл быў зачынены і да 1875г. перароблены пад праваслаўную царкву.



Пасля рэвалюцыі святыню зачынілі і ўжо ў стане руінаў аб'явілі помнікам архітэктуры. Сёння ў Багушэвічах зноў зарэгістраваная каталіцкая супольнасць, заканчваецца рэстаўрацыя помніка. 15 лістапада 2003г. адбылося ўрачыстае асвячэнне алтара.

## Беразіно



Выгляд касцёла ў пачатку XXст.

*У пачатку XXст. касцёл у Беразіно ўяўляў сабой драўлянае ашаляванае збудаванне «даўжынёй 10 сажняў $^1/_2$ аршына і 5 сажняў $2^3/_4$ аршына шырынёй (каля 21,6 × 12,7 м)», увенчанае «2 вежамі, у адной з якіх малы звон, а ў другой 8 вокан і наверсе жалезны крыж». У архітэктурным вырашэнні касцёла відавочны ўплыў класіцызму. Цікавы прыём пабудовы каланады на бакавых фасадах будынка. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі тры 2-ярусныя алтары. У галоўным алтары знаходзіўся абраз Перамянення Панскага, над ім – старажытны абраз Маці Божай Кармельскай у срэбнай шаце. У правым бакавым алтары над абразом св.Антонія быў абраз Аб'яўлення Пана, у левым, над абразом Укрыжавання – абраз Нараджэння Пана. Закрыстыя размяшчалася справа ад прэзбітэрыя, а злева ад яго мелася «невялічкае памяшканне для выхаду на амбону». Касцёльная тэрыторыя ў 1897г. на сродкі графа Аўгуста Патоцкага была абнесеная «агароджай з цэглы на каменным падмурку». Уваход пазначаўся брамаю, таксама цаглянай, атынкаванай і пабеленай. Справа ад яе стаяла каменная званіца з 3 званамі, убудаваная ў агароджу. Драўляная плябанія размяшчалася на другім баку вуліцы.*

Па загаду караля канцлер ВКЛ Леў Сапега 24 верасня 1641г. заснаваў у Беразіно касцёл пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Да 1644г. будаўніцтва святыні на рынкавай плошчы было завершанае. Драўляны касцёл увенчвалі «2 капулы – над бабінцам і пасярэдзіне», у вежы над уваходам знаходзіліся 3 званы, над нартэксам мясціліся хоры, прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. У інтэр'еры меліся тры 2-ярусныя алтары. У «вялікім алтары з 4 калонамі» над абразом Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны быў абраз Найсвяцейшай Тройцы, у бакавых – над абразом св.Юзафа абраз св.Казіміра і над абразом Пана Езуса каля слупа – абраз св.Антонія.

Да другога падзелу Рэчы Паспалітай бярэзінская парафія ўваходзіла ў склад Бабруйскага дэканата Мінскага ваяводства. Пасля ўтварэння Мінскай дыяцэзіі Беразіно ўвайшло ў Ігуменскі дэканат.

У 1803г. старую святыню замяніў новы касцёл, таксама драўляны, узведзены «выдаткамі памешчыцы графіні Дунін-Вансовіч» і цяпер асвечаны пад тытулам Маці Божай Кармельскай. У 1818г. побач з касцёлам пабудавалі драўляную 2-ярусную званіцу. Праз 20 гадоў графіня Дунін-Вансовіч зноў выдзеліла сродкі на рэканструкцыю касцёла, і ў 1844г. святыня была кансэкраваная. Магчыма, пры гэтым касцёлу быў вернуты гістарычны тытул – Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, але і пад тытулам Маці Божай Кармельскай святыня перыядычна згадваецца ў архіўных дакументах.

Бярэзінская парафія на пачатку XX ст. стала адной з самых шматлікіх – каля 7000 вернікаў. Яна мела філіяльныя касцёлы ў Багушэвічах і Раванічах (цяпер Чэрвеньскі р-н) і шэраг капліцаў у вёсках: Барсучына, Брадзец, Гежгайлаў (в.Аколіца Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл.), Малінаўка





Сучасны агульны выгляд і інтэр'ер часовай капліцы ў Беразіно.

(Чэрвеньскі р-н), Мяжонка (Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл.) і Асмалоўка. Дзейнічала і капліца на могілках у самім Беразіне, пабудаваная з дрэва ў сярэдзіне XIX ст.

У 1914г. касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны згарэў. На гістарычным месцы ён так і не адрадзіўся (сёння гэта паўднёвая частка сквера па вул.Мультана). Пасля пажару вернікі прыстасавалі пад касцёл дом вікарыя (сёння майстэрні школы №2 па вул.Мультана, 8), але ў 1937г. касцёл зачынілі. Потым зачынілі і капліцу на парафіяльных могілках па вул.Мультана, пасля вайны яе руіны разабралі.

У 1992г. парафія ў Беразіно адрадзілася пад тытулам Маці Божай Міласэрнасці. Пакуль што пад касцёл прыстасаваны былы жылы дом, але для пабудовы новай святыні вернікам ужо выдзелены пляц на ўскраіне горада.

# Мінскі дэканат

## Крупскі раён







Касцёл

Капліца

Крупкі цэнтр раёна

Святыня будуецца

Святыня не дзейнічае

Святыня не захавалася

## Бобр



Агульны выгляд касцёла Найсвяцейшай Марыі Панны ў Бабры на пачатку XXст.

Першы касцёл пад тытулам Імя Найсвяцейшай Марыі Панны быў пабудаваны па фундушы ад 5 мая 1760г. за подпісам Ігнацыя Агінскага, маршалка ВКЛ, і ягонай жонкі Алены. Гэта быў драўляны, ашаляваны і крыты гонтай, храм крыжовай кампазіцыі з купалам у цэнтры, памерамі каля 20х16 м. Увенчвалі святыню «капула пасярэдзіне і 4 невялікія вежачкі». Падлога ў касцёле была каменнай, столь – дашчатай. Закрыстыя была адна. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 5 «на оптыцы маляваных» алтароў. У галоўным алтары знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай з Дзіцяткам «з каронамі, у срэбнай шаце з рубінамі і дыяментамі». Левы алтар быў прысвечаны св.Тадэвушу, правы – св.Ганне. У капліцы, зробленай ў левым крыле трансепта, знаходзіўся алтар св.Юзафа, у капліцы правага крыла – алтар Укрыжавання. 2-ярусная званіца знаходзілася «ў куце могілак».

У 1861г. у Бабры быў закладзены новы ўжо каменны касцёл. У 1867г. будаўніцтва было скончана, і 19 сакавіка святыня была асвечана пад гістарычным тытулам. Так на гандлёвай плошчы мястэчка з'явіўся 2-вежавы, адносна невялікі (каля 19 х 10 м) касцёл у стылі неаготыкі, цагляны, атынкаваны і пабелены. Званіца была зробленая ў 2-яруснай вежы справа ад уваходу. Канёк 2-скатнага даха над галоўным

фасадам увенчвала вежа з вялізным крыжам, а над алтаром – сігнатурка. Арган, устаноўлены на хорах, быў перавезены сюды з зачыненага касцёла ў Княжыцах (цяпер у Магілёўскай вобл.). Алтароў у касцёле па-ранейшаму было 5, але іхнія тытулы і кампазіцыі змяніліся. Старажытны, багата ўпрыгожаны абраз Маці Божай знаходзіўся цяпер у 2-ярусным галоўным алтары, завершаным Укрыжаваннем. Левы бакавы алтар у прэзбітэрыі быў асвечаны ў гонар св.Антонія і завершаны ў 2-м ярусы абразом св.Пятра, правы алтар св.Юзафа завершаны абразом св.Паўла. Левы прысценны алтар быў прысвечаны Уваскрэсенню Збаўцы, правы – Найсвяцейшай Марыі Панне.

На пачатак XX ст. у бобрскай парафіі налічвалася больш за 2500 вернікаў. Абслугоўвала парафію і капліца на мясцовых могілках. Гэта было драўлянае 8-граннае збудаванне, выцягнутае па падоўжанай восі і пастаўленае на крыпту-падмурак (каля 5x4 м) з бутавага каменя. У крыпце былі пахаваныя святары бобрскай парафіі. Атынкаваны інтэр'ер упрыгожваў алтар з драўляным Укрыжаваннем. У парафіі дзейнічалі шпіталь і брацтва Сэрца Езуса, заснаванае ў 1788г., парафіяльная школа. Ганарылася парафія і сваёй бібліятэкай.

Касцёл у Бабры дзейнічаў да 1937 г. Будынак быў узарваны падчас другой сусветнай вайны. Сёння на гэтым месцы пабудаваная бібліятэка.

## Крупкі



Праект (фасад і план) касцёльнага комплексу ў Крупках.




Сёння Крупкі – гарадскі пасёлак, цэнтр аднайменнага раёна і ўжо ў наш час, пасля адраджэння Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, тут зарэгістраваная парафія пад тытулам святога Юзафа. Ужо распрацаваны праект новага касцёльнага комплексу (архітэктары – брат Бэла Лані SVD і доктар Карл М. Руф) і пачалася яго рэалізацыя. Па задуме аўтараў архітэктурны ансамбль будзе складацца з касцёла і далучанага да яго, Г-падобнага ў плане, аб'ёма парафіяльнага цэнтра.

Касцёл св.Юзафа будзе ўяўляць собой прамавугольны ў плане безапсідны храм, увенчаны вежай-званіцай над уваходам. Над нартэксам будуць зроблены хоры, інтэр'ер плануецца перакрыць падшыўною каробчатаю драўлянаю столлю. З корпусам касцёл будзе злучацца праз закрыстыю.

У корпусе парафіяльнага цэнтра на 1-м паверсе размесцяцца класы катэхізацыі, сталовая з кухняй, адміністрацыйныя памяшканні. На 2-м паверсе будуць размешчаны пакоі ксяндза.





## Халопенічы

Будаўніцтва касцёла ў мястэчку. Фота 1904г.

Выгляд былога касцёльнага комплексу ў Халопенічах сёння.

План комплексу.

Каля 1640г. у Халопенічах пачынае дзейнічаць місія ордэна кармелітаў «старажытнай абсэрвацыі», і гэтую дату можна лічыць пачаткам гісторыі мясцовай парафіі. І хаця кармеліцкая рэзідэнцыя пасля 1684г. больш не згадваецца, мясцовая парафія працягвала існаваць.

У 1703г., 6 чэрвеня, Марцыян Дамінік Халецкі, староста навасельскі, і ягоная жонка Канстанцыя з роду Сакалоўскіх падпісалі фундуш на заснаванне ў Халопенічах кляштара дамініканцаў Літоўскай правінцыі. У хуткім часе на галоўнай плошчы мястэчка быў узведзены драўляны кляштарны комплекс, які складаўся з касцёла, брацкіх корпусаў, шпіталя для ўбогіх, парафіяльнай школы, капліцы і шэрагу гаспадарчых пабудоваў. Ансамбль быў абнесены каменнай агароджай з брамаю.

Новы касцёл пад тытулам Святога Крыжа пабудаваны ў 1750г., крыжова-купальны, ашаляваны і пакрыты гонтаю, завяршаўся 5 купаламі: 2 вежы – пры ўваходным фасадзе, 2 – над капліцамі і вялікі адкрыты купал над цэнтрам. Інтэр'ер, падзелены 4 калонамі на тры навы, упрыгожвалі 7 алтароў. Вялікі алтар з Укрыжаваннем фланкавалі «непадзельныя ад яго алтары»: справа – св.Яна Непамука, злева – св.Антонія. У капліцы справа мясціліся алтары Маці Божай Ружанцовай, св.Вінцэнта і св.Юзафа, у левай капліцы – св.Дамініка, св.Тадэвуша, св.Пія. Над кафедрай вісеў партрэт фундатара М.Халецкага. На высокіх хорах знаходзіліся арганы на 11 галасоў. «Насупраць касцёла ад вуліцы» стаяла 3-ярусная званіца. Закрыстыя была адна. Да касцёла далучаўся драўляны брацкі корпус на 12 келляў.




Напрыканцы XVIII ст. пачалося ўзвядзенне каменнага 2-павярховага корпуса «ў 2 лініі, перпендыкулярна злучаных. Даўжыня першай лініі 21 сажняў 2 аршыны і 4 вяршкі, другой лініі – 15 сажняў (каля 46 і 32 м адпаведна); шырыня абедзвюх ліній па 5 сажняў і 8 вяршкоў (каля 11 м).» Да 1798г. будаўніцтва было скончана, 1-ы паверх займалі: фурта (вахта),




Малюнак кляштара і вёскі Халопенічы ў 2–й палове XVIIIст.

араторыум, рэфектар з кухняй, гаспадарчыя памяшканні – у адной лініі, у другой – 3 келлі і сход у склепы.

Акрамя дамініканскага кляштара, халопеніцкую парафію, паўторна заснаваную 18 мая 1796г., абслугоўвалі філіяльны касцёл у Рудным Сяле (цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.), а таксама капліцы ў Добрай Вадзе (Чашніцкі р-н), Сяльцы (Барысаўскі р-н) і на могілках у саміх Халопенічах. Была яшчэ і «капліца пры школках... драўляная, з капулкаю» ў комплексе кляштара. Пры кляштары дзейнічала 7-класная гімназія. На пачатку XX ст. у халопеніцкай парафіі налічвалася больш за 1600 вернікаў.

«Найвышэйшым загадам 12 чэрвеня 1832 г.» дамініканскі кляштар і школа пры ім былі зачыненыя. Касцёл быў пераведзены ў ранг парафіяльных. Уначы з 15 на 16 кастрычніка 1844г. драўляная святыня згарэла. Спачатку святыняй служыла зробленая «пры частцы кляштарнага дома» капліца, а ў 1904г. у «лініі кляштара», паралельнай вуліцы, былі разабраныя міжпавярховыя перакрыцці, вокны аб'яднаныя ў высокія «гатычныя», з боку плошчы быў прыбудаваны «франтон з крыжам», у тарцы зрабілі 3-гранную апсіду, аб'ём накрылі новым 2-схільным гонтавым дахам, устанавіўшы над прэзбітэрыем сігнатурку – такім чынам, «руплівасцю парафіянаў, асабліва Дамініка Марэнды», у Халопенічах з'явіўся каменны касцёл. У такім выглядзе касцёл Узвышэння Святога Крыжа быў асвечаны 27 чэрвеня 1905г. У 2-м крыле былога кляштарнага корпуса размясцілася плябанія. Уваход на касцельны ўчастак быў пазначаны з вул.Барысаўскай (цяпер вул.К.Маркса) каменнай брамаю. Астатнія пабудовы комплексу былога кляштара на той час былі ўжо разабраныя.

У 1930-я гг. касцёл у Халопенічах зачынілі і перабудавалі у Дом культуры. Не захавалася ніводная з парафіяльных капліцаў.

# Мінскі дэканат

## Лагойскі раён







 Касцёл

 Філіяльны касцёл

 Капліца

Лагойск цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня будуецца

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася

## Акалова



*У плане касцёл меў выгляд лацінскага крыжа. Франтон галоўнага фасада, з 8-граннай капулай над ім, неслі 4 магутныя калоны «структуры іянічнай». Касцёл быў атынкаваны звонку і пафарбаваны знутры так, што рабіў уражанне каменнага. У нішы галоўнага фасада мясціўся абраз св. Міхала. Будынак меў гонтавы дах, падлога ў касцёле, што незвычайна, была асфальтавай. Інтэр'ер, падзелены 6-ю калонамі на 3 навы, упрыгожвалі 5 алтароў, пры гэтым іх барочныя каланады, фігуры святых, пуцці былі напісаныя на палотнах, замацаваных на сценах. У галоўным алтары змяшчаўся абраз Маці Божай у срэбнай пазалочанай шаце. Правы бакавы алтар меў 2 ярусы – над абразом Міхала Арханёла быў абраз св. Петранэлы. Па тым самым боку, далей ад прэзбітэрыя, знаходзіўся алтар Маці Божай Нястомнай Дапамогі, а налева ад галоўнага – алтар з абразом св. Юзафа, а за ім – алтар св. Ружанца. На хорах стаялі арганы на 12 галасоў і тры мяхі. Фота пачатку XXст.*

Уладальнікі гэтых мясцінаў у XVIIIст. Міхал Валовіч, пісар скарбу ВКЛ, і ягоная жонка Петранэла з роду Свянціцкіх, заснавалі ў Акалове ў 1798г. велічны драўляны касцёл у гонар Міхала Арханёла, кансэкраваны ў 1804г. У былым Барысаўскім дэканаце гэта быў самы вялікі касцёл (63 на 30 локцяў – каля 41х19,5 м) – сучаснікі параўноўвалі яго толькі з мінскай катэдрай.

Драўляны касцёл Міхала Арханёла ў стылі класіцызму стаяў пасярэдзіне мястэчка, апсідай на ўсход, касцёльны участак быў абнесены агароджай з прыроднага каменя. Сучаснікі таксама адзначалі «браму гатычную» пры ўездзе на тэрыторыю плябаніі, якую лічылі «сапраўдным упрыгожаннем Акалова». Колькасць парафіянаў, як і памеры святыні, таксама ўражвала – больш за 5000 чалавек. Парафію, акрамя касцёла, абслугоўвалі таксама філія ў Завішыне і капліцы у Амнішаве (з 1866г.), Жардзяжжы і хатняя капліца ў мясцовым панскім доме Валовічаў. Апошняя была адчынена ў 1783г. і дзейнічала да рэпрэсій 1860-х гг. У парафіі працавалі шпіталь і брацтва Провіду Божага.

Касцёл у Акалове быў знішчаны падчас другой сусветнай вайны, пасля на ягоным фундаменце пабудавалі школу (на сённяшні момант разбураная і яна). Не так даўно ў Акалове зноў зарэгістраваная каталіцкая парафія. Пакуль што вернікі збіраюцца ў будынку былой крамы, якая паступова набывае выгляд святыні. Рыхтуецца праект новага касцёла.



Ад старых святыняў у Акалове захавалася толькі невялікая брама старых парафіяльных могілак, пабудаваная ў 2-й палове XIXст. у стылі неакласіцызму.



## Акцябр

Сучасны выгляд і план капліцы св.Дамініка.



Парафіяльны касцёл у Хатаевічах быў пабудаваны ў 1653г., а ў 1686г. княгіня Барбара Канстанцыя Друцкая-Горская, вайтовіна мінская, заснавала тут кляштар дамініканцаў. Касцёл быў пабудаваны з дрэва і асвечаны пад тытулам св.Барбары. Драўляным быў і комплекс «на 3 лініі», разлічаны на 8 законнікаў. У комплекс кляштара ўваходзілі таксама школа і шэраг гаспадарчых пабудоваў. На могілках была пабудавана драўляная капліца.

У 1725г. быў пабудаваны новы касцёл св.Барбары «выцягнутай структуры» з дзвюма 3-яруснымі вежамі, прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. Інтэр'ер святыні ўпрыгожвалі сем 2-ярусных алтароў. Вялікі алтар сталярнай і сніцарскай работы з абразом Маці Божай Ружанцовай меў 4-калонную структуру. Калоны, паміж якімі стаялі фігуры св.Дамініка і св.Францішка, неслі антаблемент, на якім былі ўстаноўленыя фігуркі анёлаў і абразы св.Гераніма і св.Аўгустына. За бакавым алтаром Укрыжавання стаяў алтар св.Тадэвуша, далей знаходзіўся алтар св.Яцка. З другога боку стаяў алтар св.Дамініка, за ім – алтары св.Антонія і св.Вінцэнта.

Касцёл Святога Духа. Выгляд святыні і інтэр'ер у канцы XIXст. Рэканструкцыя галоўнага фасада на 1-ю палову XIXст.

*Галоўны фасад касцёла ўяўляў сабой 4-калонны порцік з высокім фігурным барочным франтонам, фланкаваны дзвюма «вялікімі вежамі». Выцягнуты па падоўжанай восі аб'ём меў 2-схільны гонтавы дах, над алтарнай часткай узвышалася сігнатурка. У касцёл былі перанесеныя алтары са старой святыні. Пад касцёлам знаходзілася каменная крыпта.*









Выгляд касцёла св.Дамініка і план (рэканструкцыя) пасля перабудовы 1906г.

*Драўляная святыня (48 на 24 аршыны – каля 34 × 17 м) набыла рысы эклектычнай архітэктуры – захаваўся 4-калонны класічны порцік увахода, але франтон стаў трохкутным (па кутах з'явіліся пінаклі з крыжамі). Бакавыя вежы разабралі, і над галоўным фасадам узнеслася высокая вежа з элементамі неаготыкі. Інтэр'ер быў падзелены 6 «драўлянымі слупамі адмысловай работы» на 3 навы, з'явіліся новыя арганы. Былі ўстаноўленыя тры новыя 2-ярусныя алтары – у галоўным над фігурай Маці Божай «даволі значнай велічыні» было Укрыжаванне, у левым алтары над фігурай св.Антонія знаходзіўся абраз св.Ізыдора, у правым, над фігурай св.Дамініка, – абраз св.Юзафа.*




На пачатку XIXст. стары касцёл, які прастаяў больш за стагоддзе, быў прызнаны струхлелым. У 1803г. побач з ім пачалося будаўніцтва новай святыні. З 1809г. набажэнствы праводзіліся ўжо ў новапабудаваным касцёле, які асвяцілі ў імя Святога Духа. Стыль яго пабудовы можна вызначыць як т.зв. «станіславаўскі класіцызм». Налева ад уваходу ў касцёл стаяла драўляная 3-ярусная званіца.

У 1832г. дамініканскі кляштар у Хатаевічах зачынілі, касцёл перайшоў у ранг парафіяльных. 23 жніўня 1884г. зачынілі і касцёл Святога Духа, а зямлю і касцельныя пабудовы перадалі праваслаўнаму духавенству. Была зачынена і капліца на могілках. Будынак самога касцёла патрабаваў рамонту, але новыя гаспадары рэстаўраваць і прыстасоўваць яго пад царкву не сталі, і святыня з часам ператварылася ў руіны.

Парафія з 2440 вернікамі была падзеленая на 2 часткі – адна палова далучаная да Кораня, другая – да Акалова, сумесна з палацавай капліцай св.Юзафа ў сядзібе Тышкевічаў у Плешчаніцах.

У 1906г., пасля прыняцця дэкрэта пра свабоду сумлення, святыня была адноўленая на сродкі графіні Кацярыны Тышкевіч, праўда, пры гэтым зноў змяніўся яе тытул. 30 верасня 1907г. касцёл быў асвечаны пад тытулам св. Дамініка.

У такім выглядзе парафія дзейнічала да 1933г., калі касцёл св.Дамініка быў зачынены і ператвораны ў зернясховішча. Ды і самі Хатаевічы страцілі сваю старажытную назву – паселішча стала называцца Акцябр. У 1943г. касцёл згарэў. Сёння на гэтым месцы, за будынкам калгаснага праўлення, яшчэ можна адшукаць рэшткі бутавых падмуркаў святыні.

У нашыя часы парафія адрадзілася, была адрэстаўраваная старая драўляная капліца на могілках. У 1990г. яе асвяцілі пад гістарычным тытулам – св.Дамініка. Праз некалькі гадоў святыню абклалі чырвонай цэглай. Пры гэтым аб'ём капліцы павялічыўся за кошт тамбура і прыбудаванай з правага боку закрыстыі.

## Амнішава



Выгляд касцёла ў Амнішаве ў канцы XIXст.

Калісьці гэта была самастойная парафія. У 1795г. Юзаф Марцэлій Корсак і яго маці Анэля з роду Байкоўскіх пабудавалі тут касцёл, кансэкраваны 4 чэрвеня 1797г. у гонар Найсвяцейшай Тройцы. Гэта быў адносна невялікі драўляны 2-вежавы касцёл у стылі барока. Званіца, «у адной лініі з фасадам» касцёла, была таксама пабудаваная з дрэва. Касцёльная тэрыторыя была абнесеная агароджай з «палявога каменя». Да амнішаўскай парафіі, якая атрымала статус самастойнай з 1804г., належалі 2 капліцы – у Грэбянях (адпісаная ў 1832г. да Амнішава ад па-візіцкага касцёла ў в.Вілейка, цяпер у Докшыцкім р-не Віцебскай вобл.) і на могілках у самім Амнішаве. Апошняя пад тытулам св.Яна Хрысціцеля была ўзведзеная ў 1816г. і асвечаная ў 1825г. Перад капліцаю стаяла невялікая званіца.

У траўні 1866г. касцёл Найсвяцейшай Тройцы быў зачынены і пасля перабудаваны ў праваслаўную царкву, але касцёльны выгляд святыні пры гэтым захаваўся. Касцёльнае ўбранне адвезлі ў Акалова, грэбянскую капліцу адпісалі кемяшэўскай парафіі (Докшыцкі р-н). У католікаў Амнішава засталася дзейнічаць толькі капліца на могілках. З тых часоў сюды ад акалоўскага касцёла рэгу-



*У сярэдзіне XIXст. касцёл у Амнішаве ўяўляў сабой залавы будынак, «даўжынёй 26 і шырынёй 13 аршынаў (каля 18,5 × 9 м), збудаваны з дрэва на добрым падмурку ў выглядзе доўгім чатырохбаковым з дзвюма вежамі і фацыятаю, дошкамі вакол абшыты». Святыня была накрытая высокім гонтавым дахам, вежы ўвенчваліся дубовымі крыжамі, 5-гранную апсіду фланкавалі 2 закрысты. «Алтароў аптычна фарбаваных карынфскай архітэктуры» было 3, усе яны мелі 2-ярусную кампазіцыю. Галоўны алтар «з 2 калонамі дарычнага парадку», з разьбяным Укрыжаваннем завяршаўся абразом Найсвяцейшай Тройцы, у правым бакавым алтары, над абразом св. Юзафа, знаходзіўся абраз св. Ізыдора, у левым – над абразом Маці Божай Шкаплернай – абраз св.Антонія. Столь у касцёле была распісаная на сюжэты Старога і Новага Запавета.*

*Капліца ў Амнішаве, прамавугольная ў плане з 3-граннай апсідай, драўляная, вертыкальна ашаляваная і пакрытая гонтаю, завяршалася над уваходным фасадам невялічкай чацверыковай вежай пад шатровым купалкам. Інтэр'ер капліцы ўпрыгожвалі 14 стацыяў і 2-ярусны, «на оптыцы маляваны» алтар, у якім над Укрыжаваннем быў змешчаны абраз св. Эразма.*



Сучасны выгляд капліцы на могілках ў Амнішаве. Перад святыняй захаваліся надмагіллі баронаў Фелькежамбаў, апошніх уладальнікаў маёнтка.




лярна праводзіліся Крыжовыя Дарогі. Дзіўна, але амнішаўская святыня, хоць і страціла ў гады савецкай улады званіцу, вежу над уваходам, унутранае ўбранне, хоць і прастаяла зачыненая доўгія дзесяцігоддзі, захавалася да нашых дзён і нават трапіла на старонкі «Збору помнікаў гісторыі і культуры» як помнік народнага драўлянага дойлідства. Будынак былога касцёла не захаваўся, сёння на гэтым месцы пустка.

У нашыя дні хрысціянскае жыццё зноў вярнулася ў Амнішава, зноў у драўлянай капліцы на могілках сталі адпраўляць набажэнствы.

## Гайна



*Касцёл у стылі барока ўяўляў сабой 2-вежавую базыліку памерамі 57 на 28 локцяў (каля 37 × 18 м), інтэр'ер якой падзяляўся на 3 навы чатырма калонамі, якія неслі крыжовыя скляпенні. Хоры, на якіх стаяў 12-рэгістравы арган, абапіраліся на 2 апоры. Прэзбітэрый фланкавалі 2 закрысты, адна з якіх была 2-павярховай. У адрозненне ад многіх іншых касцёлаў краю святыня ў Гайне была крытая дахоўкай. Усе 5 алтароў касцёла былі «маляваныя на оптыцы». Галоўны алтар з абразом Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны кампазіцыйна дапаўнялі бакавыя ў капліцах: справа – Найсвяцейшай Тройцы і злева – Маці Божай Ружанцовай. Яшчэ 2 алтары знаходзіліся пры калонах і былі 2-ярусныя. У адным з іх, левым, над абразом св. Ануфрыя знаходзіўся абраз св. Барбары, у правым, над абразам св. Антонія з Дзіцяткам Езусам на руках, – абраз св. Георгія.*

Агульны выгляд касцёла ў Гайне. Фота канца XIX ст.

Гайнаўская парафія – першая рыма-каталіцкая парафія, заснаваная на тэрыторыі Мінскай вобласці, хаця ў свае часы яна лічылася першай і ў Мінскім павеце і ў Мінскай губерні, тэрыторыі якіх былі значна большыя. Парафія ў Гайне – адна з першых 7 каталіцкіх парафіяў, заснаваных у ВКЛ у 1387г. каралём Уладзіславам Ягайлам. Першая святыня была драўлянаю, пасля драўляныя касцёлы змянялі тут адзін аднаго да 1781г., калі пробашч кс.Міхал Цудзік заклаў новую каменную святыню, кансэкраваную 22 чэрвеня 1788г. пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны.

Касцёльная тэрыторыя была абнесеная бутавай пабеленай агароджай з 3-пралётнай цаглянай брамай, над цэнтральным пралётам якой мясціўся абраз, а па кутах – фігуры святых. Направа ад касцёла стаяў будынак плябаніі і шэраг гаспадарчых пабудоваў – стайня, склеп і інш. У комплекс ува-



Прывілей гайнаўскаму касцёлу караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 1793г.

ходзіў таксама і дом касцёльнага архітэктара. У гайнаўскай парафіі налічвалася амаль 5500 вернікаў. Акрамя парафіяльнага, яе абслугоўвалі філіяльныя касцёлы ў Батурыне (цяпер у Вілейскім р-не) і Заельніку, а таксама капліца на мясцовых могілках. Пры касцёле дзейнічалі парафіяльная школа, шпіталь, у 1737г. было заснаванае брацтва імя Езуса і Маці Божай Ружанцовай.

У 1866г. старэйшая, меўшая амаль 5 стагоддзяў гісторыі, каталіцкая святыняМіншчыны была зачыненая і перароблена пад праваслаўную царкву. Праўда, гэта не вельмі змяніла касцельны выгляд будынка, калі не лічыць замену завяршэнняў барочных купалаў на цыбулепадобныя галоўкі. У католікаў тады засталася толькі капліца на могілках.

У якасці царквы святыня ў Гайне дзейнічала да 1930-х гг., калі была зачыненая і пакінутая пустой. Як і капліца на могілках, яна была разбураная падчас другой сусветнай вайны. Сёння на гэтым месцы толькі выступаюць з зямлі рэшткі падмуркаў некалі велічнай святыні ды стаіць драўляны каталіцкі крыж, асвечаны над руінамі ў 1996г.

Не захавалася і парафіяльная капліца ў былым Заельніку – маёнтку Валіцкіх, што знаходзіўся калісьці на захад ад Лагойска, паміж вёскамі Гарадзішча і Сялец. Тут, «у бярозавым гаі на гары», на могілках, Ігнацы Валіцкі «з дазволу біскупа ад 25 ліпеня 1810г.» узвёў капліцу. Аб'ём са «склюдаванага сасновага дрэва на каменным падмурку ... даўжынёю 12 аршынаў і шырынёю 9 аршынаў (каля 8,5х6,4 м)», быў пакрыты гонтай. Інтэр'ер асвятлялі 3 вакны, пад дашчатай падлогай знаходзіліся «каменныя склепы Валіцкіх», уваход у крыпту быў зроблены за апсідай. Капліца была асвечана «обрадам рымскім» пад тытулам Провіду Панскага. 12 верасня 1868г. капліца была скасавана, з часам на яе месцы была пабудавана праваслаўная цэркаўка. Сёння ад панскага маёнтка нічога не засталося, знік і сам тапонім «Заельнік».

Рэканструкцыя плана капліцы на сярэдзіну XIX ст.



## Ганевічы



Рэшткі падмуркаў касцёла ў Ганевічах.

Інтэр'ер капліцы ў Юркавічах у будынку былой школы.



У XVIII-XIX стст. тут дзейнічаў філіяльны касцёл, які абслугоўваў значную частку коранеўскай парафіі. У наваколлі Ганевічаў былі 11 цалкам каталіцкіх вёсак з агульнай колькасцю насельніцтва 2500 чалавек, а да парафіяльнага касцёла было каля 25 км. Таму ў 1755г. тут быў пабудаваны на сродкі Міхала Сліжня касцёл пад тытулам св.Яна Хрысціцеля. Драўляная святыня на бутавым падмурку (каля 24x13 м) мела гонтавы дах, у яе 2-ярусным, «на оптыцы маляваным», алтары над абразом апекуна знаходзіўся абраз св.Міхала. На хорах стаялі арганы.

У 1930-я гг. касцёл згарэў. Сёння на гэтым месцы яшчэ можна бачыць падмуркі касцёла, захаваліся і рэшткі бутавай панскай капліцы – пахавальні, што некалі стаяла перад святыняю. У 1990-я гг. парафія св.Яна Хрысціцеля адрадзілася, толькі не ў саміх Ганевічах, а ў суседніх Юркавічах. Спачатку вернікі збіраліся для набажэнстваў на старажытных падмурках, але ў 1995г. ім было выдзелена памяшканне ў будынку былой юркавіцкай школы.





## Жардзяжжа

Выгляд святыні ў наш час і на пачатку XX ст.

План капліцы.




На мясцовых могілках, сярод парослых хмызняком і мохам старых магілаў, узвышаецца невялікая 8-гранная ратонда з бутавага каменя з атынкаванымі цаглянымі пілястрамі. Сталярка выбітая, падлога спаленая, склеп у крыпце апаганены і абрабаваны – гэтак выглядае помнік архітэктуры класіцызму – капліца, пабудаваная тут у 1900г.

На фотаздымку пач. XXст. гэтая ж святыня ахайная, дагледжаная. Пілястры, антаблемент, трохкутны франтон над уваходам пабеленыя. Над каменным аб'ёмам капліцы – драўляны, таксама 8-гранны барабан з шатровым гонтавым дахам. Прыгожая па прапорцыях кампазіцыя завяршаецца невялічкай галоўкай з крыжам. Вакол – сцежкі, перад уваходам – лавачка... У той час Жардзяжжа належала шляхцічам Корбутам-Дашкевічам, а капліца абслугоўвала цэнтральную частку вялікай акалоўскай парафіі.

Святыня пачала адраджацца ўжо ў наш час. У 1997г. была зроблена кансервацыя, над капліцаю з'явіўся новы дах з крыжам.

## Завішына



Руіны завішынскага касцёла ў пачатку XX ст.

*Завішынскі касцёл ўяўляў сабой прамавугольны ў плане будынак на каменным падмурку, з 5-граннай апсідай, фланкаванай 2 закрыстыямі. Касцёл, пакрыты гонтай, завяршалі «капулка ад фронту і сігнатурка над вялікім алтаром». Над бабінцам размяшчаліся хоры. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары: галоўны 2-ярусны з абразом св.Антонія ў медзянай шаце і абразом Найсвяцейшай Марыі Панны ўверсе, бакавыя – Пана Езуса і Маці Божай. У 1859г. касцёл быў рэканструяваны ў стылі класіцызму.*

Фальварак Завішына, ці Завішынская Рудня, над рэчкай Дзвіносай атрымаў сваю назву ад прозвішча ўладальнікаў маёнтка – Завішаў. У 1670г. падкаморы Міхал Завіша пабудаваў тут драўляны касцёл, пры якім была заснавана місія францішканцаў. Праз сто гадоў, у 1770г., новыя ўладальнікі фальварка, Валовічы, утварылі новы фундуш. Касцёл был рэкансэкраваны ў 1802г. пад тытулам св.Антонія і атрымаў статус філіяльнага ад акалоўскай парафіі.

Пасля падаўлення паўстання 1863г. касцёл у Завішыне зачынілі і перадалі ў праваслаўнае ведамства. Адзначым, што ў храме быў «пакінуты па просьбе сялянаў абраз св.Антонія са срэбнымі венчыкамі і іншымі ўпрыгожваннямі».

Ужо ў пач. XXст. святыня знаходзілася ў руінным стане і да нашых дзён не захавалася. На яе месцы ў 1997г. быў устаноўлены каталіцкі крыж.

## Корань

У 1575г. тут быў пабудаваны драўляны касцёл, які стаў філіяльным пры парафіі ў Гайне. У 1605г. віленскі капітул, якому належаў маёнтак, заснаваў у Корані самастойную парафію. Падчас вайны 1654-67гг. святыню знішчылі, а на яе месцы ў 1730г. пабудавалі новы драўляны касцёл, асвечаны пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны. Перад касцёлам, пры ўваходзе на ўчастак, стаяла 2-ярусная драўляная званіца. Побач з ёю была невялікая каплічка.



Выгляд касцёла ў Корані на пачатку XX ст.

*Касцёл уяўляў сабой драўляны, на каменным падмурку, «даўжынёю 27 і шырынёю 13 аршынаў (каля 19 × 9 м), звернуты фронтам на поўнач», залавы храм з 5-граннай апсідай, фланкаванай 2 закрыстыямі. Гонтавы, з вальмамі, дах увенчвалі 2-ярусная вежа са званам-сігнатуркай над бабінцам і гранёная вежачка над алтаром. Касцёл быў вертыкальна ашаляваны, да ўваходу ў XIXст. прыбудавалі ў якасці ганку 4-калонны порцік. Інтэр'ер упрыгожвалі тры 2-ярусныя алтары «скульптурнай работы». Галоўны алтар з абразом Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны завяршаўся абразом Найсвяцейшай Тройцы. Пры алтары меліся скульптуры Езуса Назарэтаніна і апосталаў Пятра і Паўла. Правы бакавы алтар св. Тадэвуша завяршаўся абразом св. Антонія Падуанскага, левы з Укрыжаваннем – абразом св. Ігнацыя Лаёлы. На хорах над бабінцам знаходзіліся арганы на 9 галасоў.*



У вялікай і раскіданай коранеўскай парафіі з філіяй у Ганевічах і капліцай у Кацелях на пачатку XXст. налічвалася каля 6700 вернікаў.

Сёння ўсе святыні парафіі знішчаныя. Касцёл згарэў у 1943г. У наш час парафія ў Корані адрадзілася, але вернікі збіраюцца пакуль у прыватным доме.

У 1783г. тут была пабудавана філіяльная капліца, асвечаная пад тытулам св. Міхала Арханёла. Інтэр'ер з алтаром апекуна асвятлялі 6 вялікіх вокан, над уваходам у святыню ўзвышалася «капулка са званам». Закрыстыя была прыбудавана з левага боку, хоры абапіраліся на 2 слупы. Спачатку прыпісаная да Гайнаўскай парафіі, пасля яе скасавання ў 1866г. капліца абслугоўвала заходнюю частку коранеўскай парафіі. У 1834г. капліца была перабудавана. Да нашых дзён не захавалася.

Рэканструкцыя плана капліцы на 1834г.







**Лагойск**

Касцёл у Лагойску на пачатку XXст.

Сучасны выгляд святыні.

У 1609г. Аляксандр Юр'евіч Тышкевіч, унук заснавальніка знакамітага магнацкага роду, прыняў каталіцтва і ў знак пераходу ў лацінскі абрад заснаваў у Лагойску касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і св.Казіміра. Храм пабудавалі на пагорку за ракой Гайнай. Тады гэта была невялікая драўляная святыня, якая згарэла падчас вайны з Масковіяй у 1655г., але, адбудаваная нанова, была яшчэ раз знішчаная ў часы шведскай навалы ў 1706г. У 1709г. драўляны касцёл зноў узвысіўся над Лагойскам. Ён уяўляў сабой залавы, крыжападобны ў плане, 2-вежавы, з дзвюма закрыстыямі аб'ём, пакрыты гонтай. Над франтонам галоўнага фасада ўзвышалася невялікая вежа, падобная да яе была над прэзбітэрыем і яшчэ адна вежа – над сяродкрыжжам касцёла. Столь у святыні была падшыўной па бэльках. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі чатыры 2-ярусныя, «на оптыцы маляваныя», алтары. Побач з будынкам стаяла 2-ярусная драўляная, крытая гонтай званіца. Пры лагойскім касцёле дзейнічалі парафіяльная школа, шпіталь, брацтва Сэрца Езуса, заснаванае ў 1747г.

17 красавіка 1787г. граф Тышкевіч, генерал войскаў літоўскіх, пачаў узвядзенне ў Лагойску новага каменнага кас-

цёла. Завяршыў будаўніцтва ўжо ягоны сын Вікенці, і 20 кастрычніка 1793г. новы касцёл у стылі класіцызму быў асвечаны пад ранейшым тытулам св.Казіміра. Будынак уяўляў сабой залавы, прамавугольны ў плане аб'ём «даўжынёю 31 і шырынёю 16 аршынаў» (каля 22х11,4 м) пад 2-схільным гонтавым дахам з сігнатуркай над прэзбітэрыем, фланкаваным дзвюма 2-павярховымі закрыстыямі. У 1806г. над 4-калонным порцікам галоўнага фасада святыні ўзнеслася высокая вежа з гадзіннікам, перанесеным сюды са скасаванай лагойскай ратушы. Галоўны алтар касцёла быў намаляваны ў тэхніцы ілюзіяністычнага жывапісу, тым не менш плоская сцяна апсіды мела нішу, у якой з 1817г. знаходзілася драўляная фігура Езуса Назарэтаніна ў натуральную велічыню. У 1843г. сюды прывезлі рэліквіі св. Казіміра. Бакавыя алтары, таксама «аптычна маляваныя» – св.Антонія і Беззаганнага Пачацця Марыі Панны – завяршаліся абразамі св.Вікенція і св.Казіміра адпаведна, «у круглых рамах». Яшчэ адзін алтар – велічнае Укрыжаванне – знаходзіўся ў крыпце пад касцёлам, дзе знайшлі спачын многія пакаленні Тышкевічаў.

У 1907г. касцёльная тэрыторыя была абнесеная новай каменнай агароджай з брамаю ў выглядзе цагляных атынкаваных слупоў. Справа ад святыні ў агароджу была ўбудаваная 2-пралётная каменная званіца. На гэты час у лагойскай парафіі налічвалася больш за 5200 вернікаў. Абслугоўвалі яе капліцы ў Емельянаве і Тадуліне (цяпер у Смалявіцкім р-не), а таксама капліца на лагойскіх парафіяльных могілках. Апошняя была пабудаваная ў цэнтры могілак яшчэ ў 1793г. з матэрыялаў разабранага старога драўлянага касцёла. Квадратная ў плане (каля 6,5 на 6,3 м), пакрытая гонтаю і завершаная купалкам са звонам, капліца была асвечаная ў 1795г. Алтар яе быў ілюзорна напісаны на дошках. Існавала яшчэ капліца ў палацы Тышкевічаў «унутры панскага дома», зробленая ў 1814г.

Унізе: касцёл на малюнку Я.Тышкевіча ў XIXст. і інтэр'ер касцёла на фота пачатку XXст.









Касцёл св.Казіміра дзейнічаў да 1950-х гг., але пасля яго зачынілі і з цягам часу разабралі. Знішчылі і капліцу на могілках. У канцы 1980-х гг. на гэтым месцы быў устаноўлены крыж і вернікі пачалі дамагацца дазволу на будаўніцтва новага касцёла. У хуткім часе па праекце мінскага архітэктара М.Калечыца пачалося ўзвядзенне новай святыні. Улетку 1999г. будаўнічыя работы скончыліся, і 19 чэрвеня касцёл быў кансэкраваны пад тытулам св.Казіміра. Гэта прамавугольны ў плане, цагляны і атынкаваны, з невялікім трансептам і 2 закрыстыямі пры прэзбітэрыі, будынак. Налева ад уваходу асіметрычна прыбудаваная вежа-званіца. Інтэр'ер перакрыты каробчатымі скляпеннямі.

Заходнюю частку лагойскай парафіі з пачатку XXст. абслугоўвала драўляная капліца на могілках у в.Харужанцы. У яе алтары знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Марыі Панны. Капліца дзейнічала да канца 1930-х гг.

Касцёл у Лагойску сёння.

Галоўны алтар і план.



## Студзянец






Рэканструкцыя плана і руіны капліцы ў в.Студзянец.

Па мясцовым паданні капліцу за паўкіламетра на ўсход ад вёскі «ўзвяла графіня для сваёй памершай дачкі». Тады, у пачатку XXст., у шляхецкім засценку Студзянец Хатаевіцкай парафіі жылі адны католікі. Невялікая капліца, прамавугольная ў плане, з паўцыркульнай апсідай, была пабудавана з цэглы і атынкавана. Пад аб'ёмам былі зроблены склепы для пахаванняў. Зруйнавана пасля другой сусветнай вайны і сёння захаваліся толькі рэшткі сценаў.

# Мінскі дэканат

## Мінскі раён




Радашковічы
Новы Двор
Астрашыцкі Гарадок
Саламярэчча
Раўбічы
Борздынь
Заслаўе
Сёмкава
Сёмкаў Гарадок
Бараўляны
Мінск
Заямачнае
Сеніца
Новы Двор
Апчак
Дварэц
Скарынічы
Гарадзішча
Шчытамерычы
Пашкавічы
Воўчкавічы
Прылукі
Каралішчавічы
Сініла
Русіновічы
Анопаль
Шабуні
Дудзічы
Замосце

Касцёл
Філіяльны касцёл
Капліца
Мінск — цэнтр вобласці
Святыня дзейнічае
Святыня будуецца
Святыня не дзейнічае
Святыня ў зруйнаваным стане
Святыня не захавалася

## Анопаль



Стары драўляны касцёл у Анопалі. Фота канца XIX ст.

*Крыжападобная ў плане святыня XVIII ст., пакрытая гонтаю, мела над сяродкрыжжам вытанчаную барочную вежу з крыжам. Касцельная тэрыторыя была абнесена драўлянай агароджаю з цагляных атынкаваных слупкоў, брама была таксама цагляная і атынкаваная.*

У 1776г. тут, над ракой Пціч, у рэзідэнцыі адной з лініяў роду Радзівілаў, быў узведзены драўляны касцёл пад тытулам св.Ганны, які атрымаў статус філіі пры мінскай катэдры.

У 1907г. стары касцёл разабралі, а на яго месцы ў парку пачалося будаўніцтва новай каменнай святыні. З 1906г. філія была прыпісаная да парафіі ў Воўчкавічах, а з 1912г. атрымала статус самастойнай. 6 мая 1908г. новы касцёл быў асвечаны пад тытулам Св.Ружанца Найсвяцейшай Марыі Панны. У анопальскай парафіі колькасцю каля 3000 вернікаў на гэты час дзейнічалі 3 капліцы: у в.Дудзічы, в.Замосце (усе цяпер у Пухавіцкім р-не) і в.Шабуні.

У 1930-я гг. касцёл св.Ганны быў зачынены і разабраны на калгасныя гаспадарчыя пабудовы.



## Бараўляны

Бараўляны як вёска Мінскага павета ВКЛ была вядома ўжо ў канцы XVIст.

Каталіцкая парафія пад тытулам Маці Божай Успамогі Хрысціянаў зарэгістравана тут 24 сакавіка 2001г. 2 верасня таго ж года дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Кірыл Клімовіч асвяціў крыж і пляц пад будову будучага касцёльнага комплекса (на паўднёвай ускраіне пасёлка Лясны).

Восенню 2001г. распачалася будова драўлянай капліцы – невялікага залавага будынку пад двусхільным дахам з дзвюма закрыстыямі і сігнатуркай над уваходам. Парафію абслугоўваюць святары салезіяне. Будаўнічыя працы практычна закончаны, у капліцы рэгулярна адбываюцца набажэнствы.






## Борздынь (Юрздаўка)




*Капліца Вішнявецкіх пабудавана з бутавага каменю і цэглы, прастакутная ў плане, перакрытая 2-схільным дахам, галоўны фасад увенчваўся трымя пінаклепадобнымі вежачкамі.*

Яшчэ 19 жніўня 1766г. "у жылым доме Валадковічаў" была асвечаная хатняя капліца Найсвяцейшай Марыі Панны ад Заслаўскай парафіі. Акрамя таго, на могілках пры шашы ў 1803г. Валадковічамі была ўзведзеная, "з сасновага дрэва, даўжынёй 11,5і шырынёй 7 аршынаў" (каля 8x5 м), капліца-пахавальня з абразом Маці Божай Шкаплернай. Была яшчэ і прыдарожная каплічка, пабудаваная з каменя пры павароце да сядзібы.

У XIXст. маёнтак перайшоў ва ўладанне да Вішнявецкіх. І ў 1884г. Ігнацы Вішнявецкі там жа, на могілках, узвёў капліцу-пахавальню і для свайго роду – каменную, пад уплывам стылю неаготыкі.

Пасля скасавання заслаўскай парафіі ў 1868г. борздыньскія капліцы былі адпісаныя да касцёла ў Ракаве і ў такім статусе дзейнічалі да 1930-х гг., калі былі знішчаныя. Ад усяго борздыньскага комплексу захаваліся толькі руіны капліцы Вішнявецкіх.

Юрздаўка – дастаткова новы тапонім. Так цяпер называецца частка былога маёнтка Борздынь, што была бліжэй да дарогі Ракаў-Заслаўе, перад старымі могілкамі. Назва Борздынь таксама захавалася, але сёння яна датычыцца забудовы, размешчанай на захадзе.





## Воўчкавічы

У 1784г. каталіцкая капліца ў в.Воўчкавічы на левым беразе ракі Пціч згадваецца як ужо дзейная ад мінскай катэдры. У 1806г. парафіяне разабралі старую святыню і на сродкі Марцыяны Іваноўскай, уладальніцы маёнтка, пабудавалі новую, таксама драўляную капліцу, а тэрыторыю вакол яе абгарадзілі пад невялікія могілкі. 29 ліпеня 1810г. будынак быў асвечаны як філіяльны касцёл пад тытулам Нараджэння Божай Маці і св.Пятра Апостала.

Рамонт 1880г. абнавіў касцёл, аднак задаволіць патрэбы парафіі, якія за гэты час павялічыліся, старая святыня ўжо не магла. Праект новага касцёла ў красавіку 1902г. склаў вядомы грамадзянскі інжынер Генрык Гай, асноўную частку сумы на будаўніцтва ахвяраваў граф Е.Чапскі. 9 лістапада 1904г. касцёл пад тытулам Сэрца Езуса і Найсвяцейшай Марыі Панны



Агульны выгляд, і праектны план каменнага касцёла ў Воўчкавічах. Матэрыялы пачатку XXст.



*Пабудаваны з чырвонай ліцавой цэглы ў стылі неаготыкі, прыгожы па прапорцыях, касцёл у Воўчкавічах уяўляў сабой асіметрычны залавы аб'ём з невялікім трансептам, 5-граннай апсідай, фланкаванай закрыстыяй і капліцай. Пакрытая чарапічным дахам кампазіцыя святыні завяршалася высокай вежай-званіцай, размешчанай налева ад падоўжнай восі касцёла. Тры алтары – галоўны і бакавыя ў крылах трансепта, – а таксама фігуры Езуса, Марыі і Юзафа ў іх былі зробленыя з пясчаніку, менсы, а ступені да алтароў – з мармуру. Інтэр'ер святыні асвятляўся праз вітражы ў стральчатых вокнах; падлога – з цэментных плітак; амбона, лаўкі, балюстрада хораў – дубовыя.*




Першае набажэнства ў Воўчкавічах. 09.11.1904г.

быў асвечаны. З сакавіка 1906г. парафія ў Воўчкавічах атрымала статус самастойнай. Граф Чапскі на свае сродкі пабудаваў тут плябанію, гаспадарчыя пабудовы. На той час у парафіі налічвалася 2300 чалавек.

Касцёл у Воўчкавічах дзейнічаў да другой сусветнай вайны, калі будынак быў сур'ёзна пашкоджаны. У 1950-я гг. руіны святыні ўзарвалі. Сёння пасярод старых могілак узвышаецца толькі пагорак з рэштмі падмуркаў.

Капліцы, якія існавалі ў ваколіцах Воўчкавічаў (у Гарадзішчы, Прылуках, Сенніцы і Скарынічах), не захаваліся.



Гісторыя каталіцкай парафіі ў Заслаўі, згодна з паданнем, пачалася ў 1420г., калі вялікі князь літоўскі фундаваў тут першы касцёл, тады яшчэ драўляны. У XVIст. старажытны касцёл быў перароблены ў кальвінскі збор. Каменны храм кальвіны пабудавалі ў 1557г.

Па фундушы ад 14 верасня 1625г. за подпісам Мікалая Глябовіча, кашталяна віленскага і ўладальніка Заслаўя, мясцовая каталіцкая парафія была адроджаная. Да 1628г. на рынкавай плошчы пабудавалі парафіяльны касцёл, «драўляны з пяццю купаламі», пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. А 30 жніўня 1669г. стаў касцёлам і кальвінскі збор у замку. У 1676г. ён быў кансэкраваны пад тытулам св.Міхала Арханёла.

8 снежня 1684г. Крыстына і Казімір Сапегі, новыя ўладальнікі Заслаўя, падпісалі фундуш на заснаванне пры касцёле св.Міхала кляштара дамініканцаў, манахам была перададзеная заходняя частка замка. У інтэр'еры гэтага касцёла было 5 алтароў. Галоўны – каменны, 2-ярусны, над абразом св.Міхала месціўся абраз св.Вінцэнта, тут жа знаходзіліся і хоры. Астатнія алтары – св. Дамініка (злева), св.Тадэвуша (справа), Маці Божай Ружанцовай і Укрыжавання – былі драўлянымі. На хорах над нартэксам стаялі арганы. Брацкі корпус кляштара – драўляны, 2-павярховы, пакрыты гонтаю, на 7 келляў з рэфектарам, бібліятэкай і дапаможнымі памяшканнямі – быў прыбудаваны з правага боку прэзбітэрыя. У

**Заслаўе**

Пры перабудове парафіяльнага касцёла пад царкву франтон над галоўным фасадам разабралі – на яго месцы з'явілася званіца. Над цэнтрам святыні пабудавалі велізарны светлавы барабан «у візантыйскім стылі». Агульны дэкор касцёла непазнавальна змяніўся, але па просьбе мясцовых жыхароў у святыні застаўся старажытны каталіцкі абраз Маці Божай з галоўнага алтара, а таксама не быў зменены тытул святыні – Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Фота пачатку XXст.



*Пры велічным знешнім выглядзе касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны меў дастаткова невялікі залавы санктуарый, дэкараваны пілястрамі карынфскага ордэра і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Выцягнутая паўцыркульная апсіда фланкавалася дзвюма ўмяшчальнымі закрыстыямі. У тоўшчы сценаў прэзбітэрыя ўніз, у крыпту, вялі 2 лесвіцы. Лесвіцы на хоры, дзе стаялі «арганы на 8 галасоў з бубнам і зоркаю», змяшчаліся ў вежападобных аб'ёмах па баках ад нартэкса. Але вежу-званіцу, якую планавалі ўзвесці над уваходам, так і не пабудавалі. Касцёл дзейнічаў з незавершаным галоўным фасадам, пакуль у 1851г. кампазіцыю не завяршылі франтонам. А драўляная званіца стаяла асобна, справа ад касцёла. Дах над прэзбітэрыем быў увенчаны «невялічкай мураванай вежай, якая мела над сабой драўляны купал», дах над закрыстыямі быў упрыгожаны «завяршэннямі ў выглядзе бляшанай зоркі». Уваход у касцёл пазначаўся высокім каменным ганкам-тэрасай, пад якой быў зроблены «скарбец для касцельных рэчаў». Інтэр'ер касцёла ў XVIIIст. упрыгожвалі 3 алтары. «Вялікі – каменны, у форме Ларэта на 4 апорах», у першым ягоным ярусе паміж двух анёлаў «цудоўнай ляпной работы» знаходзіўся абраз «Маці Божай, намаляванай у поўны рост, ззянне вакол Яе галавы аточана 12 срэбнымі зоркамі... з адчаканенымі выявамі польскіх каралёў», другі ярус алтара аблямоўваў круглае акно ў апсідзе гіпсавай ляпнінай у выглядзе аблокаў, промняў, кветак, фігурак 5 анёлкаў і радавых гербаў Пшэздзецкіх і Радзівілаў. Бакавыя драўляныя 2-ярусныя алтары былі падобныя адзін да аднаго. У адным з іх над разьбяным Укрыжаваннем мясціўся абраз Маці Божай Балеснай, у другім, над абразом св.Антонія з Дзіцяткам, – абраз св.Аляксандра Папы.*





Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны да (1950) і ў стане рэстаўрацыі (1998).

комплекс уваходзілі і гаспадарчыя пабудовы: 2 стайні, свіран, лядоўня, кухня. Пры кляштары дзейнічалі школка і шпіталь.

Драўляны парафіяльны касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны праз паўтара стагоддзя пасля ўзвядзення быў прызнаны струхлелым, і ў 1774г. падканцлер літоўскі Антоні Пшэздзецкі, уладальнік Заслаўскага графства з 1755г., сваім коштам заклаў каменны касцёл. Аўтарам праекту, магчыма, з'яўляецца архітэктар Карло Спампані, які менавіта ў гэты час шмат працаваў па заказах Пшэздзецкага. 8 верасня 1799г. новазбудаваная святыня была ўрачыста кансэкраваная.

У канцы XVIIIст. заслаўская парафія, акрамя двух касцёлаў, абслугоўвалася таксама капліцамі: дамовымі ў Сёмкаве і Саламярэччы, капліцай у Борздыні (цяпер Юрздаўка). Існавала таксама капліца і «ў двары Заслаўскім» – драўляная, «у адну цэглу звонку абкладзеная і атынкаваная», яна стаяла асобна ад жылога будынка. Акрамя гэтага, у 1800г. была асвечаная новапабудаваная капліца «за паўвярсты пры дарозе на Мінск», на парафіяльных могілках. У 1848г. яе перабудавалі, пасля чаго яна ўяўляла сабой драўляны, пакрыты гонтаю аб'ём з цаглянай падлогай і пляскатай падшыўной столлю. У алтары капліцы меўся абраз Укрыжавання. У парафіі з 1686г. дзейнічала Ружанцовае брацтва.

У 1832г. дамініканскі кляштар у Заслаўі зачынілі. Манахаў выселілі, а касцёл прыстасавалі пад праваслаўную царкву. Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны пакуль не craналі, але было загадана пахаваць у зямлі бальзамаваныя захаванні з касцельнай крыпты, якія, як меркавалі царскія ўлады, парафіяне лічылі святымі. У 1851г. побач з парафі-

яльным касцёлам быў пахаваны вядомы пісьменнік і гісторык Ян Ходзька.

18 студзеня 1867г. у Заслаўі зачынілі і парафіяльны касцёл, які таксама перабудавалі пад царкву. Пэўны час каталіцкае жыццё яшчэ працягвалася ў капліцы на могілках, але пасля пажару яе аднавіць не ўдалося. Апошняя каталіцкая святыня заслаўскай парафіі – капліца ў Борздыні – была адпісаная да ракаўскай парафіі.

Але як толькі ў 1905г. з'явіўся маніфест пра свабоду сумлення, у Заслаўі адразу ж аднавіліся каталіцкія набажэнствы. Мясцовы памешчык Валяр'ян Пратасевіч выдзеліў пад новы касцёл зямлю, але спачатку тут пабудавалі плябанію з капліцай св.Францішка Ксаверыя. Абслугоўвалі новую святыню ксяндзы з мінскай катэдры. Палова дома плябаніі – 3 пакоі – прызначалася для прыезджых святароў і арганіста, а другая палова служыла капліцаю.

Праваслаўная царква дзейнічала ў будынку былога парафіяльнага касцёла да 1941г. Падчас вайны будынак быў моцна пашкоджаны і прастаяў у руінах да 1989г., калі пачаліся рэстаўрацыйныя работы па аднаўленні барочнай святыні. Сёння касцёл яшчэ знаходзіцца на рэстаўрацыі, а набажэнствы пакуль праходзяць у яго дольнай частцы. Падчас рэстаўрацыі адноўленая высокая вежа-званіца над уваходам у святыню – магчыма, такой і ўяўляў яе стваральнік касцёла ў 1770-я гады.

У святыні на замчышчы з 1991г. зноў дзейнічае праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква. Яшчэ ў 1926г. абедзве святыні ў Заслаўі былі аб'яўленыя помнікамі архітэктуры.



План касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны.


Былы касцёл св.Міхала і брама. Фота пачатку XXст.

## Каралішчавічы



Знешні выгляд і галоўны алтар касцёла. Фота пачатку ХХст.

*Пасля перабудоваў 1859, 1883 і 1888 гг. касцёл у Каралішчавічах набыў рысы класіцызму і неаготыкі. Вежы галоўнага фасада былі разабраныя, замест іх з'явіўся 6-калонны порцік, а над прэзбітэрыем – неагатычная сігнатурка. У касцёле былі абноўленыя ўсе алтары, іх стала 5: справа – алтары св.Станіслава Косткі і Маці Божай, злева – св.Францішка і св.Ганны. Веліччу і раскошай уражваў прыгожы галоўны разьбяны алтар Апекі Маці Божай у стылі ракако, дзе над абразом Маці Божай у атачэнні вітых калонаў свяціўся круглы вітраж з манаграмай Марыі Панны. У гэты ж час касцельная тэрыторыя была абнесеная драўлянай агароджай на слупках з чырвонай цэглы з такой самай 2-вежавай брамай у стылі неаготыкі. Направа ад брамы агароджа ўключала ў сябе старую драўляную 3-ярусную званіцу.*

Касцёл у Каралішчавічах быў заснаваны ў 1785г. на сродкі Станіслава Прушынскага, уладальніка гэтых мясцінаў, генерала і ад'ютанта караля Станіслава Аўгуста. 20 ліпеня 1786г. драўляны храм у стылі барока быў асвечаны пад тытулам Апекі Маці Божай. Гэта была 2-вежавая базыліка памерамі 16 на 8 сажэняў (каля 34 x17 м), унутраная прастора якой падзялялася 6 апорамі на 3 навы. Прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі, уваход у святыню пазначаўся тамбурам. Інтэр'ер упрыгожвалі 4 ілюзорных, «на оптыцы маляваных» алтары.



Да каралішчавіцкай парафіі, колькасцю на пачатку ХХст. больш за 5300 вернікаў, былі прыпісаныя капліцы: каменныя ў Лошыцы (сёння ў межах Мінска) і в.Дварэц, драўляныя ў в.Заямачнае і в.Апчак, а таксама хатнія ў маёнтках Ігнацічы, Новы Двор і Пашкавічы.

Касцёл у Каралішчавічах быў разабраны ў 1930-я гг. З атрыманага брусу на гэтым самым месцы пабудавалі клуб, які дзейнічае і дагэтуль. Усе парафіяльныя капліцы таксама былі знішчаныя. Але сёння каталіцкае жыццё зноў вярнулася ў Каралішчавічы: 31.01.1995г. тут зноў зарэгістраваная парафія, цяпер пад тытулам св.Станіслава.

 Касцёл

 Кляштар

 Капліца

 Малая архітэктурная форма

 Святыня дзейнічае

 Святыня будуецца

 Дзейнічае як праваслаўная

 Святыня не дзейнічае

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася

1. Касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны, архікатэдральны
2. Фарны касцёл Найсвяцейшай Тройцы
3. Касцёл Узвышэння Святога Крыжа
4. Касцёл святых Сымона і Алены
5. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха)
6. Капліца Найсвяцейшай Марыі Панны ў Лошыцы
7. Помнік на Юбілейнай плошчы
8. Капліца святога Яна Хрысціцеля
9. Касцёл святога Яна Божага і кляштар баніфратаў
10. Касцёл святога Войцеха і кляштар бенедыктынак
11. Касцёл святога Міхала і кляштар бенедыктынцаў
12. Касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны і кляштар бернардынак
13. Касцёл святога Юзафа і кляштар бернардынцаў
14. Касцёл святога Тамаша Аквінскага і кляштар дамініканцаў
15. Касцёл святой Марыі Магдалены і кляштар кармелітаў
16. Кляштар мар'явітак
17. Касцёл святой Веранікі і кляштар рохітаў
18. Касцёл святога Антонія і кляштар францішканцаў



Чарцёж комплексу напрыканцы XVIIIст. і праектны план касцёла 1699г.

### Касцёл Езуса, Марыі і святой Барбары і калегіум езуітаў

Гісторыя езуіцкага калегіума ў Мінску пачалася з XVIIст., калі ў горадзе з'явіліся першыя сябры Таварыства Езуса. Уладкаваліся яны ў «каменным доме» ў сядзібе багатага местачкоўца Ягора Гегера – сёння тут дом па вул.Рэвалюцыйнай, 1. У 1654г. у Мінску, на плошчы Верхняга Рынку, біскуп смаленскі Геранім Сангушка набыў сядзібу і падарыў айцам езуітам разам з «пляцам». Да 1686г. супольнасць езуітаў у Мінску мела статус місіі, пасля – рэзідэнцыі, а з 1714г. – калегіі. Да 1678г. на ахвяраванні ваяводы трокскага Цыпрыяна Бжастоўскага, канцлера літоўскага Марцыяна Агінскага і інш. побач з домам з'явіліся драўляныя касцёл і школа. Ужо ў 1699г. езуіцкая школа становіцца каменнай і 2-павярховай.

У 1700г., 24 кастрычніка, суперыёр езуітаў Антоні Бжастоўскі асвяціў вуглавы камень новай святыні, якой з цягам часу наканавана было стаць галоўнай святыняй горада, самай велічнай базылікай Мінска і галоўнай яго высотнай дамінантай, а пасля і заняць вышэйшую ступеньку ў іерархіі Касцёла на Беларусі. Шчодрыя ахвяраванні духоўных асобаў, магнатэрыі, шляхты садзейнічалі хуткаму ўзвядзенню касцёла. У 1705г. аб'ём быў перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі над вокнамі, у 1708г. скончаны інтэр'ер. У 1709г., 31 ліпеня, святочная Імша ў гонар св.Ігнацыя Лаёлы – заснавальніка і патрона ордэна езуітаў – цэлебравалася ўжо ў новай каменнай святыні. І нарэшце «16 сакавіка 1710 г., на другі тыдзень Вялікага посту, віленскі біскуп Канстанцін Казімір Бжастоўскі (брат суперыёра) кансэкраваў касцёл імя Езуса, Марыі і св.Барбары». Над Мінскам узнесла дзве высокія вежы выдатная базыліка ў стылі барока.

Але канчатковы свой выгляд касцёл атрымаў у наступныя

два дзесяцігоддзі. Па баках прэзбітэрыя з паўцыркульнай апсідай былі зроблены 2 капліцы. Правая, Найсвяцейшай Тройцы, пабудаваная па фундацыі Цыпрыяна Бжастоўскага. Левая, св.Феліцыяна, мучаніка, апекуна Мінска, была пабудаваная ў 1722г. па фундацыі мінскага ваяводы Крыштафа Завішы як сямейная капліца яго роду. Яе сцены да 1739г. упрыгожылі роспісы Мацея Бейтніка, тут жа размясціліся рэліквіі св.Феліцыяна ў рэлікварыі. У 1731г. былі завершаныя вежы, у іх устаноўленыя званы «Казімір», «Тадэвуш», «Феліцыян» і самы вялікі – «Якуб», вагою ў 450 пудоў. Складаны і велічны дэкор галоўнага фасада – шматпрофільныя гзымсы, слаёныя пілястры і падвоеныя калоны іянічнага ордэра, фігурны франтон з вазонамі і сігнатуркай, вазоны па баках вежавых ярусаў, фігуры св.Пятра (справа) і св.Паўла ў нішах 2-га яруса вежаў і фігура Панны Марыі з Дзіцяткам у нішы франтона. Быў прыбудаваны і нартэкс да галоўнага фасада, шэраг дапаможных памяшканняў па перыметры касцёла. У святыні меліся 2 амбоны па баках ад прэзбітэрыя – для тэатралізаваных пропаведзяў, якія ладзілі езуіты. Святыня была накрытая 2-схільным дахам з галандскай чарапіцы. У склепах, якія займаюць усю прастору пад касцёлам, знайшлі супакой многія прадстаўнікі магнатэрыі і радавітай шляхты Міншчыны. Пазней сцежку ў курданеры перад святыняй перакрылі «доўгім ганкам».

З цягам часу комплекс езуіцкага калегіума павялічыўся настолькі, што заняў амаль увесь квартал ад плошчы Высокага Рынку (цяпер пл.Свабоды), абмежаваны вул.Койданаўскай (цяпер вул.Рэвалюцыйная), вул.Збаровай (вул.Інтэр-

*Ордэн езуітаў быў заснаваны ў 1534г. іспанскім дваранінам Ігнацыем Лаёлам для барацьбы з Рэфармацыяй і для замацавання пазіцыяў каталіцызму ва ўсім свеце. З 1569г. езуіты пачынаюць дзейнічаць у ВКЛ. Пры ордэне працавала шмат вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў – калегіумы, школы, рэзідэнцыі, місіі (пад куратарствам езуітаў знаходзіліся Віленскі ўніверсітэт і Полацкая акадэмія); медыцынскія ўстановы, шпіталі, аптэкі. Менавіта дзякуючы езуітам на Беларусь прыйшла еўрапейская сістэма адукацыі, навуковая медыцына.*

1. Касцёл Езуса, Марыі і св.Барбары.
2. Закрыстыі касцёла.
3. Камяніца.
4. Корпус калегіума.
5. Гадзіннікавая вежа.
6. Корпус школы.
7. Бурса.
8. Стайня.
9. Кузня.
10. Афіцыны (драўл.).
11. Бровары (драўл.).
12. Унутраны двор калегіўма.
13. Унутраны двор школы.



Калегіум езуітаў.
Рэканструкцыя Д.Бубноўскага.

Рэканструкцыя
плана езуіцкага комплексу
ў 2–й палове XVIIIст.



нацыянальная) і вул.Феліцыянаўскай (вул.Камсамольская). У 1723г. пачалася рэканструкцыя дома Гегера і ўзвядзенне справа ад касцёла 2-павярховага каменнага будынка калегіума. Пазней з боку вул.Койданаўскай было яшчэ прыбудаванае 3-павярховае крыло, дзе размясціліся рэфектар, кухня і інш. Канчатковы выгляд комплекс калегіума набыў ў 1750г., калі ў цэнтры ягонага фасада скончылася ўзвядзенне высокай 3-яруснай, перакрытай барочным купалам складанай формы вежы, у ёй быў устаноўлены гадзіннік «паказваць час і дні, каб была вядомая кожная гадзіна». Да 1737г. побач з касцёлам з'явіўся будынак аптэкі з лабараторыяй, былі ўзведзены гаспадарчыя і дапаможныя пабудовы. У гэты час езуіты ўзялі ў свае рукі ўсю сістэму адукацыі ў Мінску – тут выкладалі рыторыку, паэзію, сінтаксіс, граматыку, тэалогію, старажытнаяўрэйскую мову, этыку, матэматыку, фізіку, логіку, метафізіку. Дзейнічаў школьны тэатр і лепшая ў горадзе бібліятэка.

Нарэшце ў 1770г. быў рэканструяваны будынак школы – уваход у яго цяпер таксама пазначаўся квадратнай у плане вежай з купалам. Колькасць езуітаў у прытулку дасягнула 15 законнікаў, а комплекс езуіцкага кляштара па праву заняў месца самага каштоўнага каменя ў каралях каталіцкіх кляштараў, якія ўпрыгожвалі цэнтр Мінска.

Аднак горад нядоўга змог карыстацца ўсім тым, што хацелі даць яму езуіты. У 1773г. папская була скасавала ордэн, на базе калегіума была ўтвораная 6-гадовая павятовая свецкая школа, а касцёл перайшоў у ранг парафіяльных і праз пяць гадоў стаў катэдральным касцёлам Мінскай дыяцэзіі (гл. Катэдральны касцёл).

З 1799г. у будынку былой езуіцкай школы размясціўся дом губернатара, будынак быў цалкам перароблены ў стылі класіцызму. Да 1820г. калегіум займалі «прысутныя месцы», пасля – гарадская Дума, з 1852г. – казённая палата. Прыгожая вежа калегіума страціла свой купал і ператварылася ў дазорную вежу пажарнай аховы. Ад усяго велізарнага кляштарнага комплексу касцёла пакінулі толькі 3 маленькія памяшканні.

У 1951г. на касцёле былі разабраныя вежы, ліквідавана ўпрыгожанне святыні, і ён быў перабудаваны ў спарткомплекс таварыства «Спартак». Прыгожы будынак калегіума і ягоная вежа былі разабраныя. Ды і ў новым 3-павярховым будынку музычнай школы з цяжкасцю можна адшукаць рэшткі сценаў былой школы езуітаў. Менавіта ў гэты час комплекс залічваецца да помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння.

## Касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны, архікатэдральны



Касцёл, якому з цягам часу было наканавана стаць галоўнай святыняй Мінска, самай велічнай базылікай горада і галоўнай яго высотнай дамінантай, а пазней заняць пачэснае месца сярод каталіцкіх святыняў Беларусі, быў узведзены ў 1710г. як езуіцкая рэзідэнцыя (*гл. калегіум езуітаў*). У 1773г. Таварыства Езуса было скасаванае, і хаця на той час адзінай тэрыторыяй, дзе езуіцкі ордэн застаўся дзейнічаць, была Расійская імперыя, у свой былы прытулак, калі Мінск адышоў да Расеі, манахам вярнуцца не пашчасціла. Затое сама святыня з моманту заснавання ў 1798г. Мінскай дыяцэзіі змяняе свой статус і рэкансэкруецца як катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны. За яго апсідай быў узведзены 3-павярховы будынак духоўнай кансісторыі, у якім таксама





*Унутраную прастору катэдры ў канцы XIXст. упрыгожвалі 13 алтароў: вялікі – у прэзбітэрыі, 8 – бакавых, 2 – у капліцах, адзін у бабінцы і яшчэ адзін у крыпце пад касцёлам. Кампазіцыя галоўнага алтара з абразом Найсвяцейшай Марыі Панны ўражвала – быццам з разломе велічнага порціка на здвоеных карынфскіх калонах вырастаў паўсферычны купал з крыжам, які абапіраўся на 6 іянічных калонаў, утвараючы такім чынам ратонду.*
*За галоўным алтаром, там, дзе калісьці быў хор законны, знаходзіўся алтар Маці Божай Ларэтанскай. Пры прэзбітэрыі былі яшчэ 2 алтары – злева св. Барбары, справа – св. Юзафа. У капліцы св. Феліцыяна алтар над срэбнай ракай з астанкамі святога ўпрыгожвалі фігуры Панны Марыі і св. Юзафа, тут жа быў і партрэт К. Завішы – фундатара капліцы, які прывёз з Рыма рэліквіі святога.*
*У левай ад прэзбітэрыя капліцы быў алтар Найсвяцейшай Тройцы.*
*Пры апорах, якія падзялялі прастору касцёла на 3 навы, знаходзіліся астатнія алтары, перанесеныя з мінскага касцёла бернардынцаў у 1864г. Каля бліжэйшых да апсіды апораў знаходзіліся: злева – алтар Маці Божай Ружанцовай, справа – алтар Беззаганнага Пачацця. Каля цэнтральных апораў касцёла, злева – алтар св. Роха і справа – алтар св. Антонія. Алтар св. Яна Хрысціцеля з яго абразом быў устаноўлены каля левай сцяны бабінца.*

Наверсе:
выгляд катэдры ў 1940-я гг.

Галоўны алтар
і фрагмент інтэр'ера.
Фота пачатку XXст.





Выгляд мінскай катэдры ў канцы XIX ст., ў 1950–я гг. і падчас рэстаўрацыі.

жылі ксяндзы-пралаты і канонікі. Пасля, калі кансісторыю перавялі ў комплекс былога францішканскага кляштара, тут размясцілася плябанія.

У выніку пажару ў 1797г. інтэр'ер святыні быў значна пашкоджаны, але ўжо да 1800г. касцёл, дзякуючы намаганням першага біскупа Мінскай дыяцэзіі Якуба Дадэркі, быў не толькі цалкам адноўлены, але і ўзбагаціўся. Святыня таксама рэканструявалася ў 1853-54гг. пад кіраўніцтвам архітэктара Казіміра Хрышчановіча. Скляпенні, сцены святыні, плоскасці калонаў, аркаў былі цалкам пакрытыя сюжэтнымі і арнаментальнымі фрэскамі, у асноўным работы Казіміра Анташэўскага. Сцены таксама ўпрыгожвалі палотны І.Аляшкевіча і Ш.Чаховіча. Менавіта пэндзлю апошняга належалі абразы св.Барбары і св.Юзафа ў бакавых алтарах, якія з'явіліся замест знятых амбонаў, што засталіся ад езуіцкіх дыспутаў. Сярод майст-

Былы уваходны партал і завяршэнне бочных капліцаў пасля рэстаўрацыі.









роў, чые творы ўпрыгожвалі касцёл, імёны Якуба Бразера, Ігнацыя Дарэці, архітэктара Францішка Карава. З высокіх хораў лілася музыка арганаў «на 24 галасы, выдатнай архітэктуры».

Галоўны алтар і табэрнакулюм мінскай архікатэдры пасля рэстаўрацыі.

У 1869г. Мінская дыяцэзія была скасаваная і касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны апынуўся ў рангу парафіяльных. Напрыканцы XIXст. Мінская Марыінская парафія налічвала да 8000 парафіянаў, не лічачы яшчэ каля 5000 вернікаў, якія паслугоўваліся філіяльнымі касцёламі ў Анопалі, Воўчкавічах, на Кальварыйскіх могілках у Мінску, а таксама капліцамі ў Гарадзішчы, Сенніцы, Пятроўшчыне, Шабунях (цяпер Пухавіцкі р-н), Прылуках і дзвюма капліцамі Дабрачыннай супольнасці ў самім Мінску.

Адрэстаўраваныя роспісы на плафоне былой капліцы і на скляпеннях прэзбітэрыя.








Сучасны план архікатэдры.



*Юбілейная плошча, добра вядомая мінчанам, атрымала сваю назву ў 1826г., калі каталіцкае духавенства ўстанавіла тут юбілейны помнік у гонар 1500-годдзя Нікейскага (Першага Сусветнага) сабора, які ў 325г. зацвердзіў асноўныя догматы і сімвалы хрысціянскай веры. Папа Леў XII аб'явіў 1825 год юбілейным, але ў касцёлах нашага краю святкаванні, прысвечаныя юбілею, праходзілі ў наступным, 1826г. У той час і з'явіўся на ўскраіне Мінска помнік, які пазней даў назву плошчы, што захавалася да нашых дзён. Да ўласнага 100-гадовага юбілею помнік не захаваўся, а вось плошча так і засталася Юбілейнаю. Фота пачатку ХХст.*

Хоры пасля рэстаўрацыі.



У лістападзе 1917г. дзейнасць Мінскай дыяцэзіі аднавілася, біскупам быў прызначаны кс.Зыгмунт Лазінскі, які яшчэ ў 1905г. быў пробашчам касцёла Імя Найсвяцейшай Марыі Панны. Своеасаблівым сімвалам адраджэння стала з'яўленне над вежай былога калегіума адрэстаўраванага барочнага купала. Але ўжо ў 1920г. НКУС арыштаваў і выслаў біскупа Лазінскага. У 1934г. катэдральны касцёл зачынілі.

Падчас вайны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны нядоўгі час дзейнічаў, але ў 1947г. катэдру зноў зачынілі. У 1951г. на будынку разабралі вежы, зліквідавалі ўбранне святыні і перaтварылі ў спарткомплекс таварыства «Спартак». І ўжо ў такім выглядзе будынак быў залічаны ў помнікі архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Разам з крахам савецкай сістэмы надышоў канец і вандалізму. Ужо на самым пачатку 1990-х гг. на трэцім паверсе, пад самымі скляпеннямі, сталі праходзіць першыя набажэнствы. 15 снежня 1993г. будынак касцёла цалкам перадалі вернікам, і 5 лютага 1994г. чатырохметровы крыж над святыняй абвясціў пра гэта ўсяму гораду. А летам пачаліся складаныя рэстаўрацыйныя работы. Над сталіцай Беларусі зноў ўзнесліся прыгожыя барочныя вежы катэдры. Зноў над горадам паліўся перазвон касцельных званоў як сімвал адраджэння, ачышчэння, надзеі. Званоў як і раней 4: самы вялікі – у гонар Маці Божай Будслаўскай, сярэднія – у гонар Папы Яна Паўла II і Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага, малы – у гонар Сіноду Беларусі. Яны размяшчаюцца па адным ў вежавых ярусах.

21 кастрычніка 1997г. катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны быў урачыста рэкансэкраваны. Жывапіс на скляпеннях расчышчаны цалкам пакуль толькі ў прэзбітэрыі, астатняе – толькі фрагментарна. Цікавы таксама і адноўлены прыём у стылі ракако, які збірае шматпрофільны гзымс, што ідзе па перыметры завяршэння сцен, у складкі, быццам гэта не камень, а лёгкая драпіроўка.



## Фарны касцёл Найсвяцейшай Тройцы і Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны (не існуе)

Фрагмент гравюры з панарамай Мінска. 1772г.

Згодна з паданнем, фарны касцёл быў заснаваны ў Мінску каралём Уладзіславам Ягайлам яшчэ ў 1390г. У некаторых матэрыялах святыня згадваецца ў 1460г., калі да яе ўласнасці далучыўся фальварак Чурылавічы. Гісторыкі за дакументальна пацверджанае ўзгадванне драўлянага фарнага касцёла Найсвяцейшай Тройцы прымаюць 1508г., калі ён быў пабудаваны на левым беразе Свіслачы, у гарадскім прадмесці, якое атрымала назву Траецкая гара, а пасля – Траецкае прадмесце. Акрамя тытула Найсвяцейшай Тройцы, фара ў архіўных дакументах узгадваецца і пад падвойным тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, а ў 1632г. – пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і Міхала Арханёла. Гэтая святыня была пабудаваная пробашчам ксяндзом Мікалаем. Пра знешні выгляд касцёла вядома толькі, што ён быў крыжападобным у плане.

Апошні драўляны будынак «фарнага касцёла Найсвяцейшай Тройцы пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны ў мінскім прадмесці Траецкая гара пры Віленскай вуліцы» быў узведзены ў 1720г. Парафіяльныя могілкі з капліцай знаходзіліся за горадам, на г.зв. Залатой Горцы. Больш чым пяцітысячная парафія мінскай фары абслугоўвалася філіяльнымі касцёламі ў Анопалі і Халаўшчызне (цяпер Раўбічы), а таксама капліцамі ў Лошыцы і Скарынічах. Пры парафіі з 1709г. дзейнічала брацтва Шчаслівай смерці.

14 жніўня 1809г. моцны пажар, які бушаваў у Мінску, знішчыў будынак старажытнай фары (сёння тут сквер перад оперным тэатрам пры скрыжаванні вуліц М.Багдановіча і Я.Купалы). У 1832-40гг. тытул Найсвяцейшай Тройцы меў касцёл скасаванага дамініканскага кляштара. Пасля скасавання гэтай парафіі набажэнствы перанеслі ў могілкавую капліцу на Залатой Горцы, якая з 1842г. атрымала ранг парафіяльнага касцёла Найсвяцейшай Тройцы.

*У XVIII ст. мінская фара уяўляла сабой будынак «крыжападобны ў плане, гонтаю пакрыты, з дзвюма чатырохграннымі капліцамі, над якімі ўзвышаліся 2 вежачкі з крыжамі. У сярэдзіне – купал акруглы вялікі, пад вялікім крыжам». Уваход у касцёл пазначаўся «ганкам на 2 калонах», над нартэксам былі хоры з арганамі на 7 галасоў, 2 закрысты фланкавалі прэзбітэрый. У галоўным алтары, упрыгожаным залатой разьбой, быў абраз Найсвяцейшай Тройцы ў срэбнай шаце ў атачэнні залачоных фігураў святых Яна і Мацвея Евангелістаў. Правы бакавы алтар прысвячаўся Пану Езусу (тут было Укрыжаванне), у левым бакавым алтары змяшчаўся абраз Маці Божай з Дзіцяткам. У крылах трансепта былі алтары – св. Антонія (злева) і св. Тадэвуша (справа). Званіца стаяла асобна ад касцёла і была таксама драўлянай, 3-яруснай, увенчвалася купалком.*

## Капліца Найсвяцейшай Марыі Панны








Выгляд лошыцкай капліцы Прушынскіх у пачатку XXст. і сёння. Рэканструкцыя плана.

*Капліца ўяўляла сабой цагляную і атынкаваную 8-гранную цэнтрычную ратонду ў стылі барока. Чатыры грані – уваходная, алтарная і бакавыя – завяршаліся фігурнымі франтонамі. Капліца мела шатровы дах з заломам і ўвенчвалася барочнай вежай.*

З'яўленне капліцы ў маёнтку Лошыца звязана з ягоным уладальнікам у XVIIIст. генералам Станіславам Прушынскім. Менавіта ён пабудаваў у 1788г. перад уездам у сядзібу прыгожую ратонду ў стылі позняга барока, і ў хуткім часе капліца была кансэкраваная пад тытулам Найсвяцейшай Марыі Панны. Лошыцкая капліца мела статус філіяльнага касцёла і прыпісвалася да парафіі з цэнтрам у в.Каралішчавічы.

Падчас другой сусветнай вайны капліца была разбураная, захаваліся толькі тры сцяны. Тым не менш парафія ў Лошыцы не так даўно адрадзілася – 19 сакавіка 1997г. яна была зарэгістраваная пад тытулам Маці Божай Ружанцовай.

# Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны і кляштар бернардынак



Выгляд былога кляштара бернардынак напрыканцы XIXст. і план кляштара, зроблены ў 1869г. пры перадачы комплексу ў праваслаўнае ведамства.

Заснаваў кляштар сясцёр бернардынак сваёй фундацыяй ад 20 верасня 1633г. Аляксандр Слушка, ваявода трокскі. Спачатку пабудавалі драўляны комплекс, але ўжо ў 1642г. сталі ўзводзіць каменныя пабудовы, і 31 жніўня 1687г. быў кансэкраваны новы касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны.

Пасля пажару 1741г. святыня была рэканструяваная. Работы скончыліся ў 1746г. і цяпер касцёл уяўляў сабой 2-вежавую, пакрытую гонтай, 6-слуповую, 3-нававую базыліку з трохграннай апсідай у стылі сталага барока. Галоўны фасад,



*Інтэр'ер касцёла ў XVIIIст. ўпрыгожвалі 7 алтароў. Галоўны алтар, у якім знаходзіўся абраз Маці Божай з Дзіцяткам, уяўляў сабой 6 калонаў, якія неслі барочны антаблемент з 2 анёламі і 2 вазонамі. Астатнія алтары былі 2-яруснымі. Бакавыя алтары Хрыста Укрыжаванага і св. Францішка Серафіцкага фланкавалі праём прэзбітэрыя. Пры апорах стаялі алтары св. Антонія і св. Клары. Бакавыя навы завяршаліся капліцамі з каменнымі алтарамі Найсвяцейшай Тройцы і Міхала Арханёла.*

*Галоўнай святыняй касцёла лічыўся цудоўны абраз Маці Божай з Дзіцяткам у срэбнай шаце. Марыя стаіць за сталом, на якім ляжаць раскрытая кніга і тры ружы. Дзіцятка Езус стаіць на гэтым стале, прыхіліўшыся да Маці. Яна падтрымлівае яго правай рукою, а левай паказвае скіпетрам на радкі ў кнізе, быццам бы навучае. Гэты сюжэт не мае аналагаў у беларускім іканапісе, ён выглядае як трансфармацыя больш вядомага сюжэта «Святая Ганна навучае Марыю». Абраз быў прысланы з Рыма Папам Урбанам VIII Зоф'і Зяновіч, жонцы Аляксандра Слушкі, фундатара касцёла, пасля чаго і ўпрыгожыў галоўны алтар.*



завершаны высокім фігурным франтонам, фланкаваўся дзвюма 6-яруснымі вежамі. Пад касцёлам змяшчаліся склепы і крыпта для пахаванняў. У касцёле «гралі на арганах і на хорах спявалі надзвычай дзівосна».

З паўночна-заходняга фасада да касцёла далучаўся 2-3-павярховы кляштарны корпус, які замыкаў унутраны двор. Далучаная да апсіды «лінія» выходзіла на Вялікую Бернардынскую вуліцу двума рызалітамі, паміж якімі ўтвараўся кветнік. Комплекс кляштара бернардынак змяшчаў у сабе таксама 2-павярховы каменны флігель (ніжэй па рэльефе), драўляны флігель і шэраг гаспадарчых пабудоваў. У 1842г. у кляштары было 20 законніцаў, 1 навіцыятка і 1 кандыдатка, 2 тэрцыяркі, а таксама 20 дзяўчат-сірот на выхаванні.

У 1853г. кляштар бернардынак быў скасаваны. З 1870г. тут змяшчаўся праваслаўны Свята-Духаў мужчынскі кляштар. Пасля другой сусветнай вайны і да сённяшняга часу тут дзейнічае катэдральны праваслаўны сабор Святога Духа і ўстановы праваслаўнай епархіі.

Змены амаль не паўплывалі на касцельны выгляд комплексу, ад якога, акрамя святыні і кляштарнага корпуса, захаваўся і каменны 2-павярховы флігель па вул.Кірыла і Мятода, 7 (сёння тут майстэрні Свята-Духаўскага сабора). Комплекс яшчэ ў 1926г. быў узяты пад ахову дзяржавы і аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння.



## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха)




Сучасны выгляд і план Троіцкага касцёла.

Тытул Найсвяцейшай Тройцы быў перанесены ў могілкавую капліцу на Залатой Горцы, калі ў 1842г. яна атрымала статус парафіяльнага касцёла (*гл.Фарны касцёл*). Сама капліца была ўзведзеная з дрэва ў 1796г., праз тры гады пасля адкрыцця могілак, і асвечаная пад тытулам Усіх Святых. Гэта была пабудова ў стылі класіцызму – з 4-калонным порцікам, вежай-званіцай над уваходам і сігнатуркай над апсідай. У алтары знаходзіўся абраз Божай Маці з Дзіцяткам. Пад капліцай была зробленая крыпта «для пахавання даўніх фундатараў і духоўных асобаў».

Стаўшы парафіяльным касцёлам, святыня была ўпрыгожаная яшчэ 2 алтарамі – св.Роха (злева) і Укрыжавання (справа). Па баках галоўнага алтара былі ўстаноўлены фігуры св.Яна і св.Станіслава. Справа перад уваходам у касцёл была пабудаваная драўляная, крытая гонтаю, з выяваю Божага Вока на франтоне, каплічка св. Роха, дзе знаходзілася цудоўная фігура святога, якая, як лічылася, выратавала Мінск ад пошасці. Трапіла яна сюды са скасаванага касцёла баніфратаў.

Да сярэдзіны XIXст. драўляны будынак касцёла Найсвяцейшай Тройцы «зусім струхлеў», і ў 1861г. тут пачалося будаўніцтва новага каменнага касцёла паводле праекта акадэміка пецярбургскай Акадэміі мастацтваў М.Сівіцкага. 1 лістапада 1864г. святыня была асвечаная пад падвойным тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і святога Роха. Аднак захаваўся і тытул Найсвяцейшай Тройцы. Святыня будавалася на сродкі, пакінутыя па тастамэнту стацкага саветніка Шымана Леановіча і ягонай жонкі Юзэфы, а таксама на ахвяраванні Ігнацыя Лясковіча, Антаніны Камінскай і інш. Касцёл уяўляў сабой аднанававы, аднавежавы, прамавугольны ў плане будынак з 5-граннай апсідай і 2 за-





Уверсе:
Троіцкі касцёл.
Каплічка з Укрыжаваннем
(не захавалася). Фота 1908г.

Унізе:
бочныя алтары і інтэр'ер касцёла.
Выявы канца XIX – пачатку XXст.

крыстыямі па баках. Стыль неаготыкі, у якім пабудавалі святыню, дакладна вытрыманы ў падзеле фасадаў 3-ступеньчатымі контрфорсамі, стральчатых завяршэннях нішаў, аконных праёмаў, уваходнага партала. Дамінантай кампазіцыі стала 2-ярусная вежа-званіца пад шатровым дахам над галоўным фасадам, дзе знаходзіліся 4 званы – «Браніслава», «Леанард», «Стэфан» і малы безыменны з надпісам «Roku Pańskiego 1799». Неагатычны стыль вытрыманы і ў інтэр'еры касцёла, перакрытым цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Такімі ж неагатычнымі былі і алтары, і амбона, і агароджа хораў. Усё гэта было выканана з дрэва і распісана пад мармур. На хорах былі ўстаноўленыя арганы «на 18 галасоў». У крыпце пад касцёлам знайшлі спачын фундатары і ахвяравальнікі святыні.

Касцельная тэрыторыя разам з могілкамі была агароджаная драўляным плотам. Уваходная каменная брама, пабудаваная ў 1893г. і таксама вырашаная ў стылі неаготыкі, уяўляла сабой аркавы партал, увенчаны двума пінаклямі. Два слупкі па баках брамы ўтваралі яшчэ дзве брамкі. Пры касцёле дзейнічала школа арганістаў. На канец XIXст. у Троіцкай парафіі налічвалася амаль 7000 чалавек. Безумоўна, умясціць усіх сваіх парафіянаў невялікі касцёл ужо не мог. У 1910-я гг. варшаўскім архітэктарам Г.Дзеконьскім быў распрацаваны праект новай 2-вежавай 3-нававай базылікі з чырвонай ліцавой цэглы ў стылі неаготыкі, але яго здзяйсненне не адбылося.







*У 3-ярусным галоўным алтары касцёла ў 2-й пал. XIXст. знаходзіўся абраз Маці Божай з Дзіцяткам Езусам у шаце і абраз Найсвяцейшай Тройцы, напісаны на палатне. Бакавыя алтары падзяляліся вертыкальна на тры часткі, завершаныя пінаклямі. Цэнтральную нішу правага алтара займала цудоўная фігура святога Роха, перанесеная са старой, разабранай у 1901г., каплічкі. Яе вельмі ўшаноўвалі: на свята св. Роха – 16 жніўня – на Залатой Горцы збіраліся тысячы пілігрымаў. Пад тытулам св. Роха касцёл больш вядомы і сёння. У бакавым алтары касцёла ў XIXст. фігуру св. Роха атачалі фігуры св. Міхала і св. Габрыэля. У левым бакавым алтары на фоне абраза Збаўцы стаяла фігура св. Антонія ў атачэнні выяваў св. Лукі і св. Яна. Злева ад увахода знаходзілася капліца з алтаром Гробу Панскага.*



У 1930-я гг. касцёл зачынілі. Са святыні вынеслі алтары, арганы, касцельныя каштоўнасці, знікла і знакамітая фігура св.Роха. У 1942г. набажэнствы аднавіліся, але пасля вайны святыня зноў была зачыненая і прыстасаваная пад кнігасховішча. Пасля таго, як Захар'еўская вуліца стала Ленінскім праспектам (цяпер пр-т Ф.Скарыны), могілкі на Залатой Горцы, іх агароджа і брама былі знішчаныя, а сам касцёл, вакол якога пабудавалі высокія дамы, апынуўся ўнутры квартала. Пасля рэстаўрацыі ў 1983г. будынак касцёла, аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння, прыстасавалі пад залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі.

З 1991г. у касцёле Найсвяцейшай Тройцы аднавіліся набажэнствы (пакуль што ў вольны ад канцэртаў час). 16 жніўня 1998г. фігура св.Роха, цяпер зробленая з металу скульптарам В.Янушкевічам, зноўку заняла сваё месца ў правым бакавым алтары. Гэты ж скульптар з'яўляецца аўтарам фігуры Найсвяцейшай Марыі Панны ў левым алтары, стацыяў Крыжовага Шляху, Укрыжавання ў нартэксе.

Сучасны інтэр'ер і Укрыжаванне ў нартэксе Троіцкага касцёла. Выявы Найсвяцейшай Марыі Панны і св.Роха на месцы бочных алтароў.





## Касцёл святога Антонія і кляштар францішканцаў

*Ордэн братоў меншых францішканцаў быў заснаваны святым Францішкам у Асізі (Італія) у 1209г. як першы «жабрацкі» ордэн. Асноўная задача францішканцаў не змянілася і да сённяшняга часу – евангелізацыя. «Магчыма, ніводны ордэн каталіцкага Касцёла не зрабіў для евангелізацыі Еўропы столькі, колькі зрабілі і працягваюць рабіць францішканцы».*

Мужчынскі кляштар ордэна францішканцаў канвентуальных у Мінску быў заснаваны фундацыяй Тэадора Караля Горскага, ваяводы наўгародскага, падкаморыя мінскага, які дакументам ад 19 кастрычніка 1680г. падараваў ім пляц на рагу вул.Францішканскай (цяпер вул.Леніна) і вул.Юр'еўскай (на яе месцы цяпер квартал за універсамам «Цэнтральны»). Фундацыя Тэадора Ваньковіча, стольніка і падстаросты мінскага, ад 22 сакавіка 1681г. дазволіла ў хуткім часе ўзвесці драўляны комплекс кляштара, разлічаны на 6 манахаў.

Касцёл, асвечаны пад тытулам св.Антонія, уяўляў сабой 2-вежавы крыжападобны ў плане будынак з прамавугольнай апсідай і 2 закрыстыямі па яе баках.

Званіца размяшчалася ў левай з фасадных вежаў, маленькай вежачкай-сігнатуркай завяршаўся і гонтавы дах над прэзбітэрыем. Залавы інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 4 алтары – галоўны з абразом св.Антонія, а таксама алтары св.Францішка, св.Яна і Найсвяцейшай Марыі Панны. Паўднёвая закрыстыя касцёла была злучаная з кляштарным корпусам, будынак якога ў XVIIIст. стаў каменным, «у 2 лініі» (L-падобным) у плане. Палова корпуса была 2-павярховай, другая палова – 3-павярховай. Тарэц будынка, які выходзіў на вул.Францішканскую, увенчваў трохкутны франтон з фігурамі двух анёлаў і рэльефнай выявай сонца ў тымпане. Кляштар быў абнесены драўлянай агароджай з уваходнай брамай з вуліцы. Акрамя пералічаных будынкаў, яго комплекс складалі флігель і гаспадарчыя пабудовы. На тэрыторыі былі таксама агарод і сады (пладовы і дэкаратыўны).

Пасля ўтварэння ў 1798г. Мінскай дыяцэзіі манахі францішканцы былі перасеЛены са свайго асяродка ў пакармеліцкі кляштар па вул.Ракаўскай, а ў будынках былога кляштара размясцілася каталіцкая семінарыя. У 1801г. замест драўлянага па-францішканскага касцёла пачалося будаўніцтва каменнага, аднак яно так і не было завершанае.

Пазней сюды перавялі каталіцкую Духоўную Кансісторыю, але з 1869г., калі Мінская дыяцэзія была скасаваная, і да рэвалюцыі ў будынку былога кляштарнага корпуса размяшчалася гарадская ўправа. А ў 1940-я гг. пры рэканструкцыі вуліцы (ужо Леніна) комплекс быў цалкам знішчаны. Сёння на гэтым месцы дом №5.

Пасля перасялення на вул.Ракаўскую францішканцы зрабілі ў касцёле Марыі Магдалены яшчэ 2 алтары – св.Францішка і св.Тэклі. У такім выглядзе комплекс дзейнічаў да 1832г., калі францішканскі кляштар зачынілі. У 1866г. быў разабраны «шчыт над касцёлам, бо пагражаў упасці на вуліцу», а ў хуткім часе разабралі і ўвесь комплекс. Зямлю аддалі пад жылую забудову. Сёння на гэтым месцы дом № 18 па вул.Ракаўскай.

## Касцёл святой Веранікі і кляштар рохітаў

*Залавы інтэр'ер касцёла св. Веранікі ўпрыгожвалі 3 разьбяныя драўляныя алтары. Галоўны, багата дэкараваны пазалочанымі і пасярэбранымі элементамі алтар пад тытулам св. Роха, у сярэднім ярусе змяшчаў абраз св. Веранікі, а ўвенчваў кампазіцыю абраз св. Юзафа. У левым бакавым алтары над абразом Найсвяцейшай Марыі Панны з Дзіцяткам Езусам у срэбнай шаце з пазалочанай каронай быў абраз св. Антонія. У правым алтары над разьбяным Укрыжаваннем быў абраз св. Тэклі.*

Кляштар ордэна рохітаў быў заснаваны ў Мінску ў 1752г. Спачатку, 3 жніўня, «вяльможныя местачкоўцы» Шышкі выдзелілі грошы на «шпіталь для ўбогіх, калекаў і хворых», які абслугоўвалі ксяндзы рохіты, а крыху пазней, 8 верасня, быў дададзены фундуш ад кс.Тамаша Стацэвіча. Кляштар знаходзіўся «пры Койданаўскай вуліцы ў канцы», на выездзе з горада на Варшаву, справа, каля самога абарончага валу, які апаясваў горад у XVI-XVIII стст.

Комплекс кляштара рохітаў, абнесены драўлянай агароджай, складаўся з касцёла пад тытулам св.Веранікі, брацкага корпуса, гасцінага дома, дома для прыслугі і шэрагу гаспадарчых пабудоваў. Касцёл уяўляў сабой драўляны, на каменным падмурку, пакрыты гонтаю, 2-вежавы будынак з «капулкай» над 5-гранным у плане прэзбітэрыем, з адной закрыстыяй. Кляштар меў выгляд «вялікай хаты», тут таксама быў алтарык Найсвяцейшай Марыі Панны. Айцы рохіты абслугоўвалі і невялічкую драўляную, квадратную ў плане і пакрытую дранкаю капліцу, якая стаяла на могілках за гарадскім валам, злева ад Варшаўскай дарогі.

Кляштар быў зачынены пасля падаўлення паўстання 1831г. Сёння прыблізна на гэтым месцы знаходзіцца дом №32 па вул.Рэвалюцыйнай.

## Касцёл святога Войцеха і кляштар бенедыктынак



*Пасля рэканструкцыі 1780-1803гг. касцёл св. Войцеха ўяўляў сабой прамавугольны ў плане залавы аб'ём з 5-граннай апсідай, памерамі 70 на 20 локцяў (каля 46 × 13 м). Святыня мела 2-схільны чарапічны дах, больш нізкі над прэзбітэрыем. Галоўны фасад, звернуты да вуліцы, завяршаўся франтонам крывалінейнага абрысу. Яго фланкавалі 2 высокія 3-ярусныя вежы з купальнымі завяршэннямі. Інтэр'ер пад цыліндрычнымі скляпеннямі ўпрыгожвалі пяць 2-ярусных алтароў. У галоўным драўляным алтары быў абраз Маці Божай з Дзіцяткам, напісаны на палатне, у срэбнай з пазалотай і рубінамі шаце. У 2-м ярусе быў абраз св. Войцеха, увенчвала кампазіцыю разьбянае Укрыжаванне. Падлогу ў прэзбітэрыі касцёла пакрывалі пліткі чорнага мармуру, у санктуарыі яна была цаглянаю. Закрыстыя мелася адна, на хорах стаялі арганы на 10 галасоў. Да заходняга фасаду касцёла далучаўся 2-павярховы, прамавугольны ў плане, кляштарны корпус. Цікавая сістэма ацяплення будынка – ад печак ў тоўшчы сценаў і пад падлогаю былі пракладзеныя своеасаблівыя керамічныя калярыферы, якія давалі дадатковае цяпло.*

Кляштар ордэна бенедыктынак быў заснаваны ў Мінску па фундушы 4 мая 1633г. (згадваюцца і даты 1630, 1631, 1632г. Фундуш зацверджаны каралём УладзіславамIV 14.7.1633г.) Войцеха Сялявы, каноніка віленскага, які набыў 2 дамы з пабудовамі на левым (калі спускацца ад Верхняга рынку – цяпер пл.Свабоды) баку Збаровай вуліцы (сёння вул.Інтэрнацыянальная) і перадаў іх манашкам, першыя з якіх прыбылі сюды з нясвіжскага кляштара ордэна. Першапачаткова комплекс быў драўляным, але ўжо напрыканцы 1640-х гг. на сродкі Крыштафа Хадкевіча і яго жонкі Сафіі, народжанай Горскай-Друцкай, быў узведзены каменны касцёл пад тытулам св.Войцеха, біскупа і мучаніка.

Аўтар праекту першага каменнага касцёла бенедыктынак – Анрэас Кромер, які абавязаўся на працягу трох гадоў узвесці касцёл. Аднак закончыць будаўніцтва касцёла не ўдалося. Пасля ў часе вайны 1654 - 67гг., усе драўляныя пабудовы былі



Наверсе:
Фота касцёла 1871г.

Панарама Мінска сярэдзіны XIXст. Кляштар бенедыктынак справа.



*Пры перабудове касцёла св. Войцеха ў царкву верхнія ярусы вежаў, франтон былі разабраныя, замест іх з'явіліся 5 глухіх цыбулепадобных купалаў над асноўным аб'ёмам святыні і высокая 3-ярусная шатровая званіца. Была перайменаваная і вуліца, на якую выходзілі будынкі кляштара – яна стала называцца Праабражэнскай.*



Фасад комплексу. Чарцёж з «Атласа Мінскай губерні» 1800 г.

спалены, а каменная недабудаваная святыня моцна пашкоджана і разрабавана. У 1670-х гг. кляштар быў адбудаваны, а касцёл асвечаны біскупам Міколам Слупскім.

У 1682г. увесь комплекс быў рэканструяваны, а таксама ўзведзены новы каменны кляштарны корпус. У 1780-я гг. комплекс кляштара быў рэканструяваны па праекце архітэктара Т.Раманоўскага ў стылі сталага барока, але толькі ў 1803г. было завершана будаўніцтва вежаў-званіц. Корпус бенедыктынак разлічваўся на 15 келляў, тым не менш у кляштары часам знаходзілася да 28 законніцаў, а разам з навіцыяткамі, вучаніцамі і служачымі насельніцтва асяродка дасягала 90 чалавек. У комплекс кляштара таксама ўваходзілі 2 флігелі, капліца, капеланія, шэраг гаспадарчых пабудоваў.

Кляштар бенедыктынак у Мінску дзейнічаў да 1871г., калі ён быў зачынены і перададзены праваслаўнаму ведамству пад жаночы Праабражэнскі манастыр. У 1872г. пачалася перабудова барочнага комплексу ў рэтраспектыўна-рускім стылі.

У 1930-я гг. будынак былога касцёла прыстасавалі пад клуб, а ў сярэдзіне 1960-х і ўвогуле разбурылі. Цяпер на гэтым месцы стаіць будынак гарадской пракуратуры. Сведчаннем існавання ў горадзе кляштара бенедыктынак сёння можа служыць толькі чыгунны крыж на магіле яго настаяцельніцы Клатыльды Вайніловіч (+1825) на Кальварыйскіх могілках.




Рэканструкцыя плана касцёла бенедыктынак на канец XVIIIст.

1. Галоўны алтар св.Войцеха
2. Алтар Тадэвуша Апостала
3. Алтар Святой Сям'і
4. Алтар святых патрыярхаў Бенедыкта і Схаластыкі
5. Алтар Беззаганага Пачацця Панны Марыі



Перад знішчэннем касцёла, фота 1950-х гг.

## Касцёл святой Марыі Магдалены і кляштар кармелітаў

*Карміліцкі ордэн быў заснаваны як «жабрацкі» ў 1155г. св.Бертольдам у Палестыне, на гары Кармель, адкуль і паходзіць яго назва. Асноўныя напрамкі дзейнасці – дапамога жабракам і ўбогім, місіянерства, фізічная праца. У 1593г. прынятае больш суровага статуту прывяло да рэформы ордэна і з'яўлення кармелітаў босых. На тэрыторыі сённяшняй Беларусі ўпершыню з'явіліся ў 1617г. у Пружанах – кармеліты старога статуту, і ў 1639г. у Глыбокім – кармеліты босыя.*

Мужчынскі кляштар ордэна кармелітаў «старой рэгулы» ў Мінску знаходзіўся на правым баку вул.Ракаўскай (прыкладна там, дзе сёння дом № 18). Уладкаваліся манахі-кармеліты тут, спачатку ў драўляных пабудовах, па фундацыі 1700г. (1703г.) Тэадора Антонія ВанькОвіча, стольніка мінскага. Згодна з фундушам, кляштар быў разлічаны на 7 святароў і 5 братоў. Менавіта мінскія кармеліты заклалі, тады яшчэ далёка за горадам, Кальварыю – драўляны касцёл з 36 капліцамі-пахавальнямі – цяперашнія Кальварыйскія могілкі.

У 1763г. (1773г.) Міхал Валадковіч, староста мінскі, на свае сродкі пабудаваў для кармелітаў новы, ужо «каменны і вялікі» касцёл, асвечаны ў імя Марыі Магдалены. Касцёл стаяў галоўным фасадам да вуліцы, з правага боку да яго далучаўся, «драўляны ў каменных склепах у 2 лініі літарай L», кляштарны корпус. Тэрыторыя кляштара, у комплекс якой уваходзілі таксама каменны флігель і шэраг гаспадарчых пабудоваў, была абнесеная каменнай агароджай. Напрыканцы XVIIIст. касцёл М.Магдалены ўяўляў сабой бязвежавую 3-нававую святыню з паўкруглай апсідай, памерамі 40 на 33 локця (каля 26 x 21 м). Галоўны фасад з 2 невялікімі вежамі завяршаўся барочным франтонам крывалінейнага абрысу. Падлога ў святыні была цагляная, крыпта пад падлогаю займала палову даўжыні касцёла, калі лічыць ад алтара. Інтэр'ер карміліцкай святыні ўпрыгожвалі 4 алтары. У галоўным каменным алтары над Укрыжаваннем быў змешчаны абраз Марыі Магдалены. Правая нава завяршалася алтаром, дзе у срэбнай шаце знаходзіўся цудоўны абраз Маці Божай Шкаплернай, культ якой сваім развіццём абавязаны менавіта ордэну кармелітаў. Пры апорах каля прэзбітэрыя знаходзіліся «на оптыцы маляваныя» брацкі алтар св.Юзафа (справа) і алтар св.Іллі Прарока (злева).

Кармеліты сталі першым ордэнам, які пакінуў Мінск. Здарылася гэта яшчэ ў 1798г., калі ў іх асяродку па рашэнні біскупа новаўтворанай Мінскай дыяцэзіі Я.Дадэркі размясціліся манахі-францішканцы (гл. кляштар францішканцаў), а вуліца, на якой стаяў кляштар, была перайменаваная ў Новафранцішканскую (цяпер вул.Ракаўская).

## Кляштар мар'явітак

Кляштар ордэна мар'явітак заснаваны ў Мінску па фундушы Кунігунды Рушчыц, народжанай Мацюшэвіч, ад 26 чэрвеня 1771г. Кляштар знаходзіўся па вул.Францішканскай (цяпер вул.Леніна). Касцёла, або нават капліцы, пры кляштары не было. «Вялебныя панны мар'явіткі» размяшчаліся ў драўляным 1-павярховым, пакрытым гонтаю доме на каменным падмурку. У 1817г. да яго быў прыбудаваны яшчэ адзін такі самы дом. Перад корпусам быў дзядзінец, уваход на які пазначаўся драўлянай брамай, увенчанай каванай манаграмай Імя Панны Марыі. Пры асяродку дзейнічалі бібліятэка і школа для дзяўчат, дзе, акрамя агульнапрынятых тады прадметаў, выкладаліся арыфметыка і дамаводства.

Працавалі сёстры мар'явіткі і пры Таварыстве дабрачыннасці, тым не менш рашэннем царскіх уладаў у 1850г. іх дзейнасць у Мінску была перапыненая, а зямля з пабудовамі перададзеная пад гарадскую забудову.

## Касцёл святога Міхала і кляштар бенедыктынцаў

*У 529г. св.Бенедыкт Нурсійскі заснаваў ордэн бенедыктынцаў на гары Монтэ Касіна. «Манаскі статут» св. Бенедыкта стаў вызначальнай вехай як у гісторыі манаства, так і ў гісторыі Еўропы ўвогуле. Менавіта на яго старонках былі запісаныя тры асноўныя правілы манаскага жыцця – паслухмянасць, убоства, чыстасць, а таксама ўласна бенедыктынскае stabilitas loci – пажыццёвае замацаванне манаха за пэўным кляштарам.*

Кляштар ордэна бенедыктынцаў у Мінску з'явіўся адным з апошніх, хоць сам ордэн лічыцца найстарэйшым у разгалінаванай сістэме рыма-каталіцкіх ордэнаў. Мінскі кляштар быў заснаваны Ганнай Статкевіч, народжанай Багушэвіч, харунжавай мінскай, па фундушы ад 23 красавіка 1700г. Драўляны комплекс кляштара, разлічаны на 2-х ксяндзоў і аднаго законніка, складаўся з касцёла пад тытулам св.Міхала Арханёла, 2-павярховага брацкага корпуса «на каменных склепах» і шэрагу гаспадарчых пабудоваў. Ён займаў трапецыепадобны ўчастак на рагу вул. Койданаўскай і вул. Багадзельнай, там, дзе сёння знаходзіцца дом (вул. Рэвалюцыйная, 18 / вул. Камсамольская, 8), у якім працуюць розныя ўстановы.

Новы драўляны касцёл св.Міхала быў узведзены ў 1773г. «коштам дабрадзеяў». Галоўным фасадам святыня выходзіла на вул.Койданаўскую, у плане была «фігуры авальнай, на падмуроўцы... даўжыні локцяў 32, шырыні локцяў 17, вышыні сцен каля даху 26 локцяў» (каля 21x11x17 м). Касцёл увенчвалі 2 маленькія вежы. Пры прэзбітэрыі мелася адна закрыстыя, над нартэксам на хорах быў устаноўлены пазітыў. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 5 алтароў. Галоўны алтар быў прысвечаны св.Міхалу, левы бакавы – св.патрыярху Бенедыкту, заснавальніку ордэна, правы бакавы – Найсвяцейшай Марыі Панне. Яшчэ 2 алтары знаходзіліся ў «горніх капліцах»: злева – св.Схаластыкі, справа – Езуса Назарэтаніна.

Мінскі кляштар бенедыктынцаў скасавалі ў 1832г. Касцёл св.Міхала быў зачынены, «1-павярховы будынак па вул.Койданаўскай за 22 крокі ад касцёла, атынкаваны звонку і знутры», некаторы час яшчэ выкарыстоўвалася ваенна-судовай камісіяй і іншымі ўстановамі. Але ў хуткім часе унікальны помнік драўлянага барока згарэў у пажары (пасля ўчастак быў забудаваны жылымі дамамі).



**Касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл)**

*«Я пачаў знаёміцца з узорамі і разнастайнымі архітэктурнымі канцэпцыямі. Не жадаў спыняцца на гатычным стылі, па-першае, таму, што ён стаў вельмі распаўсюджаны на той час пры будаўніцтве каталіцкіх святыняў у Расіі, па-другое, таму, што вельмі адрозніваўся ад стылю праваслаўных храмаў, якія існавалі ў нашым краі, і гэтым як бы падкрэсліваў падзел у веравызнанні класаў нашага грамадства, і я спыніўся на раманскім стылі, росквіт якога прыпадае на час, калі ўсходняя Царква існавала ў еднасці з Рымам».*

*(з успамінаў Э. Вайніловіча)*

Гісторыя ўзвядзення Чырвонага касцёла ў Мінску яскрава адлюстроўвае стан будаўніцтва новых каталіцкіх святыняў на тэрыторыі паўночна-заходніх губерняў Расійскай імперыі. Ужо ў 2-й палове XIXст. стала відавочна, што касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны, былы катэдральны, які застаўся адзінай каталіцкай святыняй у Мінску, не ў стане змясціць усіх, хто прыходзіць на набажэнствы. Няшмат маглі дапамагчы ў гэтым і невялікія філіяльныя касцёлы – Найсвяцейшай Тройцы на Залатой Горцы і Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыі. Тым не менш усе спробы каталіцкага насельніцтва горада атрымаць ад уладаў дазвол на ўзвядзенне новага касцёла ў Мінску не мелі поспеху ажно да прыняцця ў 1905г. царскага маніфеста аб свабодзе сумлення. Фундатарамі новага касцёла на скрыжаванні вуліцаў Захар'еўскай (цяпер пр-т Ф.Скарыны) і Трубнай (вул.Берсана) сталі вядомы дзяржаўны і палітычны дзеяч Эдвард Вайніловіч і яго жонка Алімпія, народжаная Вузлоўская. Згодна з фундушам, новая святыня павінна была асвячацца пад тытулам св.Сымона і св.Алены, на ўспамін пра заўчасна памерлых дзяцей фундатараў. Для будаўніцтва быў абраны праект вядомага архітэктара, прафесара Варшаўскай Акадэміі мастацтваў, Тамаша Пайздэрскага. У рэалізацыі праекта яму дапамагалі архітэктары У.Марконі і Г.Гай. Касцёл быў задуманы ў стылі неарамантыкі з элементамі готыкі і сецэсіі і разлічаны на 2500 вернікаў.







25 верасня 1906г. быў урачыста асвечаны краевугольны камень будучага касцёла. А праз 4 гады над горадам узвысілася шмат'ярусная вежа-званіца новай святыні, якая стала сімвалам адроджанай каталіцкай веры і ўзнесла крыжы на самую высокую кропку ў тагачасным Мінску. Такой вышыні не дасягалі нават крыжы касцёлаў XVIIIст., калі Мінск быў горадам каталіцкіх кляштараў. Акрамя гэтага, касцёл святых Сымона і Алены стаў самым вялікім у горадзе. Велічную святыню пабудавалі з чырвонай цэглы, што дало ёй другую назву – Чырвоны касцёл. 20 верасня 1910г. пры касцёле святых Сымона і Алены была зацверджаная новая мінская парафія. У хуткім часе колькасць парафіянаў перавысіла 9000 чалавек.

Дзень 21 лістапада 1910г. стаў сапраўдным святам. Мабыць, увесь горад сабраўся на гук званоў «Міхала», «Эдварда» і «Сымона,» якія абвясцілі з вышыні касцельнай вежы, пра кансэкрацыю новай святыні ў Мінску.



Выява св.Міхала Арханёла перад уваходам у святыню. Вулічная капліца Сэрца Езуса. Калісьці тут стаяла бронзавая выява Маці Божай – копія фігуры на родавых могілках Вайніловічаў у маёнтку Савічы (цяпер Капыльскі р-н). Званіца «Звон Нагасакі». Унізе: выгляд касцёльнага комплексу ад вул.Берсана. На першым плане плябанія.

*Чырвоны касцёл уяўляе сабой 3-нававую, 3-вежавую базыліку асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, з магутным трансептам, тарцы якой вырашаныя дакладна так, як і галоўны ўваходны фасад – над тамбурам, выдзеленым у асобны аб'ём, інтэр'ер асвятляе вялізнае акно-ружа пад трохкутным франтонам. Першапачаткова касцёл быў 3-апсідным – паўцыркульнымі апсідамі заканчваліся і цэнтральная нава і закрыстыі напрыканцы бакавых наваў. Паміж прэзбітэрыем і закрыстыямі пачынаюцца дзве 5-ярусныя вежы пад высокімі шатровымі дахамі. Па фундатарскім жаданні ў франтоне над тамбурам галоўнага ўвахода змешчана каменная белая пліта з гербам Вайніловічаў і надпісам на лацінскай мове ў памяць аб іх памерлых дзецях, імёнамі апекуноў якіх і была названая святыня (сёння тут герб Мінска).*



Алтар «Галгофа».



Галоўны партал касцёла.

1. Галоўны алтар з гарэльефамі святых Андрэя Баболі, Юзафа, Язафата Кунцэвіча і Казіміра.
2. Патранальны алтар святых Сымона і Алены.
3. Алтар Божай Міласэрнасці.
4. Алтар «Галгофа».
5. Капліца св.Антонія.
6. Вулічная капліца Сэрца Езуса.
7. Спуск у капліцу Маці Божай Будслаўскай.
8. Каплічка Найсвяцейшай Марыі Панны.

Але радаваць мінчанаў гукамі званоў Чырвонаму касцёлу давялося нядоўга. Ужо ў 1923г. амаль усе каштоўнасці святыні былі экспрапрыяваныя, а канчаткова касцёл зачынілі ў 1932г., прыстасаваўшы спачатку пад Польскі тэатр БССР, а пасля пад кінастудыю. У 1942г., пасля рэстаўрацыі, касцёл зноў адкрыўся для набажэнстваў, але адразу пасля вайны быў зачынены і ўжо надоўга. Рабіліся спробы цалкам знішчыць святыню. У будынку зноў размясціліся службы кінастудыі, потым – Дом кіно. З'явіліся прыбудовы на левым бакавым фасадзе; закрыстыі страцілі апсіды і злучыліся паўкруглай 3-павярховай прыбудоўкай вакол галоўнай апсіды. Інтэр'ер раздзяліўся перакрыццямі, лесвіцамі, перагародкамі. Увесь жывапіс забялілі. Агароджу касцельнай тэрыторыі з уваходнымі брамамі разабралі. Але менавіта ў такім








Алтар святых Сымона і Алены.
Фота 1910–х гг. і сучасны выгляд.







выглядзе касцёл быў аб'яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Толькі ў 1990г. касцёл святых Сымона і Алены вяртаецца вернікам і адразу ж распачынаюцца рэстаўрацыйныя работы пад кіраўніцтвам архітэктара Л.Івановай. На вежах зноў узвысіліся крыжы, на скляпеннях і ў прэзбітэрыі былі расчышчаны роспісы. Сістэма падземных памяшканняў аб'яднала ўсю тэрыторыю паміж касцёлам і плябаніяй. Цяпер тут размяшчаюцца капліца Маці Божай Будслаўскай, вялікая бібліятэка, залы. Тут у 1996г. распачаў сваю працу першы ў гісторыі Беларусі Сінод Рыма-каталіцкага Касцёла. Менавіта ў гонар гэтай падзеі перад уваходам у касцёл з'явілася бронзавая фігура Міхала Арханёла работы скульптара І.Голубева. Бронзавыя шыльды пры ўваходзе ў касцёл і шыкоўныя дзверы галоўнага партала зроблены скульптарам С. Лагвіным. У 2000г. была ўзведзена мемарыяльная званіца «Звон Нагасакі» (японскі архітэктар Марыяма) ў памяць ахвяраў Чарнобыля, Хірасімы і Нагасакі.

Капліца св.Антонія, капліца Маці Божай Будслаўскай, інтэр'ер галерэі. Па задумцы архітэктараў галерэя павінна была звязаць касцёл з вялікай 2-павярховай плябаніяй. Аднак гэтую частку праекта не рэалізавалі, а новую плябанію, больш сціплую па аб'ёме, пабудавалі ў глыбіні тэрыторыі.

Паштоўка XIX ст.





*Інтэр'ер касцёла ў 1910–я гг. упрыгожылі 3 алтары работы скульптара Зыгмунта Ота, ён таксама выканаў усе каменныя і скульптурныя работы – амбону, агароджы, бронзавыя дэталі. Арнаментальны жывапіс у стылі мадэрн на скляпеннях і сценах касцёла, аконныя вітражы, належалі аўтарству мастака Францішка Бруздовіча.*

## Касцёл святога Тамаша Аквінскага і кляштар дамініканцаў



Кляштар дамініканцаў у Мінску. Рэканструкцыя В.Сташчанюка.

*Ордэн dominicani fratres praedicatores – братоў-прапаведнікаў – быў заснаваны як «жабрацкі» іспанцам Дамінікам дэ Гусманам у 1216г. Статут ордэна складаўся на падставе працаў свАўгустына. Дамініканцы часта ўзначальвалі кафедры еўрапейскіх універсітэтаў. З ордэна выйшлі многія буйныя тэолагі і дзеячы каталіцкага Касцёла – Альберт Вялікі, Саванарола, Тамаш Аквінскі. У межах сённяшняй Беларусі дамініканцы ўпершыню з'явіліся ў канцы XV ст., таму на нашай зямлі вядомыя толькі як асветнікі і багасловы. Пасля скасавання ордэна езуітаў менавіта дамініканцы ўзначалілі сістэму адукацыі ў ВКЛ.*

Кляштар ордэна дамініканцаў у Мінску знаходзіўся ў паўднёва-ўсходняй частцы ансамбля Верхняга Рынку, абмежаванай вуліцамі Валоцкай (цяпер вул.Інтэрнацыянальная) і Дамініканскай (вул.Энгельса). У горадзе браты-прапаведнікі з'явіліся першымі з рыма-каталіцкіх законных ордэнаў. Аднак у розных гістарычных матэрыялах, якія датычаць кляштара, прыводзяцца розныя даты яго заснавання: 1605, 1619, 1626 гг. і інш. Таму будзем спасылацца на дакумент, у якім, хаця ён і не самы старажытны, ёсць разгорнутае апісанне тых падзеяў: кляштар з касцёлам з дрэва ў 1600г. пачала будаваць Зоф'я Слушка, народжаная Завіша. У 1604г. праз Мінск з-пад Масквы вярталася з багатымі дабыткамі рыцарства Рэчы Паспалітай. Ваяры бачылі незавершаныя сцены пабудоваў і пастанавілі паміж сабою зрабіць складчыну ад колькасці коней, названую «капытковым зборам», і ахвяравалі яе на гэтыя пабудовы. Такім чынам, касцёл і кляштар хутка былі скончаныя, і ўжо на генеральнай капітуле 1605г. у Рыме ордэн дамініканцаў прыняў іх як дарунак. Пасля гэтага фундатарка выпісала манахаў з Вільні і яны пасяліліся тут. А ў хуткім часе мінскі ваявода Пётр Тышкевіч дакупіў пляц на рагу Высокага Рынку пры скрыжаванні вуліцаў Валоцкай і Дамініканскай і ў 1615г. (па інш. звестках па фундушы 1640г. Марцыбеліны Глебовіч) пачаў будаваць для да-



Галоўны фасад касцёла св. Тамаша. Рэканструкцыя 1-й паловы XIXст.

*Комплекс быў абнесены высокай каменнай агароджай з уваходнай брамай па восі з касцёлам. Яна і была сапраўдным шэдэўрам малых формаў архітэктуры. Брама ўяўляла сабой дзве 3-ярусныя, з калонамі па кутах, вежы, масток паміж якімі перакрываў уваходны праём складанага барочнага абрысу. Вежы ўвенчваліся купаламі, стылізаванымі пад кароны. Два верхнія ярусы вежаў, у кожным з якіх было па адным звоне, служылі званіцаю.*



Кляштарная брама. Рэканструкцыя 1-й паловы XIXст.

мініканцаў каменны касцёл і кляштарны корпус. Такім чынам, да сярэдзіны XVIIст. у гэтай частцы Мінска быў узведзены касцёл пад тытулам св.Тамаша Аквінскага і кляштар на 12 манахаў. Як і паўсюль у ВКЛ, дамініканцы займаліся адукацыяй насельніцтва, таму і пры іх мінскім асяродку дзейнічала школа.

Пасля рэканструкцыяў 1709 і 1781гг. комплекс кляштара набыў рысы барока. Галоўны фасад касцёла, багата аздоблены барокавым дэкорам, рабіў дамініканскую святыню, магчыма, самай вытанчанай з мінскіх касцёлаў. Да правага боку прэзбітэрыя яшчэ ў 1703г. быў прыбудаваны «ў адну лінію» 2-павярховы кляштарны корпус, уваходная частка якога пазначалася рызалітам з фігурным франтонам. Планіроўка корпуса была калідоравай, памяшканні перакрываліся крыжовымі скляпеннямі. За кляштарным корпусам знаходзіўся сад і драўляныя гаспадарчыя пабудовы – 2 флігелі, свіран, стайня.

*Касцёл уяўляў сабой бязвежавую трохнававую святыню з прамавугольнай апсідай. Багата дэкараваны шматпрофільнымі крываліненйнымі гзымсамі, гладкімі і руставанымі пілястрамі, галоўны фасад завяршаўся фігурным франтонам з валютамі, над якім узвышалася невялічкая вежа пад купалам з карункавым крыжам. Асабліва цікавае размяшчэнне дзвюх капліцаў пры галоўным фасадзе: быццам дзве невысокія вежы іх завяршалі вялікія светлавыя 8-гранныя барабаны пад купаламі з галоўкамі. Цэнтральная нава касцёла перакрывалася цыліндрычным скляпеннем, бакавыя – крыжовымі. Інтэр'ер упрыгожвалі – і ў гэтым дамініканскі касцёл пераўзыходзіў усе касцёлы Мінска і Мінскай дыяцэзіі – ажно 14 разьбяных драўляных і стукавых алтароў. Вялікі алтар з абразом св. Тамаша быў на «сцяне ў оптыцы маляваны», злева ад яго знаходзіліся алтары Панны Марыі Ружанцовай, св. Тадэвуша, св. Барбары, св. Вінцэнта, св. Кацярыны і св. Міхала; справа – алтары Укрыжавання, св.Дамініка, Беззаганнага Пачацця Панны Марыі, св. Яцка і св. Яна Непамука. Яшчэ 2 алтары былі ў капліцах: у левай, фундацыі Глябовічаў, – пад тытулам св. Марыі Магдалены, у правай, распісанай фрэскамі Мукі Пана, фундацыі Завішаў, – пад тытулам Маці Божай Балеснай. Упрыгожвалі інтэр'ер і 8 гербаў ініцыятараў «капытковага збору» на гзымсах. На хорах над нартэксам стаяў самы вялізны і прыгожы ў Мінску арган – на 24 галасы.*




Рэканструкцыя плана касцёла дамініканцаў на пачатак XIX ст.

1. Вялікі алтар св.Тамаша з Аквіну
2. Алтар Найсвяцейшай Марыі Панны Ружанцовай
3. Алтар Езуса Укрыжаванага
4. Бочны алтар св.Тадэвуша
5. Бочны алтар св.Дамініка
6. Прысценны алтар св.Барбары
7. Алтар св.Вінцэнта
8. Алтар св.Яцка
9. Прысценны алтар св.Кацярыны
10. Прысценны алтар Беззаганага Пачацця
11. Алтар св.Міхала
12. Алтар св.Яна Непамука
13. Алтар св.Марыі Магдалены ў капліцы Глябовічаў
14. Алтар Маці Божай Балеснай у капліцы Завішаў

Фота 1860-х гг.







Апошні здымак святыні перад разбурэннем.
Раскоп фундаментаў касцёла перад пабудовай Палаца Рэспублікі.

Пасля ўтварэння Мінскай дыяцэзіі ў 1798г. частку корпуса дамініканскага кляштара перадалі пад рэзідэнцыю біскупа. Пасля пажару 1809г., які знішчыў мінскую фару на Траецкай гары, яе парафія лікам у 3000 вернікаў была прыпісаная да касцёла св.Тамаша, і ў такім выглядзе дамініканскі кляштар дзейнічаў да 1832г., калі яго скасавалі, а манахаў выслалі.

Касцёл быў пераведзены ў ранг парафіяльных і рэкансэкраваны як нашчадак фары пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы. З 1840г. Траецкую парафію перавялі ў касцёл на Залатой Горцы, а былы дамініканскі кляштар перабудавалі пад каталіцкую семінарыю. Пры гэтым ўнутраная прастора святыні была падзеленая перакрыццямі на 3 паверхі, з якіх першыя 2 займалі клерыкі, а на 3-м мясцілася капліца св.Тадэвуша. Пасля закрыцця семінарыі ў 1869г. увесь комплекс прыстасавалі пад казармы і афіцэрскі клуб. Каля 1907г. верх франтона касцёла быў разабраны, на ягоным месцы з'явілася драўляная назіральная пажарная вышка.

Выдатны помнік барока – комплекс былога дамініканскага кляштара – ужо 5 ліпеня 1926г. быў аб'яўлены помнікам архітэктуры, які знаходзіцца пад аховай дзяржавы. І тым не менш пацярпелы падчас вайны комплекс быў узарваны і разабраны ў 1950г. Цяпер яго фундаменты знаходзяцца пад комплексам будынка Палаца Рэспублікі.

# Касцёл святога Юзафа і кляштар бернардынцаў



Сучасны выгляд касцёла святога Юзафа.

*Ордэн бернардынцаў быў утвораны ў 1415г. у выніку рэформы францішканскага ордэна, праведзенай Бернардам Сіенскім. У Еўропе манахі гэтага ордэна больш вядомыя як францішкане-абсерванты, на тэрыторыі ж Рэчы Паспалітай за імі замацавалася назва бернардынцы, па імені заснавальніка ордэна. Асноўнай работай бернардынцаў было місіянерства і пастырства. На Беларусі ўпершыню з'явіліся ў Гродне ў 1494г.*

Мужчынскі кляштар ордэна бернардынцаў уваходзіў у комплекс бернардынскіх кляштараў на плошчы Верхняга Рынка. Адзін будынак ад другога аддзяляла вуліца, названая Вялікай Бернардынскай (цяпер вул.Кірыла і Мятода). Кляштар бернардынцаў быў заснаваны ў Мінску па фундацыі 1624г. краснасельскага старосты Андрэя Кансоўскага і яго брата Яна, згодна з якой бернардынцам пад рэзідэнцыю перадаваўся драўляны дом на ўсходнім баку Верхняга Рынка. У 1628г. фундуш пацвердзіў Астафей Валовіч, віленскі біскуп. У 1630-я гг. бернардынцы пабудавалі драўляныя касцёл і канвент на рагу квартала, утворанага рынкавай плошчай і вул.Вялікай Бернардынскай, але ўвесь комплекс згарэў у 1644г. Пасля пажару да 1652г. былі нанова адбудаваныя ўжо каменны касцёл пад тытулам св.Юзафа Абранніка Найсвяцейшай Марыі Панны і кляштарны корпус. Прытулак яшчэ некалькі разоў гарэў – у 1656, 1740, 1835 гг. – але за кожным разам адбудоўваўся нанава. Самая буйная рэканструкцыя была ў 1752г., у выніку яе будынкі і набылі рысы барока. З цягам часу комплекс кляштара бернардынцаў заняў увесь квартал паміж вул.Вялікай і Малой Бернардынскімі, Зыбіцкай і плошчай Высокага Рынку.

Комплекс былых бернардынскіх кляштараў.



У канцы XVIII ст. увесь комплекс кляштара складаўся з касцёла і далучанага да яго (такім чынам утваралася замкнутае карэ вакол унутранага двара) брацкага



*На гравюры з карты бернардынскіх кляштараў Літоўскай правінцыі ордэна, зробленай майстрам Г.Ляйбовічам у 2-й палове XVIIIст., кляштар у Мінску паказаны без бакавых наваў, дах па цэнтры ўвенчвае груваскі купал. Безумоўна, гэтая выява толькі схема, але яна дае некаторае ўяўленне пра тое, як выглядаў кляштар да рэканструкцыі 1752г.*

корпуса, некалькіх каменных і драўляных флігеляў і шэрагу гаспадарчых пабудоваў. Квартал, заняты кляштарам, быў абнесены высокай каменнай агароджай з брамамі, галоўная з якіх – перад касцёлам – мела 3-пралётную кампазіцыю, завершаную «вазонамі вытачанымі».

Касцёл св.Юзафа належыць да тыпу бязвежавых базылікаў. Амаль квадратны ў плане аб'ём святыні падзяляецца 6 апорамі на 3 навы, цэнтральная з якіх заканчваецца падоўжаным прэзбітэрыем з 3-граннай апсідай, падпертай двума магутнымі контрфорсамі. Дамінантай комплексу з'яўляўся галоўны фасад касцёла – крывалінейная плоскасць, багата дэкараваная слаістымі пілястрамі, падзеленая шматпрофільнымі карнізамі на 4 ярусы, завершаная высокім франтонам складанага крывалінейнага абрысу. Хутчэй за ўсё, крывалінейнымі паўфронтонамі завяршаліся і тарцы бакавых наваў на галоўным фасадзе, але сёння яны страчаныя. Увенчвалася кампазіцыя фасада «малою капулкаю», падобная да яе сігнатурка завяршала 2-схільны гонтавы дах над прэзбітэрыем. У нішах уваходнага фасада стаялі фігуры святых, «у вокнах фасада віселі 3 званы». Інтэр'ер касцёла перакрываўся цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі над вокнамі, скляпенне над прэзбітэрыем было распісанае. Бакавыя навы заканчваліся дзвюма капліцамі, перакрытымі крыжовымі скляпеннямі з ляпным дэкорам, адну з іх фундаваў у 1676г. Крыштаф Завіша. На хорах, куды вяла вінтавая лесвіца ў тоўшчы сцяны галоўнага фасада, былі ўстаноўленыя арганы

1. Фурта.
2. Пакой фуртыяна і касцёльных служак.
3. Келлі манахаў-бернардынаў.
4. Памяшканне кляштарнага архіва.
5. Калідоры.
6. Кладавая прыёра.
7. Келля прыёра.
8. Пякарня.
9. Кухня.
10. Рэфектар.
11. Закрыстыя.
12. Скарбец.
13. Хор законны.
14. Клауструм – унутраны дворык.

АЛТАРЫ:

A. Галоўны алтар.
B. Панны Марыі Беззаганага Пачацця.
C. св. Антонія.
D. у капліцы Езуса Убічаванага.
E. у капліцы св. Францішка.
F. св. Юзафа.
G. св. Ганны.
H. св. Тэклі.
J. св. Марыі Магдалены.





Выгляд былога кляштару бернардынцаў на пачатку ХХст.

на 10 галасоў. У пач. XIXст. іх замянілі новыя шыкоўныя арганы «на 22 галасы і з 4 мяхамі». Пад касцёлам у крыпце былі пахаваныя прадстаўнікі вядомых шляхецкіх і магнацкіх родаў: Завішы, Кансоўскія, Тышкевічы.

Да паўночна-заходняга фасада касцёла св.Юзафа далучаўся «кляштар мураваны ў 3 лініі, у дзвюх лініях уздоўж па 2 паверх, а ў трэцяй папярэчнай, бо пад гарою пабудаваная, 3 паверхі... лініі замыкаюць сабою квадрат з агародам і альтанкаю з кветкамі» і садовымі дрэвамі. У карпусах размяшчаліся келлі манахаў, рэфектар, бібліятэка, іншыя памяшканні. Фасады тарцоў корпуса таксама завяршаліся фігурнымі франтонамі – захаваўся толькі адзін, далучаны да галоўнага фасада касцёла.

Кляштар звычайна насялялі 20-25 законнікаў. Пры ім дзейнічала школа філасофіі, пачатковая школа навучання па сістэме Бэла-Ланкастара. Бібліятэка кляштара – 1532 тамы – лічылася найбуйнейшай.

У такім выглядзе комплекс кляштара бернардынцаў дзейнічаў да 1860-х гг., калі ён застаўся апошнім з 8 мужчынскіх каталіцкіх кляштараў Мінска. 29 жніўня 1864г. кляштар быў скасаваны. Касцёл св.Юзафа прыстасавалі пад праваслаўную палкавую царкву святых Кірыла і Мятода (з 1872г. перабудаваная пад архіў), а ў карпусах размясціліся казармы Каломенскага пяхотнага палка і дзяржаўная следчая камісія. Пасля гэтага шыкоўны франтон касцёла быў разабраны, дах намнога паніжаны.

У 1983г. знешні выгляд комплексу, аб'яўленага помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння, быў рэстаўраваны. Над касцёлам ізноў з'явіўся франтон, узнёсся чарапічны дах (арх. Г.Босак). Унутры, на жаль, усё засталося па-ранейшаму – інтэр'ер касцёла падзелены перакрыццямі на 5 паверхаў, тут размяшчаецца Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі і Архіў літаратуры і мастацтва Беларусі, у карпусах кляштара – ваенныя камендатура і пракуратура.

*Інтэр'ер касцёла св. Юзафа ў пачатку XIXст. упрыгожвалі 9 каменных, атынкаваных і дэкараваных гіпсавай лепкаю алтароў. Вялікі алтар падзяляў апсіду на перадалтарную частку і хор законны за ёю. Кампазіцыя на тарцовай сцяне апсіды ўяўляла сабой велічнае Укрыжаванне, якое абапіралася на барочны антаблемент з фігуркамі анёлаў. Антаблемент неслі калоны і пілястры, паміж якімі стаялі фігуры 4-х евангелістаў. Пад Укрыжаваннем былі фігуры Маці Божай і Яна Хрысціцеля. Праём прэзбітэрыя фланкавалі два 2-ярусныя алтары, «такой самай архітэктуры», як і галоўны. У левым над абразом Беззаганнага Пачацця Найсвяцейшай Марыі Панны ў срэбнай і пазалочанай шаце мясціўся абраз св. Барбары. У правым алтары, над абразом св. Антонія ў срэбнай шаце, знаходзіўся абраз св. Банавентуры. Пры гэтым у алтары былі фігуры св. Бернарда, заснавальніка ордэна, (злева) і св. Вінцэнта Ферарскага. У алтары левай капліцы над абразом Езуса Бічаванага была гіпсавая выява св. Веранікі, тут жа размяшчаліся фігуры святых Канстанціна і Алены. У правай капліцы алтар св. Францішка ўвенчвала ляпная выява святых Францішка і Дамініка ў атачэнні серафімаў у аблоках. Пры гэтым у алтары былі фігуры св. Сікста V, Папы (злева) і св. Мікалая IV, Папы. Каля бліжэйшых да прэзбітэрыя апораў знаходзіліся алтары, кампазіцыі якіх завяршаліся багатай гіпсавай ляпнінай: слупы, берлы, анёлы. У левым алтары абраз св. Юзафа знаходзіўся ў атачэнні фігураў святых Марціна і Пятра, у правым абраз св. Ганны атачалі фігуры святых Захарыі і Альжбеты. І яшчэ два алтары знаходзіліся каля апораў у цэнтры санктуарыя. У левым абраз св. Тэклі ў атачэнні фігураў святых Вікторыі і Ізыдора ўвенчваўся гіпсавай выявай св. Мяхільды. У правым алтары кампазіцыя з абразом св. Марыі Магдалены завяршалася гіпсавым чоўнам св. Пятра ў атачэнні аблокаў і анёлаў. Тут жа стаялі фігуры св. Агнешкі (злева) і св. Марты.*

## Касцёл святога Яна Божага і кляштар баніфратаў

*Ордэн баніфратаў, ці братоў міласэрнасці, ці ордэн святога Яна Божага, быў створаны партугальцам Янам Божым у 1540г. у Гранадзе (Іспанія). Перш за ўсё манахі-баніфраты ўвайшлі ў гісторыю ордэнаў як апекуны хворых і нямоглых. Ім належала разгалінаваная сетка шпіталяў па ўсім свеце. На Беларусі ўпершыню з'явіліся ў 1649г. у Наваградку.*

Кляштар ордэна баніфратаў быў заснаваны ў Мінску па фундушы ад 1 снежня 1703г. за подпісам Тэадора Антонія Ваньковіча, падстаросты і стольніка мінскага. Комплекс кляштара стаяў на ўсходнім баку Старога, ці Ніжняга, рынку, перад кляштарам бернардынак, на рагу вул.Зыбіцкай. Баніфрацкі кляштар, вельмі невялікі па габарытах, складаўся з каменнага касцёла св.Яна Божага, да апсіды якога далучаўся драўляны, крыты гонтаю, 2-павярховы брацкі корпус – канвент. У комплекс уваходзілі таксама некалькі нязначных гаспадарчых пабудоваў і драўляны будынак рэфектара з кухняй.

Касцёл св.Яна стаяў «фронтам да рынку», меў выцягнуты, прамавугольны (каля 20 х 9 м) план, прэзбітэрый быў перакрыты каменнымі скляпеннямі, санктуарый – падшыўной столлю з дошак. Над галоўным фасадам узвышалася вежа-званіца з 2 званамі. Пры прэзбітэрыі, які ўвенчваўся над гонтавым дахам сігнатуркай з крыжам, мелася адна закрыстыя. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 3 алтары. У галоўным алтары змяшчаўся абраз св.Яна Божага. Правы бакавы алтар быў 2-ярусным – над абразом Пана Езуса знаходзіўся абраз св.Аўгустына, біскупа. У левым бакавым алтары захоўваўся цудоўны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны, упрыгожаны срэбнай шатай і каронамі. У святыні знаходзілася і цудоўная фігура св.Роха – святога, які, як лічылася, не аднойчы выратоўваў Мінск ад пошасці. Хоры абапіраліся на 2 каменныя апоры, тут былі ўстаноўленыя арганы «на 9 галасоў».

У 1833г. кляштар зачынілі, фігуру св.Роха перанеслі ў капліцу на могілках на Залатой Горцы. Будынкі комплексу былі прададзеныя ў 1863г. з публічнага торгу, а ў далейшым і ўвогуле зніклі з карты горада. Цяпер на гэтым месцы стаіць 3-павярховы цагляны дом пачатку ХХст., справа перад мостам праз Свіслач. Сёння ад баніфрацкага кляштара захаваліся падземныя хады, з якіх і пачыналася сістэма падземных сувязяў паміж каталіцкімі кляштарамі Мінска.



**Капліца святога Яна Хрысціцеля**

Парафія святога Яна Хрысціцеля зарэгістравана ў мікраараёне Серабранка 18 красавіка 1996г. 24 чэрвеня 2000г. дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцзіі Кірыл Клімовіч асвяціў крыж і зямлю пад будову будучага касцёльнага комплекса. З кастрычніка 2001г. па чэрвень 2002г. вялася будова капліцы з газа-сілікатных блокаў. Будынак капліцы – невялікі залавы аб'ём, увенчаны вежай-званіцай над уваходам. 24 чэрвеня 2002г. капліца была асвечана.



## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках



Нават у XIXст. Кальварыя яшчэ не ўваходзіла ў гарадскую мяжу Мінска, знаходзілася ад яго «за некалькі вёрст». З сярэдзіны XVIIIст. на Кальварыйскіх могілках вядомы касцёл пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа. Пабудавалі яго манахі ордэна кармелітаў, чый кляштар знаходзіўся ў самім Мінску. Яны і стварылі са звычайных могілкаў, вядомых у гэтым гарадскім прадмесці з XVIIст., сапраўдную Кальварыю «з 36 капліцамі адной формы і вышыні».

У той час касцёл Узвышэння Святога Крыжа ўяўляў сабою «драўляны, на падмурку», будынак з 2 высокімі 3-яруснымі вежамі. Франтон галоўнага фасада абапіраўся на 2 калоны, над алтарнай часткай узвышаўся шчыт з імем Марыі. Касцёл



Уваходная брама Кальварыі.





Малельная каплічка перад уваходам у касцёл, інтэр'ер і план касцёла.




меў гонтавае пакрыццё, прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі. На хорах, якія абапіраліся на 4 слупы, стаялі арганы. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары. У галоўным, 2-ярусным, меўся абраз Укрыжавання ў атачэнні 4 калонаў, які увенчваўся абразом св.Караля Барамея. Два алтары – св.Юзафа і св.Ганны – знаходзіліся ў «маленькіх бакавых каплічках», магчыма, зробленых у крылах трансепта.

У 1798г., пасля ўтварэння Мінскай дыяцэзіі, Кальварыйскі касцёл перайшоў пад патранат мінскіх францішканаў, а могілкі былі аб'яўленыя парафіяльнымі.

Будынак драўлянага касцёла прызналі састарэлым і разабралі ў 1836г., а на ягоным месцы ў 1839г. на сродкі старшыні суда Міхала Паўлікоўскага і яго жонкі Ганны, народжанай Абуховіч, пачалося ўзвядзенне каменнага касцёла. Яго будынак упрыгожвае старажытныя могілкі і дагэтуль. У 1842г. святыня была асвечаная пад гістарычным тытулам. Над магіламі шляхецкіх родаў Міншчыны, духоўных асобаў Мінскай дыяцэзіі ўзвысілася вежа-званіца, якая фармуе галоўны фасад касцёла. Гэта аднанававы, з прамавугольнай апсідай, перакрыты цыліндрычным, з распалубкамі, скляпеннем, пад 2-схільным дахам (першапачаткова быў гонтавы, а з 1874г. заменены на бляху) касцёл у стылі неаготыкі. Дзве маленькія капліцы, прыбудаваныя да бакавых фасадаў, утвараюць нешта накшталт невялікага трансепта. Закрыстыя была зроблена ў апсідападобным аб'ёме за алтарнай сценкай. Галоўны ўваход мае выгляд стральчатага партала. У інтэр'еры вылучаўся абраз Хрыста ў Гефсіманскім садзе пэндзля выдатнага мастака Яна Дамэля. Абраз у багата ўпрыгожанай раме знаходзіўся ў цэнтры апсіднай сцяны, якую займала вялікая фрэска з выяваю Галгофы. У капліцах-кры-





Бочныя алтары Кальварыйскага касцёла пасля рэстаўрацыі: левы – Найсвяцейшай Марыі Панны, правы – Найсвяцейшага Сэрца Езуса.

лах трансепта, як і ў старой святыні, былі алтары св.Ганны і св.Юзафа. У крыпце пад касцёлам пахаваныя мастак Я.Дамэль (+1840), біскуп Матэвуш Ліпскі (+1839).

Хоць касцёл Узвышэння Святога Крыжа меў у XIXст. толькі статус філіі мінскай катэдры, тут быў пастаянны пробашч і ўласная плябанія, пабудаваная ў 1841г. З 1885 па 1906 гг. да Кальварыі прыпісваліся філіі ў Анопалі і Воўчкавічах.

У 1930-я гг. Крыжаўзвышанскі касцёл застаўся адзіным дзейным у Мінску, але без пробашча. Аднак перад 2-й сусветнай вайной зачынілі і яго. Ненадоўга набажэнствы ўзнавіліся падчас вайны, але адразу ж пасля вызвалення святыню зноў зачынілі і прыстасавалі пад майстэрні. У 1945г. тэрыторыя Кальварыйскіх могілак была значна павялічаная, але ўжо ў 1967г. могілкі зачынілі для пахаванняў. Вярнулі святыню вернікам толькі ў 1980г., яна стала першым у пасляваенны час дзейным каталіцкім касцёлам у горадзе.

З даўніх часоў Кальварыйскія могілкі былі месцам пахавання каталіцкай арыстакратыі Міншчыны, іх нават называлі «прывілеяванымі». Тут пахаваныя Ваньковічы, Луцкевічы, фундатары Чырвонага касцёла Вайніловічы, паэт Янка Лучына. Здаўна тут хавалі і духоўных асобаў Мінскай дыяцэзіі. Тут спачываюць біскупы Ліпскі, Рава, кс.Аляксандр Сіпайла. На некаторых магілах узведзены каменныя капліцы-пахавальні – сёння іх тут 11.

Комплекс Кальварыйскіх могілак залічаны да помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння.

## Раўбічы






План касцёла святога Мацвея.

Сучасныя выгляд святыні.



Згодна з мясцовым паданнем, у 1650г. на горку над ракой Ушачай як на месца для ўзвядзення святыні ўказаў абраз Маці Божай Карміцелькі (Lactasti Sacro Ubere), які ўратаваў падчас навальніцы шляхціца Лукаша Халяву, уладальніка вёскі Халаўшчызна. Дрэва, на якім быў знойдзены абраз, «абкружылі 8-кутнай капліцай, а ягоная крона стала купалам». Дакументальна існаванне касцёла з такім абразом пацвярджаецца з 1709г., калі фундуш на святыню быў аформлены тастамантам Аляксандра Халявы. У XVIIIст. касцёл меў статус філіі пры мінскім фарным касцёле Найсвяцейшай Тройцы.

Праз стагоддзе, у 1806г., на месцы старажытнай святыні быў узведзены з брусу новы касцёл і асвечаны пад тытулам св.Мацвея. Святыня ўяўляла сабой 6-гранны цэнтрычны аб'ём, абведзены па перыметры каланадай з 23 круглых апораў, якія неслі гонтавы дах. Увенчвала кампазіцыю вежа над уваходам. Прэзбітэрый фланкавалі 2 закрыстыі, над нартэксам мясціліся хоры. Скляпеністую столь у інтэр'еры падтрымлівалі 8 слупоў. У галоўным алтары касцёла знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай Карміцелькі, «напісаны на меднай дошцы». У бакавых алтарах былі абразы Укрыжавання і св.Роха.

З цягам часу стары касцёл св.Мацвея ўжо не мог змясціць усіх вернікаў, і ў 1858г. быў асвечаны краевугольны камень для падмурку будучай святыні. Да 1862г. будаўніцтва на сродкі графіні Марыі Тышкевіч і іншых ахвярадаўцаў скончылася. Святыня ў неагатычным стылі завяршыла адзін з найпрыгажэйшых пейзажаў краю. Два востраканцовыя спічакі над белымі сценамі касцёла быццам бы ўзносяць да неба раку, парослыя лесам пагоркі і пабудовы. Цікава, што закрыстыі, якія фланкуюць прэзбітэрый, у аб'ёме ствараюць ілюзію трансепта.






Абраз Маці Божай Карміцелькі (аднаўлены паводле архіўных дакументаў).

Аднак сваё прызначэнне касцёл выконваў усяго 4 гады. У 1866г. святыня была зачыненая і перарobленая пад царкву, але гэта не прывяло да перабудовы касцёла ў рэтраспектыўна-рускім стылі.

У 1917г. касцёл быў вернуты католікам, але ў гады савецкай улады перастаў дзейнічаць увогуле. Падчас вайны святыня атрымала значныя пашкоджанні. Капліцу на могілках знеслі ў 1930-я гг., а ў 1924г. в.Халаўшчызна была перайменавана ў Аколіцу.

Пасля рэстаўрацыі ў 1975-78гг. (архітэктар Л.Паўлава), у выніку якой быў падоўжаны аб'ём у алтарнай частцы, былы касцёл аб'явілі помнікам архітэктуры і прыстасавалі пад музей беларускага народнага мастацтва на тэрыторыі спарткомплексу «Раўбічы». Тым не менш, парафія св.Мацвея адрадзілася і 31.12.1991 была зноў зарэгістраваная.

У палацы фундатараў касцёла Тышкевічаў, які знаходзіўся ў Гродку Тышкевіцкім (сёння Астрашыцкі Гарадок) з 1854г. дзейнічала прыватная капліца ад Халаўшчынскай парафіі. Інтэр'ер капліцы ўпрыгожваў драўляны алтар у стылі класіцызм з абразом Маці Божай Чанстахоўскай.

Таксама на поўначы Мінскага раёна ў XVIII ст. дзейнічалі капліцы ў палацах Валадковічаў – у Новым Двары ад радашковіцкай парафіі і ў Саламярэччы ад заслаўскай парафіі.

*«Месца пабудовы святыні – высокая гара, з трох бакоў абкружаная лесам. Яна з'яўляецца сярэдзінаю чатырох высокіх гораў, размешчаных крыжападобна, таму святыня заўсёды называлася Халаўшчынскім Крыжагорскім касцёлам».*

У 1908г., у дзень святога Марка, у Халаўшчызне, на мясцовых каталіцкіх могілках, адкрытых за тры гады да гэтага, была асвечаная пад тытулам св.Яна Хрысціцеля невялікая капліца. Ратондападобнае збудаванне з дрэва, пакрытае схілавым ліставым дахам, нават не завершанае сігнатуркай, служыла патрэбам шматлікай парафіі.
Праект капліцы 1907г.



## Сёмкаў Гарадок



Фота святыні напрыканцы XIXст.

План касцёла.

Руіны касцёла.




25 мая 1791 г. Адам Хмара, ваявода мінскі і ўладальнік маёнтка, фундаваў тут, у мястэчку Гродак Хмароўскі, каменную святыню. Па волі фундатара 11 красавіка 1802г. яна была асвечаная як касцёл пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі і св.Станіслава, біскупа і мучаніка. 2 верасня 1802г. у Гродку Хмароўскім была заснаваная парафія. Да касцёла ў 1-й паловы XIX ст. прыпісвалася капліца Маці Божай Ружанцовай ў Сёмкаве, у палацы Хмараў.

Касцёл быў пабудаваны ў стылі т.зв. станіславаўскага класіцызму, своеасаблівай эклектыкі мяжы XVIII-XIX стст., дзе сумяшчаліся і позняе барока і новамодны класіцызм.





Галоўны фасад касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Паннны пазначаўся высокім барочным франтонам, некалі ў ягоным цэнтры змяшчалася «выбеленая гіпсатура Божага Провіду ў аблоках і промнях. Па канцах франтона – чатыры драўляныя вазоны скульптурнай аздобы». Аднак у дэкоры фасадаў ужо прысутнічалі элементы класіцызму – трохкутны франтон непасрэдна над уваходам, руставаныя пілястры, зубчык пад гзымсамі.

У 1866 г. касцёл быў перабудаваны пад царкву, але пры гэтым тытул быў захаваны – Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Ужо ў стане руінаў святыня была аб'яўленая помнікам архітэктуры. Сёння храм рэстаўруецца як праваслаўная царква.

Палац Хмараў у Сёмкаве, нападалёк ад касцёла, таксама захаваўся (1771г., архітэктар – італьянец К.Спомпані). У палацы была зроблена таксама капліца.

*У архітэктурным вырашэнні аб'ёма касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Паннны быў выкарыстаны вельмі цікавы і дастаткова рэдкі прыём: паўцыркульная апсіда ўпісваецца ў прамавугольны план будынка, ствараючы 2 закрыстыі – т. зв. «рымская» апсіда. Касцёл быў накрыты пляскатай падшыўной столлю па бэльках. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары «каменнай аздобы». Над нартэксам былі зробленыя хоры, дзе размяшчаліся «маленькія арганы на 7 галасоў».*

## Сініло








Парафія заснаваная ў 1990-я гг. Гэта адзіная пакуль на Беларусі парафія, касцёл якой асвечаны пад тытулам Маці Божай – Зоркі Евангелізацыі. Пабудавалі яго нядаўна, на паўднёвай ускраіне паселішча, перад парафіяльнымі могілкамі. Гэта невялікі залавы, прамавугольны ў плане аб'ём з ліцавой жоўтай цэглы пад 2-схільным дахам, увенчаным маленькай вежай.

У ваколіцах в.Сініло ў многіх вёсках калісьці былі дзейнымі філіяльныя касцёлы і капліцы ад каралішчавіцкай парафіі (напрыклад у в.Дварэц, в.Заямачнае, у в.Новы Двор). Але, нажаль, усе яны не захаваліся.

# Мінскі дэканат

## Смалявіцкі раён







 Касцёл

 Капліца

Смалявічы цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня будуецца

 Святыня не захавалася

## Жодзіна

Каталіцкая парафія ў Жодзіне ўпершыню была зарэгістраваная ўжо ў нашыя дні, у 1996г. Пачалося ўзвядзенне касцёла пад тытулам Маці Божай Фацімскай. Для рэалізацыі быў узяты праект, распрацаваны архітэктарам Інэсай Кныш з «Барысаўпраекта». Сёння будаўнічыя работы скончаныя.









Урачыстасць консэкрацыі святыні.

Цагляны касцёл пад дахам з металачарапіцы і такая ж плябанія складаюць адзіны комплекс на паўночнай ускраіне Жодзіна. Касцёл залавы, з хорамі над уваходам, увенчаны вежай-званіцай. Трохгранны прэзбітэрый утвораны скошанымі ў плане закрыстыямі. 13 верасня 2003г., святыня ўрачыста кансэкраваная Яго Эмінэнцыяй кардыналам Казімірам Свёнткам.

## Смалявічы



*Капліца – невялікі, але цікавы ў архітэктурнам сэнсе цагляны аб'ём у стылі постмадэрн – паўцыркульны з такой жа апсідай у плане, бязвежавы, з высокімі шчытамі на фасадах.*




План святыні.

Першы каталіцкі касцёл у Смалявічах з'явіўся ў 1917г. як філія лагойскай парафіі. Да святыні прыпісвалася капліца ў в.Старына. У 1935г. касцёл зачынілі і разабралі.

У 1996г. у Смалявічах была зноў зарэгістраваная каталіцкая супольнасць. Гэта першая і пакуль адзіная на Беларусі парафія, якая абрала сваім апекуном св.Валянціна. У 2000г. па праекце мінскага дойліда У.Ф.Даніленкі распачалося будаўніцтва капліцы, якая ў будучыні стане часткай касцёльнага комплексу.

З капліцаў , што некалі знаходзіліся на тэрыторыі сучаснага Смалявіцкага раёна – у Волме, Емяльянаве, Старыне, Тадуліне – ніводная не захаваліся.

Сённяшні стан будаўніцтва.



# Мінскі дэканат

## Чэрвеньскі раён







 Касцёл

 Філіяльны касцёл

 Капліца

Чэрвень цэнтр раёна

 Святыня дзейнічае

 Святыня ў зруйнаваным стане

 Святыня не захавалася

## Раванічы



Выгляд і план касцёла ў Раванічах у 1970-я гг.

У 1799г. у заходняй частцы сядзібы на сродкі Антонія Слацвінскага быў пабудаваны каменны касцёл у стылі класіцызму. Па задумцы новага ўладальніка Раванічаў святыня таксама "павінна была стаць магіль-ным склепам фундатараў як сямейны маўзалей". У 1800г. касцёл быў кансэкраваны пад тытулам св.Антонія і атрымаў статус філіі ад бярэзінскай парафіі. Пры святыні Слацвінскія ўтрымлівалі пастаяннага святара.




Касцёл уяўляў сабой прамавугольны ў плане аб'ём з квадратнай апсідай, якую фланкавалі дзве закрыстыі. Галоўны фасад пазначаўся 4-калонным порцікам іянічнага ордэру. Над нартэксам размяшчаліся хоры, куды вяла лесвіца ў тоўшчы сцяны.

У 1937г. касцёл св.Антонія быў зачынены. Сёння святыня знаходзіцца ў стане руінаў, але тым не менш мае статус помніка архітэктуры. Яшчэ ў 1970-я гг. захоўвалася падшыўная столь у выглядзе каробчатага скляпення з паліхромным роспісам на біблейскія тэмы, на апсіднай сцяне можна было разгледзець ілюзорны жывапісны алтар...

Руіны касцёла.





## Смілавічы

Смілавіцкі кляштар на малюнку Н.Орды. 2-я палова XIX ст.

У 1746г., калі княжна Марцыбела Агінская, народжаная Завіша, маршалкоўна надворная, фундавала тут, у сваім маёнтку над ракой Волмай, касцёл і кляштар ордэну айцоў-місіянераў св.Вінцэнта дэ Паоло. У 1747г. яе фундуш быў зацверджаны, і ў хуткім часе тут з'явіліся драўляныя будынкі прытулку. У 1774г. направа ад драўлянага касцёла было скончанае будаўніцтва каменнага кляштарнага корпуса. У 1781г. стары драўляны касцёл разабралі і на яго месцы ўзвысіўся каменны прыгажун-касцёл, кансэкраваны у 1785г. пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы.

Святыня ўяўляла сабой 2-вежавую базыліку ў стылі позняга барока. Пабудаваная з цэглы і атынкаваная, яна мела даволі добрыя прапорцыі. У адной з вежаў знаходзіліся 3 званы, на другой, што з правага боку ад увахода, – гадзіннік. Падлога была выкладзеная з мармуру. На хорах, якія абапіраліся на 2 калоны, размяшчаліся арганы на 14 галасоў.

Уваход на тэрыторыю кляштара быў зроблены не ў цэнтральнай браме на ўваходнай восі з касцёлам, як гэта звычайна робіцца, а ў дзвюх аднолькавых аднапралётных брамках па баках ад святыні. Направа ад касцёла знаходзіўся 2-павярховы, пакрыты 2-схільнымі гонтавымі дахамі, кляштарны корпус, П-падобны ў плане, з двума 3-павярховымі рызалітамі на галоўным фасадзе. На 1-м паверсе корпуса размяшчаліся 4 келлі, араторыум, рэфектар з кухняй і гаспадарчымі памяшканнямі, на 2-м – 11 келляў, келля суперыёра, складскія памяшканні. У кляштары была сабраная багатая бібліятэка. Манахі-місіянеры клапаціліся не толькі пра выка-



Агульны выгляд смілавіцкага кляштара місіянераў. Фота пачатку XXст.

*Інтэр'ер касцёла, падзелены 4 апорамі на тры навы, упрыгожвалі 6 алтароў. У галоўным алтары 8 калонаў неслі антаблемент, "увянчаны каронаю". Паміж калонаў стаялі фігуры св. Пятра з правага боку і св. Паўла з левага, у алтары знаходзіўся абраз Найсв. Тройцы. Направа ад вялікага алтара быў алтар з Укрыжаваннем, пры ім – фігура св. Станіслава, біскупа. Далей, у бакавой капліцы, стаяў 2-ярусны алтар, дзе над абразом св. Вінцэнта быў абраз св. Міхала. Абраз св. Вінцэнта, заснавальніка закона місіянераў, належаў пэндзлю вядомага мастака Шымана Чаховіча. З другога боку ад галоўнага алтара мясціўся бакавы алтар Найсвяцейшай Панны Марыі з фігураю Яна Непамука пры ім. У другой капліцы быў алтар з абразом св. Антонія і абразом св. Ганны над ім. Шосты алтар – св. Барбары – знаходзіўся каля хораў.*

нанне парафіяльных абавязкаў, але і імкнуліся выгадаваць новае пакаленне, якое прынесла б карысць і краю, і Касцёлу. З гэтай мэтай суперыёр Міхал Гродскі заснаваў пры кляштары канвікт для шляхецкай моладзі і школу. У школе для шляхецкіх дзяцей выкладаліся чытанне, пісьмо, латынь, руская мова, арыфметыка, геаграфія. Дзейнічалі пры кляштары шпіталь, а таксама брацтва Найсвяцейшай Тройцы. У комплекс таксама ўваходзілі будынкі флігелю, стайні, свірна, лядоўні, некалькі адрынаў.

У 1-й пал. XIXст. у парафіі з цэнтрам у Смілавічах налічвалася 1500 вернікаў, якія, акрамя кляштара, паслугоўваліся філіяльнымі касцёламі ў Дукоры (цяпер Пухавіцкі р-н), Ігумене (да 1820-х гг.), Турцы і 6 капліцамі ў Волме, Дудзічах (Пухавіцкі р-н), Заямачным і Дварцы (Мінскі р-н), Убелі і на могілках у саміх Смілавічах. Апошняя, пад тытулам Міхала Арханёла, на пачатку XIXст. была "пабудаваная ў 4 вуглы з брусаў сасновых, з ганкам", пакрытая гонтавым дахам. Перад капліцаю стаяла могілкавая брама-званіца, у якой былі 2 званы. "За гэтай званіцай, у адной лініі праз дарогу ёсць другая капліца, каменная, гонтаю пакрытая". Пабудаваў яе памешчык Манюшка "для пахавання свайго бацькі Станіслава Манюшкі".

У 1832г. кляштар місіянераў у Смілавічах быў зачынены, разам з ім зачынілі і ўсе кляштарныя ўстановы. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы стаў парафіяльным. Кляштарны корпус, за выключэннем некалькіх памяшканняў, прыстасаваных пад



Выгляд касцёла
на фота пачатку ХХст.

плябанію, быў перададзены пад "адміністрацыйныя памяшканні Будаўнічага аддзялення Мінскага Губернскага праўлення". А ў студзені 1867г. зачынілі ўжо і касцёл, будынак перарабілі пад праваслаўную царкву. Да паслугаў мясцовай каталіцкай супольнасці засталася толькі невялікая капліца на могілках. Частка скасаванай парафіі была прыпісаная да Ігумена, частка – да Каралішчавічаў (цяпер Мінскі р-н).

На пачатку ХХст. у Смілавічах была вядомая фігура св.Яна Непамука, якая стаяла пасярод мястэчка. Да яе калісьці прыходзілі шматлюдныя працэсіі, сёння ж у Смілавічах не засталося нічога, што нагадвала б пра некалі вялікую парафію. А пра галоўную святыню – касцёл і кляштар місіянераў – можна меркаваць толькі па прыгожай акварэлі Напалеона Орды, напісанай ў 1870-я гг. і па гістарычных фотаздымках.

## Убель

*Капліца – 6-гранная ратонда ў стылі класіцызму, складзеная з сасновага брусу. Абкружаная па перыметры "галерэяй на круглых слупах", святыня завяршалася шатровым гонтавым дахам з высокім масіўным крыжам. Кожная з яе граняў, за выключэннем алтарнай сцяны, была прарэзаная паўцыркульным акном.*





Рэканструкцыя галоўнага фасада капліцы і агульны выгляд сядзібы Манюшкаў у Убелі на малюнку Н.Орды ў XIXст.

Капліца ў Убелі вядомая перш за ўсё тым, што тут быў ахрышчаны будучы знакаміты кампазітар Станіслаў Манюшка. Сын Чэслава і Альжбеты з роду Маджарскіх, ён з'явіўся на свет 5 мая 1819г. Яго бацькі сталі ўладальнікамі Убеля ў канцы XVIIIст. і пабудавалі тут капліцу ў тым жа 1819г. Абслугоўвалі капліцу манахі-місіянеры са Смілавічаў.

Сёння на месцы сядзібы Манюшкаў, у комплекс якой уваходзіла і капліца, пабудаваны санаторый. Пра мінулае нагадвае толькі помнік кампазітару, пастаўлены не так даўно.

У Чэрвеньскім раёне калісьці былі дзейнымі і іншыя каталіцкія святыні. Так, у в.Турэц (уласнасць Манюшкаў) у 1794г. быў пабудаваны філіяльны касцёл ад смілавіцкага кляштара місіянераў. Пасля таго, як кляштар закрылі, касцёл перадалі Праваслаўнай Царкве.

**Чэрвень**



З канца XVIст. мястэчка Ігумен становіцца цэнтрам воласці Мінскага павета ВКЛ. Магчыма, менавіта ў гэты час і была заснаваная каталіцкая парафія ў складзе Бабруйскага дэканата.

Далейшая гісторыя мясцовай парафіі звязаная са смілавіцкім кляштарам ордэна місіянераў. Суперыёр кляштара і ігуменскі дэкан Міхал Гродскі заснаваў 20 кастрычніка 1799г. у Ігумене касцёл і ў 1800г. "сваім коштам і руплівасцю" завяршыў будаўніцтва. Касцёл быў кансэкраваны 15 лістапада пад тытулам Узвышэння Святога Крыжа.

Гэта была драўляная святыня, якая мела адбітак і стылю барока, і новага на той час класіцызму – тут і трохкутны франтон над уваходам з белымі пілястрамі, і падвоеныя калоны дарычнага ордэру пры галоўным уваходзе, і барочныя валюты. Прамавугольны ў плане аб'ём з 2 закрыстыямі пры прэзбітэрыі пакрываўся 2-схільным гонтавым дахам і завяршаўся вежай-званіцай над уваходам і невялікай сігнатуркай над алтаром. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 3 алтары. У галоўным змяшчалася велічнае разьбянае Укрыжаванне, бакавыя былі 2-яруснымі – у пра-



## Ігуменскі дэканат

*Пасля далучэння да Расійскай імперыі Ігумен у 1795г. атрымаў статус горада і павятовага цэнтра Мінскай губерні, а з утварэннем Мінскай дыяцэзіі – і статус цэнтра дэканата. Межы Ігуменскага дэканата супадалі з тэрыторыяй цяперашніх Бярэзінскага, Чэрвеньскага і Пухавіцкага р-наў, а таксама паўднёва-заходняй часткі Мінскага р-на.*




Захаваліся некалькі каплічак-пахавальняў на старажытных парафіяльных могілках (цяпер вул.А.Кашавога), узведзеных на магілах ксяндзоў. Гэта цагляныя, атынкаваныя малыя архітэктурныя формы, але, на жаль, усе яны знаходзяцца ў стане руінаў.

вым, над абразом св.Юзафа, знаходзіўся абраз св.Вінцэнта, у левым, над абразом Найсвяцейшай Марыі Панны – абраз св.Яўхіма. У 1844г. на касцельнай тэрыторыі, налева ад святыні, была асобна пабудаваная 2-ярусная, таксама драўляная, званіца. Пасля касцёл некалькі разоў грунтоўна рамантаваўся – у 1867 і 1878 гг.

У 1-й палове XIXст. да ігуменскай парафіі была прыпісаная капліца ў в.Рэчкі, пасля таго, як зачынілі смілавіцкі касцёл, былі далучаныя капліцы ў Убелі і на смілавіцкіх могілках. У вялізнай і раскіданай на многія вёрсты парафіі напрыканцы XIXст. налічвалася 4600 вернікаў.

З 1923г. горад Ігумен страчвае сваю гістарычную назву і становіцца Чэрвенем. У 1930-я гг. увесь касцельны комплекс быў знішчаны. Сёння на гэтым месцы ў скверы будуецца праваслаўная царква. Не так даўно, 5 чэрвеня 1995г., у Чэрвені зноў адрадзілася каталіцкая парафія, плануецца будова парафіяльнага касцёла.

# ЛІТАРАТУРА І КРЫНІЦЫ


1. Адамович С. Кафедральный собор в Минске. Культурна-рэлігійны часопіс «Дыялог». Барановічы, №5, 1995.
2. Адамовіч С. Цуд адраджэння. Часопіс «Наша вера». Мн., №1, 1998.
3. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993.
4. Баравы Р.В., Якімовіч Ю.А. Каштоўны дакумент па гісторыі Беларускай графікі архітэктуры XVIIIст. «Помнікі культуры. Новыя адкрыцці». Мн., 1985.
5. Батюшков П. Исторические судьбы Северо-Западного края. Спб., 1890.
6. Васілёнак А. Мядзельскі Кармель. Часопіс «Ave Maria». Мн., №11, 1996.
7. Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып.V, Спб., 1886.
8. Высоцкая Н.Ф. Іканапіс Беларусі XV - XVIII стст. Мн., 1992.
9. Габрусь Т. Святыні ордэна прапаведнікаў. Часопіс «Наша вера». Мн., №3, 2003.
10. Денисов В.Н. «Площадь Свободы в Минске». Мн., 1985.
11. Дзянісаў Ул. «Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены». Мн., 1996.
12. Дзянісаў Ул. «Мінскія бенедыктынкі: гісторыя зруйнаванага кляштара». Часопіс «Наша вера». Мн., №2, 2003.
13. Завальнюк Владислав, кс. История будславской базилики. Мн., 1998.
14. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1985-88.
15. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII - XX ст.). Навук. рэд. У. І. Навіцкі. Мн., 1998.
16. Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. Мн., 2000.
17. Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII - XVI стст. Мн.,1993.
18. Лялько К. Каб не паўтарылася мінулае. Часопіс «Ave Maria». Мн., №5, 1997.
19. Лялько К. Фундамент – трывалы і надзейны. Часопіс «Ave Maria». Мн., №5, 1997.
20. Лялько К. Вера людская ўваскрасіла цябе. Часопіс «Ave Maria». Мн., №№11-12, 1997.
21. Мамонька А. Роспісы будслаўскага касцёла. Часопіс «Наша вера». Мн., №2, 2001.
22. Пазняк З. Рэха даўняга часу. Мн., 1985.
23. Порядок богослужения для духовенства римско-католического исповедания Виленской Епархии на: а - 1878г., б - 1885г., в - 1895г., г - 1929г. (на лацінскай мове), д - 1937г. (на лацінскай мове).
24. Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў насялённых пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981.
25. Саўчанка Н. Вачыма фатографа. Часопіс «Наша вера». Мн., №2, 2003.
26. Семенов П.П. Живописная Россия. Т.III. Спб-Москва., 1882.
27. Сергачев С.А. Белорусское народное зодчество. Мн., 1992.
28. Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси. Москва., 2002.
29. Спиридонов М.Ф. Беларусь в конце 16в. Карта. Мн., 1992.
30. «Страчаная спадчына». Габрусь Т., Кулагін А., Чантурыя Ю., Квітніцкая А., Ткачоў М. Мн., 1998.
31. Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1994.
32. Товаров А.В. Описание церквей и приходов Минской епархии. Мн., 1878-79.
33. Туронак Ю. Фарміраваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387-1781 гг. Часопіс «Наша вера». Мн., №1, 1995.
34. Хольц Леонард OFM. История христианского монашества. Спб., 1993.
35. Чернявская Т.И., Петросова Е.Ю. Памятники архитектуры Минска XVII – нач. XX вв. Мн., 1984.
36. Шибеко Э.В., Шибеко С.Ф. Минск. Страницы жизни дореволюционного города. Мн., 1990.
37. Ширяев Е.Е. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991.
38. Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі. Мн., 1994-2001.
39. Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII-XIX стст. Мн., 1978.
40. Ярашэвіч А.А. Абразы Маці Божай XVII - XVIII стст. у Мінскіх касцёлах. №1, 1998.

41. Ярашэвіч А.А. Цудадзейны і старажытны. Часопіс «Наша вера». Мн., №2, 2001.
42. Ярашэвіч А.А. Маці Божая Снежная ў Беларусі. Мн., 2003.
43. Aftanazy Roman. «Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej». Wrocław. 1991.
44. Chodźko I.B. «Diecezja Mińska około 1830 roku». T 1-2. Wyd. Marian Radwan. Lublin. 1998.
45. Chodźko D. «Zapiski J.Chodźko o niekotórych kościołach na Litwie». Pamiętnyk religijno-moralny. 1859.
46. Czerniawska T. i Jaroszewicz A. «Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski w Mińsku na Białorusi». Warszawa. 1996.
47. Dwutygodnik Dyecezalny. Wilno. 1-2 / 1915.
48. Encyklopedia kościelna. x. Michał Nowodworski. Warszawa. 1874-80.
49. Encyklopedia kościelna. Podręczna. Warszawa. 1905.
50. Encyklopedia wiedzy o jezuitach. Wyd. Ludwik Grzebień, SJ. Kraków. 1996.
51. Hlebowicz A. «Koscioł w niewoli». Warszawa. 1991.
52. Jankowski C. «Powiat Oszmiański». T I-III, Kraków. 1896-98.
53. Kalendarz na 1889 rok. Petersburg.
54. «Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej». T1 (1387-1507). Wyd. ks. J. Fijałek i W. Semkowicz. Kraków. 1938-1994.
55. «Kościół w Rosji i na Białorusi w relacjach duszpasterzy». wyd. ks. Marian Radwan SCJ. Kraków, «SCJ». 1999.
56. Kurczewski J. «Biskupstwo Wileńskie». Wilno. 1912.
57. Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenia. Poznań. 1972.
58. Rąkowski G. «Ilustrowany przewodnik po zabytkach kultury na Białorusi». Warszawa. 1997.
59. Rouba N. «Przewodnik po Litwie i Bialejrusi». wyd. III Wilno. 1908.
60. Rudniewska A. «Świątynie polskie w drzeworytach tygodników warszawskich XIX wieku». Wydawnictwo Archidiecezji Warszawskiej. 1993.
61. Sielicki F. «Region Dołhinowsko-Budsławsko-Krzywicki na dawniej Wilenszczyznie. Kronika historyszna». Wrocław. 1989.
62. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T 1-14. Warszawa. 1880.
63. «Spis kościołów i duchowieństwa Diecezji Pińskiej». Pińsk. 1937.
64. 1 Sprawozdanie dyrekcji państwowego gimnazjum im. Tomasza Zana w Mołodeczne za rok szkolny 1930/31. Mołodeczno.
65. «Świat». Tygodnik Ilustrowany, Warszawa. 1908. N 52 (3-4)
66. Syrokomla W. «Wędrowki po moich niegdyś okolicach». Wilno. 1857.
67. Wołyniak N. «Z przeszlości Karmelitów na Litwie i Rusi». T 1-2, Kraków. 1918.
68. Żamejś J. ks. «Świr i kosciół świrski». 1930.
69. Żyskar J. ks. «Nasze kościoły». Warszawa. 1913. (? 2 томах)
70. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. **Ф. 24***:*
   а — ***воп.1, спр. 17***. Пра перадачу дома скасаванага бернардынскага кляштара пад памяшканне ардынгауза. 1835-37гг.
   б — ***воп.1, спр. 468***. Акт агляду мінскага касцёла і парафіі кс. Грыгорыем Тышкевічам. Інвентарнае апісанне мінскага фарнага касцёла. 1636г.
   в — ***воп.1, спр.1205***. Аб продажы пабудоваў скасаванага марыявіцкага кляштара ў Мінску. 1860-62гг.
   г — ***воп.1, спр.3043***. Аб продажы на знос будынка скасаванага пафранцішканскага кляштара. 1872г.
   д — ***воп.1, спр.3610***. Аб пабудове касцёла ў імя святых Сымона і Алены на вуглу вуліцаў Трубяцкой і Захар'еўскай. 1905г.
71. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. **Ф. 43** *Мінская губернская царкоўна-будаўнічая канцылярыя:*
   а — ***воп.1, спр. 72.*** Аб пабудове каменнай царквы на Троіцкай гары ў г.Мінску. 1863г.
   б — ***воп.1, спр. 124.*** Аб аглядзе пабудаванай царквы ў мястэчку Заслаўе Мінскага павета. 1885г.
   в — ***воп.1, спр. 147.*** Аб пераробцы каменнага касцёла ў м.Смілавічы Ігуменскага павета ў праваслаўную царкву. 1866г.
   г — ***воп.1, спр. 152.*** Аб рамонце праваслаўнай царквы ў Дубраве. 1867-78гг.

д — ***воп.1, спр. 266.*** Аб рамонце каменнай царквы ў мястэчку Дубрава. 1881-86гг.
е — ***воп.1, спр. 281.*** Аб рамонце царквы ў мястэчку Смілавічы Ігуменскага павета. 1887г.
ж — ***воп.3, спр. 6.*** Аб аглядзе работ па выпраўленні царквы св.Кірыла і Мятода ў будынку скасаванага мінскага бернардынскага кляштара. 1869г.

72. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. **Ф. 131** *Дзекан Барысаўскага павета Мінскай рымакаталіцкай дыяцэзіі. 1870-1914гг.:*
а — ***воп.1, спр. 19.*** Аб дазволе на рамонт хатаевіцкага касцёла за 1881г.
б — ***воп.1, спр. 33.*** Інвентарнае апісанне лагойскага касцёла за 1882г.
в — ***воп.1, спр. 48.*** Візітнае апісанне зембінскага касцёла за 1886г.
г — ***воп.1, спр. 59.*** Інвентарнае апісанне лагойскага касцёла за 1888г.
д — ***воп.1, спр. 66.*** Праект рамонту могілак. 1879г.
е — ***воп.2, спр. 1.*** Візіты касцёлаў Барысаўскага дэканата за 1845г.

73. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 136***:*
а — ***воп.1, спр. 14513.*** Ведамасць аб закрыцці рыма-каталіцкіх капліцаў па Барысаўскім, Вілейскім, Ігуменскім і Мінскім паветах. 1839-43гг.
б — ***воп.1, спр. 24331.*** Апісанне касцёла Мінскага кляштара бернардынак. 1853г.
в — ***воп.1, спр. 24447.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкага касцёла ў м.Русіновічы Мінскага павета і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1852-62гг.
г — ***воп.1, спр. 27294.*** Аб пабудове новага касцёла на Залатой Горцы замест звятшалага. 1856-58гг.
д — ***воп.1, спр. 31223.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкіх капліцаў у в.Дражна і Горкі Бабруйскага павета... і выключэнні са спісаў капліцаў у в.Ратуцічы і м.Раманаў і Ячава. 1865-68гг.
е — ***воп.1, спр. 31272.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкіх капліцаў у паселішчы Забашэвічы, Кішчына Слабада і Роспашы Барысаўскага павета і передачы іх у праваслаўнае ведамства. 1865-67гг.
ж — ***воп.1, спр. 31416.*** Аб скасаванні каталіцкіх капліцаў у м.Лагойск і в.Крычын Барысаўскага павета. 1867-70гг.
з — ***воп.1, спр. 31427.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкай капліцы ў ваколіцы Заямечна Мінскага павета і передачы яе ў праваслаўнае ведамства. 1867г.
і — ***воп.1, спр. 31436.*** Аб скасаванні касцёла ў м.Халопенічы і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1866г.
к — ***воп.1, спр. 31448.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкага касцёла ў м.Смілавічы Ігуменскага павета і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1866-69гг.
л — ***воп.1, спр. 31472.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкіх капліцаў у Ігуменскім дабрачыніі і передачы іх у праваслаўнае ведамства. 1867г.
м — ***воп.1, спр. 31489.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкай капліцы в.Заельня Барысаўскага павета. 1867-70гг.
н — ***воп.1, спр. 31766.*** Аб скасаванні гаенскага каталіцкага касцёла і ўладкаванні ў ім праваслаўнай царквы. 1867г.
о — ***воп.1, спр. 31767.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкай капліцы ў маёнтку Пашкевічы Мінскага павета і ўладкаванні ў ёй прыпісной да замасточненскай праваслаўнай царквы. 1867-69гг.
п — ***воп.1, спр. 31828.*** Аб скасаванні касцёла в.Завішына Барысаўскага павета. 1867г.
р — ***воп.1, спр. 31945.*** Аб скасаванні касцёла ў в.Амнішава і пераходзе парафіянаў у праваслаўнае веравызнанне. 1867-74гг.
с — ***воп.1, спр. 31965.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкага касцёла ў м.Дубрава Мінскага павета і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1867-68гг.
т — ***воп.1, спр. 32439.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкай капліцы ў в.Заельнікі. 1868г.
у — ***воп.1, спр. 32675.*** Аб передачы дзядзілавіцкага касцёла ў ведамства праваслаўнай епархіі. 1858-69гг.
ф — ***воп.1, спр. 33187.*** Аб скасаванні ганевіцкага могілкавага касцёла. 1869г.
х — ***воп.1, спр. 35800.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкага касцёла ў маёнтку Анопаль і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1882г.
ц — ***воп.1, спр. 35801.*** Аб скасаванні рыма-каталіцкага касцёла ў маёнтку Вязынь Мінскага павета і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1882-83гг.

ч — ***воп.1, спр. 39066.*** Звесткі пра цэрквы і кляштары, пра уніяцкія і каталіцкія святыні ў праваслаўных парафіях. 1817г.

ш — ***воп.14, спр. 80.*** Царкоўны летапіс халаўшчынскай Успенскай царквы Мінскага павета. 1866г.

ы — ***воп.14, спр. 87.*** Схема скасаванага кляштара бернардынак у Мінску. 1869г.

74. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. **Ф. 295*:***

а — ***воп.1, спр. 312.*** Аб скасаванні каталіцкіх кляштараў і передачы належачых ім маёнткаў у казну. 1832г.

б — ***воп.1, спр. 523.*** Акт агляду рыма-каталіцкіх касцёлаў і кляштараў у Мінску, якія згарэлі пасля пажару 30 мая 1835г.

в — ***воп.1, спр. 609.*** Рапарт мінскага дзекана аб старажытных касцёлах па Мінскай губерні. 1845г.

г — ***воп.1, спр. 743.*** Аб перадачы вучылішчнаму ведамству будынка скасаванага ў г.Маладзечна трынітарскага кляштара. 1841-42гг.

д — ***воп.1, спр. 1728.*** Аб пераводзе слуцкага кляштара Найсвяцейшай Тройцы ў будынак скасаванага рыма-каталіцкага кляштара бернардынак у Мінск і перабудове касцёла ў праваслаўную царкву. 1864-68гг.

е — ***воп.1, спр. 1729.*** Справа аб пабудове і рамонце цэркваў у памешчычых маёнтках і перадачы касцёлаў у праваслаўнае ведамства. 1864-1865гг.

ж — ***воп.1, спр. 1816.*** Ведамасць кляштарных пабудоваў скасаваных кляштараў Мінскай губерні у 1832г.

з — ***воп.1, спр. 2550.*** Звесткі аб рыма-каталіцкіх парафіях па Мінскай губерні. 1878-87гг.

і — ***воп.1, спр. 3113.*** Ведамасць аб касцёлах і філіях 2-га візітатарства ў Мінскай губерні. 1876-77гг.

к — ***воп.1, спр. 3287.*** Ведамасць аб касцёлах і філіях 1-га візітатарства ў Мінскай губерні. 1878г.

л — ***воп.1, спр. 3919.*** Аб скасаванні анопальскага філіяльнага касцёла Мінскага павета. 1880-1904гг.

м — ***воп.1, спр. 4093.*** Аб скасаванні халопеніцкага рыма-каталіцкага касцёла Барысаўскага павета. 1885г.

н — ***воп.1, спр. 6615.*** Аб дазволе памешчыку Сямашку пабудаваць рыма-каталіцкую капліцу ў маёнтку Лошыца Мінскага павета. 1898-1900гг.

о — ***воп.1, спр. 7515.*** Справа аб закрыцці рыма-каталіцкіх касцёлаў і капліц па Мінскай губерні. 1905-06гг.

п — ***воп.1, спр. 7623.*** Аб незаконнай пабудове памешчыкам Ваньковічам рыма-каталіцкай капліцы ў маёнтку Дубрава Мінскага павета. 1906-15гг.

р — ***воп.1, спр. 7681.*** Аб пабудове рыма-каталіцкай капліцы на могілках у Халаўшчыне Мінскага павета. 1907-17гг.

с — ***воп.1, спр. 8027.*** Звесткі аб рыма-каталіцкіх касцёлах, пабудаваных у 1910 г. на сродкі памешчыкаў Мінскага павета. 1910г.

75. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. **Ф. 299** *Мінскае губернскае праўленне. Будаўнічае аддзяленне. 1797-1917гг.:*

а — ***воп.1, спр. 244.*** Аб забароне будавання рыма-каталіцкіх і грэка-уніяцкіх цэркваў без дазволу Праўлення па Мінскай губерні. 1834г.

б — ***воп.1, спр. 269.*** Аб пабудове касцёла на Кальварыйскіх могілках за Мінскам. 1836г.

в — ***воп.1, спр. 277.*** Аб пабудове касцёла на Кальварыйскіх могілках за Мінскам. 1836г.

г — ***воп.1, спр. 876.*** Аб праекце на пабудову капліцы ў маёнтку Новы Двор над магілай памешчыка Бунге. 1903г. воп.2, спр.:

д — ***воп.1, спр. 1236.*** Рыма-каталіцкі касцёл в.Альковічы і філія в.Батурына Вілейскага павета. 1831-41гг.

е — ***воп.1, спр. 3516.*** Аб пабудове рыма-каталіцкага касцёла ў м.Халопенічы Барысаўскага павета. 1849-50гг.

ж — ***воп.1, спр. 6191.*** Аб скасаванні бернардынскага кляштара ў Мінску і перадачы яго будынка ў арэнду. 1864-73гг.

з — ***воп.5, спр. 5.*** Аб пабудове рыма-каталіцкага касцёла ў м.Зембін Барысаўскага павета. 1799г.

і — ***воп.5, спр. 86.*** План г.Ігумена за 1830г.
к — ***воп.5, спр. 123.*** Справа па прашэнні памешчыка Мінскага павета Немаршанскага аб дазволе пабудаваць капліцу ў маёнтку Дворышча. 1836-37гг.
л — ***воп.5, спр. 140.*** Справа аб рамонце батурынскай капліцы Вілейскага павета. 1841-42гг.
м — ***воп.5, спр. 180.*** Справа па прашэнні памешчыцы Валовіч пабудаваць у яе маёнтку Акалова Барысаўскага павета рыма-каталіцкую капліцу. 1848-49гг.
н — ***воп.5, спр. 299.*** Спіс зачыненых кляштараў па Мінскай губерні за 1866г.
о — ***воп.5, спр. 374.*** План г.Мінска за 1870г.
п — ***воп.5, спр. 503.*** Аб рамонце дома місіянераў у мястэчку Смілавічы Ігуменскага павета. 1878-79гг.
р — ***воп.5, спр. 648.*** Смета на рамонт каталіцкага касцёла ў в.Каралішчавічы Ігуменскага павета. 1881-82гг.
с — ***воп.5, спр. 1737.*** План пабудовы касцёла ў м.Воўчкавічы Мінскага павета. 1902г.
т — ***воп.5, спр. 1782.*** Разгляд плана пабудовы касцёла на вуглу Трубяцкой і Захар'еўскай вуліцаў у г.Мінску ў імя святых Сымона і Алены. 1905-07гг.
у — ***воп.5, спр.1791.*** Справа па хадайніцтву старшыні будаўнічага камітэта кс.Грабоўскага аб дазволе будаваць часовую капліцу ў м.Заслаўе. 1908-13гг.

76. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 309, *воп.2, спр.113.*** *Атлас народонаселения Западно-Русского края по исповеданиям. Спб., 1864г.*
77. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 937** *Мінская рыма-каталіцкая Духоўная Кансісторыя.*
   а — ***воп.2, спр. 42.*** Інвентарнае апісанне краснасельскай парафіі за 1825г.
   б — ***воп.3, спр. 3.*** Візіты касцёла і кляштара халапеніцкіх кс. дамініканцаў Літоўскай правінцыі ў губерні Мінскай павеце Барысаўскам. 1699-1818гг.
   в — ***воп.3, спр. 5.*** Інвентар хатаевіцкага касцёла і кляштара за 1809г.
   г — ***воп.6, спр. 16.*** Візіты рыма-каталіцкіх парафіяў і кляштароў, размешчаных у Мінску і яго ваколіцах. 1840г.
   д — ***воп.6, спр. 101.*** Ведамасць парафіяльных касцёлаў, філіяў, капліцаў у розныя часы скасаваных па г.Мінску, б/д.
78. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 1275** *Навадворскі касцёл Мінскай Духоўнай Кансісторыі. 1804г.*
79. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 1477:**
   а — ***воп.1, спр. 1561.*** Калекцыя чарцяжоў будынкаў г.Мінска. XIX ст.
   б — ***воп.1, спр. 3170.*** Ваенна-тапаграфічныя карты Паўночнага Усходу Расіі, б/д.
   в — ***воп.1, спр. 3472.*** Карты Мінскай губерн, б/д.
80. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 1516.** *Мінскі кляштар бенедыктынак. 1696-1738гг.*
81. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 1781:**
   1 — ***воп.2, спр. 11.*** Аб зацвярджэнні дэканатаў і размеркаванні па іх свецкіх і законных духоўных асобаў. 1801-03гг.
   2 — ***воп.2, спр. 138.*** Аб рамонце бобрскага касцёла і плябаніі. 1811г.
   3 — ***воп.2, спр. 1655.*** Аб капліцы ў маёнтку Студзянец сп. Мяшчэрскай. 1839г.
   4 — ***воп.2, спр. 6523.*** Аб рыма-каталіцкіх брацтвах, якія існуюць пры касцёлах Мінскай губерні.1892г.
   5 — ***воп.2, спр. 6558.*** Аб рамонце мінскага бенедыктынскага кляштара. 1892г.
   6 — ***воп.2, спр. 6569.*** Аб рамонце бярэзінскага касцёла. 1892г.
   7 — ***воп.2, спр. 6606.*** Аб рамонце могілкавай капліцы і расшырэнні могілак у Лагойску. 1892г.
   8 — ***воп.2, спр. 6694.*** Аб рамонце акалоўскага касцёла. 1892г.
   9 — ***воп.2, спр. 6708.*** Аб рамонце мінскага катэдральнага касцёла. 1892г.
   10 — ***воп.2, спр. 6709.*** Аб рамонце хатаеўскага касцёла. 1892г.
   11 — ***воп.2, спр. 6712.*** Аб рамонце анопальскага касцёла. 1892г.
   12 — ***воп.2, спр. 6717.*** Аб існаванні ў маёнтку Анопаль Мінскага павета княгіні Радзівіл філіяльнага касцёла. 1886г.
   13 — ***воп.2, спр. 6803.*** Аб рамонце воўчкавіцкага касцёла. 1879г.
   14 — ***воп.2, спр. 6837.*** Аб адкрыцці могілак у засценку Святое Барысаўскага павета. 1883г.

15 — ***воп.4, спр. 4.*** Аб пабудове бобрскага касцёла. 1857-92гг.
16 — ***воп.4, спр. 83.*** Аб скасаванні хатаевіцкага парафіяльнага касцёла. 1884-93гг.
17 — ***воп.5, спр. 178.*** Аб адкрыцці амнішаўскага касцёла. 1906-1913гг.
18 — ***воп.5, спр. 179.*** Аб адкрыцці хатаевіцкага касцёла. 1906г.
19 — ***воп.5, спр. 225.*** Аб пабудове касцёла ў мястэчку Ігумен. 1907г.
20 — ***воп.5, спр. 248.*** Аб пабудове анопальскага касцёла Мінскай губерні. 1907г.
21 — ***воп.5, спр. 669.*** Аб уладкаванні часовага малітоўнага дома ў пасёлку Ратамка. 1916-18гг.
22 — ***воп.5, спр. 820.*** Аб перабудове новага залатагорскага касцёла. 1902г.
23 — ***воп.24, спр. 930.*** Аб перадачы касцёла мінскіх баніфратаў у распараджэнне Мінскага прыказу Грамадскай апекі. 1836-44гг.
24 — ***воп.24, спр. 931.*** Аб пажары ў мінскім бернардынскім кляштары ў 1835г.
25 — ***воп.24, спр. 1913.*** Аб рамонце халопеніцкага касцёла. 1843г.
26 — ***воп.24, спр. 2072.*** Аб пабудове капліцы ў маёнтку Дварэц памешчыка Кучынскага. 184-48гг.
27 — ***воп.24, спр. 2191.*** Аб пабудове надмагільнай капліцы ў мястэчку Холхла. 1845-50гг.
28 — ***воп.24, спр. 2222.*** Аб пабудове мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы. 1845-46гг.
29 — ***воп.24, спр. 2260.*** Аб рамонце гаенскага касцёла. 1845-46гг.
30 — ***воп.24, спр. 2262.*** Аб утрыманні мінскіх бернардынскіх і парафіяльных касцёлаў. 1845-46гг.
31 — ***воп.24, спр. 2279.*** Аб уладкаванні ў маёнтку Брадзец памешчыка Лукашэвіча малітоўнага дома для адпявання памерлых. 1845-59гг.
32 — ***воп.24, спр. 2512.*** Аб рамонце лебедзеўскага касцёла. 1846-48гг.
33 — ***воп.24, спр. 2539.*** Аб выдзяленні сродкаў на пабудову халопеніцкага касцёла. 1846-55гг.
34 — ***воп.24, спр. 2557.*** Аб рамонце барысаўскага касцёла. 1847-54гг.
35 — ***воп.24, спр. 2566.*** Аб перабудове могілкавай капліцы ў бярэзінскай парафіі. 1847-50гг.
36 — ***воп.24, спр. 2570.*** Аб рамонце лагойскага касцёла. 1847-57гг.
37 — ***воп.24, спр. 2631.*** Аб рамонце заслаўскага касцёла. 1847-49гг.
38 — ***воп.24, спр. 2754.*** Аб рамонце свержанскага касцёла. 1847-55гг.
39 — ***воп.24, спр. 2808.*** Аб рамонце заслаўскага касцёла. 1847-49гг.
40 — ***воп.24, спр. 3053.*** Аб уладкаванні філіі ў доме памешчыкаў Валовічаў у маёнтку Акалова. 1848-56гг.
41 — ***воп.24, спр. 3186.*** Аб уладкаванні могілак і капліцы ў Лебедзеве. 1849г.
42 — ***воп.24, спр. 3190.*** Аб рамонце ганевіцкага касцёла. 1849-56гг.
43 — ***воп.24, спр. 3198.*** Аб перабудове халопеніцкага касцёла. 1849-69гг.
44 — ***воп.24, спр. 3294.*** Аб рамонце хатаевіцкага касцёла. 1849-56гг.
45 — ***воп.24, спр. 3296.*** Аб рамонце смілавіцкага касцёла. 1849-57гг.
46 — ***воп.24, спр. 3297.*** Аб рамонце зембінскага касцёла. 1849-57гг.
47 — ***воп.24, спр. 3376.*** Аб рамонце і прыбудове мінскай катэдры. 1849-55гг.
48 — ***воп.24, спр. 3381.*** Аб рамонце коржэньскага касцёла. 1849-63гг.
49 — ***воп.24, спр. 3383.*** Аб рамонце касцёла на могілках Залатой Горкі. 1849-69гг.
50 — ***воп.24, спр. 3748.*** Аб рамонце мінскага бернардынскага касцёла і кляштара. 1850-54гг.
51 — ***воп.24, спр. 3809.*** Аб рамонце каралішчавіцкага касцёла. 1850г.
52 — ***воп.24, спр. 4098.*** Аб рамонце ігуменскага касцёла. 1851-68гг.
53 — ***воп.24, спр. 4547.*** Аб рамонце амнішаўскага касцёла. 1851-53гг.
54 — ***воп.24, спр. 4548.*** Аб рамонце дзядзілавіцкага касцёла. 1852-53гг.
55 — ***воп.24, спр. 4597.*** Аб рамонце старчыцкага касцёла. 1852-53гг.
56 — ***воп.24, спр. 4598.*** Аб перадачы ў праваслаўнае ведамства бордзінскай капліцы. 1852-63гг.
57 — ***воп.24, спр. 4612.*** Аб закрыцці 13-ці касцёлаў Мінскай дыяцэзіі. 1852-65гг.
58 — ***воп.24, спр. 5055.*** Аб арэндзе каменных лавак мінскіх бернардынцаў. 1853г.
59 — ***воп.24, спр. 5105.*** Аб закрыцці кляштара мінскіх бернардынак. 1853-54гг.
60 — ***воп.24, спр. 5896.*** Аб пабудове халаўшчынскага касцёла. 1855-65гг.
61 — ***воп.24, спр. 6177.*** Аб рамонце бярэзінскага касцёла. 1855-66гг.
62 — ***воп.24, спр. 6209.*** Аб уладкаванні рухомага алтара ў маёнтку Прылукі. 1855г.
63 — ***воп.24, спр. 6390.*** Аб рамонце кляштара і касцёла мінскіх бенедыктынцаў. 1856г.

64 — ***воп.24, спр. 6422.*** Аб пабудове капліцы ў маёнтку Макраны. 1856-66гг.
65 — ***воп.24, спр. 6857.*** Аб пабудове капліцы ў аколіцы Заямечнае. 1857-63гг.
66 — ***воп.24, спр. 6860.*** Аб пабудове капліцы філіі ў аколіцы Заямечнае. 1857-63гг
67 — ***воп.24, спр. 6861.*** Аб рамонце каралішчавіцкага касцёла. 1857-69гг.
68 — ***воп.24, спр. 7642.*** Аб рамонце бярэзінскага касцёла. 1858-64гг.
69 — ***воп.24, спр. 7646.*** Аб уладкаванні капліцы ў будынку Мінскай богаўгоднай установы. 1858г.
70 — ***воп.24, спр. 9396.*** Аб пабудове капліцы ў маёнтку Каралін памешчыкам Палонскім. 1861-69гг.
71 — ***воп.24, спр. 9408.*** Аб пакіданні скасаванага францішканскага касцёла ў Мінскім духоўным ведамстве. 1861-69гг.
72 — ***воп.24, спр. 9732.*** Аб пажары ў мінскім бернардынскім кляштары. 1862-69гг.
73 — ***воп.24, спр. 10183.*** Аб перабудове рухомага алтара ў маёнтку Перавоз памешчыцы Камінскай. 1863г.
74 — ***воп.24, спр. 10188.*** Аб рамонце кальварыйскага касцёла. 1863-69гг.
75 — ***воп.24, спр. 10192.*** Аб рамонце гаенскага касцёла. 1863-69гг.
76 — ***воп.24, спр. 10195.*** Аб рамонце івянецкага касцёла. 1863-69гг.
77 — ***воп.24, спр. 12383.*** Аб рамонце лагойскага касцёла. 1865-69гг.
78 — ***воп.24, спр. 13415.*** Аб скасаванні капліцы ў Мінскім дабрачынным таварыстве. 1866г.
79 — ***воп.24, спр. 13565.*** Аб скасаванні касцёла ў в. Хмарын-Гарадок. 1866-69гг.
80 — ***воп.24, спр. 13567.*** Аб скасаванні халаўшчынскага касцёла і передачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1866г.
81 — ***воп.24, спр. 13580.*** Аб скасаванні касцёла ў м.Дуброва і перадачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1867г.
82 — ***воп.24, спр. 13581.*** Аб скасаванні касцёла ў м.Гайна і перадачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1867г.
83 — ***воп.24, спр. 13754.*** Аб скасаванні касцёла ў м.Смілавічы і перадачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1867-69гг.
84 — ***воп.24, спр. 13755.*** Аб скасаванні касцёла ў м.Заслаўе і перадачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1867г.
85 — ***воп.24, спр. 14611.*** Аб скасаванні амнішаўскага касцёла і перадачы яго ў праваслаўнае ведамства. 1868-69гг.
86 — ***воп.24, спр. 15701.*** Аб закрыцці некаторых заштатных кляштараў Мінскай дыяцэзіі. 1850-53гг.
87 — ***воп.24, спр. 15716.*** Аб закрыцці мінскага бернардынскага кляштара. 1864-67гг.
88 — ***воп.24, спр. 15721.*** Звесткі аб касцёлах і капліцах. 1864-69гг.
89 — ***воп.24, спр. 15723.*** Аб парафіяльных касцёлах, колькасці парафіянаў, прасторы парафіяў і адлегласці між імі. 1864г.
90 — ***воп.24, спр. 15789.*** Аб пераводзе законніцаў з мінскага бенедыктынскага ў кімбароўскі цыстэрцыянскі кляштар. 1871-72гг.
91 — ***воп.24, спр. 15795.*** Аб закрыцці мінскага кляштара бенедыктынцаў. 1871г.
92 — ***воп.24, спр. 15815.*** Аб амнішаўскай могілкавай капліцы. 1873-74гг.
93 — ***воп.24, спр. 15819.*** Звесткі аб плешчаніцкай капліцы. 1873г.
94 — ***воп.26, спр. 1387.*** Візіт Сенненскага дэканата. 1805г.
95 — ***воп.26, спр. 1487.*** Візіты касцёлаў Наднёманскага дэканата Мінскай губерні за 1899г.
96 — ***воп.26, спр. 1495.*** Інвентарныя вопісы касцёлаў Барысаўскага павета. 1907г.
97 — ***воп.26, спр. 1496.*** Візітнае апісанне мінскага катэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Марыі Панны за 1907г.
98 — ***воп.26, спр. 1497.*** Візітнае апісанне мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы на Залатой Горцы за 1908г.
99 — ***воп.26, спр. 1498.*** Інвентарныя вопісы касцёлаў Мінскага павета за 1907-14гг.
100 — ***воп.26, спр. 1500.*** Інвентары касцёлаў Магілёўскай губерні. 1907-21гг.
101 — ***воп.26, спр. 1504.*** Звесткі аб касцёлах Магілёўскай рыма-каталіцкай кансісторыі. 1910г.
102 — ***воп.27, спр. 213.*** Візіты касцёлаў Заходняй Беларусі за 1745-53гг.
103 — ***воп.27, спр. 215.*** Акт люстрацыі мінскага касцёла і калегіі езуітаў за 1773г.

104 — ***воп.27, спр. 218.*** Інвентар бярэзінскай парафіі Бабруйскага дэканата за 1782г.
105 — ***воп.27, спр. 219.*** Візіты парафіяў і касцёлаў Барысаўскага і Вілейскага паветаў за 1782г.
106 — ***воп.27, спр. 220.*** Інвентары касцёлаў і парафіяў Мінскага дэканата за 1782-90гг.
107 — ***воп.27, спр. 231.*** Інвентар бярэзінскага касцёла Ігуменскага павета Мінскай губерні за 1786г.
108 — ***воп.27, спр. 235.*** Інвентар дуброўскай парафіі Мінскага павета і губерні за 1789г.
109 — ***воп.27, спр. 240.*** Візіты касцёлаў белага і законнага духавенства Барысаўскага і Мінскага паветаў за 1796г.
110 — ***воп.27, спр. 241.*** Візіты касцёлаў белага і законнага духавенства Вілейскага павета за 1796г.
111 — ***воп.27, спр. 242.*** Пастаўскі дэканат Вілейскага павета. 1796г.
112 — ***воп.27, спр. 244.*** Дадаткі да візітаў Вілейскага і Ігуменскага дэканатаў за 1796г.
113 — ***воп.27, спр. 247.*** Візіты касцёлаў белага і законнага духавенства Ігуменскага павета за 1796-97гг.
114 — ***воп.27, спр. 253.*** Візіты парафіяў і кляштараў Барысаўскага, Вілейскага і Мінскага паветаў за 1797-98гг.
115 — ***воп.27, спр. 254.*** Візіт Гаенскай парафіі Барысаўскага павета Мінскай губерні. 1797г.
116 — ***воп.27, спр. 256.*** Візіты касцёлаў белага і законнага духавенства Мінскага павета і губерні за 1797г.
117 — ***воп.27, спр. 259.*** Рапарты плябанаў і кляштароў Мінскай Губерні аб стане касцёлаў і кляштароў. 1797г.
118 — ***воп.27, спр. 263.*** Візіт мінскага кляштара бенедыктынак за 1799г.
119 — ***воп.27, спр. 265.*** Інвентар мінскага кляштара бернардынцаў за 1800г.
120 — ***воп.27, спр. 267.*** Інвентар мінскага кляштара баніфратаў за 1800г.
121 — ***воп.27, спр. 268.*** Інвентар мінскага касцёла і шпіталя рахітаў за 1800г.
122 — ***воп.27, спр. 269.*** Інвентар мінскага кляштара францішканцаў за 1800г.
123 — ***воп.27, спр. 270.*** Інвентар дуброўскай і заслаўскай парафіяў Мінскага павета за 1804г.
124 — ***воп.27, спр. 278.*** Візіты парафіяў і касцёлаў Мінскага павета за 1804г.
125 — ***воп.27, спр. 282.*** Візіты мінскіх бенедыктынскіх кляштараў за 1804г.
126 — ***воп.27, спр. 285.*** Візіты мінскіх бернардынскіх кляштараў за 1804г.
127 — ***воп.27, спр. 290.*** Візіт заслаўскага кляштара daminіканцаў за 1804г.
128 — ***воп.27, спр. 291.*** Візіт зембінскага кляштара дамініканцаў за 1804г.
129 — ***воп.27, спр. 293.*** Візіт мінскага кляштара дамініканцаў за 1804г.
130 — ***воп.27, спр. 298.*** Візіт хатаевіцкага кляштара дамініканцаў за 1804г.
131 — ***воп.27, спр. 299.*** Візіт халопенскага кляштара дамініканцаў за 1804г.
132 — ***воп.27, спр. 302.*** Візіт мінскай супольнасці рохітаў (братоў міласэрнасці) за 1804г.
133 — ***воп.27, спр. 304.*** Візіт мінскага кляштара францішканцаў за 1804г.
134 — ***воп.27, спр. 306.*** Візіт мінскай дыяцэзіяльнай семінарыі за 1805г.
135 — ***воп.27, спр. 307.*** Візіт Смілавіцкай супольнасці св.Вінцэнта Ігуменскага павета за 1805г.
136 — ***воп.27, спр. 309.*** Візіты парафіяў і касцёлаў Барысаўскага павета за 1807-10гг.
137 — ***воп.27, спр. 311.*** Інвентары парафіяў і касцёлаў Мінскага павета за 1807-10гг.
138 — ***воп.27, спр. 313.*** Інвентар касцёла і шпіталя Мінскай супольнасці рохітаў за 1808г.
139 — ***воп.27, спр. 319.*** Інвентары касцёлаў і парафіяў Ігуменскага павета за 1811-13гг.
140 — ***воп.27, спр. 323.*** Інвентар фальварка Плябанцы Мінскага павета за 1815г.
141 — ***воп.27, спр. 327.*** Візіты касцёлаў Барысаўскага павета за 1818г.
142 — ***воп.27, спр. 328.*** Візіты касцёлаў Ігуменскага павета за 1818г.
143 — ***воп.27, спр. 329.*** Візіты касцёлаў Мінскага павета за 1818г.
144 — ***воп.27, спр. 346.*** Візіт заслаўскага кляштара дамініканцаў за 1818г.
145 — ***воп.27, спр. 359.*** Візіт мінскага кляштара марыявітак за 1818г.
146 — ***воп.27, спр. 363.*** Візіт смілавіцкай супольнасці місіянераў Ігуменскага павета за 1818г.
147 — ***воп.27, спр. 376.*** Інвентар бярэзінскага касцёла Бабруйскага павета за 1822г.
148 — ***воп.27, спр. 377.*** Візіты касцёлаў Барысаўскага павета за 1822г.
149 — ***воп.27, спр. 306.*** Інвентар Мінскай дыяцэзіяльнай семінарыі за 1822г.
150 — ***воп.27, спр. 386.*** Інвентары касцёлаў Мінскага павета за 1824-25гг.

151 — ***воп.27, спр. 390.*** Інвентар мінскага кляштара баніфратаў за 1824г.
152 — ***воп.27, спр. 399.*** Візіт мінскага кляштара марыявітак за 1826г.
153 — ***воп.27, спр. 407.*** Візіты гаенскага і завішынскага касцёлаў Барысаўскага павета за 1828г.
154 — ***воп.27, спр. 421.*** Візіт акалоўскага касцёла Барысаўскага павета за 1829г.
155 — ***воп.27, спр. 422.*** Візіт амнішаўскага касцёла Барысаўскага павета за 1829г.
156 — ***воп.27, спр. 427.*** Візіт мінскага катэдральнага касцёла за 1829г.
157 — ***воп.27, спр. 448.*** Візіт ігуменскага філіяльнага касцёла Смілавіцкай супольнасці місіянераў за 1829г.
158 — ***воп.27, спр. 450.*** Візіт Мінскай супольнасці сясцёр міласэрнасці за 1829г.
159 — ***воп.27, спр. 453.*** Інвентары касцёлаў Мінскай губерні за 1832г.
160 — ***воп.27, спр. 454.*** Інвентар Мінскай дыяцэзіяльнай семінарыі за 1829г.
161 — ***воп.27, спр. 460.*** Апісанне касцёлаў Барысаўскага дэканата за 1856г.
162 — ***воп.27, спр. 461.*** Апісанне касцёлаў Ігуменскага дэканата за 1856г.
163 — ***воп.27, спр. 462.*** Апісанне касцёлаў Мінскага дэканата за 1856г.
164 — ***воп.27, спр. 463.*** Апісанне парафіяў і касцёлаў Мінскага павета за 1856г.
165 — ***воп.32, спр. 3.*** Ведамасць касцёлаў Мінскай губерні. 1806г.
166 — ***воп.32, спр. 10.*** Ведамасць касцёлаў Мінскай губерні. 1813-62гг.

82. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі **Ф. 2001, *воп.1, спр. 1062*** *Звесткі аб касцёлах і капліцах Магілёўскай губерні. 1868-76.*
83. Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі **Ф. 2466, *воп.1, спр. 2778*** *Карты Мінскай губерні, б/д.*
84. Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией:
   а — Т XII, ст. 362,
   б — Т XII, ст. 396,
   в — Т XXXVI, ст. 104, 398.
85. Архіў архікатэдральнага касцёла ў Мінску. Праект рэстаўрацыі архікатэдральнага касцёла. Навукова-гістарычная дакументацыя, гісторык С.Ф. Адамовіч. Мн., 1990г.
86. Архіў нарачанскай парафіі. Інвентар касцёла св. Андрэя ў мястэчку Кабыльнік. 1927г.
87. Архіў СНРПМ «Белрэстаўрацыя». Бывший костел в д.Илья Вилейского р-на, КНИ. Мн. 1986.
88. Калекцыя фотаздымкаў канца XIX - пач. XX ст. з адзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.
89. Матэрыялы гістарыка-краязнаўчага музея ў г.Вілейка.
90. Матэрыялы гістарыка-краязнаўчага музея ў г.Маладзечна.
91. Матэрыялы Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Мінску.
92. Матэрыялы краязнаўчага музея ў в.Гарадок Маладзечанскага р-на.
93. Матэрыялы з архіва выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя».
94. Матэрыялы з архіва СНРПМ «Белрэстаўрацыя».
95. Мясцовыя матэрыялы, парафіяльныя архівы.

## Тэрміналагічны слоўнік

АБЛОМ – архітэктурны профіль рознага папярочнага сячэння (палічка, гусёк, вал, выкружка і інш.); найбольш пашыраны ў ордэрнай архітэктуры.

АБРЫС – агульны чарцёж плана будынка.

АЖУР – арнаментальная скразная накладная разьба.

АКАНТ – арнаментальна-дэкаратыўны элемент у выглядзе зубчастага ліста аднайменнай расліны (пашырана ў Міжземнамор'і).

АКРАТЭРЫЙ – упрыгожанне вуглоў франтона, атыка ці карніза скульптурай, пальметамі, вазамі, абеліскамі і інш.

АЛТАР – ахвярнік, найважнейшая частка хрысціянскай святыні, размешчаная звычайна ў апсідзе. У касцёлах – дэкаратыўная сценка, аформленая скульптурай, жывапісам, разьбой ці лепкай, творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адрозніваюць галоўны алтар і бакавыя, прысвечаныя якім-небудзь святым.

АЛЬКЕЖ – вуглавая вежападобная прыбудова да будынка самастойнага аб'ёмнага вырашэння, звычайна завершаная купалам ці шатром.

АМБОНА – узвышанае месца ў святыні (трыбуна ці кафедра) перад алтаром, адкуль чытаюць тэксты з Бібліі, прамаўляюць казанні. У касцёлах сімвалізуе Ноеў каўчэг (карабель, лодку). Звычайна вылучана дэкаратыўна-мастацкай апрацоўкай.

АМПІР – стыль у архітэктуры і мастацтве 1-й трэці XIX ст., які завяршыў развіццё класіцызму. Вызначаецца арыентацыяй на антычнае дойлідства Грэцыі і Рыма, яго больш архаічныя ўзоры. У дэкоры пераважаюць егіпецкія арнаментальныя матывы – сфінксы, львы, гермы, грыфоны і інш.

АНТАБЛЕМЕНТ – верхняя гарызантальная частка фасада будынка, порціка, падтрыманая калонамі ці пілястрамі. Падзяляецца на архітраў, фрыз і карніз.

АНТЫ – бакавыя сценкі ці пілоны, якія фланкуюць калонны порцік.

АПСІДА (абсіда) – аб'ёмна самастойная частка святыні; прамавугольны, шматвугольны, паўкруглы ў плане выступ, які замыкае прастору галоўнай навы касцёла; прызначана для размяшчэння алтара. У каталіцкіх святынях дапаўняецца прэзбітэрыем.

АРАБЕСКІ – разнавіднасць арнамента, складзенага з геаметрычных фігур, сплячэнняў ліній, завіткоў, стылізаванага лісця, кветак і надпісаў.

АРКА – крывалінейнае перакрыцце праёма ў сцяне ці прасторы паміж дзвюма апорамі – слупамі, калонамі, пілонамі.

АРКАДА – шэраг аднолькавых па памерах і абрысах арак, якія абапіраюцца на калоны або слупы і ствараюць рытмічны паслядоўны рад.

АРКАТУРА – рытмічны рад дэкаратыўных несапраўдных арак на плоскасці сцяны.

АРКБУТАН – адкрытая вонкавая паўарка, якая перадае распор скляпення навы на контрфорсы, размешчаныя за межамі асноўнага аб'ёму будынка.

АРНАТ – верхняе літургічнае адзенне; 2 полкі, закругленыя ўнізе і замацаваныя плечавымі ўстаўкамі.

АРХІВОЛЬТ – дэкаратыўны элемент аздаблення аркі, які вылучае яе контур.

АРХІТЭКТОНІКА – асноўны прынцып пабудовы архітэктурнай кампазіцыі, вызначаны сістэмай сувязяў яе асобных частак і элементаў.

АТЫК – дэкаратыўная сценка ці балюстрада над карнізам будынка ці порціка.

БАБІНЕЦ – памяшканне (звычайна прамавугольнае ў плане) перад галоўным аб'ёмам святыні (навай), першапачат-

кова прызначанае для «аглашэнных» (тых, хто жадае прыняць хрысціянства). Мог знаходзіцца ўнутры пад хорамі і арганамі (у нартэксе).

БАЗЫЛІКА – асноўны кананічны тып каталіцкай святыні. Прамавугольны ў плане зальны будынак, падзелены калонамі на некалькі (3 або 5) частак – наваў.

БАЗЫЛЬЯНЕ – манахі ордэна каталіцкага касцёла з праваслаўным абрадам. У Вялікім Княстве Літоўскім першы базыльянскі кляштар быў заснаваны ў канцы XV ст. Ордэн значна пашырыўся пасля Брэсцкай уніі 1596 г. Іх кляштары ліквідаваны ў 1839 г.

БАЛДАХІН – навес над алтаром, амбонай, тронам; мясціўся на стойках ці кансольна, афармляўся купалкамі, драпіроўкамі з ламбрэкенамі.

БАЛЮСТРАДА – агароджа лесвіцаў, тэрасаў, балконаў, галерэяў і інш., якая складаецца з фігурных слупкоў-балясінаў, аб'яднаных зверху поручнем ці карнізам.

БАРАБАН – цыліндрычная або шматгранная верхняя частка будынка, якая абапіраецца на сцены, слупы, падпружныя аркі, ветразі і завяршаецца купалам або шатром.

БАРБАКАН – падкавападобная прысадзістая пабудова перад уваходам у касцёл, замак, крэпасць, якая мела абарончае прызначэнне.

БАРОКА – вызначальны стыль у еўрапейскім мастацтве канца XVI – XVIII стст. Асноўныя кампазіцыйныя прынцыпы: дынамічнасць і пластычнасць аб'ёмных архітэктурных і мастацка-дэкаратыўных кампазіцый, складанасць святлоценявых і колерных эфектаў, крывалінейнасць абрысаў, ілюзія бязмежнасці прасторы, арганічнае спалучэнне архітэктурных і скульптурных формаў.

БАРЭЛЬЕФ – скульптурны рэльеф, які выступае з плоскасці фону не больш чым на палову свайго аб'ёму.

БЕМА – гл. віма.

БЕНЕДЫКТЫНЦЫ – манахі каталіцкага ордэна, заснаванага Бенедыктам Нурсійскім каля 530 г. у Італіі. На Беларусі кляштары і касцёлы бенедыктынцаў узводзіліся ў XVII–XVIII ст. Большасць зачынена ў сярэдзіне XIX ст.

БЕРНАРДЫНЦЫ – манахі каталіцкага ордэна, які адгалінаваўся ад францішканаў і меў больш строгі статут. На Беларусь прыйшлі з Польшчы ў 2-й палове XV ст. Большасць кляштараў зачынена ў сярэдзіне XIX ст.

БІФОРЫУМ – двухчасткавае аркаднае акно або арачны праём, характэрны для архітэктуры раманскага і гатычнага стыляў.

БЛЕНДА – ніша ў сцяне, якая імітуе аконны праём.

БРАМА – збудаванне, найчасцей яруснай кампазіцыі, з каменю ці дрэва, з галоўным уваходам ці праездам у замкнёны комплекс пабудоў. Асобны тып брамы – брама-званіца ў культавым будаўніцтве.

ВАЛЬМА – тарцовы схіл чатырохсхільнага даху.

ВАЛЮТА – архітэктурны матыў у выглядзе спіралепадобнага завітка з кружком у цэнтры; частка іанічнай капітэлі.

ВАСЬМЯРЫК – васьміганны ў плане архітэктурны аб'ём (будынак ці яго частка, вежа).

ВІЛЕНСКАЕ БАРОКА – архітэктурна-мастацкая сістэма, якая склалася ў манументальнай культавай архітэктуры Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XVIII ст. Архітэктурныя помнікі вызначаюцца вытанчанасцю фасадаў, маляўнічасцю сілуэта (хвалістыя фасады, шмат'ярусныя ажурныя вежы, фігурныя франтоны).

ВІЛЬЧЫК – верхняе рабро (грэбень) двухсхільнага даху.

ВІМА (бема) – прамежкавая прастора паміж падкупальным аб'ёмам і алтарным паўкружжам у святынях крыжова-купальнага тыпу.

ВІМПЕРГ – высокі дэкаратыўны франтон над уваходным парталам ці аконным праёмам гатычнага будынка. Звычайна аздабляўся рэльефнай контурнай разьбой, завяршаўся выявай крыжакветнай расліны.

ГАЛАВА (галоўка) – завяршэнне барабана ў форме шлема, цыбуліны, конуса і інш.

ГАРАДКІ – ступеньчатыя цагляныя «падтрымкі» карніза.

ГАРЭЛЬЕФ – скульптурны ці арнаментальны рэльеф, у якім выявы выступаюць над плоскасцю фона больш чым на палову свайго аб'ёму.

ГЗЫМС – прафілаваны пояс, карніз.

ГІРКА – фігурная дэталь з цэглы ці каменю, падвешаная на схваным у муроўцы жалезным стрыжні па цэнтры двухпралётнай вісячай аркі.

ГІРЛЯНДА – арнаментальны ўзор у выглядзе перапляценняў кветак і зяляніны.

ГОТЫКА – мастацкі стыль, пашыраны ў краінах Заходняй, Цэнтральнай і часткова Усходняй Еўропы ў XII–XVI стст. Гатычныя саборы маюць у аснове каркас са слупоў, стральчатых арак і нервюрных скляпенняў, распор ад якіх перадаецца праз вонкавыя паўаркі (аркбутаны) на контрфорсы. Для гатычных збудаванняў характэрны востраканцовыя шпілі, стральчатыя аконныя праёмы і парталы, вітражныя вокны-ружы. У дэкоры распаўсюджаны арнамент са стылізаванага лісця аканта, ажурная каменная разьба і скульптура.

ГРАТЭСК – арнаментыка, складзеная з мудрагеліста сплеценых выяваў раслін, жывёл, фантастычных істотаў.

ГУРТ – гатычная стральчатая арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якія ўмацоўваюць рэбры скляпення.

ДАМІНІКАНЦЫ – манахі жабрацкага каталіцкага ордэна, які быў створаны для барацьбы з ерэтычным рухам. У XIII ст. ім была перададзена інквізіцыя. На Беларусь прыйшлі з Польшчы. Асабліва актыўна дзейнічалі ў час Контррэфармацыі. Амаль усе іх кляштары былі скасаваныя ў 1-й палове XIX ст.

ДАРЫЧНЫ ОРДЭР – адзін з трох асноўных грэцкіх архітэктурных ордэраў. Вызначаецца масіўнасцю, строгасцю прапорцый, лаканізмам дэталяў. Калона з простай капітэллю прарэзана канелюрамі, база адсутнічае.

ДЭНТЫКУЛЫ (сухарыкі) – рад невялікіх дэкаратыўных прамавугольных выступаў пад карнізам у класічных ордэрах.

ЕЗУІТЫ – манахі каталіцкага ордэна Таварыства Езуса, створанага ў 1534 г. іспанскім дваранінам І.Лаёлам для барацьбы з Рэфармацыяй. Ордэн пабудаваны на аснове строгай цэнтралізацыі, дысцыпліны і бясспрэчнага падпарадкавання кіраўніцтву. На Беларусі распачаў дзейнасць у 2-й палове XVI ст. Плённа займаўся асветніцтвам. Езуіцкія касцёлы, калегіумы, кляштары, пабудаваныя ў стылі барока, утваралі вялікія комплексы, часта з'яўляліся архітэктурнымі дамінантамі гарадоў. Забаронены ў 1773 г. і ў 1820 г.

ЗАКРЫСТЫЯ – касцёльнае памяшканне каля апсіды, у якім захоўваюцца літургічнае адзенне святара і абраднае начынне.

ЗАЛОМ (дах з заломам) – ступеньчатая форма даху ці шатра.

ЗАМОК (замковы камень) – клінападобны камень ці цагліна ў вяршыні аркі або скляпення.

ЗАСТРЭШАК – край страхі, што навісае над сценамі ў месцы спалучэння рознавялікіх зрубаў (звычайна трохвугольнай формы).

ЗБОР – рэфарматарская царква; тып культавага збудавання, пашыраны на Беларусі ў XVI – 1-й палове XVII ст. з распаўсюджаннем Рэфармацыі. Архітэктура вырашалася ў строгіх лаканічных формах, спалучала мясцовыя будаўнічыя традыцыі з асаблівасцямі готыкі і рэнесансу. У часы Контррэфармацыі многія зборы прыстасоўваліся пад касцёлы.

ІАНІЧНЫ ОРДЭР – адзін з трох асноўных грэцкіх архітэктурных ордэраў. Капітэль калоны дэкараваная завіткамі (валютамі).

ІМПОСТ – апорная частка, пята аркі, дэкаратыўна аформленая профілямі.

ІНТЭРКАЛУМНІЙ – пралёт паміж калонамі, што стаяць побач.

КАНЕЛЮРЫ – вертыкальныя жалабкі на ствале калоны або пілястры.

КАНСОЛЬ – выступ у сцяне ці замураваная ў яе адным канцом бэлька, якая падтрымлівае карніз, балкон, скульптуру і інш.

КАНСТРУКТЫВІЗМ – кірунак у архітэктуры,

пашыраны ў 1920-30-я гг. У яго аснове – мастацкая выразнасць спалучэнняў жорстка геаметрызаваных аб'ёмаў і лаканічных формаў, максімальная мэтазгоднасць планіровачных і функцыянальных вырашэнняў і канструкцый. У архітэктуры будынкаў кантрастнае спалучэнне глухіх паверхняў сцен з вялікімі плошчамі зашклення, плоскія дахі, гарызантальныя вокны, адкрытыя канструкцыі і інш.

КАНЦЭЛЬ – агароджа, якая ў інтэр'еры касцёла аддзяляе апсіду ці прэзбітэрый.

КАПІТУЛА – агульны сход кіраўніцтва ордэна і прадстаўнікоў кляштараў.

КАПІТЭЛЬ – пластычна вылучаная верхняя частка вертыкальнай апоры (пілона, калоны, слупа, пілястры), якая перадае нагрузку ад верхняга перакрыцця (архітрава, бэлькі).

КАПЛІЦА – невялікае культавае збудаванне, якое не мае асобнага памяшкання для алтара. Будаваліся пераважна ў гонар нейкай падзеі царкоўнага або дзяржаўнага жыцця. Магнаты і шляхта ставілі капліцы для малітвы і пахаванняў пры сваіх дварах, на могілках. Невялікія, звычайна драўляныя капліцы са скульптурамі святых ставілі пры гасцінцах, мастах, бродах.

КАРМЕЛІТЫ – манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, заснаванага каля 1154 г. у Палестыне. У канцы XIV ст. з'явіліся ў Польшчы, адкуль прыйшлі на Беларусь. У сярэдзіне XIX ст. іх кляштары былі зачынены.

КАРТУШ – упрыгожанне ў выглядзе па-мастацку акаймаванага шчыта або паўразгорнутага скрутка, на якім адлюстраваныя герб, эмблема, надпіс.

КЕСОНЫ – квадратныя ці шматгранныя нішы-паглыбленні на столі, арцы ці скляпенні, прызначаныя для аблягчэння канструкцыі перакрыцця, паляпшэння акустыкі памяшкання, дэкаратыўнага аздаблення.

КЛАСІЦЫЗМ – стыль у еўрапейскім мастацтве ў XVII – 1-й палове XIX ст. У архітэктуры Беларусі выявіўся ў канцы XVIII ст. Заснаваны на творчай перапрацоўцы антычнай ордэрнай сістэмы. Архітэктуры ўласцівыя строгія сіметрычна-восевыя кампазіцыі і формы, стрыманасць дэкаратыўнай аздобы.

КОНТРФОРС – мураваная папярочная сценка, вертыкальны выступ ці рабро, якія ўзмацняюць сцяну пабудовы ў найбольш напружаным месцы; канструкцыя, якая гасіць ціск распору ад скляпення, ціск грунту на падпорныя сценкі. Найбольш распаўсюджаны ў гатычнай архітэктуры.

КРАБ – дэкаратыўная дэталь у выглядзе стылізаванага лісця ці кветак на шчытах, вімпергах, фіялах і іншых элементах гатычнага будынка.

КРАНШТЭЙН – выступ у сцяне (часта з дэкаратыўнымі завіткамі або інш. упрыгожаннямі), які падтрымлівае карнізы, балконы і інш. Разнавіднасць – мадульён.

КРЫПТА – скляпеністае падземнае, звычайна пад апсідай, памяшканне для ганаровых пахаванняў (можа быць у капліцы).

ЛАПАТКА – вертыкальны выступ на сцяне без базы і капітэлі (у адрозненне ад пілястры); элемент рытму і дэкору фасадаў.

ЛІХТАР – круглая або шматгранная ў сячэнні надбудова з аконнымі праёмамі над дахам; зашклёная частка даху, прызначаная для натуральнага верхняга асвятлення залы ці купала.

ЛІШТВА – прафіляванае ці арнаментальнае афармленне аконнага ці дзвярнога праёма.

ЛЮКАРНА – невялікі аконны праём на даху, купале, франтоне, прызначаны для частковага асвятлення гарышча, падкупальнай прасторы і інш. памяшканняў.

ЛЮНЕТ – арачны праём у цыліндрычным скляпенні, гарызантальна абмежаваны знізу.

МАДУЛЬЁН – дэкаратыўна трактаваная архітэктурная дэталь тыпу кранштэйна, якая падтрымлівае вынасную пліту карніза.

МАДЭРН – стыль у еўрапейскім мастацтве і архітэктуры канца XIX – пачатку XX ст. Узнік як рэакцыя на эклектызм. Вызначаецца свабоднай функцыянальна абгрунтаванай планіроўкай, новымі прынцыпамі авангарднага формаўтва-

рэння, асэнсаваннем новых канструкцый і матэрыялаў, шырокім выкарыстаннем хвалістых ліній у дэкоры і цякучых пластычных формаў, крывалінейным малюнкам праёмаў, сінтэзам мастацтваў.

МАНЬЕРЫЗМ – плынь у еўрапейскім мастацтве XVI ст.; апошняя ступень развіцця рэнесансу. У архітэктуры ўвасобіўся праз імкненне да эстэтызацыі дэкору, падкрэсленай экстравагантнасці дэталяў.

МАСКАРОН – дэкаратыўны рэльеф у выглядзе чалавечага твару або галавы жывёлы, які пераважна размяшчаецца на замках арак, аконных і дзвярных праёмаў.

МЕАНДР – старажытнагрэцкі геаметрычны арнамент у выглядзе ломанай пад прамым вуглом лініі, якая ў цэлым выглядае як вузкая паласа.

МЕДАЛЬЁН – выяўленчая ці арнаментальная кампазіцыя (ляпны або разны рэльеф, размалёўка, мазаіка) у авальным або круглым абрамленні.

МЕТОПА – прамавугольная або квадратная пліта паміж трыгліфамі ў фрызе дарычнага ордэра. Метопы аздаблялі рэльефамі або жывапісам.

НАВА (карабель) – падоўжнае памяшканне малітоўнай залы святыні, абмежаванае па баках радамі калонаў, слупоў, аркатураў. Вылучаюць наву сярэднюю, бакавую, папярочную (трансепт). Характэрна для базылікальнага тыпу святыні.

НАВІЦЫЯТ – паслушніцтва; установа для падрыхтоўкі ў манаства.

НАРТЭКС – уваходнае памяшканне святыні.

НЕАБАРОКА – стыль у архітэктуры канца XIX – пачатку XX ст., заснаваны на авангарднай стылізацыі формаў сярэднявечнай готыкі.

НЕАКЛАСІЦЫЗМ – стыль у архітэктуры мяжы XIX–XX стст., заснаваны на стылізацыі формаў класіцызму.

НЕАРАМАНСКІ СТЫЛЬ – стыль у архітэктуры мяжы XIX–XX стст., заснаваны на стылізацыі формаў сярэдневечнай раманскай архітэктуры.

НЕРВЮРА – арка з клінападобных камянёў або цаглінаў, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, стральчатага, зорчатага ці іншай формы скляпення.

ОРДЭР – пэўнае спалучэнне нясучых і нясёных частак стоечна-бэлечнай канструкцыі, іх структура і мастацкая апрацоўка. Вылучаюць тры асноўныя ордэры: дарычны, іанічны, карынфскі. Абавязковыя часткі ордэра: нясучыя калона з капітэллю і базай (у дарычным без базы), нясёныя – антаблемент. Асаблівасць кожнага ордэра – у прапорцыях, прарысоўцы абломаў і формах капітэлі.

ПАДЗОР – дэкаратыўная драўляная дошка з глухой, скразной або краявой разьбой, якая акаймоўвае навісь даху або страхі.

ПАДПРУЖНАЯ АРКА – апорная канструкцыя перакрыцця, якая ўспрымае нагрузку скляпення або купала і перадае яе на слупы, сцены, пілястры і інш.

ПАДУГА – крывалінейная паверхня над карнізам унутры памяшкання, якая служыць пераходам ад сцяны да паверхні столі (плафона).

ПАДЦЕННЕ (падчэні, падсені) – адкрытая галерэя ў драўляным збудаванні, вырашаная як вынасная стрэшка на слупах, змацаваных укосінамі з гарызантальнай бэлькай.

ПАЛІ – сваі пад фундаментам.

ПАРАПЕТ – невысокая суцэльная сценка, якая агароджвае пакрыццё будынка, тэрасу, балкон і інш., часам упрыгожваецца дэкаратыўнымі вазамі, статуямі, пінаклямі і інш.

ПАРАФІЯ – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка канфесіі.

ПАРТАЛ – архітэктурнае абрамленне дзвярнога праёма. Звычайна аздабляліся пілястрамі, калонамі, якія неслі антаблемент або франтон, упрыгожваліся скульптурай, разьбой, размалёўкай і інш.

ПАРЭБРЫК – прыём арнаментальнай цаглянай ці каменнай муроўкі ўстаноўкай цаглін пад вуглом да вонкавай паверхні сцяны. Звычайна ўтварае дэкаратыўныя гарызантальныя фрызы і паяскі.

ПІЛОН – масіўны слуп, які падтрымлівае арку, перакрыцці, афармляе партал.

ПІЛЯСТРА – плоскі вертыкальны прамавугольны ў сячэнні выступ на сцяне або слупе, які паўтарае ўсе часткі і прапорцыі калоны архітэктурнага ордэра. Выкарыстоўваліся для чляненння і крапоўкі сцяны, канструкцыйнага ўмацавання найбольш нагружаных яе ўчасткаў.

ПІНАКЛЬ – дэкаратыўная вежачка ці слупок на контрфорсе, вуглах франтона, канцах даху.

ПЛАФОН – частка столі, упрыгожаная жывапісам ці лепкай; твор манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, які аздабляе перакрыцце памяшкання.

ПЛЯБАНІЯ – дом каталіцкага святара, размешчаны звычайна каля касцёла.

ПОРЦІК – галерэя, якая ўтвараецца калонамі ці слупамі і завяршаецца франтонам ці атыкам. Звычайна афармляе галоўны ўваход у будынак.

ПРАСЛА – частка фасаднай сцяны святыні, акаймаваная лапаткамі і завершаная закамарай.

ПРЭЗБІТЭРЫЙ – прастора каталіцкай святыні паміж навай і апсідай, прызначаная для набажэнства і размяшчэння духавенства (прэзбітараў – адсюль назва).

РАЗЕТКА – арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай кветкі ці лісця аканта.

РАКАЙЛЬ – арнаментальны матыў – стылізаваная марская ракавіна, С- і S-падобныя завіткі, хвалістыя грэбні, языкі полымя. Тэрмін часам ужываюць для абазначэння стылю ракако.

РАКАКО – стыль у заходнееўрапейскім мастацтве 1-й паловы – сярэдзіны XVIII ст. У архітэктуры асноўнымі прыкметамі з'яўляюцца крывалінейныя лініі, выгнутыя плоскасці, скульптурныя кампазіцыі, картушы. Будынкі вызначаюцца пластычнасцю аб'ёмаў, маляўнічасцю сілуэта, утворанага стромкімі шмат'яруснымі ажурнымі вежамі, фігурнымі франтонамі, насычанай пластычнай арнаментыкай і скульптурай.

РАМАНСКІ СТЫЛЬ – стыль заходнееўрапейскай архітэктуры X–XIII стст. Адметны суровым, крапасным характарам пабудоў, масіўнасцю канструкцый, абстрактна-геаметрычным арнаментам, скульптурнымі парталамі.

РАМАНТЫЗМ – кірунак у еўрапейскай культуры ў канцы XVIII – XIX ст. У архітэктуры выявіўся ў захапленні архітэктурнай архаікай, экзотыкай, гістарычным і нацыянальным матэрыялам.

РАСКРАПОЎКА – невялікі перапад архітэктурнай плоскасці, карніза, антаблемента. Выкарыстоўваецца для чляненння або пластычнага ўзбагачэння фасада будынка.

РАСПАЛУБКА – частка скляпення, утвораная перакрыжаваннем яго дзвюх узаемаперпендыкулярных цыліндрычных паверхняў. Выкарыстоўвалася пры размяшчэнні аконнага праёма вышэй пяткі скляпення.

РАТОНДА – круглае ў плане цэнтрычнае збудаванне, звычайна завершанае купалам.

РУЖА – круглы аконны праём з карункавым узорам пераплёта, запоўненага каляровым вітражом. Характэрны элемент галоўнага фасада касцёлаў раманскага і гатычнага стыляў.

РУСТ – спосаб апрацоўкі каменю або імітаванага пад камень абліцовачнага матэрыялу, пры якім кожны камень ці яго імітацыя вылучаюцца перыметральным кантам рознай формы.

РУСТЫКА – рэльефная муроўка ці дэкаратыўная абліцоўка або тынкоўка сцяны ў выглядзе прамавугольных ці гранёных квадраў; часцей за ўсё імітавалася простай расшыўкай тынкоўкі фасада.

РЫЗАЛІТ – частка будынка, якая выступае за плоскасць фасада на ўсю яго вышыню. Выкарыстоўваецца для крапоўкі фасада па асноўных яго кампазіцыйных восях ці для вылучэння ўваходнай часткі.

РЭЙМСКАЕ АКНО – акно, пераплёт якога мае малюнак у выглядзе дзвюх гатычных арак і ружы паміж іх завяршэннямі.

РЭНЕСАНС – архітэктурны стыль эпохі Адраджэння (XIV – 1-я палова XVII ст.), які змяніў готыку і ўспрыняў асновы грэка-рымскай архітэктуры. Вызначаўся логікай і гарманічнасцю антычнай ордэрнай сістэмы, суразменасцю чалаве-

ку, гуманістычным, свецкім пачаткам. Храмы пазбаўляюцца суровых абарончых рысаў (шырока выкарыстоўваліся ордэрныя чляненні сцяны, арачныя аконныя праёмы і галерэі, каланады, купальныя завяршэнні, атыкі), атрымоўваюць багатую фасадную пластыку (аркатура, рустоўка, пілястравая крапоўка і інш.). Інтэр'ер набывае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, кесонныя столі, архітэктанічныя алтары, падобныя да трыумфальных арак. Рэнесансныя архітэктурныя формы пераважна мелі храмы Рэфармацыі. Пранікненню стылю на Беларусь садзейнічалі італьянскія майстры.

РЭТРАСПЕКТЫЎНА-ГАТЫЧНЫ СТЫЛЬ – архітэктурны стыль канца XVIII – XIX ст., які кампілятыўна пераймаў формы сярэднявечнай готыкі.

РЭФЕКТАР – спецыяльны будынак ці памяшканне ў кляштары для сумесных пасілкаў.

САНДРЫК – дэкаратыўная архітэктурная дэталь у выглядзе невялікага прафіляванага карніза над аконным ці дзвярным праёмам.

СІГНАТУРКА – невялікая вежачка (звычайна са звонам), размешчаная над дахам прэзбітэрыя ці над перакрыжаваннем навы і трансепта.

СКАРБНІЦА – збудаванне ці памяшканне ў кляштары, у якім захоўвалі найбольш каштоўную яго маёмасць (скарб). Часам скарбніца аб'ядноўвалася з капліцай.

СКЛЯПЕННЕ – нясучая прасторавая канструкцыя для перакрыцця ці пакрыцця збудавання, якая мае крывалінейную паверхню.

СТАЛА – драўляная ці мураваная лава з высокай спінкай уздоўж сцяны прэзбітэрыя. Прызначалася для вышэйшага духавенства.

СТАЦЫЯ – мастацкае ўвасабленне аднаго з этапаў Крыжовага шляху Езуса Хрыста.

СТУКА – матэрыял для аздаблення сценаў і архітэктурных дэталяў пад штучны мармур.

СУФРАГАН – памочнік.

СУХАРЫКІ – гл. дэнтыкулы.

ТАБЭРНАКУЛЮМ – невялікая шафка ў цэнтры касцёльнага алтара, на яго подыуме, прызначаная для захавання Найсвяцейшага Сакраманту.

ТРАВЕЯ – канструкцыйная ячэйка ўнутранай прасторы гатычнай святыні, абмежаваная адным крыжовым скляпеннем і нясучымі яго вертыкальнымі апорамі.

ТРАНСЕПТ – бакавыя крылы планіровачнага крыжа касцёла ці папярочная нава базылікі, што павялічвае прастору інтэр'ера малітоўнай залы перад алтаром і апсідай.

ТРЫБУЛЯЖ – кадзіла.

ТРЫФОРЫУМ – трайная калонная аркада, якой вырашаны ніша, галерэя, аконны праём.

ТРЭЛЬЯЖ – тонкі ажурны каркас-перагародка. Арнаментальны матыў у выглядзе касой сеткі, часам з кветачкамі на скрыжаваннях.

ТЫМПАН – поле трохвугольнага ці фігурнага франтона. Часам запаўняўся скульптурай, геральдычнымі знакамі, надпісамі.

ФАРА (Фарны касцёл) – галоўны гарадскі парафіяльны касцёл.

ФАЦЫЯТА – паддашак, мансарда.

ФЕРАТРОН – вынасны алтарык з двухбаковым абразом.

ФІЛЁНГА – квадратнае або прамавугольнае поле сцяны, пілястры, столі, скляпення, абведзенае рамкай.

ФІЯЛ – дэкаратыўная востраканцовая каменная пірамідка, якая завяршае пінакль, шчыт, контрфорс, фігурны шпіль. Нярэдка ўпрыгожваецца стылізаванымі лістамі ці кветкамі, часта мае форму крыжа. Пашыраны ў архітэктуры готыкі і неаготыкі.

ФРАНТОН – частка (звычайна ў выглядзе трохвугольніка) фасада будынка, порціка, каланады, абмежаваная схіламі даху і карнізам.

ФРАНЦІШКАНЦЫ – манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, створанага ў Італіі ў 1209 г. Каля 1237 г. з'явіліся ў Польшчы, адкуль пазней як місіянеры прыйшлі на Беларусь. У сярэдзіне XIX ст. іх кляштары былі закрытыя.

ФРЫЗ – сярэдняя гарызантальная частка антаблемента паміж архітравам і карнізам. У шырокім сэнсе – паласа дэкаратыўных, скульптурных ці жывапісных выяваў у верхняй частцы сцяны, фасада.

ХОРЫ – адкрытая галерэя ў інтэр'еры святыні, прызначаная для арганаў.

ЦОКАЛЬ, ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, якая ляжыць на фундаменце.

ЦЫБОРЫУМ – балдахін над алтаром.

ЦЯГА – гарызантальны ці вертыкальны паясок ці выступ, які падзяляе сцены будынка ці абрамляе пано і столь. Звычайна складаецца з некалькіх архітэктурных абломаў.

ШЧЫТ – верхняя частка сцяны ў выглядзе фігурнага атыка ці франтона, не аддзеленая ад сцяны карнізам (у адрозненне ад франтона).

ЭКЛЕКТЫЗМ – спалучэнне элементаў розных архітэктурных стыляў.

ЭКСЕДРА – паўкруглая ніша ў будынку або паўкруглае паўадкрытае збудаванне з сядзеннямі ўздоўж сценаў.

ЭРКЕР – паўкруглы, прамавугольны ці шматгранны выступ на сцяне ці вуглавая частка будынка з самастойным пакрыццём. Звычайна навісае на сцяне кансольна.

# KATHOLISCHE HEILIGTÜMER

## ERZDIÖZESE MINSK UND MOGILJOW

### 1. Teil

***Dekanate Budslaw, Wilejka und Minsk***


#### Resümee

Die Sakralarchitektur ist eine der interessantesten und wichtigsten Erscheinungen in der Kunstgeschichte von Belarus. An den frühen Etappe spiegeln sich in den Errungenschaften der Architektur und des Bauwesens auch die Verbindungen mit anderen Ländern und Völkern. Enge wirtschaftliche und kulturelle Beziehungen mit dem Abendland wirkten auf das Entstehen lokaler architektonischer Schule, die Bildung der Architektonik und des Bauverfahrens ein.

Die ersten Kirchen auf dem weißrussischen Territorium, z.B. eine Kirche in Polozk, wurden im 13. Jh. gegründet, durch deutsche Kaufleuten, auch durch Missionare aus dem Dominikaner- und Franziskanerorden, die vom Großfürst Gedimin ins Großfürstentum Litauen eingeladet wurden. Man nimmt an, dass diese Bauten einpfeilig konstruiert waren. Solche Bauten sind im Nord- und Mitteleuropa und Skandinavien üblicht. Die Entwicklung der sakralen Baukunst im 13. Jh. hing mit dem Wirtschaftswachstum der Städte, dem Aufstieg der Handwerke und den Handelsverbindungen mit den abendländischen Gebieten zusammen, deren monumentale Baukunst ein hohes Niveau hatte. Die Verbindungen des Großfürstentums Litauen mit dem Abendland beschleunigte die stilistische Umorientierung der lokalen Architektur in der zweiten Hälfte des 13. Jh. Damit sind Kreuzgewölbe, Stangenziegel, wendische (baltische) Technik für die Herstellung von Mauerwerk, Mauer-Mörtel aus Kalk und Sand als spezifische Bauelemente entstanden.

Eine neue Entwicklungsstufe der sakralen Baukunst auf dem Gebiet des litauischen Großfürstentums begann dank der Union von Krevo (1385). 1387 stiftete König Władysław Jagiełło das Bistum Wilno und sieben Kirchen. Anfangs des 15. Jh. begannen Magnaten, Adel (Schlachta) und Geistliche nach dem Beispiel des Königs und der Großfürsten neue Pfarrgemeinden zu stiften. Die Kirchen wurden in großen kulturellen und wirtschaftlichen Zentren gebaut, aber auch in kleinen (privaten) Gutsherrschaften. Gegen Ende des 15. Jh. gab es mehr als 50 Kirchen.

Häufig wurden diese Heiligtümer aus Holz gebaut und blieben bis heute nicht erhalten. Wenige der unbeschädigt gebliebenen Heiligtümer aus Stein wurden während ihrer langen Geschichte vielfach bei den Rekonstruktionen, wegen Zerstörungen durch Kriege und Brände umgebaut. Ihre ursprüngliche Gestalt ist verloren, aber dank der erhaltenen Teile kann man behaupten, dass es ziemlich kleine Gebäude im gotischen Stil waren. Am besten blieb mit geringen Veränderungen die Dreifaltigkeitskirche in Ischkaldz erhalten.

Die Integration der belarussischen Länder im Königreich Polen nach der Union 1596 trug noch mehr zur Verbreitung des Katholizismus in diesem Territorium bei. Die sakrale Baukunst im 16. Jh. hatte ihre eigentümlichen Züge und stand auf hohem architektonisch-künstlerischen Niveau. Gerade diese Zeit vollendete im ganzen den Prozess der belarussischen Baukunst. Meistens war die Kirche mit einem Seitenschiff konstruirt, einem beherrschenden Stil wurde Renaissance.

Ende des 16. Jh. hatte sich der Barockstil in der sakralen Baukunst, besonders in Belarus und im gesamten Königreich, durchgesetzt. Damals wurden Klöster in Mengen gegründet und errichtet. Die nächsten Jahrhunderte bereicherten die belarussische Architektur mit Stilelementen von Barock, Rokoko, Klassizismus und Empire-Zeit. Bemerkenswert ist die relegiöse Toleranz der belarussischen Bevölkerung wie auch ihre Offenheit für neue progressive Richtungen der Kunst.

Der natürliche Prozess der Entwicklung der katholischen Baukunst hielt bis 1832 und 1864 an, als fast alle Kloster geschlossen wurden; Errichtung von neuen Kirchen war verboten, es verboten war, neue Kirche zu errichten und bestehende katholische Kirchen in orthodoxe umgewandelt wurden. Damals veränderte sich stark die architektonische Landschaft.

Die Situation änderte sich im Jahr 1905, nach dem Manifest vom Zar Nikolaus II. zur Gewissenfreiheit. Bis zum 1. Weltkrieg entfaltete sich in Belarus ein reger Kirchenbau, vorwiegend im neugotischen und neuromanische Stil. Die Pfarreigemeinden entstanden wieder und neue wurden gegründet. Doch die sowjetische Ära stoppte diese Entwicklung, zuerst im östlichen Teil von Belarus und nach 1944 auch im westlichen Gebiet. Die Mehrheit der existierenden Kirchen wurden geschlossen und vernichtet. Erst in den neunziger Jahren des vorigen Jahrhunderts, nach der Perestroika-Periode, begann die kirchliche Wiedergeburt in Belarus. Gegründet wurden die Diözese Grodno innerhalb der Grenzen des Gebiets Grodno, die Erzdiözese Minsk und Mogiljow (Gebiete Minsk und Mogiljow), die Diözese Witebsk (Gebiet Witebsk) und die Diözese Pinsk innerhalb der Grenzen der Gebiete Brest und Gomel.

Mit dieser Ausgabe beginnt die Schriftenreihe über katholische Heiligtümer von Belarus. Das wachsende Interesse für das kulturelle und historische Erbe der Kirche sowie das gegenwärtige Leben von unseren Gemeinden hatten die Autoren für diese Arbeit begeistert. Einzigartige Materialien, die in den staatlichen Archiven, Heimatkundemuseen, in persönlichen und pfarrlichen Archiven entdeckt wurden, und auch architektonische Forschungen in örtlichen Kirchen ermöglichten es, nicht nur auf neuartige Weise bekannte Heiligtümer zu sehen und irgendeine Ungenauigkeit in früheren Publikationen zu korrigieren, sondern auch eine beachtliche Anzahl bisher unerforschter Denkmäler katholischer Architektur zu entdecken. Die meisten Heiligtümer sind leider Ruinen oder werden unzweckgemäß benutzt, und eine Reihe von Heiligtümer ist überhaupt vernichtet. Aber viele Kirchen sind den Gläubigen zurückgegeben, restauriert und für Gottesdiensten geöffnet. Es gibt auch eine Reihe von neu errichteten Kirchen.

Diese Information ist für alle geschrieben, die sich für Kirchengeschichte interessieren und Einblick gewinnen wollen über den gegenwärtigen Zustand der Heiligtümer. Die Ausgabe macht Leser mit den administrativ-territotiallen Strukturen der katholischen Konfession in Belarus und den Veränderungen in den verschiedenen historischen Epochen bekannt. Die Materialien sind für breite Leserschichten und Fachleute im Bereich von Architektur, Geschichte und Kunstwissenschaft bestimmt.

Der Ausgabestruktur liegt das territorial-geographische Prinzip zugrunde. Den Reihen eröffnet das Minsker Gebiet der Erzdiözese Minsk und Mogiljow. Die Materialien werden in zwei Bänden vorgestellt und nach Dekanaten alfabetisch geordnet. Ihrerseits stehen Rayons von Dekanaten und Orten, wo es Heiligtümer gibt, auch alfabetisch. Am Anfang der Beschreibung jedes Rayons steht ein Schema der Stätten von sakralen Objekte dieses Territoriums.

# Змест

Мінскі дэканат

*Барысаўскі раён*



*Бярэзінскі раён*



*Крупскі раён*



*Лагойскі раён*



*Мінскі раён*

**К 29** **Каталіцкія святыні**. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты / Тэкст і фота А. Яроменкі. Уводзіны Ул. Трацэўскага, – Мн.: ВУП «Выд-ва „Про Хрысто"». – 2003. – 256 с.

ISBN 985-6628-37-7.

Гэтае выданне распачынае серыю кніг пра каталіцкія святыні Беларусі. Сабраная інфармацыя разлічана на усіх, хто цікавіцца гісторыяй Касцёла і хацеў бы даведацца таксама пра сучасны стан святыняў. Выданне знаёміць чытача з адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі структурамі каталіцкага Касцёла на Беларусі і іх зменамі ў розныя гістарычныя эпохі. Матэрыял разлічаны як на шырокага чытача, так і на спецыялістаў у галіне архітэктуры, гісторыі, мастацтвазнаўства.

У першай частцы пададзена інфармацыя пра Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

**УДК 726.5.282 (476)**
**ББК 85.113 (4 Беи)**

Навукова-папулярнае выданне

**КАТАЛІЦКІЯ СВЯТЫНІ**

Мінска-Магілёўская архідыяцэзія

Частка І

Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты

Тэкст і фота Аляксея ЯРОМЕНКІ
Над выданнем працавалі:
бр. Бела ЛАНІ *SVD*, Уладзімір ТРАЦЭЎСКІ
Рэдактар Крыстына Лялько
Карэктар Лідзія Камінская
Мастацкія рэдактары: Зміцер Герасімовіч, Алег Глекаў
Тэхнічны рэдактар Алег Глекаў
Камп'ютэрная вёрстка: Зміцер Герасімовіч, Алег Глекаў, Аляксей Мурашка
Пераклад рэзюме на нямецкую мову Ірыны Бурак

Падпісана да друку 20.11.2003 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера мелаваная. Гарнітура Garamond.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 22,43. Ул.-выд. арк. 24,84.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. № 03216.

ВУП «Выдавецтва „Про Хрысто"». 220030 г. Мінск, пл. Свабоды, 9, п. 2.
Ліцэнзія ЛВ № 451 ад 02.06.2000 г.
**e-mail:** pro-christo@catholic.by; **http**://pro-christo.catholic.by.
Тэл./факс +375 (17) 239-17-50

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ГПУП «Старпрынт». Ліцэнзія ЛП № 455. ад 28.06.2001 г.
220050 г. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.




Выданне падрыхтавана дзякуючы
падтрымцы «Renovabis».

Многія каталіцкія святыні ў Беларусі
былі адноўленыя і пабудаваныя
менавіта пры дапамозе
«Renovabis» —
акцыі салідарнасці
нямецкіх католікаў з іх братамі
з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Гэтае выданне —
яшчэ адно яскравае сведчанне
плённага беларуска-нямецкага
супрацоўніцтва
на ніве духоўнага адраджэння.

